## НА НАШЫМ ПОЛІ (БГКТ)

# 1979 ЛЕТАПІС 1980

20.VII.79 у Міхалоўскім доме культуры адкрылася выстаўка прац журналіста „Нівы“ Я. Целушэцкага „Міхалоўская зямля на фатаграфіях“, якая карысталася жывым зацікаўленнем у жыхароў Міхалова.

26.VII.79 у Варшаве група заслужаных дзеячоў нацыянальных грамадска-культурных таварыстваў у сувязі з 35-годдзем Народнай Польшчы атрымала высокія дзяржаўныя ўзнагароды. Старшыня ГП БГКТ М. Самоцік узнагароджаны Афіцэрскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы, член ГП БГКТ Валянціна Ласкевіч — Бронзавым Крыжам Заслугі. Некалькімі тыднямі пазней Кавалерскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы быў адзначаны актывіст варшаўскага гуртка БГКТ і перакладчык твораў беларускіх пісьменнікаў на польскую мову Баляслаў Манкевіч.

9.VIII.79 журналіст „Нівы“ М. Гайдук наведаў у Златове Пільскага ваяводства найстарэйшага беларускага актора Зыгмунта Абрамовіча — удзельніка славутага тэатра Ігната Буйніцкага. З. Абрамовіч нарадзіўся ў 1892 г., шмат год настаўнічаў, працаваў у культурна-асветных установах. У часе размовы заўважыў: „Маю права ганарыцца тым, што меў я магчымасць удзельнічаць думкай, словам і працай у беларускім адраджэнні“.

30.IX.79 праходзіла пасяджэнне Галоўнага праўлення БГКТ, прысвечанае абмеркаванню заданняў на час справаздачна-выбарнай кампаніі і падрыхтоўкі да IX з'езда БГКТ. Пленум таксама паклікаў выдавецкую камісію пры ГП БГКТ у складзе: А. Баршчэўскі, Г. Валкавыцкі, М. Гайдук, Я. Зенюк, В. Склубоўскі, Ю. Туронак і В. Швед, яна будзе займацца ўсімі справамі па падрыхтоўцы і кваліфікаванню да друку розных выданняў БГКТ.

30.IX.79 вакальны калектыў гуртка БГКТ у Беластоку „Каласкі“ выступіў з канцэртамі ў Новай Волі гм. Міхалова і Ляшуках гм. Нараўка, а праз тыдзень — у Крыўцы і Ласінцы гм. Нарва.

27.X.79 адбылося першае пасяджэнне выдавецкай камісіі пры ГП БГКТ, на якім былі абмеркаваны справы выдання „Беларускага календара на 1980 г.“, зборніка вершаў І. Баравік „Супраць ветру“, даручана М. Гайдуку заняцца падрыхтоўкай „Беларускага календара на 1981 г.“, а таксама вырашана выдаць зборнік




*Таленавітыя спявачкі з Беластока Аля і Люба Гаўрылюк на конкурсе „Беларуская песня-80“ занялі першае месца і ў катэгорыі салістаў і дуэтах. Акампаніруе А. Радзівановіч. Фота М. Шаховіча.*

казак у апрацоўцы М. Гайдука „Пра што шуміць Белавежская пушча“, зборніка вершаў А. Барскага і інш.

27.X.79 у ГП БГКТ адбылося ўрачыстае адкрыццё культурна-асветнага сезона. Прынялі ў ім удзел прадстаўнікі ваяводскага камітэта ПАРП, Ваяводскага камітэта Фронта адзінства народа, Ваяводскага і Гарадскога ўпраўленняў. Значная група актывістаў нашай арганізацыі атрымала ўзнагароды. Залатым Крыжам Заслугі адзначаны Віктар Бура, Сярэбраным Крыжам Заслугі — Ніна Аверчук і Сцяпан Копа, Бронзавым Крыжам Заслугі — Сяргей Лукашук. Адзнакі „Заслужаны для Беласточчыны“ ат-

рымалі: залатую — Людміла Панько, сярэбраныя — Віктар Бура, Люба Гаўрылюк, Зінаіда Літвін, Сцяпан Копа і Сцяпан Рышчук. На ўрачыстасці з пастаноўкай п'есы А. Маўзона „Дарога праз ноч“ выступіў тэатральны калектыў з Рыбалаў, з канцэртам — беластоцкія „Каласкі“.

4.XI.79 на ўрачыстай вечарыне ў гонар 62-й гадавіны Вялікага Кастрычніка ў клубе беластоцкага гуртка БГКТ выступіў з дакладам С. Вуйцік. Такія ж урачыстасці адбыліся ў многіх гуртках нашай арганізацыі, між іншым, у Бельску з вялікім канцэртам выступіў бельскі беларускі хор „Васілёчкі“ пад кіраўніцтвам С. Лукашука.

8.XI.79 на спатканні з пенсіянерамі ў клубе беластоцкага гуртка БГКТ М. Гайдук расказваў пра ўражанні са свае службовай паездкі ў сталіцу Беларускай ССР.

9.XI.79 „Ніву“ наведаў ветэран савецкага кіно, рэжысёр Беларусьфільма, кавалер ордэна Леніна, народны артыст Беларускай ССР Л. У. Голуб — аўтар такіх фільмаў як „Шчаслівыя кольцы“, „Дзеці партызана“, „Міколка-паравоз“, „Дзяўчынка шукае бацьку“, „Паланез Агінскага“ і інш.

19.XI.79 у школе ў Курашаве праходзіла метадычная канфе-



*П'еса А. Маўзона „Дарога праз ноч“ у пастаноўцы тэатральнага калектыву гуртка БГКТ у Рыбалах. Фота М. Шаховіча.*



*Вельскія „Васілёчкі“ ў часе свайго юбілейнага канцэрта. Фота Ю. Пратасевіча.*

рэнцыя настаўнікаў беларускай мовы пачатковых школ з гайнаўскага раёна. Настаўнікі наведалі ўрокі роднай мовы, абмеркавалі шэраг спраў, звязаных з навучаннем гэтага прадмета, для іх курашаўскія школьнікі наладзілі канцэрт беларускай песні.

22-25.XI.79 прайшлі аўтарскія сустрэчы Алеся Барскага ў Гайнаўцы, Нараўцы, Міклашэве, Ляўкове; Міхася Шаховіча — у Беластоку.

6-9.XII.79 прайшлі аўтарскія сустрэчы Віктара Шведа ў Ласінцы, Нарве, Гарадку і Беластоку.

28.XII.79 у Доме друку ў Беластоку адбылася сустрэча з тымі пісьманосцамі, якія з'яўляюцца самымі заслужанымі пашыральнікамі падпіскі „Нівы“. У авангардзе іх у 1979 г. былі: М. Панфілюк з Дубіч Царкоўных (178 падпісчыкаў), У. Гуралеўскі з Рыбалаў (174), У. Весялоўскі з Пасынкаў (152), М. Асіпюк з Клейнікаў (146), У. Васільчык з Нараўкі (125), Я. Белавежац з Ласінкі (103). За ахвярную працу пісьманосцам падзякавала і ўручыла ўзнагароды А. Чачуга — сакратар рэдакцыі „Нівы“.

31.XII.79 у будынку ГП БГКТ праходзіў гучны навагодні баль актывістаў і прыхільнікаў нашай арганізацыі.

4.I.80 у Доме савецкай навукі і культуры ў Варшаве адбылася ўрачыстая вечарына, прысвечаная 61-й гадавіне ўтварэння Беларускай ССР. З дакладам пра дасягненні Савецкай Беларусі за мінулыя шэсць дзесяцігоддзяў выступіў В. Талстой з Інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР, у дыскусіі прынялі ўдзел праф. Б. Белаказовіч з Польскай акадэміі навук, А. Баршчэўскі з Вар-

шаўскага універсітэта, Ю. Туронак з часопіса „Рынкі загранічнэ“, А. Стронька і Я. Кабац — літаратары і інш.

12.I.80 у Палацы культуры і навукі ў Варшаве праходзіла традыцыйная, ужо 24-я, навагодняя вечарына членаў і сімпатыкаў БГКТ. Прыняло ў ёй удзел каля 1200 чалавек, выступаў харавы калектыў гуртка ў Варшаве. Такая ж вечарына з удзелам больш за 350 чалавек адбылася ў Беластоку ў будынку ГП БГКТ. Арганізаваў яе беластоцкі гурток БГКТ, выступілі з багатай праграмай „Каласкі“.

20.I.80 гмінны асяродак культуры ў Нарве арганізаваў агляд калектываў калядніков свае гміны. Яго ўдзельнікі з арыгінальнымі каляднымі звёздамі выконвалі старадаўнія калядныя песні, віншаванні і г.д.

24.I.80 у Доме друку ў Беластоку адбыўся чарговы штогадовы з'езд карэспандэнтаў „Нівы“. За 1979 г. яны змясцілі ў нашым штотыднёвіку аж 741 матэрыял, на 127 болей, чым за папярэдні год. Сярод 95 карэспандэнтаў самымі актыўнымі былі: М. Панфілюк з Дубіч Царкоўных (122 публікацыі), Э. Вайсковіч з Гайнаўкі (77), У. Сідарук з Кузавы (72), П. Байко з Белавежы (38), І. Кірызюк з Бельска (35), А. Гаўрылюк з Відава (29), А. Закройшчык з Нараўкі (29), М. Кірылюк з Кнаразоў (25), М. Лук'янюк з Бялкоў (24), В. Петручук з Беластока (21). На з'ездзе выступіла В. Валкавыцкая, якая вядзе ў „Ніве“ супрацоўніцтва з карэспандэнтамі. Абмяркоўваліся дагэтуляшнія дасягненні і недахопы ў працы карэспандэнтаў і „Нівы“, вызначаліся заданні на будучыню, былі сімвалічныя ўзнагароды.

26.I.80 беларускі самадзейны хор „Васілёчкі“ ў Бельску святкаваў сваю 15-ю гадавіну дзейнасці. Гучная ўрачыстасць адбылася з удзелам прадстаўнікоў ваяводскіх і гарадскіх грамадскіх і культурных арганізацый і ўстановаў, ГП БГКТ. Быў зачытаны спецыяльны ліст беластоцкага ваяводы да юбіляра, калектыў ат-



*Бельскія алімпійцы са сваёй настаўніцай Т. Бялецкай і дырэктарам ліцэя А. Карпюком. Фота В. Рудчыка.*



*Група з тэатральнага калектыву Бельскага беларускага ліцэя. Фота М. Гайдука.*

рымаў 50 тысяч узнагароды. Заслужаныя спевакі Е. Навакоўская, В. Раеўская, А. Ясюк, В. Антыпюк, М. Цар, Н. Кожан і іншыя атрымалі дыпломы і грашовыя ўзнагароды. У калектыве ўдзельнічае 32 асобы, ён даў сотні канцэртаў на Беласточчыне і ў іншых рэгіёнах Польшчы.

27.II.80 у клубе БГКТ у Варшаве з дакладам пра літаратурную творчасць аднаго з вядучых дзеячоў КПЗБ Л. Родзевіча высту-

піла абсальвентка кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта В. Анішчук.

8-9.III.80 на IX ваяводскім фальклорным аглядзе, што праходзіў у Гайнаўскім доме культуры „Гурнік" узнагароды атрымалі (месцы не прызнаваліся) беларускія самадзейнікі: спявачкі А. Стахвіюк і А. Максімчук з Трасцянкі, цымбаліст П. Красько з Гайнаўкі, акардэаніст Л. Дзмітрук з Грыгораўцаў і інш.

12.IV.80 адбыўся пленум ГП БГКТ, які зацвердзіў справаздачу пра чатырохгадовую дзейнасць ГП, прыняў інфармацыю пра вы-



*Тэатральны калектыў беластоцкага гуртка БГКТ заняў на аглядзе 1980 г. першае месца. Фота М. Гайдука.*



*Культурныя мерапрыемствы БГКТ у Беластоку заўсёды карыстаюцца вялікім зацікаўленнем. Фота М. Шаховіча.*

кананне пастаноў пленарных пасяджэнняў за той жа час і праект пастановы IX з'езда БГКТ. У той жа дзень выдавецкая камісія пры ГП БГКТ ацаніла „Беларускі каляндар на 1980 г." і пазнаёмілася са станам падрыхтоўкі гэтага ж выдання на 1981 г., абмеркавала іншыя выдавецкія справы БГКТ.

14.IV.80 вярнулася з цэнтральных спаборніцтваў Краёвай алімпіяды ведаў пра Польшчу і сучасны свет, што праходзілі ў Новым Тамыслі каля Познані, група вучняў Бельскага беларускага ліцэя імя Б. Тарашкевіча. Першае месца на алімпіядзе заняў Андрэй Рубашэўскі, Міраслаў Дораш — трэцяе, далейшыя — Міраслаў Суліма-Даліна і Пётр Адамюк. Гэты ж ліцэй на алімпіядзе заняў першае калектыўнае месца сярод усіх іншых сярэдніх школ Польшчы. Удзельнікаў алімпіяды рыхтавала настаўніца мгр Т. Бялецкая.

18.IV. 80 з нагоды Дзён савецкай культуры ў Польшчы адбылася ў беластоцкім гуртку БГКТ сустрэча з навуковымі работнікамі з СССР. Дацэнт Мінскага політэхнічнага інстытута В. М. Новікаў выступіў з дакладам „Ленін пра інтэрнацыянальнае выхаванне грамадства", а дацэнт Кіеўскага эканамічнага інстытута С. В. Салаўянаў — з дакладам „Ленін пра барацьбу за мір". Пасля дакладаў адбылася ажыўленая дыскусія.

20.IV.80 удала прайшоў у зале кінатэатра „Звёнзковец“ у Беластоку фінальны агляд конкурса „Беларуская песня-80“. Выступіла на ім шаснаццаць калектываў, сем дуэтаў, дзевяць салістаў — разам 158 спевакоў. У катэгорыі беларускай народнай песні сярод салістаў першае месца заняў Ю. Гаўрылюк з Бельска, другое — Н. Такаюк з Мікуліч, трэцяе — А. Кузьміцкая з Новай Волі; у дуэтах: першае — К. Домань і М. Сак з Новай Волі, другое — В. Осяк і В. Сват з Старога Ляўкова, трэцяе — Я. Вішанка і Н. Такаюк з Мікуліч; у калектывах: першае — „Васілёчкі“ з Бельска, другое — „Дубочкі“ з Дубяжына, трэцяе — „Незабудкі“ з Курашава і мужчынскі хор з Аўгустова (каля Бельска). У сучаснай беларускай песні сярод салістаў першае месца выспевалі — Аля і Люба Гаўрылюк з Беластока, другое — А. Бурыла з Бельскага беларускага ліцэя і А. Раманюк з Дубяжына; у дуэтах: першае месца — Аля і Люба Гаўрылюк з Беластока, другое — У. Ахрымюк і М. Сухадола з Ляўкова, трэцяе — Г. Кот і І. Паўлючук з Гарадка; сярод калектываў : першае — калектыў з Гайнаўскага беларускага ліцэя, другое — калектыў з Бельскага беларускага ліцэя, трэцяе — калектыў з Гарадка і „Каласкі“ з Беластока.

4.V.80 у глядзельнай зале ГП БГКТ прайшоў агляд беларускіх



*Мужчыны з „Нівы“ ў дзень партыйнага пачыну ўзяліся наладзіць уезд на падворак ГП БГКТ, напрацаваліся, але зрабілі, як трэба. Фота М. Гайдука.*



*У клубе БГКТ у Беластоку выступае беларускі савецкі пісьменнік Аляксей Гардзіцкі. Злева побач з ім сядзіць беларускі савецкі паэт Аляксей Пысін. Фота М. Гайдука.*

этнаграфічных калектываў. З інсцэніроўкай „Калі свята?..“ выступіў калектыў з Арэшкава (першае месца), „Вечарынка“ — з Дабрывады (другое месца) і „Заручыны“ паказаў калектыў з Трасцянкі (трэцяе месца). Старадаўнія народныя абрады, мелодыі, уборы.

11.V.80 у той жа зале прайшоў агляд аматарскіх тэатральных калектываў БГКТ. Выступілі з інсцэніроўкай паэмы М. Шаховіча „Святая ноч“ ліцэісткі з Бельскага беларускага ліцэя (першае месца), кіруе гэтым калектывам настаўніца беларускай мовы мгр В. Рышчук; з п'есай „Шчаслівая лавачка“ — калектыў беластоцкага гуртка БГКТ (таксама першае месца).

25.V.80 у Літвінавічах гм. Нурэц прайшоў прысвечаны 35-й гадавіне перамогі над фашызмам фэстын БГКТ. З дакладамі выступілі член Прэзідыума ГП БГКТ А. Іванюк і прадстаўнік мясцовай арганізацыі ЗСЛ К. Мішчук, канцэрт далі „Каласкі“ з Беластока і „Дубочкі“ з Дубяжына.

27.V.80 у Беластоцкай філармоніі з багатым канцэртам выступілі 50-асабовы хор і вялікі вакальна-інструментальны калектыў Гродзенскага універсітэта. Асабліва вялікае ўражанне зрабі-

ла выкананне беларускіх песень, балад пра апошнюю вайну, твораў сучасных савецкіх кампазітараў.

1.VI.80 у Беластоку ў будынку нашага таварыства праходзіў найвышэйшы форум нашай арганізацыі — IX з'езд БГКТ. Папярэдзіла яго справаздачна-выбарная кампанія ва ўсім таварыстве. У ходзе яе на агульных сходах гурткі правялі ацэнку і выявілі недахопы ў сваёй працы за мінулыя чатыры гады, вызначылі напрамкі дзейнасці на будучыню, выбралі свае новыя праўленні і дэлегатаў на з'езд. Як паінфармаваў з'езд старшыня яго мандатнай камісіі А. Карпюк, на 112 выбраных у з'ездзе прыняло ўдзел 80 дэлегатаў, што пацвердзіла правамоцнасць з'езда. У найвышэйшым форум нашай арганізацыі ўдзельнічала больш за 50 гасцей. На з'езд, між іншым, прыбылі: старшыня ВК ФАН С. Кудла, сакратар ВК ПАРП Ю. Пяхоўскі, прадстаўнік адміністрацыйнага аддзела ЦК ПАРП К. Мамак, беластоцкі віцэ-ваявода З. Світай, прадстаўнік грамадска-адміністрацыйнага дэпартамента Міністэрства ўнутраных спраў С. Дэмянюк, кіраўнік адміністрацыйнага аддзела ВК ПАРП З. Рыбіцкі і інш. Групе дзеячоў БГКТ сакратар ВК ПАРП Ю. Пяхоўскі ўручыў узнагароды: Сярэбраны Крыж Заслугі М. Хлябічу, залатыя знакі „Заслужаны для Беласточчыны" М. Вішанку, В. Рудчыку і Г. Тапалянскай, сярэбраныя — Р. Місеюку і Я. Целушэцкаму. Старшынстваваў з'езду Я. Зенюк. Са справаздачным дакладам аб дзейнасці нашай арганізацыі за мінулыя чатыры гады выступіў старшыня ГП БГКТ М. Самоцік. Справаздачу Галоўнай рэвізійнай камісіі склаў яе старшыня М. Хмялеўскі, камісія адобрыла дагэтуляшнюю дзейнасць ГП БГКТ і яго Прэзідыума. У дыскусіі з прывітаннямі з'езду, ацэнкай дагэтуляшняй дзейнасці і прапановамі на будучыню выступілі: З. Рыбіцкі, К. Мамак, С. Дэмянюк, А. Іванюк, А. Баршчэўскі, А. Карпюк, В. Ласкевіч, Ю. Туронак, А. Барташук, М. Гайдук, А. Красько, В. Швед, М. Вішанка, М. Панфілюк, Я. Кірызюк. Віншаванні з'езду склалі дэлегацыі беларускіх ліцэяў Бельска і Гайнаўкі, пачатковай школы № 3 у Бельску, арганізацыі і прыватныя асобы. На прапанову старшыні выбарнай камісіі С. Трафімюка з'езд выбраў новае Галоўнае праўленне БГКТ у ліку 45 чалавек і Галоўную рэвізійную камісію — 5 чалавек. У часе перапынку новапакліканае Галоўнае праўленне выбрала сярод сваіх членаў 9-асабовы Прэзідыум на чале са старшынёй М. Самоцікам, а Галоўная рэвізійная камісія свайго старшыню М. Хмялеўскага. Старшыня камісіі пастаноў В. Склубоўскі прадставіў прапанову абшырнай праграмы дзейнасці БГКТ на гады 1980-1984, з'езд зацвердзіў яе да выканання. У заключным слове старшыня ГП БГКТ М. Самоцік звярнуўся да ўсяе нашай арганізацыі і яе прыхільнікаў з заклікам актыўна ўключыцца ў выкананне агульнадзяржаўных планаў і ажыццяўлення

прынятай з'ездам праграмы дзеяння БГКТ. З'езд праходзіў у атмасферы працавітасці і засяроджанасці.

19-20.VI.80 гасцявалі на Беласточчыне выдатныя беларускія пісьменнікі Аляксей Гардзіцкі з Мінска і Аляксей Пысін з Магілёва. Яны жыва цікавіліся культурна-асветнай дзейнасцю ў беларускім асяроддзі, пабывалі ў ГП БГКТ і рэдакцыі „Нівы", сустрэліся з актывістамі, пенсіянерамі і самадзейнікамі беластоцкага гуртка БГКТ, наведалі Бельскі беларускі ліцэй і спаткаліся з настаўнікамі і ліцэістамі, прынялі ўдзел у дыспуце маладых любіцеляў літаратуры ў Бельскім доме культуры, пазнаёміліся з мінулым і сучаснасцю г. Беластока, з Белавежай.

29.VI.80 у вёсцы Плюцічы праходзіў фэстын БГКТ. З'ехалася і сышлося на яго з навакольных сёлаў і мястэчкаў некалькі тысяч людзей. У мастацкай частцы выступілі беластоцкія „Каласкі" і бельскія „Васілёчкі". Слаўна гуляла моладзь і дарослыя. *(іс)*



# ГЭТА БЫЛІ ПЛЁННЫЯ ЧАТЫРЫ ГАДЫ...

**(З даклада старшыні М. Самоціка на IX з'ездзе БГКТ)**

Шаноўныя дэлегаты, дарагія госці!

Прадстаўляючы вынікі папярэдніх чатырох гадоў дзейнасці нашай арганізацыі, абмяжуюся найважнейшымі справамі, якія яе хвалююць, і затрымаюся на тых заданнях, выкананне якіх будзе складацца на станоўчыя вынікі ў наступныя чатыры гады.

Мінулае чатырохгоддзе было плённае ў дзейнасці таварыства. Усе нашыя мерапрыемствы — гэта сумленная праца для дабра ўсяго грамадства і патрэб нашай арганізацыі. Мы намагаліся добрасумленна ажыццяўляць вызначаную праграмамі VII і VIII з'ездаў Польскай Аб'яднанай Рабочай Партыі палітыку ў галіне грамадскага і культурнага жыцця.

У разнастайных формах нашай дзейнасці справы ідэйнага выхавання адыгрывалі вядучую ролю. Таму выдатныя падзеі і гадавіны таго часу як 60-я гадавіна Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, 60-годдзе БССР, 35-годдзе Народнай Польшчы і 35-я гадавіна перамогі над фашызмам былі галоўнымі тэмамі нашай працы. Усімі форма-



мі свае дзейнасці мы стараліся ўздзейнічаць на ўмацаванне грамадскай дысцыпліны, фармаванне добрых адносін паміж людзьмі, умацаванне пачуцця адказнасці за грамадскую маёмасць, яднання намаганняў усіх людзей

для сацыялістычнага будаўніцтва. Гэта мы ажыццяўлялі правядзеннем народных фэстынаў, канцэртаў мастацкай самадзейнасці, наладжваннем урачыстых вечарын, арганізаваннем конкурсаў, правядзеннем дакладаў, літаратурных вечароў, сустрэч з дзеячамі і журналістамі, нарадаў, канферэнцый, экскурсій, а таксама нашымі выдавецтвамі як „Беларускі каляндар" і штотыднёвік „Ніва", якіх абсяг уздзеяння вельмі шырокі. За мінулыя чатыры гады мы арганізавалі 23 фэстыны, 207 канцэртаў, 233 урачыстыя вечары, 242 вечарыны, 216 сустрэчаў, у тым ліку 124 аўтарскіх, 550 фотавыставак, правялі 244 лекцыі. У культурна-асветнай дзейнасці наша арганізацыя карысталася значнай грамадска-матэрыяльная базай. Мы вялі сваю працу ў 131 асяродку, у тым у 50 клубах „Руху", 30 клубах „Селяніна" і 47 вясковых святліцах. Пад непасрэднай апекай БГКТ працавалі 4 клубы: у Варшаве, Беластоку, Гданьску і Гайнаўцы. У гэтых культурна-асветных асяродках працавала 58 аматарскіх мастацкіх калектываў БГКТ.

Ва ўсіх формах культурна-асветнай дзейнасці нашай арганізацыі побач з кіруючай роляй Галоўнага праўлення і яго Прэзідыума, штодзённай працы штатных працаўнікоў ГП, вялікі ўклад быў нашых актывістаў і прыхільнікаў.

У наладжванні народных фэстынаў БГКТ — гэтага самага масавага мерапрыемства — прымаюць актыўны ўдзел нашыя гурткі, з дапамогай прыходзяць Саюз сацыялістычнай польскай моладзі, гурткі вясковых гаспадыняў, добраахвотныя проціпажарныя каманды, людовыя спартыўныя аб'яднанні, гмінныя дамы і асяродкі культуры, гмінныя ўпраўленні і іншыя арганізацыі і ўстановы.

Адна з асноўных форм нашай культурна-асветнай дзейнасці самага шырокага абсягу — гэта конкурсы. Конкурс „Беларуская песня" становіцца ўсё больш папулярным, сістэматычна павялічваецца ў ім колькасць удзельнікаў, выдатна ўзбагачаецца рэпертуар. Ён спрые паўставанню новых калектываў, будзіць вялікае зацікаўленне мясцовым беларускім фальклорам. Многія гады БГКТ праводзіць кожны год конкурс тэатральных калектываў. Праўда, у апошнім часе конкурс не выявіў тэндэнцый да развіцця ў такой ступені, як конкурс „Беларуская песня", але ўсё ж падтрымаў добрыя традыцыі шматлікіх асяроддзяў, і самае важнае — зацікавіў самадзейнікаў этнаграфічнымі пастаноўкамі. Ён спрыяў таму, што на сцэнах паявіліся новыя калектывы, якія свой рэпертуар засноўваюць на мясцовых народных абрадах, звычаях, песнях, як напрыклад: калектывы з Меляшкоў, Арэшкава, Дабрывады, Трасцянкі і



*На IX з'ездзе Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Фота З. Лянкевіча.*

і інш. Увесь час расце мастацкі ўзровень пастановак.

У мінулыя чатыры гады ў нас паявіліся новыя формы культурна-асветнай працы — чытальніцкі і музычны конкурсы. Чытальніцкі конкурс па беларускай літаратуры ўжо праводзіўся тройчы і з вялікім поспехам. Кожны раз у ім прымала ўдзел каля 500 чытачоў, ён спрыяе папулярызацыі беларускай кнігі, у значнай ступені садзейнічае лепшаму забеспячэнню бібліятэк і кнігарань беларускай літаратурай. Музычны конкурс быў праведзены толькі адзін раз, але і гэтага было даволі, каб пераканацца, што яго трэба працягваць.

Найбольш ахвярнымі ў аматарскім мастацкім руху з'яўляюцца члены калектываў і іх арганізатары. Яны прысвячаюць мноства часу на рэпетыцыі, выступленні на конкурсах і канцэртах, фэстынах і іншых мерапрыемствах — і ўсё гэта без аніякай матэрыяльнай карысці, часта нават са стратамі ў асабістых і сямейных справах. Немагчыма злічыць час, што аддалі самадзейнаму мастацтву калектывы з Гарадка, Бельска, Беластока, Арэшкава, Дубяжына і іншыя, а таксама малодшыя, якія ідуць за іх прыкладам, — з Ляўкова, Райска, Меляшкоў, Рыбалаў, Грабянёў, Міклашэва, Курашава, Старакорніна, Вітава, Аўгустова і г.д. Удзельнікам

усіх калектываў, іх арганізатарам і кіраўнікам сардэчна дзякую і зычу добрага здароўя і настойлівасці ў працы і задавальнення з яе.

Гэтаму запалу нашых самадзейнікаў спрыяла выдатная дапамога і апека многіх арганізацый і ўстаноў транспартам, узнагародамі, заахвочваннем, падтрымкай.

На актыўную дзейнасць таварыства вялікі ўплыў маюць тыя арганізацыйныя звенні, што дзейнічаюць пры ГП БГКТ. У мінулыя чатыры гады вельмі актыўна працавала камісія культуры пры ГП БГКТ. Яна памагала планаваць, апрацоўваць правілы конкурсаў, ініцыявала розныя мерапрыемствы, падсумоўвала і ацэньвала іх вынікі. Дзякуючы камісіі асветы ўтрымоўвалася сталая сувязь з Беластоцкай куратарыяй асветы і выхавання, уладкоўвалася шмат спраў, звязаных навучаннем беларускай мовы ў школах. Супольна з куратарыяй мы склікалі нараду дырэктараў гмінных школ, на якой былі абмеркаваны найважнейшыя праблемы ў навучанні беларускай мовы. Настаўнікаў, якія маюць добрыя вынікі ў навучанні гэтага прадмета, куратарыя ўзнагародзіла грашовымі прэміямі. У ГП БГКТ была праведзена спецыяльная сустрэча з настаўнікамі беларускай мовы. Пры ўдзеле камісіі быў апрацаваны праект праграмы навучання гэтага прадмета ў рэфармаванай 10-гадовай школе. Дзякуючы яе намаганням палепшылася забеспячэнне школ у буквары і г.д. Усё гэта спрыяла ўстрыманню змяншэння колькасці дзяцей, якія вывучаюць родную мову, садзейнічала павышэнню вынікаў дыдактычна-выхаваўчай працы ў школах. Навучанне беларускай мовы дзяцьмі і моладдзю не толькі не перашкаджае ў авалоданні ведамі па іншых прадметах, але значна дапамагае ў гэтым. Прыклад гэтаму — агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання ў Бельску, у ім высокі ўзровень навучання беларускай мовы і адначасова выдатныя вынікі па іншых прадметах. На шматлікіх алімпіядах вучні гэтага ліцэя заваёўваюць першыя месцы.

Лектарскі гурток, што працуе пры ГП БГКТ, правёў тры семінары на тэмы: „Сацыялістычная сям'я“, „Дасягненні Беларускай ССР за 60 год яе існавання“, „Змаганне за народную ўладу на Беласточчыне“. Нашыя лектары выступілі з 244 дакладамі.

Шырокую дзейнасць вядзе літаратурная секцыя „Белавежа“ пры ГП БГКТ. За мінулыя чатыры гады яна арганізавала 6 пасяджэнняў праўлення і 2 агульныя семінары. На іх вырашаліся справы, якія хвалююць наш літаратурны рух, між іншым: падрыхтоўка чарговых кніжак і іншых выданняў, супрацоўніцтва з іншымі літаратурнымі групамі, напрамкі




*На выстаўцы з нагоды IX з'езда БГКТ. Фота З. Лянкевіча.*

развіцця нашага літаратурнага руху і г.д. За справаздачны перыяд было выдадзена 5 кніжак твораў нашых аўтараў і столькі ж падрыхтавана да друку. Апрача гэтага многа літаратурных твораў паявілася на старонках „Нівы" і ў „Беларускіх календарах".

Навуковы гурток пры ГП БГКТ супольна з Беластоцкім навуковым таварыствам выдаў трэці ўжо „Навуковы зборнік" і падрыхтаваў план чарговага выдання. Аднак з'явіліся цяжкасці з яго выданнем, і таму праца гуртка стала менш актыўнай. Усё ж калі б былі ўжо апрацаваныя матэрыялы, знайшліся б спосабы іх выдання.

Чатыры гады — гэта значны адрэзак часу ў дзейнасці арганізацыі. Як не працавалі б мы, то за столькі часу на пацвярджэнне добрай працы можна знайсці шмат прыкладаў. І ўсё ж нельга абысці маўчаннем усіх цяжкасцей і недахопаў, якія былі ў мінулым перыядзе. Іх неабходна прааналізаваць, каб пазбегнуць паўтарэння ў будучыні.

Папярэдні VIII з'езд БГКТ наказаў прывітаць IX з'езд нашай арганізацыі сямю тысячамі членаў. Мы рабілі вялікія намаганні, але гэтага задання нам не ўдалося выканаць. Колькасны склад нашай арганізацыі быў наступны:

| год | колькасць членаў | колькасць гурткоў |
|---|---|---|
| 1976 (8 з'езд) | 6 125 | 186 |
| 1977 | 6 003 | 189 |
| 1978 | 5 694 | 180 |
| 1979 | 5 871 | 181 |

Пачынаючы са студзеня і па чэрвень 1980 г. мы прынялі 427 новых членаў, і на час IX з'езда наша таварыства складалася з 6 298 членаў у 178 гуртках. Гэтай колькасці мы дабіліся не малымі намаганнямі. Адбываецца вялікі рух насельніцтва — моладзь масава выбывае ў гарады, асабліва з прыгранічных вёсак, а старэйшае пакаленне наогул не горнецца ні ў якія арганізацыі, у тым і ў



*Цымбаліст П. Красько з Гайнаўкі. Фота М. Гайдука.*

БГКТ. Таму закончылі сваю дзейнасць гурткі БГКТ у Доўгім Бродзе, Плянце, Нятупе, а ў шэрагу іншых зменшылася колькасць членаў. За чатыры гады з БГКТ выбыло каля 2 000 членаў і гэтую колькасць трэба было папоўніць новымі, каб захаваць цяперашнюю шасцітысячную арганізацыю.

Іншая цяжкасць — гэта мала ініцыятывы і самастойнасці ў працы гурткоў. Часта можна пачуць — прывязіце калектываў, фільм, нешта арганізуйце, затое ўласнай дзейнасці нямнога. Праўда, гэтага нельга абагульняць, бо ёсць многа актыўных гурткоў. Выступаюць яны з цікавымі ініцыятывамі, маюць калектывы і праводзяць розныя культурна-асветныя мерапрыемствы, актыўна ўдзельнічаюць у грамадскім жыцці асяроддзя, напрыклад: гурток у Арэшкаве мае свае харавы і тэатральны калектывы, прымае ўдзел у конкурсах, дае шмат канцэртаў для патрэб БГКТ і гміны, наладжвае экскурсіі, рэгулярна аплочвае членскія складчыны; гурткі ў Літвінавічах і Рыбаках штогод наладжваюць фэстыны, якія сталі своеасаблівымі рэгіянальнымі святамі; гурткі ў Беластоку, Варшаве і Гданьску — арганізуюць многа сустрэч, лекцый, вечарын, экскурсій і г.д. Вядома, усіх добра працуючых гурткоў немагчыма пералічыць. Праўда і тое, што мы замала дапамагаем гурткам, асабліва рэдка наведваем слабыя гурткі. Хоць мы маем многа добрага актыву, але кожны актывіст ахвярна працуе і ў іншых арганізацыях,




*Сярод калектываў у катэгорыі фальклорнай песні на конкурсе „Беларуская песня-80" першае месца заняў калектыў „Васілёчкі" з Бельска. Фота М. Шаховіча.*

намагаецца быць добрым працаўніком у сваім прадпрыемстве ці на ўласнай гаспадарцы і таму не мае многа часу для нашай арганізацыі. Штатныя працаўнікі нашага таварыства ў асноўным дапамагаюць гурткам у арганізацыйных справах, у той жа час у нас вельмі мала спецыялістаў па розных напрамках культурнай дзейнасці і таму ўсебаковую дапамогу мы даць не можам. Праца з аматарскімі калектывамі нялёгкая. Выехаць з канцэртам можна толькі ў нядзелю і толькі з адным калектывам, бо няма больш уласных сродкаў транспарту. У многіх мясцовасцях ёсць ахвотныя да працы ў мастацкай самадзейнасці, але ім патрэбны дырыжоры, харэографы, спецыялісты па тэатральных пастаноўках. А такіх спецыялістаў у нас усяго толькі адзін — Янка Крупа. Цяжка таксама павялічыць колькасць лекцый і сустрэч. Цяпер ужо рэдка хто згаджаецца ехаць у адлеглую мясцовасць цягніком ці ПКСам, усе просяць хуткага транспарту, а абмежаванні ў гэтай дзялянцы, як вядома, датычаць не толькі нашай арганізацыі. І ўсё ж, каб актывізаваць працу, неабходна павялічыць колькасць фэстынаў, канцэртаў, лекцый, сустрэч, несці дзейсную дапамогу калектывам і гурткам.

Выступаюць таксама недахопы ў ажыццяўленні нека-

торых пастаноў пленарных пасяджэнняў ГП БГКТ. Перш за ўсё мы дагэтуль недастаткова працавалі над выяўленнем помнікаў беларускай матэрыяльнай культуры.* Няма ў нас дакладнага ўліку нашых народных творцаў, і мы недастаткова папулярызуем іх творчасць. Дагэтуль мы не



*Сярод дуэтаў у фальклорнай песні на конкурсе „Беларуская песня-80“ першае месца занялі **К. Домань** і **М. Сак** з Новай Волі. Фота М. Шаховіча.*

патрапілі арганізаваць салідную сістэму збірання, захоўвання і публікавання беларускай вуснай народнай творчасці. Недахопаў у дзейнасці БГКТ можна было б знайсці болей.

Але ўсё ж зрабілі мы не мала і з гонарам можам гаварыць пра добрыя вынікі нашай працы, бачым мы таксама яе недахопы і будзем іх выпраўляць.

Як у папярэднія гады, так і на будучыню маем многа заданняў. Найважнейшымі з іх з'яўляюцца:

— ажыццяўляць заданні, якія паставіла перад усёй нашай краінай праграма, прынятая VIII з'ездам ПАРП, вызначылі мясцовыя органы ўлады, умацоўваць грамадскую дысцыпліну, згоднае сужыццё людзей і інтэграцыю ўсяго народа;

— павялічваць і ўмацоўваць усю нашу арганізацыю, прымаць больш новых членаў, засноўваць новыя гурткі, умацоўваць групы гміннага актыву, наладзіць і рэгулярна штогод праводзіць нарады старшынь, сакратароў і скарбнікаў гурткоў;

— ствараць прыхільную атмасферу і паляпшаць умовы навучання ў школах роднай беларускай мове, рэгулярна праводзіць сустрэчы з дырэктарамі гмінных школ і настаўнікамі гэтага прадмета, дапамагаць у забеспячэнні школ беларускай літаратурай і іншымі дапаможнымі матэрыяламі;

— павялічваць колькасць фэстынаў, канцэртаў, конкурсаў, лекцый, сустрэч, вечарын, фотавыставак, экскурсій і іншых культурна-асветных мерапрыемстваў і павышаць іх арганізацыйны і мастацкі ўзровень;

— праводзіць больш мерапрыемстваў для дзяцей: навагодніх ёлак, дзіцячых гульняў, сустрэч з беларускімі казкамі, дэкламацый беларускіх вершаў і спявання беларускіх песень, а таксама іншых форм працы з дзяцьмі;

— у сувязі з тым, што большасць нашай арганізацыі складаецца з моладзі, неабходна пашыраць дастасаваныя да зацікаўленняў маладога пакалення формы працы, між іншым: навучанне народных і бальных танцаў, засноўванне танцавальных калектываў і г.д.;

— шырока выкарыстоўваць у культурнай дзейнасці беларускі фальклор, збіраць, захоўваць, публікаваць і вывучаць яго;

— садзейнічаць далейшаму развіццю беларускага літаратурнага руху ў Польшчы;

— весці і ўзбагачаць працу з клубамі пенсіянераў;

— смялей і лепш разгортваць візуальную прапаганду ў клубах, святліцах, у часе розных культурна-асветных мерапрыемстваў БГКТ і інш.;

— пашыраць і ўмацоўваць дзейнасць камісій і іншых органаў ГП БГКТ;

— працягваць і развіваць усе дагэтуляшнія формы дзейнасці нашай арганізацыі.

Хоць праца наша нялёгкая, затое яна цікавая і творчая. Мэта нашага дзеяння — гэта рабіць усё для сацыялістычнага будаўніцтва і развіваць прагрэсіўныя традыцыі беларускай культуры.

## ГАЛОЎНАЕ ПРАЎЛЕННЕ, ВЫБРАНАЕ IX З'ЕЗДАМ БГКТ

Ніна Аўэрчук
Анна Амбражэй
Васіль Антыпюк
Аляксандр Баршчэўскі
Віктар Бура
Георгій Валкавыцкі
Мікалай Гайдук
Ірына Галавачык
Фёдар Галёнка
Люба Гаўрылюк
Валянціна Дарашкевіч
Вольга Закройшчык
Янка Зенюк
Аляксандр Іванюк
Аляксей Карпюк
Янка Кірызюк
Эдуард Кісялеўскі
Анна Красько
Мікалай Куптэль
Валянціна Ласкевіч
Віталіс Луба
Сяргей Лукашук



*Выбранае IX з'ездам Галоўнае праўленне і Галоўная рэвізійная камісія БГКТ. Фота З. Лянкевіча.*

Анатоль Мартыновіч
Аляксандр Монах
Ірына Навацкая
Уладзімір Навіцкі
Мікалай Панфілюк
Антаніна Рагуцкая
Уладзімір Раеўскі
Аляксандр Раманюк
Аляксандр Рафаловіч
Фёдар Садоўскі
Мікалай Самоцік
Вінцук Склубоўскі
Аляксандр Станько
Галена Тапалянская
Сцяпан Трафімюк
Юрый Туронак
Сяргей Харкевіч
Мікалай Хлябіч
Мар'я Цюрук
Ніна Цыванюк
Віктар Швед
Ніна Якубоўская
Аляксандр Янчук

## ПРЭЗІДЫУМ ГП БГКТ

Мікалай Самоцік — старшыня
Георгій Валкавыцкі — намеснік старшыні
Янка Зенюк — сакратар
Аляксандр Баршчэўскі — член
Аляксандр Іванюк — член
Валянціна Ласкевіч — член
Вінцук Склубоўскі — член
Сцяпан Трафімюк — член
Ніна Цыванюк — член

## ГАЛОЎНАЯ РЭВІЗІЙНАЯ КАМІСІЯ

Міхась Хмялеўскі — старшыня
Сымон Шыманюк — намеснік старшыні
Уладзімір Юзвюк — сакратар
Уладзімір Антанюк — член
Янка Стрышко — член

Г. Валкавыцкі

# ГУРТОК—ХТО ТЫ?

Герой нарадзіўся 25 лістапада 1956 года. Менавіта ў гэты дзень, пасля доўгіх і гарачых спрэчак, удзельнікі I пленума ГП БГКТ дайшлі да вываду, што арганізацыйная структура таварыства нядобрая і трэба яе падправіць, што асноўным звяном БГКТ павінен быць гурток. Была тады прынята і належная па-



станова: „Арганізаваць гурткі таварыства ва ўсіх беларускіх вёсках, дзе даспелі адпаведныя ўмовы. Распрацаваць метады канкрэтнай дапамогі новаарганізаваным гурткам у іх дзейнасці“.

Значыць, гурток убачыў дзённае святло роўна ў 9 месяцаў ад першага бэгэкатоўскага ўздыму, якім быў арганізацыйны з'езд. Хоць роды праходзілі як трэба, заспелі яны бацькоў непадрыхтаванымі да новай функцыі. У кожным выпадку ніякіх слядоў распрацоўкі „канкрэтных метадаў дапамогі“ не засталося і першародны пястун у асноўным павінен быў разлічваць на ўласныя сілы. Часта выдыхаліся яны ў моманце прыняцця амбітных пастаноў.

Што ставілі перад сабой гурткі таго часу? Вось праграма гуртка бельскага эканамічнага тэхнікума (як паведамляла „Ніва“, быў гэта першы водгук на I пленум ГП БГКТ): 1. Вывучэнне мовы, літаратуры і гісторыі беларускага народа; 2. Аналіз пасобных нумароў „Нівы“; 3. Вывучэнне статута БГКТ; 4. Школьная мастацкая самадзейнасць.

Гурток заснаваўся ўжо 3 снежня. Журналіст трапіў на сход, які абмяркоўваў успамянутую праграму. Ён захапляецца маладымі энтузіястамі БГКТ. „Бяруцца за тое, што напэўна зробяць“, — думае, сочачы за словамі прысутных.

Як ажыццяўлялася праграма?

Маўчанне.

Не менш характэрны для перыяду нараджэння гурткоў і артыкул С. Яновіча „Белая пляма“ (Ніва, 13 1 1957). „На I пленуме ГП БГКТ, — піша аўтар, — пастаноўлена ўнесці ў статут папраўку, згодна з якой, у вёсках, прадпрыемствах і школах можна арганізаваць гурткі БГКТ. Гэта вельмі важна. Але, на жаль, не ўсе яшчэ члены Праўлення Павятовага аддзела БГКТ у Саколцы ведаюць, што адбылося тое пленум!... не ўспамінаючы ўжо аб ажыццяўленні яго пастаноў.“

Падобная сітуацыя была не толькі ў сакольскім аддзеле. Зарад не ўзарваўся. Асечка наступіла на самым старце, і дарогу гуртку пачалі мы расчышчаць, хто чым мог.

Ва ўспамянутым артыкуле С. Яновіч прапануе прыцягнуць да арганізоўвання гурткоў беларускіх настаўнікаў і падказвае другі спосаб — хоры: „На канцэрт такога аднаго ці другога хору напэўна зыходзілася б шмат людзей, напэўна знайшліся б ахвотныя людзі паглядзець пастаноўку беларускай п’есы ў выкананні, напрыклад, вучняў і старэйшай вясковай моладзі. Людзі не стараліся б дашукоўвацца ў гэтым „якойсьці палітыкі“, а беларускае слова здабыло б права грамадзянства. Беларускую песню і драму ахвотна слухалі б усе: і каталікі, і праваслаўныя (адны і другія на гэтай жа мове гавораць). Зразумелі б, што беларуская мова — гэта не нейкая „простая“, „мужыцкая“, на якой толькі размаўляецца ў коле блізкіх, у сям’і“.

Гэты „мастацкі“ ўхіл стаў вядучым напрамкам у стыхійнай дзейнасці гурткоў.

„У Паўднёвым Востраве мне прыйшлося цэлы вечар прасядзець у Толіка Хмялеўскага, — гаворыць М.Х. (Ніва, 20.1.1957). — Тут быў і Валодзя Жамойда — яго сябра. Гутарылі мы аб беларускай культуры. Нарадзілася жаданне паставіць п’есу Янкі Купалы „Паўлінка“. — Гэта быў бы першы ўклад працы ў распаўсюджванне беларускай культуры, — сказаў Толік.“

Пры нагодзе маладыя вастраўляне вырашылі арганізаваць і гурток БГКТ.

У планах працы гуртка БГКТ у Беластоку, які быў арганізаваны 14.2.1957 г., таксама культурныя зацікаўленні: лекцыі па беларускай гісторыі і літаратуры, літаратурныя і танцавальныя вечарыны, чытанне беларускага друку, спрэчкі над кінафільмамі.

Прэзідыум ГП БГКТ падтрымлівае такі напрамак. У планах дзейнасці на 1957 г. экспануецца арганізаванне новых гурткоў мастацкай самадзейнасці, забеспячэнне іх адпаведным інструктажам, народнымі ўборамі. Адначасова план прадбачвае шырокую дзейнасць па арганізацыі гурткоў таварыства. Гэтыя

два элементы, як залог паспяховасці, будуць спадарожнічаць праз усе гады.

## НОВЫЯ ВЕЯННІ

У тым жа 1957 годзе нараджаюцца і новыя ідэі. С. Яновіч раптам прапануе гурткам арганізаваць у вёсках касы сялянскай самапомачы, а пры нагодзе і палявыя цагельні, чарапічныя прадпрыемствы, выраб дываноў, ходнікаў ды і наогул саматужніцкай прамысловасці (Ніва, 17.3.1957).

„Гаспадарчая“ ідэя неўзабаве азмрочыць начальству БГКТ ясныя сны (цяжкі старт „Betesci“ і яе завілістыя сцежкі), але пакуль яна не знаходзіць у вярхах водгуку, і гурткі надалей весяляць вяскоўцаў „Чортам і бабай“. Гэта, вядома, не задавальняе актывістаў і 26.5.1957 М. Матэйчук выступае ў „Ніве“ з артыкулам „Трэба паказаць грамадству Польшчы матэрыяльную культуру беларусаў“, у якім гаворыць: патрэбны нам музей. Тут жа падсоўвае думку і гурткам: шукайце экспанаты.

Ідэя сыграла праз некалькі год. А цяпер першапланавым заданнем было арганізацыйнае ўмацаванне таварыства. Напярэдадні II пленума ГП БГКТ пісаў аб гэтым у „Ніве“ старшыня ГП БГКТ А. Давідзюк: „...дагэтуль не ўдалося згуртаваць у радах таварыства шырокага грамадскага актыву... пры такой невялічкай колькасці гурткоў і членаў БГКТ немагчыма ўласціва рэалізаваць нашыя намеры... мы не выйшлі з беларускай культурай да мас шырокім фронтам. Праца ГП на гэтай ніве абмяжоўвалася амаль выключна да арганізацыі мастацкіх гурткоў і, час ад часу, лекцый на культурна-асветныя тэмы, і то, у большасці выпадкаў, у гарадскіх асяроддзях. Асноўная маса беларускага насельніцтва далей не абнята нашай дзейнасцю“.

З рэзкай ацэнкай дагэтуляшняй працы БГКТ выступіў перад пленумам і Барыс Нікіцюк. Крыніцу бяды бачыць ён у дрэннай канцэпцыі таварыства. Пабудаванае яно — доказвае — на падабенства палітычных і грамадскіх арганізацый, а павінна мець грамадска-культурны характар, згодна з назвай. Асновай у развіцці таварыства — гаворыць Б. Нікіцюк — павінна быць беларуская творчасць, якая павінна заняць месца бескарысных па форме і змесце гурткоў. Перасцерагае: такія гурткі могуць завесці ў цёмны завулак (Ужо!). Народнае мастацтва — вось дарога, па якой крочыць таварыству.

Такая ацэнка знайшла падтрымку II пленума, які адбыўся 29.9.1957 г. Як паведамляла „Ніва“, прысутныя дайшлі да вываду, што дагэтуляшні характар працы гурткоў БГКТ не здаў экзамену. Замест таго, каб арганізоўваць у асяроддзі грамад-



*Этнаграфічны калектыў з Арэшкава на аглядзе 1980 г. заняў першае месца. Фота М. Гайдука.*

ска-культурную дзейнасць, некаторыя гурткі пераўтварыліся ў нейкія адміністрацыйныя ўлады і звялі сваю працу да рэестрацыі членаў. Пастанова II пленума абавязвала арганізаваць такія гурткі, якія будуць займацца мастацкай самадзейнасцю і народнай творчасцю. Пленум абавязаў таксама Прэзідыум ГП БГКТ арганізаваць культурна-асветную камісію, якая мела непасрэдна кіраваць працай гурткоў. Іншая, арганізацыйна-прапагандовая камісія, мела заняцца масавым арганізоўваннем гурткоў і папулярызацыяй БГКТ сярод насельніцтва краіны. Але гэты пленум вырашыў паклікаць і эканамічную камісію, паставіўшы перад ёй заданне даследаваць магчымасці актывізацыі эканамічнага жыцця сярод беларусаў.

## „ЭКАНАМІЧНЫ“ УХІЛ

Шмат увагі эканамічным справам адвёў II з'езд БГКТ, які адбыўся 30.3.1958 г. Паводле „Эканамістаў“ зацікаўленне гаспадарчым развіццём вёскі мела паскорыць рост гурткоў БГКТ.

На II з'езд прыйшлі мы з 42 гурткамі. Да таго, як

сцвярджалася ў дакладзе, большасць гэтых гурткоў існавала фармальна — не праяўляла ніякай дзейнасці. Прычыну склаўшайся сітуацыі бачым у адсутнасці канкрэтных заданняў. Упершыню ставім заданне актывізацыі гурткоў. Але гучыць яно даволі агульна: „Апрача арганізацыі культурнага жыцця, гурткі павінны актыўна ўключыцца і ў гаспадарчае жыццё сваёй вёскі“.

Не пашырае заданняў і артыкул новага сакратара ГП БГКТ В. Шведа „Глыбей змест, разнастайней формы нашай працы“ (Ніва, 13.3.1958). Адзначым у ім аднак важны акцэнт: „Гурткі павінны стацца галоўнай справай таварыства ў беларускіх вёсках“.

Нічога канкрэтнага па гэтаму пытанню не было сказана і на пасяджэнні Прэзідыума ГП БГКТ 9.4.1958, на якім шырока гаварылася пра тое, што трэба рабіць, каб праца таварыства стала больш эфектыўнай. Канкрэтызаваць заданні спрабуе новы старшыня ГП БГКТ У. Станкевіч у артыкуле „Урэальніць і актывізаваць дзейнасць Беларускага грамадска-культурнага таварыства“ (Ніва, 21.9. 1958). Выступае ён супраць „крытычнага“ характару дагэтуляшніх пасяджэнняў, „на якіх толькі абмяркоўваюцца справы, аналізуюцца недахопы, шукаюцца іх прычыны і вінаватыя“, даказвае, што ў БГКТ ёсць значныя дасягненні, толькі мы яшчэ не навучыліся іх бачыць і заклікае: замацоўваць дасягненні, не таптацца на месцы, пачаць планавую дзейнасць.

У старшыні многа аптымізму: „Мы маем усюды многа добрых актывістаў, якія ахвотна выканаюць дадзеныя ім заданні, але ніхто да іх з гэтым не звяртаецца“.

Відаць, аптымізм старшыні ўздзейнічаў і на Прэзідыум ГП БГКТ. Рыхтуючыся да кастрычніцкага пленума, яно пастанавіла „да 31 снежня г.г. выканаць амбітнае заданне: у кожнай беларускай вёсцы заснаваць гурток БГКТ“.

Пастановы пленума кіравалі ў адрас гурткоў наступныя заданні: звярнуць асаблівую ўвагу на ўключэнне ў працу таварыства настаўнікаў — „асноўную апору нашай працы ў вёсцы“, на ўмацаванне існуючых гурткоў мастацкай самадзейнасці і арганізаванне новых, на беларускія кніжкі і часопісы (распрацаваць канкрэтныя формы прапагавання іх сярод насельніцтва), на арганізацыю курсаў беларускай мовы, на шырокую палітычна-ўсведамляючую працу сярод бацькоў у галіне навучання дзяцей на беларускай мове, на ўстанаўленне цеснага, непасрэднага кантакту і супрацоўніцтва са школамі ў галіне выхавання дзяцей, на ўстанаўленне цеснай сувязі з існуючымі дзяржаўнымі арганізацыямі (Саюз сельскай моладзі, ЗГП, ПЦК, ЛПЖ), на азнаямленне з працай гэтых

арганізацый і выкарыстанне іх для развіцця культурнай дзейнасці сярод беларускага насельніцтва, на ўстанаўленне цеснай сувязі з мясцовымі партыйнымі і адміністрацыйнымі ўладамі, а таксама з усімі палітычна-грамадскімі масавымі арганізацыямі.

Наступны пленум, які адбыўся 24.5.1959 г., да гэтых заданняў дадаў патрэбу культуры і гігіены штодзённага асабістага жыцця, культурнага выгляду хаты, панадворка і вуліцы, ліквідацыі п'янства і хуліганства (найбольшага ворага ўсіх культурных пачынанняў) і кінуў лозунг: у кожнай вёсцы — гурток ЛЗС.

Восенню 1959 г. ГП БГКТ вырашыла на старонках „Нівы" адкрыць куток „Гурток працуе". Лічыла яно, што куток гэты шмат дапаможа актывістам у арганізацыі належнай працы і павышэнні арганізацыйнага ўзроўню. Ідэя па невядомай прычыне памерла на трэцім „кутку".

А тымчасам набліжаўся III з'езд БГКТ. На старонках „Нівы" разгарнулася шырокая перадз'ездаўская дыскусія. Пачаў яе артыкул Аляксандра Слава, сакратара нацыянальнай камісіі ЦК ПАРП (Ніва, 20 і 27 снежня 1959 г.). Акцэнтавалася ў ім шматграннасць дзейнасці, у якой „праца таварыства, гэта не толькі захаванне народных традыцый і мовы, але выцягванне нацыянальнай меншасці з адсталасці, забабонаў, уклад у агульнае імкненне і барацьбу за ўсебаковае культурнае і гаспадарчае развіццё ўсяго нашага народа, састаўной часткай якога з'яўляецца нацыянальная меншасць".

У перадз'ездаўскай дыскусіі тэма, якая нас цікавіць, не знайшла большага адлюстравання. Аднатуем: БГКТ „не вельмі выразна бачыць селяніна — працаўніка (дагэтуляшняя праца накіравана на нядзелю: песня, танец, аднаактоўка), не бачыць штодзённых спраў вёскі, павінна ўваходзіць ва ўсе справы асяроддзя" (М. Канапацкі). „Галоўнае праўленне замкнулася вакол сваіх унутраных спраў. Абмежавалася супрацоўніцтвам з Кураторыяй і Аддзелам культуры. Цікавіцца толькі хорам і жвіроўняй. Не выходзіць па-за межы Беластока. Гурткі існуюць толькі на паперы. Далей так нельга. Галоўная ўвага — на ўмацаванне сувязі з шырокімі масамі беларускага насельніцтва ў вёсцы" (М. Насовіч). „Гурткі БГКТ трэба зрабіць больш масавымі, узмацніць, скаардынаваць з усімі існуючымі арганізацыямі вёскі, а галоўнае са школамі. Больш увагі працы з кнігай" (А. Чыквін).

На аднабаковасць працы БГКТ звярнулі ўвагу таксама павятовыя канферэнцыі. Перш за ўсё, таварыства абмежавалася ў сваёй дзейнасці мастацкай самадзейнасцю, — сцвердзіла, напрыклад, канферэнцыя ў Бельску. Замала часу прысвячала таварыства



*Этнаграфічны калектыў з Трасцянкі на аглядзе 1980 г. заняў трэцяе месца. Фота М. Гайдука.*

такім праблемам як: культура сельскай гаспадаркі, кіраванне грамадскімі чынамі, прапагаванне новых, вышэйшых форм сельскай гаспадаркі. Захапленне толькі мастацкай самадзейнасцю з'яўляецца прычынай таго, што гурткі ахопліваюць у асноўным моладзь. Старэйшае насельніцтва вельмі часта застаецца па-за гурткамі.

Такое становішча было не толькі ў бельскім аддзеле. А гэта быў у той час перадавы аддзел і яго форум меў вялікі ўплыў на ўсю працу БГКТ. Характэрным з'яўляецца рашэнне ўспамянутай канферэнцыі адносна суседняга аддзела. Менавіта было тут вырашана: каб падняць дзейнасць гурткоў у Сямяціцкім павеце на вышэйшы ўзровень, сямяціцкі аддзел спалучыць з бельскім.

## АСНОВА

29 мая 1960 г. адбыўся III з'езд БГКТ. Было ў нас 119 гурткоў і 3395 членаў. У працы гуртка найважнейшым ставіўся змест.

„Гурток — гэта арганізацыйная адзінка, якая знаходзіцца непасрэдна ў асяроддзі, — сцвярджаў дакладчык. — Ён павінен жыць штодзённа справамі свайго асяроддзя, знаходзіцца ў цеснай сувязі з усімі грамадскімі і культурна-асветнымі арганізацыямі, якія дзейнічаюць у данай

мясцовасці. Гурток павінен утрымліваць цесную сувязь з праўленнем аддзела БГКТ, а праўленні аддзелаў — з гурткамі. А вось гэтая сувязь, на жаль, яшчэ малая. Таксама няма яшчэ добрай сувязі праўленняў аддзелаў і Галоўнага праўлення з аддзеламі і гурткамі". У дакладзе падкрэслівалася, што многія члены не разумеюць ролі і значэння гуртка ў асяроддзі, яго заданняў і напрамку дзейнасці.

III з'езд вырашыў галоўную ўвагу накіраваць на вёску і супрацоўніцтва з арганізацыямі, якія дзейнічаюць сярод беларускага насельніцтва. Адсюль падкрэслівалася і асаблівая роля гуртка.

Што справа ажыццяўлення галоўнай пастановы з'езда не была простай, сведчыць вельмі жывая дыскусія на II пленуме БГКТ, які адбыўся 13 лістапада. Большасць аратараў звярнула ўвагу на ўсё яшчэ слабую дзейнасць таварыства ў вясковым асяроддзі. „Вясковыя гурткі неаднойчы існуюць толькі фармальна, — гаварылі члены ГП БГКТ, — не ведаюць, што ім трэба рабіць і ў якім напрамку разгортваць сваю дзейнасць". Узнікла роля актывіста БГКТ. Так аб ёй гаварыў прадстаўнік Нацыянальнай камісіі ЦК ПАРП У. Скшыпчак: „Актывіст БГКТ абавязаны адчуваць сябе актывістам не толькі на сходзе гуртка БГКТ, але і на кірмашы, у цягніку, у час гутаркі са сваімі знаёмымі — усюды, дзе толькі ён знаходзіцца. Толькі ў такім выпадку можна гаварыць аб актыўным дзеячу таварыства".

І ў гэтай дыскусіі выступіла тэма аднабаковай дзейнасці БГКТ. Пленум прапанаваў актывізаваць вясковыя гурткі шляхам добра прадуманай лектарскай дзейнасці розных спецыялістаў і абавязаў Прэзідыум ГП надалей укірункоўваць працу на вёску.

„Праца ідзе добра там, дзе ёсць моцны актыў", — сцвярджае новы сакратар ГП БГКТ Уладзімір Юзвюк („Насустрач пяцігоддзю БГКТ", Ніва 15.1. 1961) і лічыць пашырэнне актыву першачарговым заданнем. Аб дагэтуляшнім этапе гаворыць так: „Аддзелы таксама маюць актыў і прыгожыя планы працы, але няма толькі належнай дзейнасці. Мала актыўныя праўленні не змаглі, зразумела, актывізаваць гурткоў БГКТ. На звыш 120 гурткоў амаль ніводзін не вядзе ўсебаковай працы. Няма тут дыскусіі над беларускай кніжкай, фільмам, „Нівай", няма дапамогі школе, слаба супрацоўнічаюць гурткі з мясцовымі арганізацыямі. Працу сваю яны ўкірункоўваюць на мастацкі рух або арганізаванне вечарын... Цяпер трэба нам звярнуць спецыяльную ўвагу на асветную дзейнасць, асабліва ў напрамку асветы для дарослых. У гэтую працу павінны ўключыцца ўсе нашыя гурткі, увесь актыў".

Тэму працягвае в.а. загадчыка арганізацыйнага аддзела ГП БГКТ С. Яновіч („Культурна-асветную працу трэба разумець усебакова“, Ніва, 12.2.1961): „Але асветнай працы нельга зводзіць толькі да арганізавання праблемных курсаў. Кулінарныя і сельскагаспадарчыя курсы, матаровыя курсы, курсы электра- і радыёмінімум, гутаркі аб гігіене і інш. — гэта таксама асветная праца. Культурна-асветная праца павінна несці не толькі нацыянальнае ўсведамленне і адпачынак, але таксама і дапамогу ў канкрэтным цяжкім штодзённым жыцці. Толькі ў такім выпадку гурток БГКТ зможа адыграць станоўчую ролю ў жыцці вёскі“.

„Праца гуртка — асновай дзейнасці БГКТ“, — пад такім лозунгам праходзіў IV пленум ГП БГКТ 15.4.1962 г. На першы план выбілася справа пашырэння форм дзейнасці гуртка. Хвалілася „гаспадарчая“ дзейнасць некаторых гурткоў: грамадскія пачыны пры пабудове гандлёвых крамаў на Гайнаўшчыне (Гурткі БГКТ неаднойчы былі ініцыятарамі гэтых пачынаў). Пленум пацвердзіў значнае ажыўленне ў апошнім часе працы гурткоў, асабліва ў галіне мастацкага руху, арганізацыі асветных і практычных курсаў, аднак надалей звяртаў увагу на актывізацыю змагання з аднабаковасцю, ставіў заданне ўмацавання згоднага сужыцця насельніцтва. Члены гурткоў БГКТ — падкрэслівалі пастановы — павінны актыўна ўдзельнічаць у рэалізацыі грамадскіх пачынаў пры пабудове дарог, святліц, школ, лазняў, пажарных рамізаў, крамаў.

Гурткі БГКТ павінны былі таксама актыўна ўключыцца ў працу сельгасгурткоў, водных суполак і г.д. Пастановы пленума абавязвалі кожнага члена ГП апекавацца адным (мінімум) гуртком. Вырашана было таксама стварыць фінансавы фонд дапамогі гурткам, увесці семінары і нарады для актывістаў БГКТ, дзеля ўдасканалення працы і абмену вопытам, арганізаваць спаборніцтва паміж аддзеламі і экскурсіі для членаў БГКТ.

Ажыццяўляючы пастановы пленума, Павятовы аддзел БГКТ у Гайнаўцы арганізаваў 22.12.1962 г. канферэнцыю актывістаў вясковых гурткоў. Праўда, у асноўным была на ёй гутарка аб мастацкім руху (усё тая ж зларадная тэндэнцыя аднабаковасці!), але і нарадзілася цікавая прапанова арганізавання клубаў чытачоў беларускай літаратуры.

„Аналіз працы праўленняў аддзелаў і гурткоў БГКТ дапамог нашаму актыву зразумець сутнасць існавання гэтых арганізацыйных адзінак таварыства“, — сцвярджаў сакратар ГП БГКТ У. Юзвюк, распачынаючы на старонках „Нівы“ дыскусію перад IV з'ездам БГКТ (5.5.1963). Са-

кратар ГП БГКТ ставіў тут прамую залежнасць актыўнасці гурткоў ад працы праўленняў аддзелаў. Было ў той час 150 гурткоў і каля 4300 членаў таварыства. Сакратар крытычна ацэньвае дапамогу гурткам з боку аддзелаў: „Абслуга іх была вельмі хаатычнай, несістэматычнай. Аддзелы, кіруючы свайго інструктара ў камандзіроўку, не звярталі ўвагі куды і дзеля чаго ён едзе. Здаралася і так, што адзін гурток абслугоўвалі на працягу года 8-10 разоў, а другі 1-2 разы. Не заўсёды абслуга гуртка была раўназначна з яго актыўнасцю. Часта здаралася і так, што члены гуртка прымалі прыгожыя планы і не выконвалі іх. Яшчэ вельмі часта нашыя гурткі хочуць, каб іх нехта вёў за ручку. Калі знойдзецца ініцыятар, як гэта мела месца ў Райках, Ляшуках, Пяньках, Баршчэве, тады грамадска будуюцца святліцы, школы, дарогі, арганізуюцца праблемныя курсы і г.д. Калі яго няма, праца гуртка заміраe".

Шмат месца ў сваім выступленні адводзіць У. Юзвюк асветным справам, асабліва сельскагаспадарчай. Апошнюю і ставіць напрамкам на будучую дзейнасць.

Курс на сельскагаспадарчую асвету падтрымлівае Мікалай Міруць з Бандароў (тады старшыня ГРН у Юшкавым Грудзе). У гэтым напрамку бачыць ён добрую нагоду ўключэння ў дзейнасць гурткоў БГКТ старэйшага насельніцтва.

„На маю думку, — піша ён (Ніва.19.5.1963) — гурткі БГКТ павінны быць усё больш звязаны не толькі з павятовым домам культуры, як было дагэтуль, але і з павятовым праўленнем сельскагаспадарчых гурткоў, аграномам, заатэхнікам, ветэрынарам і наогул сельскагаспадарчымі ўладамі. Часцей, — працягваў М. Міруць, — хацелася б на сходах гурткоў бачыць не толькі артыстаў „Лявонісі", якія даюць парады нашым аматарам, але таксама спецыялістаў па сельскай гаспадарцы, якія дапамогуць селяніну разабрацца ў новым, што ідзе на вёску".

IV з'езд БГКТ (16.6.1963) прыхільна аднёсся да сельскагаспадарчай асветы, але не паставіў яе на першым плане. У пастановах з'езда пад нумарам 4 чытаем: „Старацца пашырыць дзейнасць гурткоў на пытанні сельскагаспадарчай асветы, уключаючы іх такім чынам да рэалізацыі гаспадарчых заданняў, пастаўленых у апошніх рашэннях ПАРП". Першае месца заняла пастанова, у якой гаварылася: „Зыходзячы з пункту гледжання, што гурток БГКТ з'яўляецца асноўнай формай працы Таварыства, заклікаем ГП БГКТ да арганізацыі асветных курсаў для актыву гурткоў з намерам запазнання яго членаў з гісторыяй, літаратурай і культурай Беларусі, для азнаям-

лення з асноўнымі формамі мастацкай дзейнасці і абмену вопытам, набытым у працы".

Як ажыццяўлялася пастанова № 1? Пэўныя вынікі былі. У некаторых вёсках былі арганізаваны праблемныя курсы беларускай мовы і літаратуры. Асабліва ў Гайнаўскім павеце. Адбывалася такое навучанне ў Горным, Моры, Старакорніне, Альхоўцы і Луцэ. Выкладчыкамі пераважна былі настаўнікі беларускай мовы мясцовых школ.

Шмат аб гуртках гаварылася на пленуме ГП БГКТ, які адбыўся ў лістападзе 1964 года. Цэнтральнай фігурай стаў старшыня гуртка. Дыскутанты падкрэслівалі: трапны выбар старшыні — надзвычай важная справа. Патрэбны тут разважлівы, ініцыятыўны, аўтарытэтны чалавек.

Выйшлі таксама цяжкасці, з якімі сустракаецца вясковы гурток: дагэтуль не сканкрэтызаваны галоўныя заданні гуртка: „Часта здараецца, што гурток БГКТ або займаецца ўсім, або — нічым".

Водгукам на пленум быў артыкул старшыні ГП БГКТ М. Хмялеўскага: „Гэтым можа займацца гурток БГКТ" (Ніва, 6.12.1964). Звяртае ён увагу на наступныя магчымасці: праца ў драмгуртку, хоры, інструментальным калектыве, танцавальным калектыве, дэкламатарскім калектыве, супольнае чытанне самых выдатных твораў беларускай літаратуры, арганізаванне літаратурных вечараў, адзначэнне гадавін пісьменнікаў. Дбанне, каб усе дзеці вывучалі беларускую мову, каб не пагарджалі ёю дарослыя. Падпіска „Нівы". Сустрэчы з барацьбітамі за свабоду. Апека над святліцамі і клуба-кавярнямі. Шахматныя і шашачныя конкурсы. Танцавальныя вечарыны. Распаўсюджванне ведаў аб СССР. Арганізаванне выставак, дакладаў, вечароў савецкай песні і г.д. Старшыня падкрэслівае карысці супрацоўніцтва. Раіць: настаўнікаў выкарыстаць у культурна-асветнай працы, з ССМ арганізаваць сельскагаспадарчую асвету, з ЛЗС — спартыўныя гульні, з гурткамі вясковых гаспадынь — курсы кройкі і шыцця, кулінарныя курсы, з ЛОК — курсы язды на матацыкле.

Гэтым жа пытанням былі прысвечаны канферэнцыі старшынь гурткоў і актывістаў БГКТ Сямяціцкага і Гайнаўскага паветаў (снежань, 1964).

У гэтым часе бачым цікавыя ініцыятывы. Прыкладам стаў гурток з Вілінава. Запланаваў ён грамадскім пачынам пабудаваць святліцу, дарогу і залясіць няўдобіцу. Абавязацельства выканаў з гонарам, а святліца, якая ў працэсе стваральнай працы пераўтварылася ў прыгожы вясковы дом культуры, уздзейнічала на цэлую акругу. Плённа працавалі тут харавы і драматычны калектывы, праводзіліся курсы варэння,

крою і шыцця, матацыклетныя.

Вілінаўскім зрухам усе мы захапляліся, і славілі, як умелі, вілінаўцаў, асабліва іх таленавітага важака, старшыню гуртка БГКТ, мясцовага настаўніка Анатоля Мартыновіча.

## БУНТ

На жаль, у Вілінава не было многа паслядоўнікаў. Пасіўнасць большасці гурткоў была нармальнай з'явай. Мы нават звыкліся з ёю. Нервавала толькі шуміха вакол гэтай арганізацыйнай „ліпы". Урэшце збунтаваліся. На адным партыйным сходзе вырашылі вынесці справу на форум пленума ГП (меў якраз неўзабаве адбыцца).

Пленум адбыўся 26.10. 1965 г. На ім сакратар нашай партарганізацыі (працаўнікі ГП і „Нівы"), якім у той час быў У. Паўлючук, даказваючы нежыццяздольнасць шматлікіх гурткоў, якія знаходзяцца „у стадыі вечнага ўзнікання, стварання", патрабаваў рэарганізацыі БГКТ.

Ідэя знайшла водгук у пастановах пленума. Вырашана было ва ўсіх арганізацыйных звеннях таварыства правесці шырокую дыскусію наконт формаў далейшай дзейнасці БГКТ.

Вядома, разгарнулася яна і на старонках „Нівы". Адкрыў дыскусію сакратар ГП БГКТ У. Юзвюк („Давайце падыскутуем аб БГКТ", 14.11.1965). Прызнаў ён, што арганізацыйная сістэма БГКТ не здае экзамену: „параскідвалі свае сілы і не дасягнулі тут больш сур'ёзных вынікаў. Ізноў іншыя эфектыўныя галіны працы асталіся абапертымі на курынай ножцы". Пра дапамогу аматарскаму руху на вёсцы (адзін з важнейшых напрамкаў) сакратар гаворыць: „рэпертуар, дзе-нідзе народныя ўборы, правядзенне агляду ці курса — вось і ўсё. Сапраўднай дапамогі — інструктажу — даць не можам, таму што не хапае людзей. Такое ж становішча ў галіне асветы і некаторых іншых справах". Далей сакратар працягвае: „Зараз усю ўвагу актыву і штатных працаўнікоў накіроўваем на гурткі, на аддзелы. Трэцяя частка ўсіх штатаў ГП знаходзіцца ў аддзелах, столькі ж выдзелена ў эстрадную групу „Лявоніха", а ў кіруючым ГП засталіся ўборшчыцы, сакратаркі, бухгалтары, шафёры і двух апаратыўных працаўнікоў — сакратар і кіраўнік". Сакратар сцвярджае, што інструктары аддзелаў (за адным выключэннем) эфектаў не даюць, што на абслугу гурткоў едуць усе вельмі неахвотна. Прапануе выдзяліць у павеце 3-4 пункты і наведваць іх сістэматычна раз у два месяцы экіпай (10-15 асоб). У ёй былі б: дырыжор, харэограф, лектар і спецыялісты. У супрацьстаўленне універсальнаму (дылетанту) інструктару, усе яны выканалі б сваю работу (інструктаж) добра.



*Тэатральны калектыў з Бельскага беларускага ліцэя разам са сваім кіраўніком мгр В. Рыгічук. Калектыў заняў першае месца сярод тэатральных калектываў на аглядзе ў 1980 г. Фота М. Гайдука.*

Гэта работа мела б закончыцца „велізарным канцэртам“.

Другім дыскутантам быў У. Паўлючук („Аб гуртку амаль ўсё“, 21.11.1965). Тэзісы яго выступлення: Гурткі БГКТ, якімі яны ёсць у большасці, не могуць самастойна рэалізаваць пастаўленых перад імі мэт (статут БГКТ). Члены гуртка БГКТ найчасцей не маюць ні патрэбных да гэтага ведаў, ні магчымасці, ні ахвоты. Нават у такіх справах, як мастацкая дзейнасць, гурток БГКТ не адыгрывае ніякай ролі. Мастацкія калектывы родзяцца там, дзе ёсць ахвотныя да працы з моладдзю настаўнікі і ахвотная да выступлення на сцэне моладзь. Ніхто толкам не ведае, якая роля гуртка БГКТ на вёсцы. Наблізіць статутовыя абавязкі таварыства да ўмоў канкрэтнага гуртка настолькі цяжка, што праз дзесяць год нікому гэта не ўдалося. Спробы сфармулявання заданняў для гуртка канчаліся агульнымі сцвярджэннямі аб арганізацыі экскурсій, чытанні кніжак і г.д. Дасягненні БГКТ вялікія і бясспрэчныя (выдавецкая дзейнасць, мастацкі рух, лектарская дзейнасць, „Лявоніха“, дапамога асветным уладам і г.д.),

але таварыства дабілася гэтага не дзякуючы гурткам БГКТ і не праз іх пашырыла свой уплыў на вёску. Фармаваўся гэты ўплыў перш за ўсё дзякуючы працы актывістаў з цэлым грамадствам паасобных вёсак, а не з гурткамі БГКТ. Дасягненні таварыства былі б яшчэ большымі, каб не вісеў над ім Дамоклаў меч: „як актывізаваць гурткі БГКТ?“ У. Паўлючук прапанаваў: больш заняцца тымі нешматлікімі гурткамі, якія сапраўды праяўляюць нейкую дзейнасць, дазваляючы адначасова „развязацца“ тым гурткам, якія існуюць толькі на паперы; больш заняцца мастацкімі гурткамі, гурткамі самаадукацыі і г.д.; выпрацоўваць формы калектыўнага членства; выпрацоўваць формы індывідуальнага членства (член аплачваў бы акрэсленую гадавую складчыну і атрымоўваў бы выданні БГКТ уключна з „Нівай“).

У падобным тоне выступіў і штатны працаўнік ГП Мікола Лобач: „Гурткі і праца з гурткамі былі заўсёды найслабейшым звяном нашай дзейнасці, — сцвярджаў ён. — Шэраг спроб ажывіць, узмоцніць і ўзняць эфектыўнасць працы нашых асноўных звенняў — гурткоў не давала пажаданых вынікаў. Практычна лічыцца: гурток працуе тады, калі існуе мастацкі калектыў“. М. Лобач прапанаваў адмовіцца ад гурткоў і перайсці на працу з насельніцтвам. У гэты пункт ішоў і Л. Майсеюк у сваім задзёрыстым артыкуле „З гуртком ці без гуртка“.

Здавалася, гурток ляжыць і не дыхае. Але пачалася рэанімацыя героя. В. Швед, хоць і прызнае, што „нягледзячы на ўсе нашы намаганні, праца большасці гурткоў БГКТ застаецца толькі на паперы“, усю віну звальвае на слабыя кадры. А Васіль Дзун катэгарычна заяўляе: „Толькі гурток!“. Стары дзеяч, які не шкадаваў сіл і часу ў гэтак званай „абслузе“ гурткоў, не прывёў ніводнага факту, які пацвярджаў бы жыццяздольнасць гуртка. Аргументацыю ў яго абарону звёў да сцвярджэння: галоўная мэта гуртка — падтрымка і распаўсюджванне беларускай культуры і асветы, і ў гэтым не можа заступіць яго ніводная арганізацыя.

Падобна рэагавалі на „рэформу“ і іншыя старыя дзеячы, якія выводзіліся яшчэ з Грамады. Арцём Чыквін даказваў нават, што прапановы структурных змен БГКТ пахнуць ліквідатарствам.

Старая гвардыя, якая ў той час адыгрывала ў таварыстве значную ролю, палічыла, што маладыя пайшлі за далёка. Наступіла адваротная рэакцыя. Гурток быў атоесамлены з усім БГКТ, атакі на гурток — з атакамі на ўсё БГКТ. Гэта ўжо быў удар ніжэй пояса. Ніхто з маладых-гнеўных ніякіх каварных намераў не насіў. Выступалі яны ж за мак-

сімальнае выкарыстанне бэгэкатоўскіх сіл.

Апошні цвік у труну „рэфарматараў“ убіў былы старшыня У. Станкевіч.

— Не з гуртком ці без гуртка, а — з БГКТ ці без БГКТ, — заявіў ён і ніхто нават не ўспомніў, што ўвесь першы год свайго існавання БГКТ жыло без гуртка. Відаць, гурток моцна ўвайшоў у нашу свядомасць.

Вярнуўся ён на зыходныя пазіцыі. З гэтым аптымістычным акцэнтам прыходзім мы на V з'езд.

### ПЕРАДЫШКА

З'езд адбыўся 26.6.1966 г. Адначасова ён падвёў вынікі і дзесяцігадовай дзейнасці БГКТ. Наша арганізацыя налічвала 5550 членаў, якія былі згуртаваны ў 154-х гуртках.

Гурток у матэрыялах з'езда заняў маргінальнае месца, але гэта не значыць, што з'езд мяняў адносіны да яго. Гурток па-ранейшаму быў асноўным звяном.

— Гурток стварае магчымасці масавай, а найважнейшае, канкрэтнай дзейнасці БГКТ ва ўсіх галінах жыцця, — сказаў журналісту „Нівы“ ў традыцыйным інтэрв'ю новы старшыня ГП БГКТ Вінцук Склубоўскі.

Вострая, бескампрамісная „гуртковая“ дыскусія перад V з'ездам настолькі вычарпала энергію паляпшацеляў, што гурток знік з публічнага форуму аж да VI з'езда. Але і цяпер адмовіліся мы ад паляпшання. Наступіла пара захаплення гуртком. Перадз'ездаўскую рубрыку „Нівы“ поўнасцю занялі матэрыялы са справаздачна-выбарнай кампаніі. Як у іх прадстаўлены гурток? Праўленне аддзела БГКТ у Гайнаўцы, выслухаўшы справаздачы актывістаў, якія абслугоўвалі гурткі, вырашыла звярнуць увагу на больш цесныя кантакты з праўленнямі гурткоў. Як паказалі сходы, часта праўленні гурткоў не ведалі дакладна, як трэба працаваць у асяроддзі. Праўленне гайнаўскага аддзела вырашыла ўключыць у мерапрыемствы БГКТ як найбольш актывістаў з гурткоў. Экспанаванне ролі актывістаў падказвала праца добрых гурткоў. Такім быў гурток у Семяноўцы, дзе, як падкрэсліваў журналіст, значыў ён сваю працу на кожным кроку. Так важная роля гуртка БГКТ у жыцці вёскі сталася магчымай дзякуючы добрым актывістам, якія ўмела супрацоўнічалі з камітэтам партыі, прэзідыумам ГРН і праўленнем сельгасгуртка. Справаздачна-выбарная кампанія паказала, што наступіла значнае адмаладжэнне арганізацыі. Удзельнікі канферэнцый згодна выказаліся за цеснае супрацоўніцтва з іншымі грамадскімі і палітычнымі арганізацыямі, асабліва з маладзёжнымі і партыйнымі, патрабавалі таксама ўвядзення нарадаў старшынь гурткоў.

15.5.1969 г. адбыўся VI з'езд. У справаздачным дакладзе гаварылася аб паляпшэнні працы гурткоў, былі названы гурткі з Вілінава, Маліннікаў, Слоі. Даклад канстатуе таксама, што „нароўні з гэтымі добрымі гурткамі існуе многа слабых гурткоў, якія чакаюць на сталую дапамогу з вонку". У час апошняй кампаніі ўдалося іх крыху актывізаваць, але патрабавалі яны далейшай увагі. У дакладзе далей чытаем: „Падцягванне іх да ўзроўню сярэдніх і лепшых гурткоў павінна складаць адно з асноўных заданняў аддзелаў". Ад аддзелаў патрабавалася неадкладна выявіць прычыны адставання гэтых гурткоў і выпрацаваць больш атракцыйныя формы дзейнасці. На патрэбу актывізацыі зацікаўлення гурткамі звярталі ўвагу і пастановы з'езда: „Аказваць большую дапамогу гурткам БГКТ, часцей іх абслугоўваючы. Мабілізаваць членаў арганізацыі, а праз іх усё насельніцтва, да шырокага ўдзелу ў грамадска-культурнай працы ў сваім асяроддзі".

Шмат увагі гурткам адвёў у інтэрв'ю „Ніве" новы сакратар ГП БГКТ Янка Зенюк. (28.9.1969). На тэму дзейнасці гурткоў, ён сказаў:

— Справа ў тым, каб дзейнасць гэтая была сапраўды дзейнасцю гурткоў БГКТ, а не дзейнасцю, арганізаванай штатнымі працаўнікамі таварыства.

На пытанне: „Што можна сказаць аб планах асветнай працы ў гуртках БГКТ?", сакратар адказаў:

— Перш за ўсё павінна яна быць мадэрнізавана, павінна быць больш сучаснай і цікавай. Напрыклад: трэба абавязкова выкарыстаць у асветнай працы тэлевізійныя праграмы. Глядзяць, скажам, тэлевізійную праграму на сельскагаспадарчыя тэмы, а потым праводзяць дыскусію і робяць вывады для свае вёскі. Або экскурсіі. Чаму не выкарыстаць экскурсіі як своеасаблівай формы адукацыі? Заязджаюць, для прыкладу, члены гуртка ў раён, дзе сельскагаспадарчая культура значна вышэйшая, чымсьці ў нас, назіраюць, як там гаспадаруецца, ды вучацца, што з гэтага можна прымяніць у сваіх умовах".

Журналіст згаджаецца, але ставіць пад сумленне рэальнасць прапанаваных форм працы. „Каб можна было іх прымяніць, — гаворыць, — неабходна, каб гурткі БГКТ праявілі большую, чымсьці дагэтуль, актыўнасць у сваім асяроддзі".

Сакратар дае такі адказ:

— Актыўнасць нашых гурткоў залежыць ад аўтарытэту нашай арганізацыі сярод насельніцтва, а аўтарытэт — ад добрага, ідэйнага актыву. Добры ж актыў у сваю чаргу залежыць ад нашага супрацоўніцтва з грамадскімі і палітычнымі арганізацыямі.

## НОВАЯ ФАЗА

Супрацоўніцтва, карысці якога ўжо і раней прыкмячалі актывісты БГКТ, уваходзіць у новую фазу. Становіцца яно гарантам поспехаў ва ўсёй дзейнасці БГКТ. Тэма заняла важнае месца і на агульнаарганізацыйнай канферэнцыі старшынь гурткоў БГКТ, якая адбылася 29.11. 1970 г. Была гэта першая такога тыпу нарада ў ГП БГКТ.

Але па ранейшаму гучэла пытанне: як актывізаваць гурток? Чулі мы яго і на нарадзе актывістаў ГП БГКТ, якая адбылася напярэдадні ўрачыстага святкавання XV гадавіны БГКТ. На гэтай нарадзе выступіў і цяперашні старшыня ГП БГКТ (тады — заслужаны актывіст з Гайнаўкі) Мікалай Самоцік. Ён сказаў: „...Гурткі мы пакінулі самым сабе. Бо тое, што мы завязем фільм, арганізуем эстрадны канцэрт ці сустрэчу, гэтым абсалютна гуртка не актывізуем".

Мікалай Самоцік прапануе ў кожны гурток даслаць прапановы формаў працы ў пунктах. І няхай кожны выбярэ з іх тое, што яму найбольш адпавядае. Напрыклад, члены гуртка могуць збіраць экспанаты ў музей, запісваць песні і абрады сваёй вёскі, могуць паспрабаваць арганізаваць вакальную групу, могуць заняцца культурай жыцця ў вёсцы і працы на зямлі — вучыцца садзіць бульбу, варыць ежу і г.д.

У тым жа 1971 годзе 12 верасня адбылося пленарнае пасяджэнне, прысвечанае працы гурткоў. З абшырным дакладам „Заданні гуртка БГКТ у рэалізацыі статутовай дзейнасці таварыства" выступіў сакратар ГП БГКТ Янка Зенюк.

„Перш за ўсё гурток павінен заняцца папулярызацыяй беларускай культуры ў сваім асяроддзі — падкрэслівалася ў дакладзе. — Павінен зрабіць ён усё дзеля стварэння спрыяючай атмасферы, каб дзеці і моладзь вывучалі і шанавалі сваю родную беларускую мову, бо ад гэтага залежыць праца самога гуртка і ўся дзейнасць БГКТ."

Сакратар прапанаваў гурткам такія формы дзейнасці:

„— гуртаваць і заахвочваць моладзь і старэйшых да актыўнай культурна-асветнай дзейнасці ў калектывах песні, танца, драматычных, дэкламатарскіх і іншых з праграмай на беларускай мове;

— вышукваць таленавітых народных спевакоў, казачнікаў і кіраваць іх на конкурсы беларускай песні ці фальклорныя агляды;

— быць галоўным арганізатарам фэстынаў, праводзіць культурныя мерапрыемствы, звязаныя з народнымі традыцыямі, як дажынкі, купалле, масленая і г.д.;

— арганізаваць літаратурныя вечарынкі, адзначаць гадавіны грамадскіх дзеячоў і пісьменнікаў;

— збіраць матэрыялы і весці хроніку сваёй мясцовасці,

каб паказаць гістарычны працэс яе развіцця, прагрэс у галіне будаўніцтва, жывёлагадоўлі, раслінаводства, няспыннага паляпшэння жыцця і адукацыі насельніцтва пры народнай уладзе;

— арганізаваць грамадскія пачыны членаў гуртка і насельніцтва для дабра свайго асяроддзя і ўсяго грамадства;

— клапаціцца пра рэгулярнае аплочванне членскіх складчын.“

Формы працы падказвала жыццё і вопыт перадавых гурткоў. Цікава, напрыклад, працаваў у той час эксперыментальны гурток у Плёсках. У ім былі 3 секцыі: мастацкая, гістарычная, збірання фальклору і экспанатаў матэрыяльнай культуры. Гурток дасканала арганізаваў у вёсцы народныя дажынкі, сабраў значны матэрыял да хронікі мясцовасці і збіраўся заснаваць у Плёсках своеасаблівы краязнаўчы музей. Актыўны быў і ў гаспадарчых пачынах.

І зноў выявілася старая праўда, што той гурток актыўны, у якім ёсць ініцыятары грамадскай працы, а на адвечнае пытанне „што павінен рабіць гурток?“, лапідарна адказаў перад пленум у „Ніве“ старшыня аддзела БГКТ у Гайнаўцы Аляксандр Іванюк: „Ён павінен рабіць усё тое, што робіць наша таварыства, але ў памерах яго магчымасцей“.

У гэтым перыядзе ўзнікла пытанне дакументацыі працы гуртка. Выявілася, што ў гуртках няма ніякай дакументацыі. Планы працы таксама не былі дакументаваны. ГП БГКТ кожнаму гуртку зафундавала адпаведныя тэчкі, у якіх павінны былі знайсціся спіскі з членамі гуртка, пратаколы са сходаў і планы працы. Гэты абавязак стаяў на першым месцы інструкцыі, якую, каб дапамагчы гурткам у выпрацаванні канкрэтнай праграмы дзейнасці, выдала ГП БГКТ. Не буду яе прыводзіць, зыходзіла яна з заданняў, якія стаялі на пленуме, і аб якіх я ўжо гаварыў.

## АДКАЗНЫ ЗА ЎСЁ

Розныя арганізацыйныя захады ГП БГКТ спрыялі пашырэнню ролі і значэння таварыства ў жыцці беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Такі вывад падказваў ход справаздачна-выбарнай кампаніі перад VII з'ездам БГКТ. Пашыраліся формы працы, прыбывалі новыя сілы, гурткі ачысціліся ад „мёртвых душ“. Усё большае зацікаўленне выклікалі конкурсы і агляды беларускай песні і тэатральныя. Усюды дамагаліся рэпертуару, фільмаў, аўтарскіх сустрэч, канцэртаў „Лявоніхі“. Людзі збіралі экспанаты ў музей.

VII з'езд БГКТ адбыўся 24.9.1972 г., а ўжо 29.10.1972 г. з'ехаліся на нараду ў ГП старшыні гурткоў. Стаяла тэма: „Заданні гурткоў у святле пастаноў VII з'езда БГКТ“. А заданні гэтыя выглядалі так.



*Этнаграфічны калектыў з Дабраводы на аглядзе 1980 г. заняў другое месца. Фота М. Гайдука.*

На першым плане — агульнаваяводскі конкурс „Беластоцкая вёска гаспадарная і культурная“ (гурткі павінны ўнесці ў яго вялікі ўклад). Затым, па чарзе, ішлі, развіццё турызму (паказ культурных асаблівасцей беларускай меншасці), агляды беларускай песні і тэатральных гурткоў (больш удзельнікаў!), арганізаванне новых вакальных калектываў (на базе фальклору). Інструктараў шукаць у сябе. Гарманісты, усе, хто іграе, хто мае слух, павінны брацца за кіраўніцтва такім калектывам. Людзі ў нас музыкальныя і здольныя. Самі разаб'юцца на галасы. Абы песня звінела ад вёскі да вёскі!

Як вельмі важную працу, ставілася заданне падпіскі „Нівы“. Кожны гурток таксама павінен быў вызначыць карэспандэнта тыднёвіка.

Істотнае заданне было вызначана гуртку і ў навучанні беларускай мовы (размовы з бацькамі і дзецьмі).

Урэшце канчатковага вырашэння павінны былі дабіцца гурткі на найбольш стабільным фронце — складчынным (100%). Былі аднак і ў нас фантасты!

Гуртку адводзілася таксама вялікая роля ў забеспячэнні парадку і ладу на вёсцы. Ён

змагаецца з хуліганствам і п'янствам, шырока бачыць праблемы жыцця і кепскіх з'яў, якія ліквідуе.

А актывісты ўсё заклікалі: бліжэй да людзей! У вёсцы — крыніца вялікіх людскіх вартасцей, якія таварыства павінна ўключыць у агульную плынь нашай культуры (В. Андрэюк, „Ніва" 1.4.1973). Члены прэзідыума аддзела замала бываюць у гуртках (М. Суліма — там жа). Калі да актыву будуць кіравацца заўсёды толькі нейкія патрабаванні, калі людзей толькі абавязваць да грамадскай працы, гэта на даўжэйшую мэту не здасць экзамена (У. Баўтрамюк — там жа). У кабінеце не здабыць актыву! (Я. Целушэцкі — там жа).

Такія галасы знайшлі падтрымку на пленуме ГП БГКТ (1.4.1973). Было, між іншым, вырашана арганізаваць часцей сустрэчы актывістаў ГП і аддзелаў у гуртках, а А. Баршчэўскі прапанаваў утварыць вялікую лектарскую групу, члены якой маглі б выступаць з дакладамі на такія тэмы, на якія ёсць запатрабаванне ў даным гуртку.

І гуртковае пытанне знікла з бэгэкатоўскай трыбуны да 13 красавіка 1975 года. Менавіта ў гэты дзень у парадку дня пленума ГП БГКТ стаяла тэма „Праца Галоўнага праўлення і аддзелаў БГКТ у пашырэнні і ўмацаванні гурткоў нашага таварыства". „Такая тэма, — падкрэсліваў у інтэрв'ю „Ніве" старшыня ГП БГКТ Мікалай Самоцік, — вынікла з жыццёвых патрэб арганізацыі".

Ставілася заданне ўсебаковага абмеркавання спосабаў дапамогі гурткам, асабліва тым, што працуюць слаба. А слаба, паводле дакладу старшыні, працавала палавіна гурткоў (з агульнага ліку 190). Арганізацыя за апошнія гады з амаль 6000 членаў паменшылася да 5 290. Гэта быў трывожны сігнал. Увесь актыў абавязаны быў канцэнтраваць сваю ўвагу на дапамогу слабым гурткам: сістэматычна іх наведваць, дапамагаць праводзіць сходы, павялічваць колькасць членаў, наладжваць супрацоўніцтва з іншымі арганізацыямі, засноўваць калектывы мастацкай самадзейнасці і г.д. Словам, трэба было дапамагчы слабым стаць на ногі. На дапамогу паклікалася мастацкую самадзейнасць і членаў літаратурнага аб'яднання.

Восеньскі пленум ГП быў прысвечаны заданням БГКТ у святле дырэктыў ЦК ПАРП на VII з'ездзе партыі. Пленум ГП БГКТ абавязаў гурткі арганізаваць пасадку лесу, высаджваць дрэвамі дарогі, рамантаваць і будаваць дарогі, клубы і іншыя аб'екты грамадскага прызначэння, упарадкоўваць уласныя гаспадаркі і г.д.

Праведзеная ў 1975 годзе рэформа дзяржаўнай адміністрацыі стварыла і ў БГКТ новыя праблемы. Выпала сярэдняе звяно — павятовыя

аддзелы. Цяпер гурток непасрэдна падпарадкоўваўся ГП і на сваёй тэрыторыі стаў не толькі асноўным, але і адзіным звяном БГКТ.

Не дзіва, што гурткам вялікую ўвагу прысвяціў і VIII з'езд БГКТ, які адбыўся 30 мая 1976 г. У сувязі з новай арганізацыйнай структурай таварыства, з'езд прапанаваў ГП згуртаваць больш актыву, сістэматычна яго ўдасканальваць, вызначаць яму канкрэтныя заданні і планава весці працу па шырэйшай дапамозе гурткам; з мэтай дапамогі ў працы гурткоў, рэкамендаваў стварыць у гмінных цэнтрах групы актывістаў, стварыць раёны дзеяння інструктарам ГП (апека адпаведнай колькасцю гурткоў), з гэтай жа мэтай абавязваў пры гарадскіх клубах стварыць групы актыву з рознымі зацікаўленнямі і спецыяльнасцямі (для дапамогі гурткам у правядзенні лекцый, дакладаў, сустрэч і сходаў). Клаў таксама націск на супрацоўніцтва.

І так наступіў новы якасна перыяд у жыцці нашых гурткоў. І ўваходзяць яны ў сваю самастойнасць без апладысментаў, але таксама і без пануквання. А мо пара ўжо ўзнімаць чарговае пытанне „як палепшыць працу гурткоў у новай сітуацыі?“

**Г. Валкавыцкі**

## У ЗАСНЕЖАНУЮ БЕЛАВЕЖУ

### (З экскурсіі беластоцкага гуртка БГКТ)



*Зборы былі доўгія, але пра здымак перад будынкам ГП БГКТ на Варшаўскай 11 усё ж не забыліся.*



*А грыехаўшы ў пушчу перш-наперш трэба... пасілкавацца. Усе ўплялі, аж за вушамі трашчала, бо пані Аня Амбражэй гатуе дасканала!*

*І пасля сытнай перакускі настрой адразу перамяніўся...*

Як жа ж тут не пагуляць у снежкі?!..



А калі сіні змрок затапляў пушчанскую чашчобу, каля нашага кастра ліліся звонкія вясёлыя песні.



*Назаўтра як жа ж прыемна было блукаць па заснежанай Белавежы!*

## Ці ты належыш да БГКТ?

Міхась Хмялеўскі

# Настаўніцкай сцежкай

У многіх людзей глыбока запаўшыя ў сэрца ўспаміны непасрэдна звязаны з першымі сустрэчамі з настаўнікамі. І ўжо так ёсць, што некаторых настаўнікаў помнім мы ўсё жыццё. Праз усё жыццё захоўваецца ў памяці вобраз настаўніка строгага і добрага, патрабавальнага і чуллівага, які не толькі вучыў любавацца хараством гэтага свету, яго нязлічанымі багаццямі, але і заклікаў павялічваць іх, быць адкрывальнікам новага, неспазнанага.

**Анатоль Мартыновіч,** аб якім пойдзе далей гутарка, таксама з пачуццём глыбокай удзячнасці расказваў нам пра сваіх настаўнікаў з пачатковай школы ў Орлі і з беларускага ліцэя ў Бельску. Яны, менавіта, будзілі ў сваіх навучэнцаў любоў да сваёй мясціны, да роднага краю, прывівалі пашану да роднай мовы, культуры, да сваёй беларускай нацыянальнасці. А што датычыць яго, Анатоля Мартыновіча, яны таксама выклікалі ў ім зацікаўленне да прафесіі настаўніка, да яго высакароднай выхаваўчай місіі. І ён, атрымаўшы сярэднюю адукацыю, пачаў працаваць настаўнікам у пачатковай школе. Было гэта 25 год таму назад.

З таго часу пачалася яго настаўніцкая біяграфія, пачалася гісторыя яго выхаваўчай дзейнасці.



Маючы за сабою чвэрць стагоддзя прафесіянальнай працы, кожны чалавек у такі час аглядаецца на пройдзены шлях, падсумоўвае і па-свой-

му ацэньвае яго. Гэтак сама і Анатоль Мартыновіч аддаецца часам задуме, успамінае сваіх выхаванкаў, іх выгляд, іх характары і іх мары. І ў такі час само нараджаецца пытанне, якое ставіць ён сам сабе: „Як яны мяне ўспамінаюць, наколькі я прычыніўся да таго, каб яны выраслі на добрых грамадзян, каб сталіся людзьмі?“ Многія з іх ужо даўно працуюць на адказных пасадах у розных мясцовасцях нашай краіны, а многія яшчэ пойдуць вучыцца далей. Яны пакуль што з'яўляюцца вучнямі пачатковай школы ў Орлі, у якой ён вучыць і працуе на пасадзе намесніка дырэктара гміннай школы. Гэта цяпер. А раней? А 25 год таму назад?

Першыя крокі настаўніцкай дзейнасці датычаць пачатковай школы ў Клюковічах. Гэтая вёска распаложана ў 20 км ад чыгуначнага прыпынку ў Баравіках. А ў тыя часы было яшчэ дрэнна з транспартам. Не было столькі, як цяпер, аўтобусаў ды дарог адпаведных для іх не было. Неаднойчы здаралася Мартыновічу пяшком ісці ў Клюковічы, а з Клюковіч на гмінныя нарады ў Мілейчыцах. Яму, маладому ў той час чалавеку, такога роду невыгоды не лічыліся цяжкімі. Тым больш, што быў ён сам сведкам таго, як з кожным годам паляпшалася жыццё, праз нейкі час і да Клюковіч пачаў хадзіць аўтобус.

Мартыновіч заўсёды імкнуўся, каб яго ўрокі цікавілі вучняў, каб авалодваючы ведамі з паасобных прадметаў, школьнікі вызначаліся добразычлівасцю, сціпласцю, акуратнасцю, уражлівасцю і ветлівасцю. Бо чалавек, які валодае такімі якасцямі, — добры чалавек. З ім лёгка жыць і працаваць.

Пасля Мартыновіч узначальвае пачатковую школу ў Вульцы Нурэцкай. Ён ажаніўся з настаўніцай Нінай Келбашэўскай і пераехаў да працы ў Вілінава. У Мартыновіча самыя цёплыя ўспаміны пра настаўніцкія калектывы гэтых вёсак, пра людзей, з якімі дзяліў ён радасць і смутак.

Увесь час адводзіў ён многа ўвагі справам культуры. У Вульцы Нурэцкай — стаў ініцыятарам будовы грамадскім пачынам святліцы, а ў Вілінаве — дома культуры, пры ўзвядзенні якога прышлося яму асабіста затраціць шмат часу і энергіі.

А калі ўжо гаварыць пра ролю арганізатара культурнага жыцця, дык яго асоба вырашала ўсё. Ён патрапіў згуртаваць моладзь і стварыць тэатральны ці харавы калектыў. Асабліва харавыя калектывы карысталіся тут вялікай папулярнасцю. У Вульцы Нурэцкай, а пасля ў Вілінаве хоры пад яго кіраўніцтвам выступалі на фэстынах і на шматлікіх урачыстасцях, нават у дальніх мясцовасцях. Больш 100 выступленняў адбылося пад яго кіраўніцтвам.

Вілінаўскі мастацкі калектыў за свае выступленні сабраў нават каля 30 тысяч злотых і перадаў іх на пабудову свайго дома культуры.

Усе выступленні былі на беларускай мове. Яны прычыняліся да папулярызацыі беларускага слова, беларускай песні. Вядома, добрая песня, п'еса, верш у выкананні ўлюблёных у мастацтва людзей ды яшчэ на роднай мове — гэта не толькі выдатны выхаваўчы сродак у фарміраванні новага чалавека, гэта таксама прывіванне яму нацыянальнай гордасці.

Любоў да беларускай культуры была адметнай рысай Мартыновіча праз увесь час больш як пятнаццацігадовай ягонай працы на пасадзе грамадскага старшыні сямяціцкага аддзела БГКТ. Сваім заангажаваннем даваў ён прыклад, як трэба з пашанаю адносіцца да сваёй роднай мовы і як ахвярна працаваць.

Ён і цяпер з'яўляецца членам Галоўнага праўлення БГКТ і належыць да вядучых дзеячоў БГКТ.

Мартыновіч з 1974 года з'яўляецца старшынёй гміннага праўлення Таварыства польска-савецкай дружбы. І ў гэтай арганізацыі ён — ініцыятар шматлікіх мерапрыемстваў па ўмацоўванню дружбы з народамі Савецкага Саюза. Вось не так даўно, з нагоды Дзён савецкай культуры ў ПНР у арлянскай школе наладзіў ён удалае спатканне з прадстаўнікамі Савецкага Саюза: з дацэнтамі з Мінска і Кіева — Віктарам Новікавым і Сяргеем Салаўяновым, якія працуюць у Беластоку ў Палітэхніцы і філіяле Варшаўскага універсітэта.

Ён як настаўнік, добра ведае дзяцей і любіць іх. І таму ахвотна шмат часу прысвячае Таварыству прыяцеляў дзяцей (ТПД). Займаецца, між іншым, адпачынкам школьнікаў, арганізуе вандроўныя лагеры і іншыя формы адпачынку. Над рэчкай Арлянкай у лясочку ёсць гарцэрская база адпачынку. З яе карыстаюць дзеці з усёй гміны.

Мартыновіч дзейнічае і ў іншых арганізацыях, але найважнейшая з іх гэта партыйная дзейнасць. Яго выбралі грамадскім сакратаром гміннага камітэта ПАРП. І ў гэтым месцы варта прыгадаць пра тое, што яшчэ ў Вульцы Нурэцкай быў ён сакратаром ПОП, затым на працягу 13 год сакратаром ПОП у Вілінаве, а пасля першым сакратаром грамадскага камітэта ПАРП у Клюковічах. Ранейшы вопыт партыйнай працы дапамагае яму належна выконваць функцыю сакратара прапаганды гміннага камітэта ПАРП у Орлі, садзейнічаць ажыццяўленню пастаноў VIII з'езда ПАРП.

Ён — мясцовы чалавек. Тут, у Орлі жыў яго дзед і прадзед, тут жывуць яго бацькі. Тут падрастаў і памагаў бацькам на гаспадарцы. Тут ён ад бацькі Сцяпана

Мартыновіча, быўшага члена КПЗБ, многа даведаўся пра змаганне супраць нацыянальнага і сацыяльнага прыгнёту. І тут, у Орлі вырашыў ён пабудаваць уласны дом. І пабудаваў прыгожы будынак, абсталяваў яго багата і прыгожа. Зразумела, што і яму і яго жонцы Ніне даводзілася цяжка папрацаваць. Але Мартыновічы не баяцца работы. І далей яны шмат працуюць на сваім агародзе, на сваёй сялібе. У іх двое дзяцей-школьнікаў: Аніта і Міраслаў.

Мартыновічы карыстаюцца ў Орлі вялікім аўтарытэтам. Пра іх можна пачуць многа цёплых слоў, славяцца яны працавітасцю, ветлівасцю і гасціннасцю.

Гляджу я на гэтага чалавека, слухаю яго і думаю: колькі ў ім маладосці, энергіі! У яго ёсць шмат дыпломаў за грамадскую працу, ёсць адзнакі, медалі, Залаты Крыж Заслугі, які прызнала Рада Дзяржавы па прапанове прэзідыума ГП БГКТ з нагоды 25 гадавіны ПНР.

## СЭНС ЖЫЦЦЯ

У кожнага чалавека свой талент. Людзей без таленту няма. Толькі адзін знойдзе сваё прызванне, другі не знойдзе, адзін працуе згодна са сваімі зацікаўленнямі, другі выбярэ такі „фах", што нічога супольнага не мае з яго схільнасцямі, а трэці шукае свайго працоўнага напрамку вельмі доўга.

**Уладзімір Куршаль** таксама не адразу ўзяўся за сваю прафесію. Але ён яе шукаў і знайшоў. І ад таго часу безупынна звязаны з аўтамабільнай тэхнікай. Ён — майстар у гэтай галіне, любіць сваю работу. А гэта вельмі важна, бо складае палавіну шчасця. Другая палавіна — гэта дом, сям'я, сяброўства. Праўда, гэтую другую палавіну таксама не кожны так хутка і лёгка будуе.



У Куршэля абедзве палавіны шчасця з'яднаны з сабою, і гэта гарантуе яму духоўны і сямейны спакой.

Мо перш-наперш кораценька пра першую палавіну шчасця, пра яго прафесіянальную дзейнасць. Працуе ён у

Ваяводскім праўленні кіно ў Беластоку. Яго справа — рамонт аўтамабіляў. А як вядома, кожны аўтамабіль — ці то легкавы, ці грузавы — складаецца з некалькіх тысяч элементаў. І Куршаль ведае кожны з іх, дакладна ведае яго функцыю ў машыне. Ён — добры рабочы, добры спецыяліст. І таму ў сваёй установе працуе ўжо больш за трыццаць год, карыстаецца заслужаным аўтарытэтам і пашанай. Тут ён актыўны і ў партыйна-грамадскай працы. Двойчы, гэта значыць, на чатыры гады выбіраўся першым сакратаром падставовай партыйнай арганізацыі ПАРП, — пасля шмат гадоў выбіралі яго членам бюро ПОП, пазней — членам прафесіянальнай рады прадпрыемства. У. Куршаль адзначаны Бронзавым Крыжам Заслугі, Бронзавай, Сярэбранай і Залатой адзнакай „Заслужаны для Беласточчыны", а таксама медалем „Перадавік працы". Раней у гэтай самай установе апекаваўся ён кінаперасоўкамі, праводзіў іх рамонт і кансервацыю, выязджаў з фільмамі ў многія мясцовасці. А яшчэ раней? Быў вадзіцелем аўтобуснага транспарту ў Беластоку, а затым вадзіцелем легкавой машыны ў Гарадскім упраўленні Беластока. Увесь час ён добра выконвае свае абавязкі як прафесіянальныя так і грамадскія. А інакш і не можа быць.

— Мне здаецца, — гаворыць ён, — галоўнае ў жыцці чалавека — гэта дбайна выконваць свае абавязкі, быць у парадку перад сабою, сумленнем, людзьмі.

У. Куршаль на месцы ніколі не сядзіць. Ён заўсёды чымсьці заняты. Зразумела, у працы — рамонт аўтамабіляў. А вярнуўшыся з працы дамоў? Зноў рамонт аўтамашын. Добраму спецыялісту дакучаюць людзі, і ён не можа ім адмовіць, бо на такую прафесію аграмаднае запатрабаванне, а спецыялістаў — замала. Працуе ён многа — ад рання да ночы. А калі запытаеш яго: „Чаму ты, Валодзя, так многа працуеш?" — ён не задумваючыся адкажа: „— Ведаеш, калі я не працую, дык не адчуваю ў сабе ніякага жыцця". Вось каб такія былі ўсе людзі, лягчэй было б жыць, усюды панавала б атмасфера сумленнасці і працавітасці.

Неабходна яшчэ папоўніць сказанае пра яго некалькі фактаў, бо не толькі рамонтамі аўтамашын ён займаецца. Раней ён шмат часу прысвячаў пабудове ўласнага дома, а ў апошнія гады шмат працуе са сваёй жонкай Клаўдзяй на ўчастку. Там вырошчваюць гародніну, пабудавалі сабе домік, дачай яго называюць. Там яны адпачываюць, загараюць.

І так перайшлі мы да другой палавіны шчасця чалавека, да яго сямейных спраў. Дом іх заўсёды падмацоўваецца сямейнымі спатканнямі, урачыстасцямі. А яны зноў

вельмі прыемна праходзяць, бо У. Куршаль — дасканалы жартаўнік, патрапіць павесяліць і рассмяшыць кожнага. І паспяваць у кампаніі любіць.

Яму ўжо за шэсцьдзесят. Але гады яго яшчэ не гнуць, наогул адчувае сябе ён добра.

У Куршаляў двое дарослых дзяцей. Дачка Ганка і сын Грэсь. Сын ужо жанаты і разам са сваёю жонкай Аняй песцяць дачку Анэту. З ёю часта прыходзяць наведаць бацькоў.

У. Куршаль родам з Сукавіч, што ў Шудзялаўскай гміне. Непрыемна ўспамінае ён сваё дзяцінства галаштаннае. Памагаў бацькам на гаспадарцы, выконваў розныя працы, пас кароў у гаспадароў. Тут, у Сукавічах, пачаў ён і сваю маладосць. І тады ўжо цяжка працаваў. Стаў пільшчыкам. Хадзіў на заробкі. Пілаваў дошкі, і не толькі, падоўжнаю пілою. І наверсе і нанізе добра цягнуў пілу. Тады не было яшчэ крайзэгаў, тады ўсё ўручную рабілі.

У 1947 годзе У. Куршаль прыехаў грузавіком (тады толькі такія ездзілі ў яго ваколіцы) у Беласток шукаць працы. Хутка ўладкаваўся на работу, знайшоў кватэру. Пачаў працу ад грузчыка.

І калі цяпер успомніць той час, дзіву даецца, што так да непазнавальнасці ўсё перамянілася: і ўмовы працы і ўзровень жыцця.

Але вернемся да сённяшніх дзён, да Беларускага таварыства, з якім ён звязаны амаль ад пачатку існавання нашай арганізацыі. Увесь час быў ён членам праўлення гарадскога аддзела ў Беластоку, пазней праз нейкі час быў яго старшынёю. Цяпер ён таксама член праўлення гарадскога гуртка БГКТ у Беластоку, дзейсна дапамагае арганізаваць усе мерапрыемствы, якія праводзіць БГКТ у горадзе Беластоку.

## МУЗЫКА І ДЗЕЯННЕ

Да самых ахвярных актывістаў Беларускага грамадска-культурнага таварыства здаўна належыць настаўнік **Сцяпан Копа.** Ён працуе ў пачатковай школе № 6 у Беластоку, вядзе музычнае выхаванне, кіруе дзіцячымі калектывамі. Жыве ў Гараднянах каля Беластока. Там ён пабудаваў сабе шыкарны дом, сам пры гэтым выканаў мноства складаных прац не горш любога майстра-спецыяліста. Аж люба зайсці: усюды чыста, утульна, элегантна — адразу відаць, што тут жывуць сапраўдныя педагогі, бо і жонка С. Копы таксама настаўніца.

Так, С. Копа — гэта волат працы, а яго любімая справа — музыка.

Паходзіць ён з вёскі Малінніках, што ў Арлянскай гміне. Там ён закончыў па-



чатковую школу. Вельмі рана выявілася ў яго зацікаўленне музыкай. Падчас вясковых музыкаў няраз праз плот падглядаў ён, як гарманіст вычароўвае мелодыі. Надта ж хацелася яму мець уласны гармонік, але на гэтакі выдатак бацькі не маглі дазволіць: у тыя часы такі інструмент каштаваў некалькі тысяч злотых, а такое не па сялянскай кішэні. Дапамог здзейсніць гэтую мару тагачасны кіраўнік школы Ю. Мойсюль. Да яго наведаўся нехта з сям'і і прывёз з сабой стары гармонік. Кіраўнік пераканаў бацьку, што набытак недарагі, а сыну будзе вялікая радасць. І ад таго часу Сцяпана проста нельга было адарваць ад гэтага старэнькага, на 24 галасы, інструмента. Сам разгадваў ён таямніцы ігры, „падбіраў" мелодыі найбольш яму любыя аж да знямогі. І добра выходзіла! Потым падаўся ён на навуку да музыканта з суседняй вёскі. Гэты чалавек вучыўся на завочным аддзяленні музычнай школы ў Беластоку, зацікавіўся Сцяпанам, заняўся ім. Хоць навука працягвалася якіх 15 урокаў, але і гэтага было даволі, каб хлопец мігам авалодаў асноўнымі ўменнямі ігры. І ён ужо сам паплыў далей...

Найбольшае задавальненне малады музыка перажыў тады, як моладзь з суседняга сяла папрасіла яго пайграць ёй на вечарыне. Ён пайшоў з вялікай радасцю. Усю ноч іграў за 25 злотых. Ды не ў грашах жа была справа: яго цешыла тое, што і старэйшыя і маладыя так ладна танцуюць пад яго музыку. І ад таго часу ён стаўся вядомы па ўсёй ваколіцы як дасканалы музыка. Іграў на забавах, вяселлях, вечарынках, нават у даволі далёкіх мясцовасцях. Прыбывала сяброў, паявіліся ўласныя грошы. Але гэта не перашкодзіла яму вучыцца, здабываць прафесію.

Пасля заканчэння пачатковай школы ён падаўся ў Бельскі беларускі ліцэй і там адразу ўступіў у школьны духавы аркестр. Тут ён пазнаёміўся з нотнай граматай, авалодаў ігрой на шэрагу інструментах. І калі васемнаццацігадовым юнаком закончыў ліцэй, адразу паступіў на аддзяленне музычнага выхавання Настаўніцкай студыі ў Беластоку. Яго настаўнікамі

былі такія выдатныя дзеячы на ніве музычнага руху на Беласточчыне як Э. Гойлік, С. Саберайскі, Я. Худзік. С. Копа пачарпнуў ад іх многае і ў майстэрстве валодання інструментам, і ў замілаванні да грамадскай дзейнасці.

У 1965 г. С. Копа пачынае сваю працу ў школьніцтве. Яго накіроўваюць у пачатковую школу ў Трасцянку. Тут ён робіць першыя крокі не толькі як настаўнік і выхавальца, але таксама як актыўны грамадскі дзеяч. С. Копа арганізаваў харавы калектыў і драматычны гурток, сардэчна пасябраваў з вясковай моладдзю, стаў яе праўдзівым важаком. Разам з ёю прыспасабляў стражацкую рамізу на святліцу, арганізаваў пастаноўкі і канцэрты ў Трасцянцы, ездзіў на выступленні ў суседнія мясцовасці. Адкуль толькі і браўся ў яго запал?..

Пасля двух год працы ў Трасцянцы С. Копа пераехаў у Гарадок. Тут яшчэ ярчэй выявілася яго адданасць педагагічнай і грамадскай дзейнасці. У школе ён арганізаваў дасканалы калектыў акардэаністаў, заснаваў выдатны школьны хор, групу моладзі зацікавіў ігрой на флейтах. У школе забурліла музычнае жыццё, гарадоцкія школьнікі пачалі здабываць першыя месцы на розных аглядах, конкурсах, пасыпаліся падзякі за выспупленні на ўрачыстасцях. Але гэтага запаленаму сеўцы музычнай культуры было замала. Ён узначальвае як музычны кіраўнік славуты гарадоцкі жаночы хор, выдатна прычыняецца да павышэння яго мастацкага росту, узбагачэння рэпертуару. Цяжка назваць нядзелю ці іншы вольны дзень, калі б гарадоцкі хор пад кіраўніцтвам С. Копы не выступаў з канцэртам. Выступленні адбываюцца ў вёсках і мястэчках па ўсёй Беласточчыне і па-за яе межамі. Гарадоцкія артысты выступаюць таксама ў Беларускай ССР. З году ў год на шматлікіх конкурсах яны займаюць вядучыя месцы, а ў конкурсе „Беларуская песня“ амаль заўсёды — першыя. Папулярызаваць беларускую песню і музыку, беларускае роднае слова — лічаць сваім абавязкам і харысты і іх кіраўнік.

Ужо сем год С. Копа працуе і дзейнічае ў Беластоку. У сваёй школе ён арганізаваў выдатны харавы калектыў, заснаваў гурток акардэаністаў. Абодва калектывы вядомыя ў Беластоку як дасканалыя выканаўцы твораў савецкіх кампазітараў, займаюць добрыя месцы ў конкурсе „Барвы дружбы“. Некалькі год С. Копа вёў пры ГП БГКТ курс акардэаністаў і ўжо выхаваў сярод іх такіх жа запаленых дзеячоў музычнай самадзейнасці.

Ужо колькі год С. Копа сваімі ведамі, уменнем і працай ахвярна служыць справе развіцця мастацкай самадзейнасці ў беларускім ася-

роддзі: удзельнічае ў працах камісіі культуры ГП БГКТ, дапамагае калектывам парадай. За ахвярную грамадскую дзейнасць на прапанову ГП БГКТ яго ўзнагародзілі Сярэбраным Крыжам Заслугі, сярэбраным знакам „Заслужаны для Беласточчыны" і прысвоілі яму званне Заслужанага дзеяча культуры.

А чым заняты ён цяпер? Цяпер С. Копа заканчвае пісаць работу пра беларускія народныя калядныя песні Беласточчыны. Гэта яго дыпломная праца на завочным аддзяленні Варшаўскай музычнай акадэміі на званне магістра музычнага мастацтва.

**Міхась Хмялеўскі**
Фота аўтара



*У асеннім сонейку. Вучні Маліннiцкай школы са сваёй настаўніцай. Фота М. Гайдука.*



*Збожжа і нафта... Краявід цяперашняга Палесся.*

# Нашы браты—нашы суседзі

## СЯСТРА РАСІІ

На спатканні з землякамі касманаўты Пётр Клімук і Уладзімір Каваленак аднойчы заўважылі, што з касмічнай вышыні іх родная Беларусь вельмі падобна на моцна сціснуты клубочак сэрца.

Гэтае паэтычнае параўнанне падмацоўвае і тое, што расраспалажана Беларусь якраз каля заходніх межаў СССР, займае менш аднаго працэнта яго тэрыторыі, спісаная мноствам блакітных жылачак — рэкаў. А сталыя эканамічныя сувязі „Беларусь — краіне, краіна — Беларусі“ падобны да кравяносных сасудаў, па якіх жыватворная вільгаць забяспечвае жыццядзейнасць адзінага арганізма.

Паўстала Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка 1 студзеня 1919 года. На палове гэтага шасцідзесяцігадовага шляху яна, як і ўся краіна, перажыла сваё другое нараджэнне, уваскрэсла з руінаў і папялішчаў пасля навалы гітлераўскай арды. Адзначаючы 35-годдзе вялікай Перамогі савецкага народа над фашызмам, мы з гонарам сцвярджалі, што гэтае адраджэнне — плён дружбы нашых рэспублік.

У склад Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік Беларусь увайшла на правах суверэннай дзяржавы. Яна стала адным з утваральнікаў Саюза — разам з РСФСР, Украінай і Закаўказскай Федэрацыяй. Гэта было ў канцы 1922 года. З таго часу блізкае супрацоўніцтва савецкіх рэспублік многа разоў дакументавала сваю сутнасць. У гісторыі СССР кожны этап палітычнага, эканамічнага і духовага развіцця ўсіх народаў абазначаны прыкладамі іх бескарыслівай узаемадапамогі і падтрымкі.

Да Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі Беларусь была ўскраінай царскай Расіі. Беларускі народ не меў свае дзяржаўнасці, жыў у цемры, беднасці і бяспраўі. Прамысловасць была развіта вельмі слаба. Пераважала ўступная апрацоўка мясцовай сыравіны, дробныя саматужныя прадпрыемствы з самай прымітыўнай тэхнікай. На аднаго жыхара выпускалася амаль на 5 разоў менш прамысловай прадукцыі, на 15 разоў менш электрычнай энергіі, на 12 разоў менш прадукцыі машынабудавання чым па ўсёй Расіі.

У беларускай вёсцы трэцяя частка зямлі, пры тым самай горшай, належала сялянам, а ўсёй іншай валодалі абшар-



*Сталіца Савецкай Беларусі, горад Мінск. Гасцініца „Юбілейная“.*

нікі, цэрквы, касцёлы і казна. Каля 80 працэнтаў насельніцтва было непісьменным. Забаранялася навучаць дзяцей роднай мове. На нізкім узроўні была ахова здароўя. У 1913 годзе на 10 тысяч жыхароў прыходзілася меней 2 лекараў і 9 ложкаў у бальніцах.

Вялікі Кастрычнік, які адкрыў новую эпоху, абазначаў радыкальныя змены ў лёсе беларускага народа.

У дружнай сям'і савецкіх народаў ён дайшоў да вялікіх дасягненняў у развіцці эканомікі і культуры.

У красавіцкім нумары „Рабочага“ — газеты Цэнтральнага камітэта Камуністычнай партыі Беларусі за 1929 год знаходзім: „У бліжэйшай пяцігодцы Савецкая Беларусь зменіць свой выгляд“ — паведамляла газета. А далей ішла інфармацыя пра тое, што на пасяджэнні саюзнага Савета народных камісараў і Савета працы і абароны быў праслуханы даклад аб мерапрыемствах Дзяржаўнага планавання СССР пра развіццё эканомікі розных рэгіёнаў. Паведамлялася: новае, што дае перспектыўны план для эканомікі Беларусі, — гэта рэзкі пераход да самай новай тэхналогіі пераробкі сельскагаспадарчай сыравіны.

Па цяперашняй мерцы, заданне даволі скромнае. Але зразумелае, калі ўлічыць, што да Кастрычніцкай рэвалюцыі з Беларусі, якая была сыравінным дадаткам да Расіі, вывозілася вялікая колькасць драўніны, лёну, канопель, сырых шкураў і іншай

сыравіны. І гэта ў той час, калі мясцовае насельніцтва не мела працы, калі ўзровень жыцця працоўных людзей быў зусім нізкі. Дарэчы, у 1929 годзе ў Мінску яшчэ дзейнічала біржа працы, а ў рэспубліцы было больш за 30 тысяч беспрацоўных. Але радыкальны пералом наступіў у тым жа годзе, дзякуючы таму, што быў прыняты кірунак на паскарэнне тэмпаў індустрыялізацыі, стварэнне ў рэспубліцы магутнай прамысловай базы.

Ужо ў гады даваенных пяцігодак была створана гэтая магутная прамысловая база. А перамога калектыўнай гаспадаркі ў вёсцы карэнным чынам змяніла асновы сялянскага жыцця і яшчэ болей умацавала саюз рабочых і сялян — аснову Савецкай улады, сілу нашай дзяржавы.

Да пачатку Вялікай Айчыннай вайны Савецкая Беларусь ператварылася ў рэспубліку з развітымі многімі галінамі прамысловасці, па велічыні прамысловай прадукцыі яна заняла чацвёртае месца сярод саюзных рэспублік СССР.

Калі 22 чэрвеня 1941 года фашысцкая Германія вераломна напала на Савецкі Саюз, першыя бомбы ўпалі на беларускую зямлю. І ўжо тут гітлераўскі план маланкавай вайны даў паважную трэшчыну — амаль месяц акупанты не маглі перамагчы супраціўленне невялікага гарнізона Брэсцкай крэпасці. Сілы працiўніка перавышалі сілы абаронцаў дзесяць разоў. Кожную мінуту на крэпасць абшарам каля 4 квадратных кіламетраў падала 4 тысячы гарматных снарадаў, градам сыпаліся бомбы. Цагляныя сцены тапіліся ад агню. А людзі не здаваліся.

Дакументы пацвярджаюць: страты фашысцкіх войск у баях з абаронцамі Брэсцкай крэпасці склалі 5 працэнтаў агульных іхніх стратаў на Усходнім фронце за першы тыдзень ваенных дзеянняў. Начальнік штаба сухапутных войск генерал-палкоўнік Гальдэр запісаў у сваім дзённіку, што генералу артылерыі Брандту даручана „расследаваць дзеянні 45-й дывізіі пяхоты“ і высніць, чаму яна „дарма панесла ў раёне Брэста вялікія страты“.

Тады яшчэ ўсё гэта здавалася фашыстам дзіўным. Але вельмі хутка яны пераканаюцца, што Брэст — не выключэнне з правіла, што кожная сярод ста нацый і народнасцяў, якія насяляюць СССР, лічыць яго сваёй сапраўднай Айчынай.

Беларусь накіравала на фронт больш за 1 мільён 100 тысяч чалавек. 374 тысячы чалавек сталі партызанамі, яшчэ прыкладна столькі ж склалі іх скрытныя рэзервы. 70 тысяч чалавек было ў падполлі.

Да прыходу рэгулярных часцей Савецкай Арміі народныя мсціўцы (так называлі



*Дэлегацыя пісьменнікаў з Народнай Польшчы пасля наведання мемарыяльнага комплекса Хатынь на Міншчыне.*

партызанаў) кантралявалі ўжо 60 працэнтаў тэрыторыі рэспублікі, абнавілі там Савецкую ўладу. А ўсяго беларускія партызаны знішчожылі каля паўмільёна гітлераўцаў.

Тры гады фашысцкай акупацыі прычынілі аграмадныя страты народнай гаспадарцы Беларусі. Фашысты разбурылі і спалілі 209 гарадоў і раённых цэнтраў, 9 200 сёлаў і вёсак, больш за 10 тысяч прамысловых прадпрыемстваў. Было знішчожана больш чым палова нацыянальнага багацця рэспублікі. Толькі непасрэдныя матэрыяльныя страты склалі 35 бюджэтаў Беларускай ССР за 1940 год.

Яшчэ больш адчувальнымі, немагчымымі для абнаўлення былі страты ў людзях. З рук захопнікаў загінула больш за 2 мільёны 230 тысяч беларусаў. На нашай зямлі можна сустрэць даволі незвычайны помнік — мемарыяльны комплекс „Хатынь" на месцы спаленай гітлераўцамі вёскі. Там на ветры шумяць тры бярозы, а на месцы чацвёртай палае вечны агонь. Гэта значыць — загінуў кожны чацверты жыхар рэспублікі. У некаторых абласцях рэспублікі, напрыклад, у Віцебскай, і цяпер жыве менш людзей, чым сорак год таму назад.

У вельмі цяжкіх умовах беларусы пачалі пасля вызвалення рэспублікі ў 1944 годзе

адбудоўваць сваю народную гаспадарку. За даваенныя гады прамысловая прадукцыя павялічылася ў параўнанні з 1913 годам больш чым на 8 разоў, а за гады вайны эканоміка рэспублікі была адкінута да ўзроўню 1913 года. Здавалася, для таго, каб асягнуць даваенны ўзровень развіцця эканомікі, патрэбны будуць дзесяцігоддзі. Але той узровень прамысловасць рэспублікі дасягнула ўжо пад канец 1950 года.

Цуд? Ніхто з беларусаў не адмовіўся б, каб разбураныя фабрыкі і заводы, жыллё і школы, бальніцы і тэатры паўсталі з пажарышчаў за дотыкам цудадзейнай галінкі. Але, на жаль, за ўсё гэта трэба было плаціць іх крывавымі мазалямі, бяссоннымі начамі, якія прайшлі пры разбіранні руінаў. Пры тым, у паасобку нават такім коштам нам не ўдалося б выгаіць ваенныя раны. Адбудоўваць разбураную народную гаспадарку памагла Беларусі ўся краіна. Адразу пасля вызвалення наша рэспубліка атрымала ад РСФСР абсталяванне для 37 прадпрыемстваў па абробцы металу — больш за 7 тысяч станкоў, 228 тысяч штук быдла, больш за 100 тысяч штук коней, насенне, прадукты харчавання. Урад СССР асігнаваў з саюзнага фонду неабходныя фінансавыя сродкі.

Сённяшняя Беларусь — жыццёва важны орган адзінага савецкага эканамічнага арганізма, якому ніколі не пагражае адарванне па прычыне несумяшчальнасці, бо ў пятнаццаці савецкіх рэспублік адна мэта — барацьба за мір, няспыннае павышэнне дабрабыту народа, тая самая ідэалогія і погляды. Унутрысаюзная кааперацыя стварае магчымасць Беларусі разам з дынамічным развіццём усяе эканомікі асаблівую ўвагу звярнуць на тыя галіны народнай гаспадаркі, для якіх ёсць найбольш прыхільныя ўмовы.

Згодна са сваёй спецыялізацыяй у агульнасаюзнай гаспадарцы рэспубліка прадукуе амаль кожную другую тону калійных (патасовых) угнаенняў, кожны сёмы трактар і станок для абробкі металу, кожны пяты матацыкл, кожную шостую тону хімічных валокнаў, кожны дзесяты халадзільнік, кожны дванаццаты тэлевізар, кожны восьмы ручны гадзіннік, кожную пятую тону льнянога валакна, кожную шостую тону бульбы.

Аблічча беларускай прамысловасці, якая прадукуе цяпер менш чым за два тыдні столькі вырабаў, колькі сорак год таму назад давала за ўвесь год, вызначаюць будова машын і абробка металаў, выраб прыбораў, пераробка нафты і радыёэлектроніка, будова аўтамабіляў, трактараў, выраб мінеральных угнаенняў і сінтэтычнага валакна ды іншыя галіны вытворчасці, якія належаць да вядучых у навукова-тэхнічным

прагрэсе. За апошнія 4 гады асвоены выпуск амаль 1 000 новых відаў прамысловых вырабаў.

Вырабы з беларускай маркай атрымалі шырокае прызнанне ў краіне і за граніцай. У 70 краін свету экспартуюцца, напрыклад, трактары „Беларусь". У 1973 годзе пры незвычайна высокай тэмпературы (слупок ртуці не апускаўся ніжэй сарака градусаў у ценю па Цэльсію) „МТЗ-80" удала прайшоў усе выпрабаванні на палігоне амерыканскага штата Небраска і яго ўпісалі ў „Чырвоную кнігу" як лепшую машыну класа 1,4 тоны. Цяпер за граніцай працуе больш за 200 тысяч трактараў „Беларусь".

Папулярны на замежным рынку таксама беларускія аўтамабілі, асабліва 75-тонныя самазвалы „БелАЗ". Дзякуючы арыгінальнай канструкцыі — у кожным коле ўстаноўлены электраматор — аўтамабіль развівае вялікую хуткасць, мае выдатную манеўранасць.

А ўсяго Беларусь высылае ў 98 краін свету больш за 1000 розных вырабаў. За апошнія сямнаццаць год экспарт павялічыўся на 9 разоў. Яго структура такая: 36 працэнтаў — машыны і абсталяванне, 21 працэнтаў — паліва і прамысловая сыравіна, 14 працэнтаў — хімічная прадукцыя і ўгнаенні, 17 працэнтаў — тавары шырокага ўжытку.

Цяпер характар развіцця вытворчых сіл акрэсліваюць працэсы канцэнтрацыі і спецыялізацыі. У рэспубліцы дзейнічае 178 вытворчых, вытворча-тэхнічных і навукова-вытворчых аб'яднанняў, якія спецыялізуюцца ў вырабе найбольш важных відаў прадукцыі.

Цікава, што пры стварэнні аб'яднанняў тэрытарыяльныя межы паміж савецкімі рэспублікамі не маюць істотнага значэння. У аб'яднанні „БелАўтоМАЗ", напрыклад, якое прадукуе аўтамабілі, уваходзіць, апрача беларускіх прадпрыемстваў, Калінінградскі (РСФСР) завод аўтамабільных агрэгатаў. Аб'яднанне, якое прадукуе халадзільнікі „Атлант", складаюць прадпрыемствы з трох рэспублік: Беларусі, Расіі і Літвы.

У сельскай гаспадарцы, а яна развіваецца ў напрамку вытворчасці мяса і малака, калгасы і саўгасы таксама сумольнымі намаганнямі ствараюць аб'яднанні, будуюць жывёлагадоўчыя комплексы з высокай механізацыяй.

Некалі вельмі неўраджайныя беларускія землі, на якіх збіралі яшчэ не так даўно не болей 7 цэнтнераў збожжа з гектара, цяпер даюць да 30 цэнтнераў.

У выключна цяжкіх умовах 1979 года, у засуху, сяляне сабралі добры ўраджай бульбы — па 186 і цукровых буракоў — па 267 цэнтнераў з гектара. Прадалі дзяржаве больш за 1,1 мільёна тон збожжа, 2


*Дзяржаўны народны хор Беларускай ССР.*

мільёны тон бульбы, больш за 1,2 мільёна тон цукровых буракоў, амаль 4 мільёны тон малака, 1 мільён 140 тысяч тон убойнай жывёлы і свойскай птушкі, 1,4 мільярда штук яек.

Развіццё сельскай гаспадаркі наступіла на аснове шырокай механізацыі, хімізацыі і меліярацыі багністых зямель. За гады Савецкай улады ў Беларусі ператвораны ва ўраджайныя палі, сенажаці і пашу больш за 2,5 мільёна гектараў мокрых і багністых зямель.

У калгасах і саўгасах рэспублікі працуе 115 тысяч трактараў, каля 30 тысяч збожжавых камбайнаў, больш за 69 тысяч грузавых аўтамабіляў, многа іншай навейшай тэхнікі.

Выраслі, пахарашэлі нашыя вёскі. За мінулыя чатыры гады сяляне атрымалі больш за 5 мільёнаў квадратных метраў жылля, многа новых школ, прадшколляў, клубаў і бібліятэкаў, крамаў, сталовак і камбінатаў бытавога абслугоўвання насельніцтва.

З года ў год павышаецца дабрабыт народа. Павялічваюцца заробкі працоўных. Выплаты і льготы для насельніцтва з грамадскіх фондаў склалі ў 1979 годзе 3,7 мільярда рублёў і павялічыліся за год на 140 мільёнаў рублёў. Растуць абароты ў дзяржаўным і кааператыўным гандлі, павялічваецца спажыццё найболей каштоўных прадуктаў і прамысловых тавараў.

У Беларусі адна з самых малых на свеце плата за кватэру і камунальныя паслугі. Яна складае толькі трэцюю частку коштаў, дзве трэція іх аплочвае дзяржава. У 1979 годзе ў гарадах і вёсках пабудавана 78,4 тысячы кватэр вы-

сокага стандарту, такім чынам палепшыліся кватэрныя ўмовы 365 тысячам чалавек.

Многа зроблена для паляпшэння аховы здароўя працоўных. Цяпер у рэспубліцы працуе 32 тысячы лекараў. Па забеспячэнню насельніцтва лекарамі Беларусь, як і наогул СССР, займае адно з першых месц на свеце. У рэспубліцы каля 900 бальніц, 3 тысячы асяродкаў здароўя, густая сетка амбулаторый і паліклінікаў.

У мінулай пяцігодцы на ахову здароўя насельніцтва рэспублікі кожны год выдаткоўвалася ў сярэднім больш за 400 мільёнаў рублёў. У 1980 годзе выдаткавана 476 мільёнаў, гэта на 30 мільёнаў рублёў больш, чым у папярэднім годзе.

Вельмі інтэнсіўна развіваецца асвета, навука і культура. Цяпер у Беларусі больш за 7 тысяч дзённых агульнаадукацыйных школаў, 118 сярэдніх прафесіянальна-тэхнічных вучылішчаў, 132 сярэднія спецыялістычныя школы. Уведзена ў жыццё абавязковая сярэдняя адукацыя. У розных формах навучання прымае ўдзел каля 3,6 мільёна чалавек, з іх у агульнаадукацыйных школах займаецца 1,5 мільёна, у сярэдніх прафесіянальна-тэхнічных вучылішчах 79 тысяч, у тэхнікумах і іншых сярэдніх спецыялістычных школах 170 тысяч. У трох універсітэтах і 29 іншых вышэйшых школах займаецца больш за 170 тысяч студэнтаў. Цяпер у адной Беларусі больш студэнтаў, чым было іх да рэвалюцыі ва ўсёй Расіі.

Усё гэта змяніла духовае аблічча беларускага народа. Цяпер больш за 75 працэнтаў працаўнікоў народнай гаспадаркі рэспублікі мае вышэйшую і поўную сярэднюю адукацыю. Сфармавалася больш чым мільённая армія спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй.

Беларусь валодае салідназ навуковай базай: 36 тысяч працаўнікоў навукі, у тым ліку больш за 9,5 тысяч дактароў навук. У такіх галінах як матэматыка, оптыка, спектраскопія, энергетыка, генетыка, цыталогія і іншых беларускія вучоныя маюць велічныя дасягненні, якія заслужана лічацца прызнанымі здабыткамі савецкай навукі і памнажаюць яе патэнцыял.

Калі ў гадах 1971-75 працаўнікі Акадэміі навук Беларускай ССР атрымоўвалі ў год у сярэднім 340 патэнтаў на свае працы, то ў 1979 годзе атрымалі іх 800. Эканамічны эфект ад увядзення ў вытворчасць апрацовак вучоных з Акадэміі навук БССР за пяць апошніх год перавысіў 248 мільёнаў рублёў. Урад рэспублікі зацвердзіў генеральны план пабудовы спецыяльнага акадэмічнага гарадка каля Мінска на абшары 359 гектараў. Ужо пабудаваны гмахі двух інстытутаў.

Наступіў росквіт культурнага жыцця. У скарбніцу са-



*Граюць юныя гарністы.*

вецкай літаратуры ўвайшлі кнігі беларускіх паэтаў і празаікаў — Янкі Купалы, Якуба Коласа, Кандрата Крапівы, Івана Шамякіна, Максіма Танка, Петруся Броўкі, Івана Мележа, Пімена Панчанкі, Васіля Быкава, Аркадзя Куляшова. Больш за 55 мільёнаў экземпляраў — такі тыраж выданняў твораў беларускіх пісьменнікаў амаль на 30 мовах народаў СССР. Яны выйшлі таксама ў дзесятках замежных краін.

Тыраж усіх выдадзеных кніг і брашураў у Беларусі ў 1979 годзе перавысіў 36 мільёнаў экземпляраў. У гарадах і вёсках рэспублікі працуе звыш 7 тысяч публічных бібліятэк з кніжнымі зборамі ў 84 мільёны экземпляраў, каля 7 тысяч кіно, 59 дзяржаўных музеяў.

Помнікамі гераічнай гісторыі народа, развіцця яго культуры сталі на беларускай зямлі творы манументальнага мастацтва: мемарыяльныя комплексы „Брэсцкая крэпасць“, „Хатынь“, „Прарыў“. Лепшыя працы беларускіх мастакоў Міхаіла Савіцкага, Віталія Цвіркі, Віктара Грамыкі, Аляксандры Паслядовіч, Георгія Паплаўскага, Арлена Кашкурэвіча ўвайшлі ў залатую скарбніцу савецкага і замежнага мастацтва.

Прыгожа развіваецца тэатральнае мастацтва, у рэспубліцы дзейнічае 15 прафесіянальных дзяржаўных і больш за 40 народных самадзейных тэатраў. Шырокае прызнанне

ў СССР і за яго межамі здабылі такія арыгінальныя калектывы, як вакальна-інструментальныя ансамблі „Песняры“, „Верасы“, танцавальны ансамбль „Харошкі“, Дзяржаўны народны хор, Народны аркестр БССР імя І. І. Жыновіча, Дзяржаўны ансамбль танца.

Багата падзеямі грамадска-палітычнае жыццё рэспублікі. Беларускі народ, як і іншыя народы СССР, ажыццяўляе дзяржаўную ўладу праз Саветы народных дэпутатаў (радных і паслоў). У БССР больш за 80 тысяч дэпутатаў. У Вярхоўным савеце рэспублікі — найвышэйшым заканадаўчым органе, які выбіраецца на 5 год — 485 дэпутатаў, сярод іх 148 рабочых, 97 калгаснікаў.

Беларуская ССР, якая панясла аграмадныя страты ў барацьбе за выратаванне чалавецтва ад фашысцкай няволі, стала адной з краінаў-заснавальніцаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, прымала актыўны ўдзел у апрацоўцы Уставу ААН. Беларуская ССР належыць да амаль 60 міжнародных арганізацый і іх органаў, удзельнічае ў каля 150 многабаковых дагавораў, канвенцый, пагадненняў і іншых міжнародных актаў.

Сэрца Беларусі б'ецца згодна з сэрцам Расіі, сэрцам краіны — Масквы.

**Віктар Гвоздзеў**
Першы намеснік Старшыні
Савета Міністраў БССР
Старшыня Дзяржаўнага
планавання БССР



*Уборка кармавых траваў.*

Мікалай Гайдук

## ПРА БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКУЮ САДРУЖНАСЦЬ

Неяк ужо ў сярэдзіне нашай размовы **Валянціна Ігнацьеўна Гапава** заўважыла, што яна не любіць успамінаць перажытае ёю ў часе блакады Ленінграда, не хоча вярэдзіць незагойныя раны. І хоць увесь той вечар яна была заглыблена ва ўспаміны я зусім не дзіваваўся гэтай супярэчлівасці. Да чаго б яна не вярталася памяццю: ці то да ўласнага бесклапотнага маленства ў даваенны час, ці да сваіх навуковых пошукаў у апошнія гады — на ўсім ляжаў цень той фатальнай зімы 1941 года ў асуджаным фашыстамі на смерць трохмільённым горадзе на Няве.

Ад свайго бацькі — вясковага настаўніка на Віцебшчыне — яна пераняла пашану да гэтага горада, яго жыхароў, свабодалюбівых традыцый. Бацька Валянціны Ігнацьеўнай удзельнічаў у падзеях Вялікага Кастрычніка ў Кранштадце, змагаўся супраць белагвардзейцаў у грамадзянскую вайну, адбіваў полчышчы Юдзеніча на подступах горада Леніна. І калі ў 1940 г. яна закончыла дзесяцігодку, доўгіх развaжанняў пра выбар далейшай вучобы па сутнасці ў яе і не было — увесь час сніўся Ленінградскі універсітэт. Паехалі з бацькам. Паступіла на філалагічны факультэт.

Тады цэлымі днямі блукалі па чароўным горадзе — бацька быў дасканалым знаўцам усіх ленінградскіх славутасцей. Але гэтае здзяйсненне запаветных мараў упершыню азмрочыла савецка-фінская вайна 1940 г. Фронт стаяў у некалькіх дзесятках кіламетраў, і на вуліцах горада было многа вайсковых, у шпіталях — параненых, нейкі час нават абавязвала зацямненне. Такі быў першы, надта нясмелы подых навальніцы.

Яна ўдарыла ва ўсю моц якраз тады, калі Валянціна Ігнацьеўна здавала свае апошнія экзамены за першы курс. Бацька папярэдзіў лістам: „У Беларусь не прыязджай, заставайся ў Ленінградзе“. Гэта быў адзін з апошніх яго лістаў: памёр ён у эвакуацыі ў 1942 г. у Омскай вобласці. Яна засталася круглай сіратой, бо маці страціла яшчэ ў даваенны час.

— Нас, 120 дзяўчат-студэнтак, залічылі на курсы хірургічных медыцынскіх сясцёр. Мы штодня мелі найменш па 8 гадзін лекцый. За тры месяцы авалодалі матэрыялам, якому ў мірны час медсёстры вучыліся два гады. Гэта тады, 8 верасня 1941 года, быў найбольшы налёт фашысцкай авіяцыі на Ленінград. Згарэлі склады, і горад застаўся без якіхколечы запасаў харчавання, паліва і іншых асноўных для жыцця рэчаў. У той жа дзень замкнуўся абруч блакады вакол горада. Толькі вузенькая ніточка праз Ладажскае возера злучала яго з вольнай ад фашыс-



таў Вялікай зямлёй. Нас, курсантак, мабілізавалі і 10 кастрычніка накіравалі на службу ў вайсковую бальніцу. На яе прадназначаўся гмах гістарычнага факультэта нашага універсітэта. Мы, дзяўчаткі, самі прыстасавалі яго на бальніцу: забяспечылі вокны, абсталявалі кухню, сціральню, лазню, вышаравалі падлогі, унеслі і расставілі ложкі. А праз некалькі дзён уся наша бальніца запоўнілася цяжка параненымі, уміраючымі абаронцамі горада. Божа, які ж цяжкі паранены салдат!.. Нам жа было па васемнаццаць-дзевятнаццаць год. І як жа ж яго падняць, перанесці?.. А тут з галаду цёмна ў вачах, сама ледзь ідзеш мяккімі, бы з ваты, нагамі, хапаючыся за сцены. Што мы елі? Раненым на сняданне давалі лыжку рэдкай кашы, на абед — рэдзенькі суп, лыжка кашы ды катлетка з каніны, на вячэру — крыху кашы. Вось і ўсё. А мы? Мы — санітарная і лекарская абслуга — мы амаль нічога не елі. Нават з вадой было цяжка: у лістападзе спыніў працу вадаправод, перасталі хадзіць трамваі, аўтобусы, закрыліся ўсе крамы, працавалі толькі тыя, дзе выдавалі нешта, што мела называцца хлебам. На горад сыпаліся дальнябойныя снарады, бомбы, ён гарэў. І тады, памятаю, трапіў у наш шпіталь студэнт. Быў ён адным з тых 300 тысяч

ленінградцаў, што самі добраахвотна пайшлі ў народнае апалчэнне бараніць свой горад. Ляжаў у палаце, якой я апекавалася. Не было ніякай надзеі, што ён выжыве. Я выпрасіла ў нашага кіраўніка яму дадатковую талерку супу ўдзень. У яе налівалі самы шчолак ды і няпоўную. І ўсё ж ён пасля некалькіх тыдняў ачуняў. А калі ўжо азваўся — папрасіў дастаць яму другі том „Эстэтыкі" Гегеля. Так, ленінградцаў нельга было нічым зламаць, яны ведалі сэнс жыцця і яго цану. Дарэчы, гэта быў Фёдар Абрамаў — цяпер вядомы рускі савецкі пісьменнік і драматург. Яго п'есу „Драўляныя коні" ставіць славуты маскоўскі тэатр на Таганцы. Ад голаду і вычарпання я траціла свядомасць, была ўпэўнена, што памру. 1 чэрвеня 1942 года мяне дэмабілізавалі і накіравалі па „дарозе жыцця" праз возера Ладагу ў Саратаў...

Валянціна Ігнацьеўна некалькі хвілін маўчыць. Паволі гартае сшытак у карычневых каленкоравых вокладках — свой дзённік з тае жудаснай ленінградскай зімы. Чытае „Толькі ў Саратаве мы ўбачылі праўдзівы хлеб. За год часу мы забыліся нават, які ён мае смак..."

Калі Указам Вярхоўнага Савета СССР ад 22 снежня 1942 года быў устаноўлены медаль „За абарону Ленінграда", сярод першых узнагароджаных ім была В. І. Гапава.

Таксама ў чэрвені, але ўжо ў 1944 годзе, пасля таго як у выніку Ленінградска-Ноўгарадскай аперацыі ў студзені-сакавіку таго ж года фашысты былі адкінуты на звыш 200 кіламетраў ад горада, у Ленінград вярнуўся з эвакуацыі універсітэт. Сярод яго першых студэнтаў знаходзілася Валянціна Ігнацьеўна.

Універсітэт яна закончыла ў 1946 годзе. Тады якраз Ленінград збіраў і адбудоўваў свае кадры, уваскрашаў вядомыя ў свеце навуковыя традыцыі. Ёй запрапанавалі аспірантуру ў прафесара П. Н. Беркава — выдатнага літаратуразнаўцы, між іншым, аўтара даследавання „Францішак Скарына і пачатак усходнеславянскага вершаскладання". В. І. Гапава пад яго кіраўніцтвам напісала доктарскую працу „Эліза Ажэшка. Творы пра беларускае сялянства". Пасля ўдалай абароны яе, маладая вучоная пачынае працаваць у Ленінградскім універсітэце. На філалагічным факультэце яна выкладае гісторыю польскай літаратуры, а на гістарычным вядзе курс польскай мовы. Адкуль такое зацікаўленне польскай мовай і літаратурай? З маленства, бо ў сям'і Гапавых заўсёды з пашанай адносіліся да ідэі славянскай садружнасці, асабліва высока цанілі гераізм польскага народа ў яго змаганнях за свабоду і грамадскую справядлівасць. Польскай літаратурай зачытвалася і добра валодала польскай мовай маці Валянціны Ігнацьеўны.

У 1955 г. В. І. Гапаву запрашаюць працаваць у Мінскі педагагічны інстытут імя М. Горкага. Яна выкладае гісторыю рускай

і савецкай літаратуры, вядзе семінар па творчасці А. С. Пушкіна. Піша шэраг артыкулаў па гісторыі польскай літаратуры ў Вялікую Савецкую Энцыклапедыю, публікуе абшырны артыкул пра Э. Ажэшка ў „Вучоных запісках" Мінскага педагагічнага інстытута. Яшчэ больш заглыбляецца ў гэтую праблематыку, калі ў 1959 г. пачынае працаваць у Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук Беларускай ССР. Працуе разам з такімі вядомымі беларускімі літаратуразнаўцамі як В. У. Івашын, А. І. Мальдзіс, Н. С. Перкін, Ю. С. Пшыркоў — такое сяброўскае акружэнне і супрацоўніцтва спрыяе навуковым пошукам.

У В. І. Гапавай даўно наладзіліся вельмі блізкія сувязі з Польшчай. У 1968 г. яна была 3 месяцы ў навуковай камандзіроўцы ў Варшаве, Кракаве і іншых асяродках, найбольш увагі і часу прысвяціла працы ў Інстытуце літаратурных даследаванняў. Наступны раз наведала нашу краіну ў 1976 годзе. Яна не можа ўстрымацца, каб не выказаць свайго захаплення старажытнасцямі Кракава, сардэчнымі сустрэчамі з польскімі калегамі-літаратуразнаўцамі і... смакавітымі польскімі „пячаркамі" ды трускалкамі са смятанай. Кватэра яе напоўнена палёнікамі: значнымі зборамі выданняў па польскай гісторыі і літаратуры, рознымі каштоўнымі сувенірамі, а ў яе рабочым кабінеце красуецца польскі гарнітур мэблі „Капернік".

Як у Інстытуце літаратуры адкрыўся сектар, які сваім асноўным заданнем паставіў даследаваць узаемасувязі беларускай літаратуры з літаратурамі іншых народаў, тады В. І. Гапава падрыхтавала некалькі прац па беларуска-польскіх сувязях. Гэты цыкл публікацый адкрыў абшырны артыкул „На шляхах братэрства і барацьбы". Яму аўтар дала паясняльны падзагаловак „Беларуска-польскае літаратурнае ўзаемадзеянне міжваеннага дваццацігоддзя 1918-1939". У шасцідзесятыя гады гэта была адна з першых прац на гэтую тэму ў Савецкай Беларусі. У ёй В. І. Гапава ўзняла і прааналізавала шэраг праблем, якія да таго часу не краналіся ні ў польскім, ні ў беларускім літаратуразнаўстве, між іншым, супрацоўніцтва прагрэсіўных і беларускіх літаратараў у міжваеннай Вільні, польскі літаратурны рух у тым часе ў Савецкай Беларусі і інш. У канцы артыкула яна прыходзіць да вываду, што „адзінства адносін да савецкай культуры і літаратуры, да мастацтва беларускага народа садзейнічалі збліжэнню ў санацыйнай Польшчы пісьменнікаў-камуністаў і антыфашыстаў, іх яднанню ў барацьбе супраць рэакцыі (Бранеўскі, Яворскі, Путрамент, Чаховіч, Пестрак, Танк)". Артыкул паявіўся ў 1968 г. у зборніку „Садружнасць літаратур", а ўжо ў наступным годзе выходзіць з друку першая ў Беларусі яе манаграфія „Эліза Ажэшка. Жыццё і творчасць". Яшчэ праз год з'яўляецца ў зборніку „Старонкі літаратурных сувязей" вялікі артыкул В. І. Гапавай „Максім Танк — перакладчык славянскіх паэтаў". У ім

Валянціна Ігнацьеўна многа ўвагі прысвячае перакладам М. Танка на беларускую мову твораў А. Міцкевіча, Ю. Славацкага, У. Бранеўскага, К. І. Галчынскага, Т. Ружэвіча і іншых польскіх паэтаў. Пры тым яна заўважае наконт працы М. Танка над збеларушчаннем дасягненняў паэзіі іншых народаў: „Як паэт-перакладчык ён ставарае творчыя прынцыпы нацыянальнай школы перакладу, адкрывае свайму народу істотныя з'явы мастацтва іншых народаў". Праз некалькі год выйшла кніга В. І. Гапавай „Зменлівае і спрадвечнае", у якой яна прааналізавала падабенства і розніцу ў адлюстраванні вясковага жыцця ў польскай і беларускай гэтак званай „вясковай прозе" ў міжваеннае дваццацігоддзе. Гэтае глыбокае даследаванне творчасці польскіх празаікаў Т. Новака, Ю. Кавальца і іншых у параўнанні з творчасцю беларускіх пісьменнікаў К. Чорнага, М. Зарэцкага, М. Чарота і іх сучаснікаў адкрывае шэраг цікавых з'яў у літаратуры нашых суседніх народаў. У мінулым годзе паявілася абшырная праца В. І. Гапавай „Беларуска-рускае паэтычнае ўзаемадзеянне", прысвечаная творчым сувязям Я. Купалы, А. Куляшова і іншых беларускіх паэтаў з творчасцю рускіх паэтаў С. Ясеніным, А. Твардоўскім, М. Ісакоўскім. Гэтая шырыня навуковых зацікаўленняў В. І. Гапавай спалучана з незвычайнай яе працавітасцю — у Беларускай Савецкай Энцыклапедыі яе пяру належыць шэраг каштоўных артыкулаў па польскай літаратуры.

— А цяпер я працую над паасобнымі праблемамі беларускай і польскай паэзіі ў XX стагоддзі. Мяне асабліва займае беларускі „Маладняк" і польскі „авангардызм" 20-30 гадоў, творчасць Я. Купалы і польская пралетарская паэзія. Ну, а хочацца мне і то вельмі напісаць кнігу „Янка Брыль і польская літаратура"...

Быў ужо позні вечар. Дом, у якім жыве В. І. Гапава, знаходзіцца на вуліцы Я. Купалы. Побач — абрамленая гранітнай набярэжнай жвавая Свіслач. У парку па абодвух берагах ракі тады шалелі салаўі, галава кружылася ад пахаў рознаквецця. Не па-начному светлае неба над сталіцай Беларусі было глыбокае, пералівістае. І ўсё гэта прыпаміналa мне незабыўныя ленінградскія белыя ночы, чароўную неўскую набярэжную на Васільеўскім востраве, узвадны Дварцовы мост і дастойны гмах гістарычнага факультэта Ленінградскага універсітэта. У ім я слухаў лекцыі пятнаццаццю гадамі пазней той трагічнай ленінградскай зімы 1941 года. Хадзіў па тых жа калідорах, дзе паміралі ад ран абаронцы гэтага горада-героя, дзе траціла прытомнасць ад голаду і знямогі Валянціна Ігнацьеўна Гапава — ахвярны папулярызатар ведаў пра польскую літаратуру і нястомны прапагатар дружбы беларускага і польскага народаў на Беларусі.

**Мікалай Гайдук**
Фота С. Крыцкага

Анна Ляшкевіч

# ПЕРАКЛАДЫ ВЕРШАЎ ЯНКІ КУПАЛЫ НА ПОЛЬСКУЮ МОВУ

Пераклад паэзіі Янкі Купалы на польскую мову мае вялікае значэнне. Дае польскім чытачам магчымасць пазнаць творы вялікага песняра беларускага народа.

Польскімі аўтарамі былі перакладзены творы паэта з розных гадоў. Упершыню пераклады былі апублікаваны ў 1962 годзе Богданам Жыранікам, а ў 1971 г. Ян Гушча зрэдагаваў і апублікаваў пераклады ў зборніку п. з. „Wiersze białoruskie".

Праца перакладчыка цяжкая і адказная. З'яўляецца ён як бы паддданым чужых слоў, думак і вобразаў. Ад перакладчыка не патрабуецца абсалютнай вернасці ў адносінах да арыгінала, перакладу слова ў слова. Даслоўна перакладае той, хто не вывучыў і не ведае добра мовы перакладанага твора.

Асабліва цяжка перакладаць паэзію і таму яе перакладам павінны займацца паэты. Перакладаць паэзію значыць тое самае, што пісаць новы твор на аснове сентэнцыі, галоўнай думкі, цэласці арыгінала. Пераклад атрымоўваецца добры, калі паўстае ён у выніку захаплення перакладчыка даным творам.

Пераклады вершаў не бываюць аб'ектыўныя, а заўсёды суб'ектыўныя. Так ёсць таму, што кожны бачыць, гаворыць, чуе і думае па-свойму. Ёсць пераклады лепшыя і горшыя, але кожны з іх адлюстроўвае (на свой спосаб) характар перакладa і перакладчыка.

Перакладам вершаў Янкі Купалы на польскую мову займаліся перад усім: Ян Гушча, Богдан Жыранік, Казімеж А. Яворскі, Леапольд Левін, Еўстахі Лапскі, Севэрын Поляк і іншыя.

Ян Гушча пераклаў чатыры творы Янкі Купалы: „Вёска", „Дзве таполі", „А хто там ідзе" і „Калі ў лесе зацвіталі".

Верш „Вёска" перакладзены амаль літаральна. Захаваў ён мелодыку арыгінала, рытм, рыфму, напр. у Гушчы маем:

„Wzgórki i kamienie
Między nimi kłoski
O to nasze pole
Pole naszej wioski"[1]

У Купалы:

„Горы ды каменне
Вузкія палоскі:
Гэта наша поле,
Поле нашай вёскі."[2]

Дасканала Гушча пераклаў верш „Дзве таполі". Параўноўваючы пера-

---

[1] Тут і далей: B. Żyranik, Dzień powszedni ubogi, Warszawa 1962,
[2] Тут і далей: Я. Купала, Вершы, Пераклады. т. 1, 2, 3, 4, Мінск 1972-74.

клад з арыгіналам, адчуваецца лёгкасць выражэння паэтычнага вобраза. Гушча захаваў форму арыгінала і як бы сваю перадаў думку аўтара, захоўваючы яго мову:

„A o wschodzie, gdzie pole, wciąż szumiały topole,
Jedna w drugą dwie topole szumiały.
O zachodzie, gdzie pole, liści szmerem topole,
Jedna w drugą topole śpiewały."

У арыгінале:

„Аб Усходзе ў полі ўсё шумелі таполі
як адна, дзве таполі шумелі,
Аб Захадзе ў полі лісцьмі пелі таполі
як адна дзве таполі ўсё пелі."

Пераклад верша „А хто там ідзе" — даслоўны. Гушча пераклаў, блізка трымаючыся тэксту арыгінала. Няма, праўда, тут спецыфічных вобразаў і выражэнняў, якія пры перакладзе выклікалі б цяжкасці і патрабавалі б замены ці ўдакладнення. У Купалы маем:

„А чаго ж, чаго захацелася ім,
Пагарджаным век, ім, сляпым, глухім?
— Людзьмі звацца."

Пераклад такі ж:

„A czego, czego im się zachciało,
Im pogardzanym, ślepym i głuchym?
**— Zwać się ludźmi."**

Ян Гушча захаваў у сваіх перакладах мову і стыль аўтара. Яго перакладам уласціва тое, што не павінна характарызаваць перакладa. Гушча не стварыў твораў новых, блізкіх да арыгінала, толькі быццам бы апрануў змест твора ў форму другой мовы.

Леапольд Левін пераклаў тры вершы Янкі Купалы. Пераклады Левіна выклікаюць такое ж уражанне, як і творы аўтара. З вялікім майстэрствам перадаў ён ідэю і змест арыгіналаў. Відаць, што ад Купалы ўзяў ён самае галоўнае — змест і форму, тое чаго перакладчыку нельга апусціць. У Левіна няма даслоўнасці, а пераклады яго паэтычныя, меладыйныя як і арыгіналы. Перакладчык умела карыстаецца матэрыялам паэзіі Купалы, і ён дасканала як цэласць пераказаў арыгінал сваёй мовай. Напрыклад, верш Янкі Купалы „Песняру-беларусу", у якім дае ён указанні паэтам, піша аб прызначэнні паэзіі. Верш гэты не скамплікаваны, яго пабудова простая:

„Chcesz wiedzieć jaki być powinien
Poeta ciemiężonych ludzi?
I jak w codziennych spraw gęstwinie
Jaśniejszy promyk w sercu budzić?"

І тая самая страфа ў арыгінале:

„Пытаеш ты, якім быць трэба
Зямлі забытай песняру?
Як у шуканні вечным хлеба
Знайсці яснейшую пару?“

Дасканала перадаў Левін змест апошняй страфы:

„A na twój grób w jesiennym dymie
Co rok opadać będą liście
Niepamięć twe pochłonie imię
Ale pieśń będzie żyć wieczyście!”

У Купалы:

„Памёр пясняр. Над белым крыжам
За годам год перабяжыць,
Няпамяць імя пяўца зліжа
А песня будзе жыць і жыць.“

Вельмі добрай атрымалася перадача арыгінала пад загалоўкам „Памяці Мар'і Канапніцкай“ у інтэрпрэтацыі таго ж Л. Левіна. Гэты верш у арыгінале і ў перакладзе гучыць як гімн. Левін, як вялікі мастак, падбірае словы, каб ярка насветліць боль і смутак, якi прынясла народу смерць вялікай пяснякi. Смела мяняе парадак радкоў у страфах, а таксама ўжывае новую лексіку захоўваючы пры тым сэнс не толькі твора як цэласці, але і сэнс паасобных строф.

У арыгінале:

„Дух твой з светласцей неба сальецца
І з праменнямі сонца святога
Слёзы-росы высушваць будзе
І паказаць к праўдзе дарогу.

. . . . . . . . . . . . .

А з мільёнаў грудзей набалелых
Плысці ўздоўж з веку ў век не паміне
Па заступніцы ўсіх нешчаслівых,
Па вялікай пяснярцы-княгіні.“

Гэтыя самыя фрагменты ў перакладзе Левіна:

„Duch twój żarem jak słońce jasnością,
Opromieni żałobne niebiosy,
Mroczną drogę do prawdy rozświetli
I osuszy łzy — kropelki rosy.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Twoje dzieło szlachetne, pieśniarskie
W czułym sercu ludów nie zaginie —
Ludy pomnieć będą księżna pieśni
I nieszczęsnych wierną obrończynię.”

Параўноўваючы верш Купалы з перакладам адчуваецца аднолькавы тон, вялікую пашану вялікай паэтэсе, пяснярцы народа. Больш выразна аднак, а пры тым далікатна і паэтычна, несмяротнасць яе паэзіі атрымалася ў перакладзе, у якім захаваў перакладчык колькасць складоў у паасобных радках строф.

Леапольд Левін пераклаў яшчэ адзін верш Купалы „Касцам". Гэты пераклад розніцца ад папярэдніх большай блізкасцю да арыгінала.

„Póki pogoda sprzyja, śpiewaj, ktoś, bo czas mija,
Póki chmurzyć się strop nie zaczyna;
Pług i ziemia, i kosa — nasze piękne niebiosa —
To pociecha i radość jedyna."

Купала аб гэтым напісаў:

„Песню пей і касі, пакуль ясныя дні,
Пакуль хмараў на небе няма;
Зямля, плуг і каса — гэта наша краса,
Гэта наша пацеха адна."

Можна меркаваць, што пераклад гэтага твора быў зроблены Левіным як першы і таму ён розніцца сваёй дасканаласцю ад папярэдніх яго перакладаў.

Над вершамі Янкі Купалы працаваў таксама Богдан Жыранік. Пераклаў ён чатыры творы. Выбраў Жыранік лёгкія творы. У сваіх перакладах ён не выявіў спецыяльнага творчага мастацкага таленту. Ад аўтара арыгінала ўзяў ён не толькі форму твораў, змест, але паасобна пераклаў амаль кожнае слова. Возьмем верш Купалы п.з. „Хто ты гэткі?". Пераклад гэтага верша зроблены Жыранікам гэта — верная копія. Захаваў перакладчык колькасць складоў у радках і пабудову арыгінала:

„Ktoś ty taki?
— Swój tutejszy.
Czego chciałbyś?
— Doli lepszej."

У арыгінале тыя самы радкі гучаць даслоўна:

„Хто ты гэткі?
— Свой тутэйшы.
Чаго хочаш?
— Долі лепшай."

Б. Жыранік пераклаў лірычны твор Янкі Купалы пад загалоўкам „Чорныя вочы".

Гэты верш, просты ў сваёй канструкцыі, пераклаў Жыранік даволі проста і зразумела. Відаць тут большую творчую самастойнасць перакладчыка. Ён не толькі мяняе парадак слоў у радках, але і дадае словы. Та-

кім чынам, першыя радкі паасобных строх перакдада гучаць меладыйна, лірычна:

„Co nad noc ciemniejszego w życiu i piosence?"
„Што скажыце, цямнейшым на свеце ад ночы?"
„Co nad noc ma uroku i tajemnic więcej?"
„Што больш мае і тайнаў і мараў, як ночы?"

Больш свабодны, а пры тым удалы атрымаўся пераклад верша Купалы „Вось тут і жыві". Жыранік змяніў загаловак верша, удакладніў яго: „Ano człeku żyj..."

„Nie ma chleba, nie ma soli —
obcym w ziemi żyj,
nie ma szczęścia, nie ma doli —
ano człeku żyj!"

У Купалы:

„Няма хлеба, няма солі, —
Чужому рабі,
Няма шчасця, няма долі, —
Вось тут і жыві!"

Жыранік не стварыў новага паэтычнага твора. Змяніў ён толькі некаторыя радкі, а некаторыя пераклаў літаральна. Усё гэта, аднак, не адбірае, не зацямняе нам прыгажосці перакдада як цэласці.

Перакладамі вершаў Купалы займаўся таксама Казімеж А. Яворскі. Пераклаў ён тры творы. Яворскі выявіў у перакладах свой творчы талент. Гледзячы на яго пераклады, можна меркаваць, што зразумелай з'ўляецца яму паэзія Янкі Купалы. З яго трох перакладаў два можна палічыць амаль самастойнымі вершамі. Пераклад твора „Дыктатура працы" блізкі да арыгінала.

Яворскі захаваў пафас арыгінала. Вельмі добры, на маю думку, атрымаўся пераклад трэцяй страфы:

„Oblanych chłopską krwią i potem,
Bezprawnych ziemi posiadaczy
Ognistym sierpem swym i młotem
Wywłaszczysz, dyktaturo pracy."

У арыгінале гэтае самае гучыць так:

„Насельнікаў зямлі вячыстай,
Што звыкліся ў крыві купацца,
Сярпом і молатам агністым
Зраўнуеш, дыктатуро працы."

Вельмі добры атрымаўся пераклад верша Янкі Купалы пад загалоўкам „Бледныя будныя дні" зроблены таксама Казімежам А. Яворскім. Захаваў ён у сваім вершы-перакладзе тое, чаго перакладчыку нельга згубіць, гэ-

та значыць: форму, стыль і ідэю. Яворскі дасканала падбірае польскія словы, каб перадаць сумны настрой арыгінала.

Большасць лексікі — гэта словы, што адлюстроўваюць вобраз беднасці, нядолі і бязраднасці, хаця выступае заклік да праціўпастаўлення рэчаіснасці. Заклік больш выразна пададзены ў перакладзе Яворскага:

„Skrzypi smutno osina...
Dziad u nóg pana klęczał
    Pod batoga opieką;
Za dziadem ojciec jęczał
I takaż dola syna;
    Więc na co, wnuku, czekasz?"

Калі возьмем арыгінальную версію гэтай часткі і цэлы твор, убачым, што Яворскі з вялікім майстэрствам перадаў думку аўтара:

„Скрогат нясецца з асін...
Рабству паклоны біў дзед,
Гнуўся пад палкамі ў крук,
Бацька — за дзедам услед
З бацькам пляцецца і сын;
Ты ж кудой пойдзеш, унук?"

Пераклад атрымаўся выразны, зразумелы і пры тым не загінула яго мілагучнасць і рытміка.

Больш свабодным з'яўляецца пераклад верша „Я не паэта". К. А. Яворскі патрактаваў арыгінал як узор для напісання своеасаблівага гімна беларускага песняра. Для пацвярджэння гэтага хопіць параўнаць апошнюю страфу:

„Czas mija, człek się nie oprze chorobie
Śmierć skosi, dni niewiele zostało
Spyta przechodzień kto leży w tym grobie.
A napis powie mu: Janka Kupała."

У Купалы гэтая частка выглядае так:

„Эт, з часам людзі ўпадаюць на сіле,
Смерць, глядзі — больш крыжам стала;
Нехта спытае: хто ў гэтай магіле?
    А напіс пакажа: Янка Купала."

Перакладчык пераказаў думку аўтара дакладна і адпаведна, не парушаючы ўнутранай раўнавагі твора як цэласці.

Два творы „Na żalejce" і „W wiecznym lesie" — гэта пераклады зробленыя Северынам Палякам. У перакладзе захавана колькасць складаў у радках. Перакладчыку амаль удалося зразумець і трапна раскрыць намер, задуму аўтара. Пераклад паўстаў як аналіз таго, аб чым гаварыў Купала

„сэрца к славе рвецца“
„od sławy rwie się serce”

Адзін з лепшых твораў Янкі Купалы пераклаў Тадэуш Хрусцялеўскі. Верш-гімн, „А хто там ідзе?“ суровы і красамоўны ў арыгінале, не страціў сваіх вартасцей і ў перакладзе:

„A czegóż chcą oni swej doli na przekór,
Wpierw ślepi i głupi, wpierw niemi od wieków?
— Być ludźmi.”

У арыгінале:

„А чаго ж, чаго захацелася ім,
Пагарджаным век, ім, сляпым, глухім?
— Людзьмі звацца.“

Верш Янкі Купалы „Над магіламі“ просты ў форме і змесце пераклаў на польскую мову Еўстахій Лапскі. У перакладзе наглядаецца свабода, з якой Лапскі пераказаў нам ідэю твора.

„Śpijcie spokojnie
Mrokiem owiani
Życiem strudzeni
Losem znękani.”

Купала пісаў пра гэтае ж так:

„Спіце загнаныя
Ад сонца скрытыя
Спіце бяздольныя,
Горам забітыя!“

Пераклад, як бачым, не даслоўны, а выразна аддае нам настрой і думку аўтара арыгінала.

Ігар Сікірыцкі пераклаў верш Янкі Купалы „Мой дом“.

Перакладчык трымаецца блізка тэксту арыгінала. Удакладняе сказанае аўтарам:

„Mój dom — przestrzeni gwiezdnych dale
Obszar mierzony orła lotem
Gdzie bitwy toczą wiatrów fale
Z kosmatych chmur podniebnych splotem.”

У арыгінале:

„Мой дом — прыволле звёзднай далі,
Арламі мераны абшар
Дзе бітвы точаць ветраў хвалі
З сям'ёй глухіх калматых хмар.“

„Паліліся мае слёзы“ — верш просты, з лёгкім зместам. На польскую

мову пераклала яго Мар'я Шчэпкоўская. Найбольш удалы, на маю думку, атрымаўся пераклад трэцяй страфы:

„Polały się łzy me czyste
Na choroby, oczy szkliste
I na ślady suchot wszędzie
To, co było, jest i będzie."

У Купалы:

„Паліліся мае слёзы
На заломы, на дзярмёзы
На надломленыя грудзі
На ўсё, што было, ёсць і будзе."

Верш Купалы „Паліліся мае слёзы" выглядае як пераклічка з кароценькім вершам Адама Міцкевіча „Polały się łzy me...". Купала разбудаваў змест, але можна меркаваць, што твор Міцкевіча паслужыў яму творчым імпульсам.

Апрача прадстаўленых перакладчыкаў над вершамі Янкі Купалы працавалі: Васыль Кончаў, Мар'я Рудзінская, Яніна Бжастоўская і другія. Я прааналізавала найбольш папулярныя і вядомыя вершы паэта і тых перакладчыкаў, якія пераклалі больш чым адзін твор.

**Анна Ляшкевіч**

Аляксандр Баршчэўскі

# МІНУЛАЕ, ЯКОЕ СЛУЖЫЦЬ БУДУЧАМУ

Навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук БССР Уладзімір Казбярук нарадзіўся ў вёсцы Бандары былога Беластоцкага павета. У міжваенны перыяд вучыўся ў польскай гімназіі ў Беластоку. У час акупацыі працаваў на гаспадарцы. Пасля вызвалення ў снежні 1944 года ў рамках рэпатрыяцыі беларускага лога Беластоцкага павету. У БССР выехаў у Мінск і паступіў на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. Леніна. Закончыў універсітэт у 1949 годзе і пачаў настаўніцкую працу на Навагрудчыне. Пазней вучыўся ў аспірантуры ў Полацкім педагагічным інстытуце. Казбярук з'яўляецца аўтарам многіх літаратурных работ, звязаных галоўным чынам з беларускай літаратурай XIX ст. і пачатку XX стагоддзя.

Казбярук многа разоў прыязджаў у Польшчу. Працаваў у бібліятэках і архівах, шукаючы матэрыялаў, якія



*Уладзімір Казбярук (злева) і Алесь Баркі перад будынкам бібліятэкі Варшаўскага універсітэта ў часе кангрэсу славістаў у Варшаве.*

адносяцца да польска-беларускіх літаратурных адносін у XIX і XX ст. Знойдзеныя матэрыялы зляжыліся на цікавыя кнігі „Ступені росту" і „Паэма Якуба Коласа „Новая зямля".

Прагнучы прадставіць гэтыя кнігі нашым чытачам, звярнуліся мы да аўтара з некалькімі пытаннямі. Адказы на гэтыя пытанні памогуць нам бліжэй запазнацца з аўтарам і з яго зацікаўленнямі. З гэтай прычыны прыводзім выказванні Казберука поўнасцю:

Пытанне: Як склаўся ваш лёс пасля выезду з Польшчы ў БССР?

Адказ: Прыехаў я ў БССР у канцы снежня 1944 г. а ў студзені 1945 г. паступіў на філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Адной з прычын такога выбару была, мабыць, тая, што ў дзяцінстве я вельмі любіў чытаць кнігі і марыў пра тое, каб прачытаць іх як найбольш.

Закончыўшы ў 1949 годзе БДУ, працаваў настаўнікам на Навагрудчыне. Выкладаў ў сярэдняй школе беларускую і рускую мову і літаратуру. Потым была аспірантура, выкладчыцкая праца ў Полацкім педінстытуце імя Ф. Скарыны. З 3 лютага 1959 года я працую ў Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук БССР.

Пытанне: Назавіце прычыны, якія выклікалі ваша зацікаўленне беларуска-польскімі літаратурнымі сувязямі.

Адказ: Я заўсёды адчуваў найглыбейшую павагу да вялікай польскай літаратуры, багатай слаўнымі дэмакратычнымі традыцыямі, ідэямі барацьбы супраць нацыянальнага прыгнёту і за сацыяльнае разняволенне. Я адчуваў, што нельга па-сапраўднаму зразумець асаблівасці беларускага літаратурнага працэсу XIX — пачатку XX ст. (дакастрычніцкага перыяду), не ведаючы добра рускай і польскай літаратур. Пра гэта ўсё больш упэўнена і пераканаўча гаварылі нашы даследчыкі: С. Х. Александровіч, А. А. Лойка, А. І. Мальдзіс і іншыя.

У мяне пачалі з'яўляцца новыя назіранні і думкі. І я вырашыў заняцца паглыбленым вывучэннем гэтай праблемы. У працэсе работы я ўсё больш ясна ўсведамляў, што мы не можам уявіць сабе ступеняў росту беларускай літаратуры без яе апоры на багацейшыя традыцыі братніх славянскіх літаратур.

Пытанне: У вашай кнізе „Ступені росту" якраз і вырашаюцца гэтыя важныя праблемы. Прашу вас прадставіць гісторыю нараджэння канцэпцыі кнігі і работы над яе выкананнем?

Адказ: Пазнаёміўшыся з працамі сваіх папярэднікаў і калег, я і сам узяўся шукаць. Тыя фактары, якія звязвалі беларускую літаратуру (а лі-

таратуры ніколі не развіваюцца ізалявана) у прыватнасці з польскай. І аказалася, што такіх ніцей шмат.

Наогул для пошукаў фактаў патрэбна паўсядзённая работа ў кнігасховішчах і архівах. Неабходна шмат часу патраціць на знаёмства з перыядычным друкам. Але ўся гэтая работа прыносіць вялікую радасць, калі нешта знойдзеш. Кожны новы факт успрыймаецца як нейкая перамога. А факты адкрываюць дарогу да абагульненняў, да вывадаў.

Шмат дала мне праца ў бібліятэцы і архівах Польскай Народнай Рэспублікі ў Варшаве, Кракаве, Вроцлаве. Я з удзячнасцю ўспамінаю надзвычай ветлівых і дабразычлівых супрацоўнікаў Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве, асабліва яе рукапіснага фонда, — бібліятэку Інстытута літаратурных даследаванняў Польскай акадэміі навук і бібліятэк Варшаўскага і Ягелонскага універсітэтаў, Асалінэум у Вроцлаве і інш. Хацелася б яшчэ раз там пабываць, пашукаць дадатковых матэрыялаў.

Пытанне: Якую мэту вы ставілі перад сабой, пішучы сваю кнігу?

Адказ: Часткова я адказаў на гэтае пытанне. Мне хацелася не толькі глыбей зразумець літаратурны працэс у XIX — пачатку XX ст., але адшукаць факты, якія сведчаць пра збліжэнне дзвюх культур, аб плённасці кантактаў у мінулыя гістарычныя эпохі. Я шукаў там вытокі дружбы, якая аб'ядноўвае сёння народы краін сацыялістычнай садружнасці. Мне хацелася б, каб „Ступені росту“ з'яўляліся нейкім укладам у справу ўмацавання гэтай дружбы на сучасным этапе.

Пытанне: Ці думаеце ў будучым працягваць вывучэнне праблемы беларуска-польскіх літаратурных адносін?

Адказ: Даследаваннем гэтай праблемы я займаюся сёння і хачу займацца далей, але ўжо ў больш шырокім плане — рускага культурнага і літаратурнага супрацоўніцтва ў сучасны момант. Я стаўлю перад сабой задачу прааналізаваць паэму Якуба Коласа „Новая Зямля“ ў святле традыцый рускай і польскай эпічнай паэзіі. Хачу параўнаць яе з раманам у вершах А. С. Пушкіна „Яўгеній Анегін“ і эпапеяй А. Міцкевіча „Пан Тадэуш“. Такое даследаванне, на маю думку, дапаможа лепш зразумець значэнне коласаўскага твора ў гісторыі беларускай літаратуры, у агульнаславянскім літаратурным працэсе. І дапаможа таксама лепш зразумець ідэйнапаэтычнае багацце, асаблівасці структуры, кампазіцыі, стылю.

Пытанне: Пасля многіх год адсутнасці вы наведалі Польшчу. Якія змены кінуліся вам у вочы. Галоўным чынам цікавіць нас Беласточчына і вёска Бандары.

Адказ: Народная Польшча — гэта зусім іншы край, чым санацыйная Польшча. Усё ў ёй іншае і лепшае, чым калісьці.

Цешыць тое, што вясковая моладзь шырока выкарыстала тыя магчымасці, якія адкрыла перад ёю народная ўлада, настойліва імкнецца да навукі. Я не забуду тых вечароў у роднай вёсцы Бандары, калі мясцовыя жыхары збіраліся ў цэнтры вёскі пад ліпай або каштанам, каб не толькі пагаварыць пра ўраджай, пра нейкія чыста мясцовыя навіны, але і пра тое, што робіцца на свеце. Жыва цікавілі ўсіх падзеі ў Абісініі, Іспаніі, турбавала фашысцкая пагроза з боку Германіі, абнадзейвала суседства вялікай Савецкай краіны. У сваёй вёсцы я ўпершыню пачуў прозвішчы Пушкіна, Талстога, Дастаеўскага, Некрасава, Дабралюбава, Горкага, Багушэвіча, Купалы, Коласа, Танка і многія іншыя.

Не магу не ўспомніць і акупацыі, калі ўся мая вёска аднеслася з нянавісцю да гітлераўцаў і вялікай сімпатыяй да гераічнага змагання Чырвонай Арміі. Сімпатыі гэтыя выявіліся ў супрацоўніцтве з партызанамі, за якое многія з жыхароў Бандароў заплацілі жыццём.

Сённяшнія Бандары гэта мініяцюра тых змен, якія агарнулі ўсю Польшчу. Цяжка іх пазнаць. Так многа ў іх добрага і новага. Не магу не адзначыць і рост дабрабыту. Калі я быў у суседняй вёсцы Рыбакі, мая цётка сказала: „Да вайны, бывала, як купіш кілаграм цукру, дык не ведаеш як яго берагчы. Нават дзецям шкадавалі, а сёння — сам бачыш".

Хто гэта мог падумаць, каб у такой далёкай ад горада вёсцы, як Бандары, была электрычнасць, ды яшчэ каб туды рэгулярна ездзілі аўтобусы. Самой вёскі я не пазнаў бы, калі б апынуўся там нечакана. Амаль нічога са старых будынкаў у ёй не засталося.

Пытанне: Якія пажаданні вы хацелі б скіраваць у адрас знаёмых і незнаёмых беларусаў у Польшчы.

Адказ: Хацеў бы пажадаць ім добрых поспехаў у жыцці і працы. Заахвоціць да далейшай плённай працы ў карысць Народнай Польшчы, будовы ў ёй сацыялізма, развіцця і паглыблення дружбы, супрацоўніцтва паміж нашымі народамі і нашымі дзяржавамі.

Прыведзеныя адказы Казберука добра характарызуюць яго як чалавека і як вучонага, а таксама кідаюць святло на яго братэрскія адносіны да польскай літаратуры і культуры.

Зараз варта ахарактарызаваць дзве найважнейшыя публікацыі: „Ступені росту" і „Паэма Якуба Коласа „Новая зямля", у якіх аўтар пераканаўча даказаў, што польска-беларускія літаратурныя ўзаемасувязі гэта не пустаслоўны

заклік, але канкрэтны гістарычны факт.

Кніга „Ступені росту" складаецца з наступных раздзелаў і падраздзелаў:

Уводзіны. XIX стагоддзе. Нязведанымі шляхамі. Вытокі беларускай эпікі. Былiца і гавэнда. Канец стагоддзя. Агульныя тэндэнцыі развіцця. Беларуская тэматыка ў польскай рэалістычнай літаратуры. Эліза Ажэшка і беларускі народ.

XX стагоддзе. Шырокія гарызонты. Нацыянальныя вытокі і плённая вучоба. Творчая школа. Янка Купала і рэалістычны вопыт Марыі Канапніцкай. Узбагачэнне традыцый. Рамантычная акрыленасць літаратуры. Заключэнне.

Зразумела, што ў сваёй кнізе Казбярук у многіх выпадках займаецца тымі праблемамі, якімі ўжо цікавіліся іншыя даследчыкі. Аднак і ў такіх выпадках не паўтарае ён агульнавядомых канanізаваных сцвярджэнняў, але стараецца па-новаму пераацаніць цэннасці.

І так, у падраздзеле „Вытокі беларускай эпікі" Казбярук даказвае, што такія пісьменнікі як Ян Чачот, Ян Баршчэўскі, Аляксандр Рыпінскі належалі, па сутнасці, да польскай літаратуры. Адыгралі вялікую ролю ў развіцці беларускай пісьменнасці. Эмацыянальная сувязь гэтых пісьменнікаў з беларускай зямлёй, а таксама вернасць рамантычным прынцыпам акрэслілі іх зацікаўленне беларускім фальклорам, этнаграфіяй і побытам беларусаў. Зацікаўленасць гэта прывяла з часам да творчасці ў беларускай мове.

Даследчык адклікаецца да поглядаў выдатных польскіх гісторыкаў літаратуры Ю. Кляйнера і Ю. Кшыжаноўскага, якія, аналізуючы спецыфіку польскага рэалізму, звярталі ўвагу на яго цесную залежнасць ад беларускага і ўкраінскага фальклору. І Клейнер і Кшыжаноўскі даказвалі, што вялікія польскія рамантыкі пачалі прамаўляць „голасам люду". Людам гэтым не былі сялянскія масы з Мазоўша ці Сілезіі, а толькі сялянства з Крэсаў.

Абапіраючыся на поглядах польскіх даследчыкаў, Казбярук піша: „Польскі рамантызм убіраў у сябе багацці духоўнай культуры, якую на працягу стагоддзяў у аднолькавай ступені стварылі і сяляне і шляхецкае асяроддзе, наогул усе слаі былога Вялікага княства Літоўскага".[1])

З шырокіх зацікаўленняў рамантыкаў народнай песняй, казкай і легендай скарысталa не толькі польская літаратура, але і слаба развітая ў гэты час беларуская пісьменнасць.

Пісьменнікі, якія клалі фундамент пад беларускае літаратурнае адраджэнне, былі рамантыкамі або знаходзі-

---

Ул. Казбярук. Ступені росту. Мінск 1974, с. 13.

ліся пад рамантычнымі ўплывамі.

Усе двумоўныя пісьменнікі першай паловы XIX стагоддзя склаліся на польска-беларускую літаратурную школу. Пісьменнікі гэтыя пераносілі некаторыя ўзоры польскай літаратуры на беларускі літаратурны грунт. Казбярук пераканаўча даказвае, што адной з першых форм, перанесеных з польскай у беларускую літаратуру была гавэнда. Гэты літаратурны від у беларускай літаратуры атрымаў назву быліцы.

Галоўным стваральнікам быліц быў Вінцук Дунін-Марцінкевіч.

Казбярук крытычна ацэньвае напрамак даследаванняў беларускіх гісторыкаў літаратуры ў трыццатых, саракавых і пяцідзесятых гадах XX ст. У гэты перыяд даследчыкі беспадстаўна намагаліся даказаць, што беларуская літаратура адраджэння была выключна рэзультатам рускага ўплыву.

„У падыходзе да асвятлення праблемы вытокаў беларускай літаратуры XIX ст. у сучаснай навуцы назіраецца пэўная эвалюцыя. У 30—50-я гады даследваліся пераважна беларуска-рускія сувязі і адным толькі ўплывам рускай літаратуры тлумачыліся ўсе дасягненні беларускіх пісьменнікаў. А ўжо ў канцы 50-х і тым больш у 60-70 гадах увагу даследчыкаў пачала прыцягваць праблема беларуска-польскіх літаратурных узаемасувязей. Стала зразумела, што такія пісьменнікі як Я. Чачот, В. Дунін-Марцінкевіч і іншыя, выхоўваліся на традыцыях польскай літаратуры і што яна аказала свой уплыў на станаўленне іх светапогляду і ідэйна творчых схільнасцей“.[1])

Разглядаючы творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча Казбярук даходзіць да вываду, што спадчыну гэтага пісьменніка нельга ў ніякім выпадку звязваць выключна з польскім уплывам. Справа ў тым, што В. Дунін-Марцінкевіч вельмі шырока выкарыстоўваў беларускі фальклор, а ў паказе сялянскага жыцця, па сутнасці, апярэдзіў польскіх рамантыкаў, якія галоўным чынам паказвалі не сялянства, але асвечаныя грамадскія слаі.

Другі раздзел работы Казберука — канец стагоддзя, прысвечаны польска-беларускім літаратурным сувязям пасля Студзеньскага паўстання.

Аўтар звяртае ўвагу на значныя цяжкасці, якія спадарожнічалі развіццю беларускай літаратуры ў гэты час. Да вельмі цікавых трэба аднесці інфармацыі Казберука пра выхад у Швейцарыі польска-літоўска-беларуска-ўкраінскай газеты „Змова“. Аўтар падае многа фактаў, звязаных з дзейнасцю

---

Ул. Казбярук. Ступені росту. Мінск 1974, с. 13.

асоб, якія выдавалі гэтую газету.

Разглядаючы творчасць такіх пісьменнікаў другой паловы XIX ст. як К. Каліноўскі, Ф. Багушэвіч, Я. Лучына Казбярук, як бы насуперак сваім ранейшым дэкларацыям выразна перацэньвае ролю рускага ўплыву, выразна недацэньваючы значэнне польскага ўздзеяння на гэтых пісьменнікаў, дзеячоў. Зрэшты, гэты закід датычыць толькі ўступных тэзісаў, бо разглядаючы жыццё і дзейнасць названых пісьменнікаў, Казбярук прыводзіць вельмі многа фактаў, якія сведчаць пра сувязі Каліноўскага, Багушэвіча і Гурыновіча з польскай літаратурай і культурай.

Да вельмі цікавых належаць таксама разважанні ў трэцім падраздзеле „Беларуская тэматыка ў польскай рэалістычнай літаратуры“. Тут аўтар канцэнтруе сваю ўвагу на тых творах Элізы Ажэшка, у якіх выступаюць беларускія сяляне, беларуская вясковая праблематыка. Трэба падкрэсліць, што Казбярук вельмі часта дае арыгінальную інтэрпрэтацыю тым з'явам, якія ўжо часта былі прадметам крытычных аналізаў.

Да вельмі цікавых належаць тыя фрагменты разважанняў, у якіх Казбярук займаецца характарыстыкай адносін паміж Ажэшка і Багушэвічам.

Аўтар дасканала вылаўлівае з творчасці і ідэалогіі Ажэшка прагрэсіўнае, радыкальнае і ўмеранае — тое, што вынікала з сувязей пісьменніцы з шляхецкім класам. Несумненна праў Казбярук і там, дзе гаворыць, што Ажэшка ўплывала не толькі на беларускую літаратуру XIX ст., але і на беларускую пісьменнасць пачатку XX ст.

„Беларуская літаратура пачатку XX ст., бяспрэчна, не магла абыходзіць творчага вопыту Э. Ажэшка ў адлюстраванні жыцця беларускага народа. Але яна развівала не салідарысцкія класавыя ілюзіі пісьменніцы, не яе сацыяльныя ці палітычныя памылкі, а брала на ўзбраенне яе гуманістычны пафас, павагу да простага чалавека, імкненне да грамадскага аналізу, да мастацкага даследвання лёсу адзінкі ў грамадстве, паводзін чалавека ў залежнасці ад іншых абставін і ўмоў.“

У падраздзеле „Нацыянальныя вытокі і плённая вучоба“ Казбярук займаецца характарыстыкай беларуска-польскіх літаратурных адносін у перыяд „Нашай нівы“. Аўтар даказвае, што ў гэты час і ў асяроддзі беларускіх пісьменнікаў і ў асяроддзі беларускіх чытачоў найбольшай папулярнасцю карысталіся тыя польскія паэты і празаікі, якія сваім жыццём або творчасцю былі звязаны з Беларуссю. Да такіх, як вядома, належалі А. Міцкевіч, У. Сыракомля, Э. Ажэшка, М. Канапніцкая.

Казбярук звяртае ўвагу на тое, што творы гэтых пісьменнікаў даволі часта перакладаліся на беларускую мову і друкаваліся ў беларускай перыёдыцы.

Творчае беларуска-польскае пабрацімства праяўлялася ў тым, што многія тагачасныя польскія часопісы прыхільна пісалі аб беларускай літаратуры, культуры і фальклоры.

У далейшых падраздзелах сваёй работы Казбярук дае цікавы аналіз адносін Янкі Купалы да творчасці Марыі Канапніцкай і Адама Міцкевіча. Тут аўтар раскрывае ўплыў ідэй Канапніцкай і Міцкевіча на нашаніўскіх пісьменнікаў, і асабліва на творчасць Купалы. З другога боку займаецца разглядам перакладаў твораў польскіх паэтаў на беларускую мову. Наогул даследчык дае высокую ацэнку якасці перакладаў Янкі Купалы вершаў Канапніцкай і Міцкевіча.

Аналізуючы арыгінальную творчасць Я. Купалы, асабліва рамантычную плынь у яго спадчыне, Казбярук умела і трапна ўказвае на многія падабенствы і аналогіі з некаторымі польскімі пісьменнікамі. Пры гэтым падкрэслівае, што многія супадзенні ў стылістыцы, канфліктах і тыпах герояў не сведчаць пра аўтаматычнае пераймание або механічнае наследаванне, а толькі аб творчым выкарыстоўванні вопыту польскіх пісьменнікаў.

У суме, кніга Казберука „Ступені росту“ з'яўляецца грунтоўным і глыбокім і аб'ектыўным даследаваннем істотнай галіны польска-беларускіх культурных адносін — літаратурнага пабрацімства і ўзаемасувязей.

У нававыдадзенай кнізе „Паэма Якуба Коласа „Новая зямля“ ў святле славянскіх традыцый“ Казбярук займаецца праблемай, якая дагэтуль не была прадметам зацікаўлення з боку якогаколечы беларускага гісторыка літаратуры. Даследчык цікавіцца падабенствам паміж „Панам Тадэушам“ А. Міцкевіча і „Новай зямлёй“ Я. Коласа.

Праўда, ужо дзесяткі гадоў таму назад такія даследчыкі як Карскі, Клейнборт і многія іншыя гаварылі пра аналогіі паміж гэтымі творамі, але, па сутнасці, ніхто з іх не паспрабаваў даказаць гэта, выкарыстоўваючы стылістыку твораў, характар канфліктаў, спосаб паказу герояў і г.д. У гэтым сэнсе даследванне Казберука з'яўляецца наватарскім.

Ужо ў самай генеалогіі паэм Міцкевіча і Коласа паэт бачыць агульныя рысы:

„Ёсць агульныя асаблівасці ў творчай гісторыі „Новай зямлі“ і „Пана Тадэуша“. Сцэны і з'явы жыцця, з такім неперараўзыйдзеным майстэрствам абмаляваныя ў абедзвюх паэмах, жылі ў душы аўтараў з дзіцячых гадоў, пакідалі той ці іншы след у іх ранняй творчасці“. Казбярук

звяртае таксама ўвагу на лірызм: „Вядома, і лірызм і гумар менш за ўсё можна запазычыць. Яны выяўляюць аўтарскае бачанне падзей, звязанае з канкрэтным зместам твораў. Але лірызм у „Новай зямлі“, як і ў „Пану Тадэушу“, стварае яе „пазафабулярнае“, структурнае адзінства, выступае перш за ўсё ў лірычных адступленнях, якімі пачынаюцца многія раздзелы, і адчуваецца на працягу ўсяго твора. І перш за ўсё лірызм у паэме беларускага песняра, як і эпапеі А. Міцкевіча, звязаны з тымі з'явамі, якія ва ўспамінах і журбе становяцца тым больш блізкімі, чым на самай справе больш далёка знаходзяцца. Найглыбейшыя перспектывы выклікае родная зямля з яе непаўторнай красой і гаючай сілай, увесь лад народнага жыцця з яго звычаямі, паўсядзённым побытам і працай.

Так польскія даследчыкі пісалі пра „Пана Тадэуша“, так можна сказаць і пра „Новую зямлю“.[1])

Да агульных у паэме „Новая зямля“ і „Пан Тадэуш“ адносіць Казбярук таксама „апавядальныя інтанацыі, якія сапраўды і ў адным і ў другім творы адыгрываюць вельмі істотную ролю.

Бадай што найбольш агульнага праяўляецца ў адлюстраванні і Міцкевічам і Коласам па сутнасці адной і той самай наднёманскай прыроды. Папершае, працэнтны ўдзел прыродаапісальных сцэн у „Пану Тадэушу“ і ў „Новай зямлі“ даволі блізкія да сябе. Па-другое прыёмы апісанняў пейзажу ў паэтаў нярэдка падобныя на сябе.

Казбярук, разгадваючы функцыю прыродаапісальніцтва ў паэмах польскага і беларускага аўтараў, звяртае ўвагу на тое, што і Міцкевіч і Колас часта праводзяць паралелі паміж з'явамі ў прыродзе і лёсам выступаючых у паэме герояў.

Звяртаючы ўвагу на падабенствы паміж „Панам Тадэушам“ і „Новай зямлёй“ Казбярук гаворыць і аб розніцах паміж гэтымі творамі. Даследчык падкрэслівае, што паэмы ствараліся ў розныя гістарычныя эпохі і гэта не магло не ўплываць на розную трактоўку і герояў і ідэй.

Прадстаўленыя тут дзве работы выхадца з Беласточчыны — Уладзіміра Казберука, характарызуюць яго як чалавека горача адданага ідэі беларуска-польскага супрацоўніцтва і пабрацімства. Супрацоўніцтва гэтае не мае для Казберука характару толькі гістарычнага акту. Беларускі даследчык падыходзіць да яго як да жывога фактара, які служыць братэрству сучаснаму і будучаму нашых народаў.

**Аляксандр Баршчэўскі**

---

Ул. Казбярук. Паэма Якуба Коласа „Новая зямля“, Мінск 1979 с. 79.

# ЗА ГОДАМ ГОД



## Панарама гміны

Міхалоўская гміна знаходзіцца ва ўсходняй прыгранічнай паласе Беласточчыны. Цягнецца ўздоўж верхняга цячэння Нарвы з-пад Беластока ажно да дзяржаўнай мяжы з СССР. Цяпер яна пачынае свой поступ у сучаснасць. Адбываюцца тут сур'ёзныя пераўтварэнні ў сельскай гаспадарцы. Усё больш сялян пачынае гаспадарыць па-сучаснаму. Многія ўжо так гаспадараць. Яны ўводзяць механізацыю ў сваіх гаспадарках — карыстаюцца трактарамі і рознымі сельскагаспадарчымі машынамі. Яны таксама будуюць прасторныя аборы, хлеўні і стадолы.

У гміне пераважаюць глебы V і VI класаў, многа няўдобіцы. Аднак гэта не перашкаджае ў развіцці сучасных форм гаспадарання. Тут ёсць 1928 індывідуальных гаспадарак. Яны апрацоўваюць 16 170 гектараў зямельных угоддзяў. Атрымліваюць ураджаі чатырох асноўных збожжавых культур у сярэднім па 21 цэнтнеры з 1 гектара і бульбы — 200 цэнтнераў. Збожжамі абсяваюць звыш 6000 гектараў і бульбу садзяць на больш за 2000 гектараў.

Цяпер тут 90 спецыялістычных гаспадарак. Найбольш жывёлаводчых (пераважна гадуюць малочныя каровы і ўбойную рагатую жывёлу). Найбольш гаспадароў-спецыялістаў, якія дабіліся даволі вялікіх поспехаў у гадоўлі быдла, у вёсках: Казімярова, Пянькі, Новая Воля, Юшкавы Груд і Бандары. Бульбу (у тым ліку, што важна, таксама насенную) з добрымі вынікамі вырошчваюць спецыялістычныя гаспадаркі ў Шымках, Лявонавічах, Залешанах і Навасадах. Агародніцтва развіваецца на базе існуючых гэтага тыпу гаспадарках у Пяньках і Казімярове. Нешматлікія гаспадаркі спецыялізуюцца ў свінагадоўлі, авечкагадоўлі, пчалаводстве і ў вырошчванні грыбоў-шампіньёнаў.

Найбольш і найлепш развіты напрамак спецыялізацыі — гадоўля малочнага быдла — дазваляе на рацыянальнае выкарыстанне значных тут абшараў зялёных угоддзяў: сенажацяў і пашы. Зялёныя ўгоддзі — адно з мясцовых натуральных багаццяў. Яны складаюць больш 30 працэнтаў усіх сельскагаспадарчых абшараў. У прадажы малака сяляне Міхалоўскай гміны займаюць чацвёртае месца ў Беластоцкім ваяводстве. Найбольш яго прадаюць: Яўтен Грыка з Азяблаў — 54 500 літраў у год (у яго 27



*Міхалова.*

штук быдла, у тым ліку чатырнаццаць дойных кароў; поўнасцю механізаваная абора; прадаў ён у 1979 годзе дзяржаве ўсіх сельскагаспадарчых пладоў на суму 750 тысяч злотых), Іван Казбярук з Пянькоў (ён займаецца гадоўляй кароў 10 гадоў і цяпер кожны дзень дастаўляе на пункт скупкі 140 літраў малака), Іосіф Казбярук з Юшкавага Груда, Валянціна Варона з Кабылянкі, Аляксандр Грэсь з Пянькоў, Генрык Гансоўскі з Казімярова. Паспяхова развіваюць гадоўлю малочнай жывёлы і свіней Іван Тарасевіч з Пянькоў, Фёдар Міруць з Бандароў, Мікалай Серада і Сцяпан Філіпчук — абодва з Новай Волі. Вырошчваннем шампіньёнаў-пячарак займаецца і мае ў гэтым добрыя вынікі Тамара Кулеша з Лясанкі пад Міхаловам. Добрых гаспадароў прыбывае. З году ў год павялічваецца сельскагаспадарчая вытворчасць. Сяляне купляюць з дзяржаўнага фонду зямлі больш 100 гектараў зямельных угоддзяў у год. Напрыклад, у 1979 годзе купілі з ПФЗ 111 га. Будуюць і мадэрнізуюць інвентарскія будынкі. На працягу двух апошніх гадоў яны пабудавалі семнаццаць абораў для кароў і хлеўняў для свіней і мадэрнізавалі дзесяць кароўнікаў. Спулдзельчы банк у Міхалове прыдзяляе ў сярэднім па 4,5 млн. злотых інвестыцыйнага крэдыту ў год.

Міхалоўскай гміне даводзіцца пачынаць свой поступ у сучаснасць са шмат ніжэйшага ўзроўню, чымсьці, напрыклад, у Ма-

нецкай або Кнышынскай гмінах. Ад вякоў людзі жылі тут бедна. Зямля ніколі не давала сялянам аніякай гарантыі, што могуць яны вырвацца з бяды і нястачы. Таму без жалю пакідалі яе. Асабліва тады, калі горад адкрыў болей заманлівыя жыццёвыя перспектывы. Адносіцца гэта асабліва да моладзі, да пасляваеннага пакалення. У выніку гэтага, вядома, пастаянна накапляўся дзяржаўны фонд зямлі, якая найчасцей не была добра выкарыстана. Цяпер гэтую зямлю перадалі ПГРу. Каля чатырох тысяч гектараў. І гэта толькі пачатак, бо ў Міхалоўскай гміне многім сялянам пара на пенсію. І гэтак, у недалёкай будучыні ПГРаўская маёмасць разрасцецца.

ПГР не мае яшчэ адпаведных умоў для развіцця жывёлагадоўлі. Трэба будаваць кароўнікі, свінарнікі, аўчарні, мяшальні пашаў, сушыльні збожжа, збожжавыя элеватары. У планах міхалоўскага сельскагаспадарчага камбіната — жывёлаводства і садаводства. Ён зараз заманлівы шанц для моладзі, падрыхтаванай да працы ў сельскай гаспадарцы. Сельскагаспадарчая прадукцыйная спулдзельня (РСП) у Кандратках гаспадарыць у асноўным на зямлі V і VI класаў. Але выкарыстоўвае яе вельмі добра. Хаця на няўдобіцах, вядома, даводзіцца нялёгка. На гэтых пясках засявае розныя травы, лубін. Пад іх высявае значную колькасць мінеральных угнаенняў. Плён — аддача пераважна добрая. Цяпер РСП мае ў сваім уладанні 800 гектараў у асноўным з дзяржаўнага фонду зямлі. Збірае ў сярэднім ураджай збожжавых культур большы, чым індывідуальныя гаспадары. Бывала нават 26 цэнтнераў збожжа з кожнага гектара зямельных угоддзяў. Спулдзельня выконвае таксама заказы на паслугі ў час тэрміновых палявых работ — жніва і бульбакапання — для мясцовых аднаасобных сялян.

Кандратаўскі РСП будуе аўчарню для 500 авечак і пачаў гадаваць карпаў у сажалках. Жывёлагадоўля тут з году ў год павялічваецца.

Кааператыў мае дасягненні ў будаўніцтве жылых дамоў.



З агульнага ліку ўсяго насельніцтва Міхалоўскай гміны (тут пражывае 10 236 чалавек) у аграмаднай гаспадарцы працуе 1 795 чалавек, з таго ліку ў прамысловасці працуе 553, у сельскай гаспадарцы і лясніцтве — 632, у гандлі — 158, у асвеце і выхаванні — 140, у службе здароўя і грамадскай апецы — 75 і ў транспарце і сувязі — 43. Сельскай гаспадаркай займаецца каля 6 260 чалавек, г.зн. 61,3% агульнай колькасці насельніцтва. Лік індывідуальных гаспадарак паводле чэрвенскага перапісу 1979 года складае 1928.

У 1980 годзе ў межах гміны плошча зямельных угоддзяў зменшылася на 1,1%, між іншым, у сувязі з пабудовай вадасховішча, пад якое прадназначылі 244 гектары. Прадбачваецца, што пра-

цэс здавання зямлі ў дзяржаўны фонд зямлі будзе змяншацца ў параўнанні да мінулых гадоў. У 1980 г. у замену за пенсіі сяляне здалі 70 гаспадарак (іх агульная плошча 324 га) і плошча ПФЗ павялічылася да 1390 га. З гэтай колькасці міхалоўскі сельскагаспадарчы камбінат узяў каля 400 га, сельскагаспадарчая прадукцыйная спулдзельня ў Кандратках — 120 га, СКР — 10 га і індывідуальныя сяляне купілі 100 га. На 139 гектарах кепскай зямлі пасадзілі лес.

У мінулым годзе правялі сцаленні зямельных угоддзяў у вёсках: Кітурыкі, Ганчары, Кандраткі, Тайніца Малая і Тайніца Вялікая. Падрыхтавалі планы абмену зямлёю ў Баршчэве, Плянтах, Аднозе, Сушчы і Бяндзюзе.

У мінулым годзе пасяўная плошча склала 12 950 гектараў, з таго ліку ў індывідуальнай гаспадарцы — 7800 га. У структуры пасеваў пераважаюць збожжавыя культуры і бульба. Арэал пшаніцы павялічыўся да 67 гектараў і ячменю — да 260 га. Тры пакосы травы касілі з плошчы 1370 га. На зіму нарыхтавалі 4 500 тон квашанак. Сяляне абмянялі 160 тон пасяўнога насення аўса, 40 тон ячменю і 4 тоны яравой пшаніцы.

На зямельныя ўгоддзі хлебаробы падсеялі 1950 тон НПК у чыстым рэчыве, г. зн. па 140 кілаграмаў НПК на 1 га. Пабудавалі дзесяць праязных сіласаў (квашанкі — асноўная форма кансервацыі пашаў). Найбольш квашанак робяць сяляне з Казімярова, Пянькоў і Юшкавага Груда. У 1980 годзе колькасць іх значна павялічылі земляробы з Шымкаў, Навасадаў, Залешанаў, Кухмоў,Ціванюкоў, Гвознае і Патокі. Найбольш кукурузы сабралі ў Казімярове, Пяньках і Новай Волі.

У гміне значныя плошчы зялёных угоддзяў — аж 8 560 га. Дзякуючы ім можа развівацца жывёлагадоўля. У мінулым годзе да далейшай гадоўлі сяляне купілі 520 цялят высокаякаснай пароды нцб. Авечкагадоўляй займаюцца СКР у Міхалове (спулдзельня сельгасгурткоў мае сучасную ферму) і РСП у Кандратках. Дзяржаўная і спулдзельчая гаспадаркі (у іх уладанні 7 000 гектараў зямельных угоддзяў) не займаюцца аднак свінагадоўляй.

У 1980 годзе прыбыло 26 спецыялістычных гаспадарак, у тым ліку ў жывёлагадоўлі 15 і ў раслiннай прадукцыі — 11. Зараз існуе 115 спецыялістычных гаспадарак. Казімярова стала спецыялістычнай вёскай. На працягу 1978-1980 гадоў курсы на званне кваліфікаванага гаспадара закончыла 390 чалавек.

У 1980 годзе пабудавалі восем інвентарскіх будынкаў на 120 месц для кароў і адзін свінарнік на 200 месц. Апрача таго сяляне закончылі пабудову чатырох стадолаў. Яны мадэрнізавалі аборы і хлеўні ў Патоцы, Кабылянцы, Юшкавым Грудзе, Ціванюках, Тайніцы Малой, Казімярове і Гвознай.

*

У мінулым годзе ў Міхалоўскай гміне закончылі рамонт гмін-



*Гмах Агульнаадукацыйнага ліцэя ў Міхалове. Фота Р. Сенька.*

нага асяродка здароўя. Галоўныя вуліцы мястэчка атрымалі новае электрычнае асвятленне. Мадэрнізавалі прадпрыемства ваўнянай прамысловасці. Механізавалі тарфяное прадпрыемства ў Імшары. Закончылі гаспадарчым спосабам пабудову інтэрната для вучняў комплекса прафесіянальных школ у Міхалове. Будуюць аўчарню для сельскагаспадарчай прадукцыйнай спулдзельні ў Кандратках. Міхалоўскі сельскагаспадарчы камбінат пабудуе ферму для букатаў каля вёскі Пяньні. Непадалёку ад яе пачнецца пабудова сушыльні кармоў. Міхалова будзе мець ачышчальню сцёкавых вод.

У гміне 210 кіламетраў дарог, у тым ліку грунтовыя дарогі складаюць 183 км. У 1980 годзе ў грамадскім пачыне адрамантавалі дарогі з Навасадаў у Цісоўку, з Навасадаў у Залешане і вуліцу ў Круглым Ляску. У тым жа годзе ў Міхалове адкрылі стаматалагічны кабінет і малочны бар у мясцовым рэстаране. У Бандарах закончылі пабудову стражацкай рамізы. У 1981 годзе пачнецца пабудова прадшколля ў Міхалове.

У мінулым годзе насельніцтва гміны выканала грамадскіх пачынаў на суму 6,6 млн. злотых. Найбольш пры пабудове мясцовых дарог, пасадцы дрэў пры дарогах і пасадцы лесу, пры пабудове памяшкання гміннага ўпраўлення, стражацкай рамізы ў

Бандарах, пачакальняў на аўтобусных прыпынках ПКС у Пяньках, Азяблах, Бахурах і Тапалянах.

У Міхалове ідзе перабудова і разбудова мястэчка. Растуць новыя жыллёвыя пасёлкі. Адным з іх з'яўляецца жыллёвы пасёлак для работнікаў ПГР. Ужо пабудавалі шэсць будынкаў. Кожны з іх на пятнаццаць кватэр. У 1980 годзе ключы да ўласных кватэр атрымала шэсцьдзесят сем'яў. Трыццаць іх атрымае кватэры ў пачатку 1981 года. У бліжэйшыя гады гэты пасёлак будзе разбудаваны.

Хутка расце другі, спулдзельчы жыллёвы пасёлак. У двух будынках жыве 54 сем'і. Будуюць 24 кватэры ў чарговым гмаху. Усе яны ў раёне вуліц Фабрычнай, Беластоцкай і Сянкевіча.

За апошнія два гады жыхары Міхалова пабудавалі больш дваццаці аднасямейных дамоў і столькі ж з іх атрымалі дазвол на пабудову. Цяпер ужо раздзелены ўсе пляцы пад аднасямейнае будаўніцтва.

Мястэчка затрачвае свой вясковы характар. Штораз менш у ім селянковага пейзажу. Крыху шкада, але ж жыццё павінна ісці наперад...

*

Малачарскае прадпрыемства ў Міхалове мадэрнізавалася. Перабудавалі халадзільнае абсталяванне, пабудавалі новую кацельную, навейшае абсталяванне атрымала казеінярня і тварожная.

Малачарня выпускае клінковы сыр (тлусты і смачны), якраз такі, які робяць вясковыя гаспадыні. Яго мігам раскупляюць у спажывецкіх крамах і ў Беластоку, і ў Міхалове. Прадпрыемства дае гэтага смакавітага сыра 2,5 тоны ў суткі.

Кіраўніцтва Ваяводскай малачарскай спулдзельні ў Беластоку высока ацаніла смакавітыя якасці клінковага сыра і ўзнагародзіла міхалоўскае малачарскае прадпрыемства спецыяльнай граматай. Але найбольшая ўзнагарода — гэта тое, што людзі ўміг расхапляюць міхалоўскі прысмак.

*

У Міхалоўскай гміне партыйныя арганізацыі павялічыліся на восемдзесят чалавек. Цяпер гмінная партарганізацыя налічвае больш за 700 членаў і кандыдатаў, згуртаваных у 42 пярвічных партыйных арганізацыях (ПОП). Сяляне і рабочыя ў саставе арганізацыі складаюць 77 працэнтаў. Найбольш колькасна павялічыліся партарганізацыі ў сельскагаспадарчым камбінаце і спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў — па дзевяць асоб, на прадпрыемстве тарфяной прадукцыі ў Імшары — на сем асоб, ПОП у Пяньках і Юшкавым Грудзе — па пяць асоб і крыху менш у ПОП пры Агульнаадукацыйным ліцэі ў Міхалове і ПОП у Саколлі. У гэтых арганізацыях адказныя, дзелавітыя сакратары, энергічныя, з арганізатарскімі здольнасцямі людзі.

У грамадскіх пачынах найлепшымі былі ПОП пры гмінным

упраўленні, на пастарунку МО, пры ГСе, сельскагаспадарчай прадукцыйнай спулдзельні ў Кандратках, у вёсках Бахуры, Пянькі, Сушча і іншых.

У розных формах партыйнай вучобы ўдзельнічала 680 членаў і кандыдатаў партыі і больш 300 беспартыйных. У Міхалове працуе філіял Вячэрняга універсітэта марксізму-ленінізму, у занятках якога ўдзельнічае 50 чалавек. У гміне дзейнічае сем школ грамадска-палітычнага абучэння жанчын. Заняткі закончыла больш за 250 жанчын. Гэтая форма адукацыі карыстаецца вялікім зацікаўленнем перш за ўсё ў вясковым асяроддзі. Удзельнічае ў занятках усё большая колькасць жанчын. У арганізацыі і ў вядзенні школ дапамагаюць розныя ўстановы. Усе яны звязаны з сельскай гаспадаркай. Тэмы заняткаў: грамадска-гаспадарчае развіццё Беластоцкага ваяводства, роля і заданні сялянскага самакіравання ў актывізацыі вёскі, роля гурткоў вясковых гаспадыняў (КГВ) у развіцці сучаснай сельскай гаспадаркі і ў паляпшэнні ўмоў жыцця на вёсцы, папулярызацыя рацыянальнага харчавання сям'і, выкарыстоўванне прадукцыйных рэзерваў і іншыя, напрыклад, правілы гаспадарання зямлёй. Іх вядуць сакратары гміннага камітэта ПАРП, начальнік гміны, кіраўнік гміннай сельскагаспадарчай службы, дырэктар гмінных школ, дырэктар СКР, дырэктар спулдзельчага банку, работнікі малачарскай спулдзельні, лекары і іншыя прадстаўнікі гмінных і ваяводскіх устаноў.

Веды з розных галін сучаснага жыцця, здабытыя ў школе палітычнага абучэння, прыдадуцца жанчынам у іх далейшай грамадскай дзейнасці ў КГВ і ў штодзённым жыцці.



Жанчынам у многім дапамагае асяродак „Сучасная гаспадыня", якая ўжо 15 гадоў існуе ў Міхалове. Яго дзейнасцю кіруе дзевяць год Марыя Байгус. Яна арганізуе курсы: кулінарныя, кравецкія, рацыянальнага харчавання. Вядзе заняткі на выбраныя тэмы ў рамках школы грамадска-палітычнага абучэння вясковых жанчын. Праводзіліся яны ў Міхалове, Шымках, Ялоўцы, Кухмах, Пяньках, Навасадах і Новай Волі.

У асяродку адбываюцца заняткі для маладых дзяўчат у гуртку „Маладой гаспадыні", якія наведвае 50 асоб. Дзяўчаты (пераважна школьніцы) вучацца варыць і пячы, вязаць на прутках і кручком. Дзейнічаюць таксама дзіцячыя калектывы: музычны, танцавальна-балетны і пластычны. Усе яны карыстаюцца вялікім зацікаўленнем у дзяцей. Выстаўкі, напрыклад, малюнкаў і рысункаў захапляючыя. Якімі намаганнямі і пачуццём яны здабываюцца — гэта іншая справа. Лічыцца перш за ўсё стваральная праца, заахвочванне, але і заангажаванне. Важна, каб дзеці і моладзь развівалі свае здольнасці і зацікаўленні. Ды ў раннія гады. Важна, калі ёсць каму іх заўважыць і ўмела накіраваць.



*Вясковы дом гандлёвы ў Міхалове.*

У асяродку можна зрабіць сабе модную прычоску, зацыраваць панчохі, здаць вопратку ў хімчыстку, здаць для рамонту радыёпрыёмнік і тэлевізар, пазычыць на веселле, хрысціны ці іншую вялікую сямейную ўрачыстасць настольны і кухонны посуд.

З дапамогай СКРу і зборнай гміннай школы асяродак „Сучасная гаспадыня" арганізаваў тры вясковыя дзяцінцы на час тэрміновых работ у полі. Восемдзесят дзяцей скарыстала з іх у Міхалове, Юшкавым Грудзе і Ялоўцы.

Пятнаццаць гурткоў удзельнічала ў конкурсах „Больш малака высокай якасці" і „Букет агароднiны, садавіны і кветак". Добрых вынікаў у іх дабіўся гурток з Пянькоў.

Міхалоўскі асяродак „Сучасная гаспадыня" многа дапамагае вясковым жанчынам. За добрую працу ён узнагароджваўся Ваяводскім саюзам сельскагаспадарчых спулдзельняў „Сялянская самадапамога".

*

Гмінная арганізацыя Саюза сацыялістычнай польскай моладзі ў Міхалоўскай гміне налічвае 530 членаў. Найбольш актыўна працуе моладзь у Саколлі (тут старшынствуе Андрэй Каспяровіч), Навасадах (старшыня гуртка ЗСМП Ніна Павільч), пры аддзяленні вопраткавага прадпрыемства „Бельпо" (старшыня Марыя

Базылюк), сельскагаспадарчым камбінаце (гэты гурток узначальвае Эдвард Альшэўскі) і гмінным асяродку культуры (старшыня Рышард Дамброўскі) — усе яны ў Міхалове. Моладзь гэтых гурткоў актыўна ўдзельнічала ў пабудове мясцовых дарог, у маладзёжных акцыях: „Кожны колас на вагу золата", „Збіраем плады восені" і іншых. Дапамагала яна індывідуальным пажылым гаспадарам і ўдовам пры ўборцы збожжа і бульбы. Садзіла дрэўцы на падворку базы сельскагаспадарчага прадукцыйнага кааператыва ў Кандратках і ружы на скверы ў Міхалове. У Жэдні пабудавала спортпляцоўку.

Многія ЗСМПоўцы — маладыя гаспадары — абавязаліся дадаткова выгадаваць па некалькі дзесяткаў авечак, кормнікаў і быдла.

Удзельнічалі яны ў алімпіядах ведаў на тэму „Польская Аб'яднаная Рабочая Партыя — яе традыцыі і сучаснасць."

У краёвым з'ездзе ЗСМП удзельнічалі дэлегаты з Міхалоўскай гміны Барбара Пахольская з Саколля і Уладзімір Азябла з Пянькоў.

Моладзь з Саколля актыўна працуе ў клубе прэсы і кніжкі (ён адзін з лепшых у Беластоцкім ваяводстве). У гэтым асаблівая заслуга Рамана Каспяровіча, Андрэя Каспяровіча, Яна Ражко, Варвары Пахольскай, Багдана Каранкевіча, Яўгена Паплаўскага, Антона Сахарэвіча і іншых.



З кожным годам растуць культурныя патрэбы жыхароў Міхалоўскай гміны. Ёсць попыт на кніжку, газету і часопіс. У гміне існуе гмінная бібліятэка, тры філіялы: у Юшкавым Грудзе, Шымках і Ялоўцы ды восем бібліятэчных пунктаў. Міхалоўская бібліятэка знаходзіцца ў Доме культуры. Яна адна з лепшых у ваяводстве. Бібліятэку ўзначальвае Ніна Тарасевіч (у яе багаты працоўны вопыт). У прыемна абсталяванай чытальні ёсць каля трыццаці загалоўкаў краёвых і замежных газет і часопісаў. У цэлай гміне пастаяннымі чытачамі з'яўляецца больш дзвюх тысяч асоб. Добрых вынікаў у чытальніцтве па-за Міхаловам дабіліся філіял у Юшкавым Грудзе і бібліятэчны пункт у клубе селяніна ў Новай Волі. Адбываюцца карысныя змены ў зацікаўленнях чытачоў, напрыклад, ёсць запатрабаванне на навукова-папулярную і грамадска-палітычную літаратуру, а таксама на кніжкі, звязаныя з сучаснай тэхнікай.

У чытальнях частымі наведвальнікамі з'яўляюцца перш за ўсё перадавікі вучобы з розных школ. Тут яны маюць пад рукой энцыклапедыі, слоўнікі, навуковую літаратуру. У моладзі ў вялікай пашане перш за ўсё маладзёжная літаратура, літаратура класікаў, ваенныя і сенсацыйныя кніжкі, сучасная белетрыстыка і тэхнічная літаратура.

Бібліятэка арганізуе розныя чытальніцкія конкурсы, у тым лі-

ку і беларускай літаратуры, напрыклад, „Праца і барацьба беларускага народа на працягу 60 год у беларускай савецкай літаратуры“, „35 год перамогі над фашызмам“, „Ці ведаем творчасць беластоцкіх пісьменнікаў?“ (у конкурсе ўведзены прозвішчы і кніжкі пішучых на беларускай мове „белавежцаў“). Конкурс сельскагаспадарчых ведаў меў уплыў на высокае зацікаўленне сельскагаспадарчай літаратурай. Таму бібліятэка значна павялічыла кнігазборы новымі выданнямі па сельскай гаспадарцы.

*

Вёска актыўная ў галіне культуры.

Паўз маляўнічую вёску Саколле ў Міхалоўскай гміне пралягла чыгунка, крыху далей знаходзіцца шаша з Беластока ў Міхалова і навокал зялёнае мора Кнышынскай пушчы. Гэта вядомая грыбная ваколіца. У Саколлі жыве трыста жыхароў.

— Мы вельмі хацелі мець у сябе школу і святліцу, — успамінае пажылы сакальчанін. — Помню, хадзілі ад хаты да хаты, збіралі грошы. Іншыя прапанавалі будаўнічыя матэрыялы. Будавалі ў грамадскім пачыне. Урачыстае адкрыццё адбылося ў 1937 годзе. Ужо тады пачалі працаваць два аматарскія тэатральныя калектывы. Яны ездзілі з выступленнямі ў Міхалова, Гарадок і іншыя навакольныя вёскі. Мабыць, характэрнай рысай тутэйшых жыхароў з'яўляецца імкненне да мастацкай самадзейнасці. Усе асабліва дбалі пра школу і святліцу, бо ў ёй усё было зроблена ўласнымі рукамі. А гэта, вядома ж, найбольш цэніцца. Мы ганарымся і цешымся, што моладзь не растраціла нашую працу. Яна заснавала не толькі тэатральны калектыў. Цяпер у Саколлі актыўна дзейнічае 32-асабовая маладзёжная арганізацыя ЗСМП. Яна — сапраўдны гаспадар клуба прэсы і кніжкі. Дзяўчаты і юнакі, калі толькі трэба, самі рамантуюць у ім столікі, крэслы, столь або дзверы. Самі наводзяць парадак на падворку. У клубе на сценах і на століках заўсёды кветкі. На электралямпачках абажуры з бярозавай кары, на вокнах каляровыя заслоны. Тут багата клубнага абсталявання. Купілі яго за ўзнагароды за ўдзел у конкурсе на арганізаванне вялікіх удалых культурных мерапрыемстваў і за грошы, якія зарабілі пры пасадцы і прачысцы лесу або арганізацыі кулікаў па пушчы для работнікаў беластоцкіх прадпрыемстваў.

У клубе „Рух“ адбываюцца сустрэчы з людзьмі цікавых прафесій. У клубнай хроніцы, багата ілюстраванай здымкамі, знаходзім запіскі, што ў Саколлі выступалі акцёры беластоцкага тэатра, квартэт „Бэльтона“, Ганка Бяліцкая і Станіслаў Мікульскі. Што саколеўскія самадзейнікі выступаюць у Беластоку, Міхалове, Угове і Клепачах. У аматарскім тэатральным калектыве з запалам дзейнічаюць Анна Антончык, Юрка Яроцкі, Янка Каспяровіч, Ева Паплаўская, Анна Дзмітрук, Славамір Амбражэй, Янка Рошка, Багдан Паплаўскі, Міраслаў Казлоўскі і іншыя. Мо-

ладзь ставіла „Канапельку“ Эдварда Рэдлінскага і іншыя п'есы. Заснавала клуб любіцеляў тэатра. За выдатныя вынікі ў папулярызацыі тэатральнага мастацтва атрымала дыплом міністра культуры і мастацтва. Сакольская моладзь умела карыстае з тэлеперадач. Пасля цікавейшага спектакля арганізуе дыскусію. Тут можна пачуць і арыгінальныя выказванні. Дзеці таксама маюць свае вечарыны казак. Працуе школьны лялечны тэатр.

— Абсталявалі мы дыскатэку на ўзор гарадскіх, — кажа Андрэй Каспяровіч, старшыня гуртка ЗСМП. — Цудоўнае ілюмінацыйнае абсталяванне яе зрабіў наш энтузіяст грамадскіх пачынаў Юзэф Грыка. Змайстраваў ён таксама кансалету. Танцавальныя і іншыя таварыскія вечарыны спалучаем з рознымі конкурсамі і мастацкімі праграмамі. Штогод арганізуем навагоднія балы, „андрэйкавыя варожбы“, развітальныя вечарыны з навабранцамі. Запрашаем да сябе моладзь з Беластока.

Не злічыць усіх дасягненняў гэтага сімпатычнага клуба і яго гаспадароў. З году ў год ён займае першыя месцы ў конкурсе на найлепшы вясковы клуб. У конкурсе „Вёска актыўная ў культурным жыцці“ атрымаў адну з большых узнагарод, якія атрымоўвалі дагэтуль — 100 тысяч злотых. За яе купілі мэблю, кінаапарат, касеты з запісамі сучаснай музыкі. Гурток ЗСМП таксама быў узнагароджаны найвышэйшым маладзёжным адзначэннем — залатой адзнакай імя Янкі Красіцкага.

У сакальчан многа цікавых ініцыятываў. Яны арганізавалі тэатр пры каве (гэта новая форма дзейнасці драмгурткоўцаў). Працуе ён пад кіраўніцтвам Барбары Пахольскай. Ставіць на сцэне сучасны рэпертуар. Гэта вельмі цікавы і карысны занятак для кожнага. У рамках гэтага тэатра кожны можа выявіць свае здольнасці як рэжысёр, акцёр і сцэнограф. Кожны мае для сябе занятак. Заманлівая справа для маладых людзей!

І апошняе. Дзяўчаты і хлопцы адрамантавалі мясцовыя дарогі, давялі да канца справу пабудовы новага электрычнага асвятлення вясковай вуліцы, купілі аднолькавую нумарацыю на ўсе дамы ў вёсцы. Тутэйшая моладзь добра ведае, што толькі ад іх, маладых, залежыць ці будзе больш культурна і лепш жылося ў сяле.



Солтыс — важная і адказная грамадская роля. Солтыса называюць начальнікам вёскі. Ён адстойвае ў гмінным упраўленні, у ваяводскіх улад і ў розных іншых установах інтарэсы сваёй вёскі. Ён склікае сходы, на якіх разам з аднавяскоўцамі абмяркоўвае і вырашае ўсялякія справы, хвалюючыя асяроддзе. Гэта ад солтыса залежыць у вялікай ступені выгляд вёскі, яе грамадская дзейнасць, паспяховае выкананне гаспадарчых заданняў. Яму давяраюць. Але прызнанне ў людзей трэба здабыць.

Найлепшымі солтысамі ў Міхалоўскай гміне з'яўляюцца Аляк-



*Новая Воля — адна з большых вёсак у Міхалоўскай гміне.*

сандр Грэсь з Пянькоў, Уладзіслаў Андрушкевіч з Адногі, Мікалай Хлябіч з Бандароў, Станіслаў Гудэль з Ялоўкі, Ян Каласоўскі з Гвознай, Уладзімір Клімюк з Цісоўкі і іншыя. Дзякуючы іх ініцыятывам і арганізатарскім здольнасцям гэтыя вёскі сталі перадавымі ў выконванні грамадскіх пачынаў і розных абавязацельстваў. І так, пяньказоўцы гуртам адрамантавалі дарогу з іх вёскі да шашы з Беластока ў Ялоўку. Выканалі яны грамадскі пачын агульнай вартасцю больш за 400 тысяч злотых. Сяляне з Бандароў грамадою добраўпарадкавалі пляцоўку перад спажывецка-прамысловай крамай, загаспадарылі ўсе аблагі і навялі парадак на сваіх падворках. Жыхары Адногі мадэрнізавалі 2 кіламетры дарогі на адрэзку Мацейкава Гара — Круглы Лясок. Сяляне з Гвознай навазілі жвіру ды пяску, распляптавалі яго і выкапалі равы паабапал дарогі з Гвознай у Патоку. Жыхары Ялоўкі адрамантавалі дзве вуліцы Зарэчную і Рынак. Цісаўчане зрабілі рамонт дарогі з Цісоўкі ў Навасады, што каля Ялоўкі.

Гэтыя солтысы найлепш дбаюць пра выконванне планаў кантрактацыі сельскагаспадарчай прадукцыі, куплі мінеральных угнаенняў, тэрміновае аплочванне падаткаў, зборку грошай на Нацыянальны фонд аховы здароўя, эстэтыку вёсак і мясцовыя дарогі. У гэтых вёсках солтысы супрацоўнічаюць з усімі грамадскімі і палітычнымі арганізацыямі, якія там дзейнічаюць. Шэраг солтысаў узнагароджаны адзнакамі „Заслужаны для Беласточчыны". Ці заслужана?

Заглянем ў Бандары. Мікалай Хлябіч з'яўляецца тут шматгадовым солтысам. Больш 20 гадоў. Грамадская праца пачалася там ад рамонту дарог. І зроблена многа карыснага. Перш за ўсё жвіровыя дарогі з Бандароў у Рыбакі, з Рыбакоў у Боўтрыкі і ў Рудню. Супольная праца для агульнага дабра з'яднала людзей. Разбудавалі школу (дабудавалі два класы, настаўніцкі пакой і калідор), пабудавалі новы жылы будынак для настаўнікаў і вялікі вясковы гандлёвы дом. Не так проста мабілізаваць сялян на грамадскі пачын, калі тыя маюць поўна работы на сваіх гаспадарках. У вольныя дні і нядзелі замест адпачынку яны ішлі працаваць. Зрабілі адно — пачыналі другое, і так увесь час.

Мікалай Хлябіч — не толькі адзін з лепшых солтысаў. Ён добры гаспадар, актыўны член мясцовай партыйнай арганізацыі, старшыня гуртка Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Якраз гэты гурток з'яўляецца арганізатарам традыцыйнага фэстына БГКТ, які рэгулярна адбываецца штогод у першую нядзелю ліпеня. Фэстын заўсёды праходзіць на высокім узроўні.

Варта дадаць, што ў Міхалоўскай гміне актыўнейшыя гурткі БГКТ дзейнічаюць у Рыбаках, Міхалове, Пяньках і Новай Волі. У Новай Волі існуе аматарскі харавы калектыў. Удзельнічае ён у конкурсах беларускай песні і выконвае беларускія народныя песні. На асаблівую ўвагу тут заслугоўваюць Клаўдзія Домань і Марыя Сак (гэты дуэт заняў першае месца ў катэгорыі фальклорнай песні ў конкурсе „Беларуская песня-80“), Анна Кузьміцкая, Раіса Буйко і Анна Грыка.

Жыхары Міхалоўскай гміны, члены палітычных і грамадскіх арганізацый, у тым ліку і БГКТ, выканалі каштоўныя грамадскія пачыны. На суму 6 мільёнаў 100 тысяч злотых. Пабудавалі даязныя дарогі да лугоў і сенажацяў, рамантавалі мясцовыя дарогі, пракладалі тратуары, садзілі дрэўцы паабапал дарог і каля святліцаў, садзілі лес.

У Кандратках пабудавалі тратуары, пасадзілі дрэўцы і дэкаратыўныя кустарнікі, пабудавалі і абсталявалі пляцоўку для дзіцячых гульняў. Сяляне з Патокі адрамантавалі найгоршы адрэзак дарогі са сваёй вёскі ў Геранімова. Сяляне з Шымкаў адрамантавалі вуліцу ў вёсцы, ды дарогі ў Залешаны і з сяла да сенажацяў. Тыльвічане мадэрнізавалі паўкіламетровы адрэзак дарогі за вёскай. Жыхары Масціскаў адрамантавалі вуліцу ў вёсцы і дарогі да сенажацяў і ў лес. Тапалянцы адрамантавалі стражацкую рамізу, а азяблаўцы — святліцу. У Юшкавым Грудзе добраўпарадкавалі дарогу са свайго сяла ў Тайніцу і грунтовую дарогу да сенажацяў. Дарогі да лугоў і сенажацяў навязлі пяском ды жвірам і выраўнялі яго сяляне з Сушчы і Ціванюкоў. У вёсцы Сушча пабудавалі пачакальню на аўтобусным прыпынку ПКС. Сяляне з Тайніцы пабудавалі жвіровыя даязныя дарогі да пасбішчаў і іншых зялёных угоддзяў. У Міхалове ў грамадскім

пачыне будуюць мураваны асабняк гміннага ўпраўлення і інтэрнат комплекса сельскагаспадарчых школ. Садзяць дрэўцы і кустарнікі.

У пералічэнні на аднаго статыстычнага жыхара гміны з сумы 6 млн. 100 тысяч злотых прыпадае па 600 злотых.

*

Торф з Імшара. Недалёка ад Міхалова ўжо амаль дваццаць пяць гадоў працуе прадпрыемства тарфяной прамысловасці. Знаходзіцца яно ў Імшары (імшар — г.зн. мохавае балота). Штогод яно дае ў сярэднім восем тысяч тон торфу, тарфяных субстратаў і лекавай баравіны найлепшай кансістэнцыі, якую выкарыстоўваюць лячэбныя ўстановы ў Цехацінку. Працуе тут у сярэднім 140 асоб, а ў летнім сезоне і больш, перш за ўсё з навакольных і нават даволі далёкіх вёсак.

Торф, высушаны, змелены ў млынах, зашыты ў мяшкі з фоліі вандруе ў цяпліцы не толькі ў нашай краіне, але і ў розныя краіны свету. Прадпрыемства дае прадукцыю для вялікіх гаспадарак, якія спецыялізуюцца ў вырошчванні агародніны і кветак.

Фабрыка пачала эксплуатацыю торфу на аб'екце Рабінаўка. Тут выкарыстоўваюцца спецыяльныя машыны для карчавання і капання равоў, торфарэзы з Савецкага Саюза і торфакапалкі заходнегерманскіх марак. Лепшая механізацыя ўведзена ў цэхах. Механізацыя аблегчыла працу. Цяпер на экспарт высылаюць таксама карэнні, якіх многа ў пакладах торфу. Там выкарыстоўваюць іх у дэкарацыйных мэтах.

Кіраўніцтва прадпрыемства многа зрабіла для паляпшэння сацыяльна-бытавых умоў працы рабочага калектыву. Паклапацілася пра кватэры для сваіх працаўнікоў. З гэтай мэтай адаптавалі былы школьны будынак у суседняй вёсцы Баршчэва. Для выгады рабочых адкрылі спажывецка-прамысловую краму.

Працаўнікі імшараўскага прадпрыемства актыўна ўдзельнічаюць у грамадскіх пачынах. Будавалі яны дарогі каля вёсак Патока і Ціванюкі, пачакальню на аўтобусным прыпынку ПКС у Ляўшах. Штогод выконваюць грамадскі пачын (па два дні ў год) пры прадукцыі.

Варта прыгадаць яшчэ адзін лік. Рабочыя прадпрыемства па здабычы торфу пастаўляюць кожны год прадукцыю, значыць торф, вартасцю ў сярэднім у 22-25 мільёнаў злотых. Каля 20% гэтай вытворчасці прызначаецца на экспарт. Кажуць, што нават у Іране закладаюць палацовыя аранжарэі на торфе з-пад Міхалова.

У гаспадарчых планах Міхалоўскай гміны Імшар займае важнае месца.

Прадпрыемства ўзяло пад сваю апеку Міхалоўскі агульнаадукацыйны ліцэй. Дапамагае ў рамонце школы і ў школьнай гас-

падарцы. Моладзь і настаўнікі школы высока цэняць гэтую дапамогу.

Каля Імшара распалажаны запаведнік вакол возера Гарбач. У запаведніку растуць паўночная нізкарослая бяроза, паўночная вярба і паўночная лістоўніца. Гэтая апошняя толькі тут знайшла сабе ўмовы да развіцця. У іншых мясцінах Польшчы ўжо загінула. Не спрыяе ёй меліярацыя, водаадліў. На берагах гэтага незвычайнага возера растуць яшчэ (як ужо рэдка дзе) насякомаедныя расічкі, вельмі рэдка сустракаемая асака і такія ж рэдкія імхі. Словам, унікальныя расліны.

*

Апошні, што так гаршкі лепіць...

Кожны, каму даводзілася назіраць за ганчаром, не можа адарваць вачэй ад гэтага таямнічага цуда —ператварэння простага камяка гліны ў посуд. Камяк вільготнай гліны, кінуты на сярэдзіну ганчарскага круга, нібы ажывае, сагрэты чулымі і ўмелымі рукамі майстра, набывае то форму збана, то вазы, то верцехі. Ганчар аглядае з усіх бакоў зроблены посуд — ці няма дзірачак, выгладжвае паверхню. Потым выраб ставіць на сушку. За такім заняткам застаем вядомага ганчара Вітальда Чарнецкага з Міхалова. Ён вырабляе збаны, вазы, верцехі, графінчыкі, гаршчочкі для кветак. Маюць яны прыгожую каляровую паліву.

— Шмат сакрэтаў чакае ганчара на кожным кроку, пакуль кавалак зямлі давядзеш да ладу, — кажа Чарнецкі. — Ды абы з якой гліны не зробіш. Трэба абавязкова, каб гліна перазімавала на холадзе, добра перамёрзла. Толькі тады яна будзе прыгодная. Вільготны выраб абавязкова патрабуе паветранай абсушкі. Толькі пасля гэтага збаны ці іншы посуд трапяць у распаленую амаль да белага печ для абпалу. Абпальванне посуду самы значны і адказны момант. Ад яго залежыць якасць прадукцыі. Перапаліш, дасі больш агню — посуд нетрывалы. Недапаліш — таксама дрэнна: звону няма. І раскісне хутка. І за тэмпературай трэба сачыць увесь час. У печы гліна пераўтвараецца ў кераміку. Да мяне наведваюцца будучыя ганчары. Ахвотна расказваю і паказваю ім усё, чаму сам навучыўся за дзесяцігоддзі работы пры ганчарным коле. Таксама школьнікам і ўсім іншым.

Вітальд Чарнецкі навучыўся „ляпіць“ гаршкі ад свайго бацькі, а той яшчэ ад дзеда. Словам, ганчарства — гэта сямейная традыцыя Чарнецкіх. Аднак жа добрую высакаякасную паліву розных колераў: зялёнага, карычневага, чырвонага і змешаных у розных прапорцыях з гэтых трох асноўных, пачаў рабіць паводле ўласнай рэцэптуры апошні з сям'і Чарнецкіх ганчароў — Вітальд. Цяпер ён з'яўляецца адзіным прадаўжальнікам старадаўняга і самабытнага мастацтва на ўсю ваколіцу. Ганчарствам займаецца амаль 25 гадоў. Умее зрабіць з гліны амаль усё, а ўжо найлепш хатні посуд.

Гліняны посуд міхалоўскага майстра знойдзеце на кірмашах у Міхалове, Гайнаўцы, Крынках, Саколцы і ў Беластоку, а таксама ў магазінах Цэпэліі.

Кераміка Вітальда Чарнецкага здобіць выстаўкі, арганізаваныя для народных умельцаў традыцыйнага рамяства і ўсюды захапляе наведвальнікаў.



Семяноўскае мора. Недалёка ўжо той час, калі воды ракі Нараў разальюцца абшырным вадасховішчам. Яно зойме даліну гэтай ракі паміж вёскамі Бандары, Рыбакі, Боўтрыкі, Бахуры, Буды, Цісоўка, Баб'я Гара, Семяноўка, Лука. Будзе гэта Семяноўскае мора. Так, мора! Яго паверхня складзе 3 250 гектараў, а змесціцца ў ім 80 мільёнаў кубічных метраў вады, у галоўным з вясенняга разводдзя і асенніх ападкаў. Будзе яно на адну тысячу гектараў большае ад Віграў! Будзе гэта сёмае па плошчы гіганцкае вадасховішча ў нашай краіне. На яго пабудову дзяржава адвяла амаль 2 мільярды злотых.

Вада з нараўскага заліва будзе накіравана на арашэнне ў засуху каля 40 тысяч гектараў меліяраваных лугоў і палёў у далінах верхняга цячэння рэк Нарвы і Супраслі, што дазволіць інтэнсіфікаваць сельскагаспадарчую прадукцыю, і спецыяльным каналам пойдзе ў абмялеўшую рэчку Супрасль, учыніць яе больш багатай вадою, гэтым самым створыцца для горада Беластока (цяпер пражывае ў ім больш 220 тысяч чалавек) вялікі запас піццявой вады, які спатрэбіцца ўжо ў 90-тых гадах. Галоўная, запруджваючая Нарву, плаціна паўстае каля вёскі Бандары, а канал будзе пракладзены непадалёк урочышча Імшар. Сярэдняя глыбіня самога вадасховішча будзе ў межах 2,5 метра, а найглыбейшыя месцы будуць мець і па 8 метраў. Нават у самыя сухія перыяды, як прадбачваецца, люстра вады ў вадасховішчы будзе займаць паўтары тысячы гектараў і таму прадбачваецца заснаванне ў ім вялікай рыбнай гаспадаркі. На ўзбярэжжы вадасховішча паўстануць розныя аб'екты для адпачынку.

Галоўная плаціна даўжынёю амаль у два кіламетры і вышынёю ў сярэднім тры з паловай метраў многае абазначае для гміны. Яна — для гміны нейкі парог у новыя часы. Калі пабудуюць вадасховішча, тады ажывіцца гаспадарчае і культурнае жыццё ў гміне.

Цяпер кожны дзень у Бандары і навакольныя вёскі далятае гудзенне магутных матораў бульдозераў, самазвалаў і іншых машын. На выгане вырастае вялікі насып. Праца ідзе спорна. Калі плаціна перагародзіць даліну ракі Нарвы — за ёю, як вокам сягнуць, заплешчацца мора... З паверхні зямлі знікне некалькі вёсак, паложаных у даліне. Заліты будуць Боўтрыкі, Лука, Буды, Рудня, частка Семяноўкі і Тарнопаля. Знікне 320 гаспадарак і толькі ж сем'яў будзе мусіла перамяніць сваё месца жыхарства.



*У вёсцы Сушча каля ракі Нарвы.*

Старэйшыя занепакоіліся: куды ж ім адсюль выбірацца. З гэтых абходжаных і абжытых сялібаў. Таму і пабойваюцца. Цяжка пакідаць насіджаныя куткі, але ж інакш нельга. Дык і паедуць на іншае месца. У Беласток выбіраецца каля 20 сем'яў, іншыя — у Бельск, Нараўку, Ляўкова. Некаторыя туды, дзе ўжо пасяліліся іх дзеці.

Семяноўцы і Бандарам вада не пагражае. Гэтыя вёскі могуць стаць курортнымі асяродкамі. Але вось Боўтрыкі і Буды знойдуцца пасярэдзіне Семяноўскага мора.

Людзі з даліны Нарвы яшчэ гаспадараць, але ўжо ніхто не будуецца, нават агароджы і тае не рамантуе. Яшчэ сеюць збожжа, косяць траву, спраўляюць хрысціны і вяселлі. Для многіх з іх сяўба або сенакос хутка будуць ужо апошнімі ў іх жыцці. На гэтым месцы...



З мінулага...

Міхалова — мясцовасць вядомая ўжо ад 1567 года пад назвай Нізбодка (генеалогію назвы „Нізбодка" падае рэд. М. Гайдук у „Беларускім календары на 1976 год", стар. 80-82). У 1832 годзе ўласнікам Нізбодкі быў Сэверын Міхалоўскі, які сваю маёмасць назваў Міхаловам. Укаранілася тут прамысловасць. Розныя прадпрыймальнікі, пераважна немцы па паходжанню, пачалі засноў-

ваць невялікія тэкстыльныя фабрыкі. У 1860 годзе былі тут чатыры фабрыкі сукна і фланелі. Чарговым уласнікам Міхалова стаў барон Энгельгард. У 1879 годзе ў Міхалове былі 43 не надта вялікія суконныя фабрыкі, (42 ткальні і адна фабрыка сукна), у якіх працавала 535 асоб. Найбольш рабочых працавала ў ткальнях у Брауэра, Гельскага, Морыца і Ірганда.

У заснаванні пасёлка найважнейшую ролю адыграў С. Міхалоўскі. Ён пабудаваў 29 ткальняў і столькі ж жылых дамоў для майстроў. У 1907 годзе пасёлак атрымаў гарадскія правы. У тым часе тут працавала 45 прадпрыемстваў, у якіх знайшло сабе работу 720 чалавек. У 1910 годзе пабудавалі царкву св. Мікалая.

Міхалова было вядомае з класавай барацьбы асабліва ў міжваенны перыяд, калі існаваў тут Район КПЗБ, які аб'ядноўваў пяць партыйных ячэек. Дзейнічаў гмінны камітэт Грамады.

У 1939 годзе ў Міхалове пражывала 5 000 асоб (быў гэта адзін з найбольшых гарадоў у Беластоцкім павеце). У апошнюю вайну горад перажыў праўдзівы катаклізм. Фашысцкія акупанты дашчэнту знішчылі ў 1944 годзе міхалоўскія прамысловыя прадпрыемствы. У 1950 годзе Міхалова налічвала ўсяго 1384 чалавекі. У 1968 годзе пражывала тут ужо 2265 асоб і ў 1978 годзе — 2969 (у той час у гміне было 10 324 асобы насельніцтва).

*

...І цяпер.

Цяпер Міхалова не мае гарадскіх правоў. Затое Міхалоўская гміна па колькасці насельніцтва з'яўляецца адной з большых у Беластоцкім ваяводстве. Яна на чацвертым месцы — уступае толькі Бельскай, Бранскай і Заблудаўскай гмінам. У 1979 годзе гміна налічвала 10 440 асоб, у тым ліку 5264 мужчын і 5176 жанчын. У 1980 годзе — 10 236 асоб, у тым 49,5% жанчын.

За гады народнай улады Міхалова адрадзілася, яно цяпер больш утульнае і прыгожае, чымсьці калі-небудзь у сваёй гісторыі. Добрыя дарогі, спраўна дзейнічаючая сувязь — усё гэта ставіць гміну ў шэрагу перадавых у Беластоцкім ваяводстве. Працуюць тут: тэкстыльная фабрыка, маслазавод, млын, цэнтр народнага ганчарства. Ёсць агульнаадукацыйны ліцэй, комплекс прафесіянальных школ механізацыі сельскай гаспадаркі, гмінны дом культуры, вясковы дом таваровы і іншыя.

Прыемна тут.

**Янка Целушэцкі**
Фота аўтара

  

## ПАДАРОЖЖА ПА ТРАСЦЯНЦЫ

Пры ўездзе ў вёску з боку Беластока дарогі разыходзяцца. Адна вядзе ў Сацы, другая — у Пухлы, а шаша паварочвае ўлева і ўліваецца ў брукаваную вясковую вуліцу. З правага боку застаецца наймаладзейшая частка Трасцянкі — Ставоцькае, якая сваю назву ўзяла ад суседняга ўрочышча Ставок. Далей вуліца памалу спускаецца з горкі і бяжыць паміж падросткамі-дрэўцамі, што стаяць па краях тратуараў, якія аддзяляюць ад яе густа і роўна пастаўленыя хаты. Відаць яшчэ сляды і ўзор даўняга будаўніцтва. Дамы стаяць шчытамі да вуліцы, каморамі ды сенямі амаль проста на поўнач, каб не даходзіла туды сонца, каб панаваў халадок. Камора была ж калісьці адзіным месцам перахоўвання харчоў і запасаў. Шчыты і навугольнікі багата ўпрыгожаны разьбой у дрэве, гэта сведчыць пра вялікую папулярнасць тут гэтага народнага мастацтва.

Вуліца бяжыць з горкі. Налева адыходзіць дарога ў Бялкі. Яна вызначае наступную частку вёскі, якую назвалі Гарой. За дарогаю пачынаецца трэцяя частка — Скарышэва. Граніцай яе з'яўляецца крыж, якому па прычыне колеру далі назву „сіні“. Далей пачынаецца Даліна. Сапраўды, вуліца тут пайшла нейк нізам. Побач ужо рака Нараў. Даліна — гэта найстарэйшая частка Трасцянкі.

За вёскаю вуліца быццам бы раздвойваецца — налева ідзе дарогай у Сакі, направа — асфальтаванай шашой бяжыць праз Нараў у Гайнаўку.

Трасцянка... На старых картах, у дакументах значыцца, назва Тростяніця. Нямногае ў гэтым змянілася, бо па сённяшні дзень мясцовыя і з навакольных вёсак гавораць „Тростянка“. Як моцна нагадвае яна слова трыснёг, што ў тамашняй гаворцы гучыць „тросьнік“. З аднаго боку вёскі плыве шырокая рака Нараў праз нізкія лугі, з другога — Рудня, а з трэцяга боку, акружаючы паўколлем вясковыя палі, віецца рэчка Малынка. Было тут некалі мокра і дрыгвяста — краіна трыснёгу і вадзяных птушак. Як гавораць старыя жыхары Трасцянкі, асабліва моцна былі парослыя гэтай раслінай мясціны, дзе сёння Даліна і часткова Скарышэва. Магчыма яна і дала назву вёсцы.

Трасцянка ўзнікла, праўдападобна, у далёкім XIV стагоддзі. У першай палавіне XVI стагоддзя, а дакладна ў 1541 годзе была ўжо тут парафія і свая царква, якая ў далейшым адыграла вялікую

ролю ў развіцці школьніцтва. Магчыма, што Трасцянка лічыць ужо звыш пяці стагоддзяў. Пра старасць мясцовасці гавораць помнікі старыны — урочышчы ды звязаныя з імі легенды. А ў Трасцянцы іх нямала: Воропайка — некалі лес, што пад Бялкамі, Вуойтуовшчына, Вымоклі, Двуоршчына, Замок, Зіеево, Корач, Красьніця, Лыса гуорка, Моргі, Музыковэ, Попэліе, Путкатіха, Пэчыска, Розбоіска, Рогозувка, Сідяшчэ, Ставок, Чэркас, Шылак. Ёсць і такія, па якіх ужо не засталося і назвы. Ведаюць, што калісьці неяк іх называлі, але як — сказаць не могуць. Многа такіх, дзе назва гэта ўсё, што можна сказаць аб урочышчы, а на пытанне — адкуль і што, пацісनуць толькі плячыма і скажуць: „Некалі мой дзед расказваў, што нешта там было, але што — не памятаю“. Нямала аднак і такіх урочышчаў, пра якія па сённяшні дзень можна пачуць цікавыя легенды. Прыкладна Замок. Была там, быццам, некалі царква. І вось аднойчы, у час службы, замкнулася і разам з людзьмі ўвайшла ў зямлю. Застаўся толькі ўзгорачак. Кажуць, што ў ціхі пагодны святочны дзень, прыклаўшы вуха да зямлі, можна пачуць званы і модлы. Або Музыковэ. Гавораць, што аднойчы ішлі хлопцы і пачулі, як побач нехта прыгожа іграе. Павярнулі — а там забава, танцы. Давай гуляць і аркестры плаціць. Потым усё прапала. Апамяталіся, а ў іх поўныя шапкі каровячага памёту. З гэтага часу і назвалі Музыковэ. Ці Розбоіско. Даўно-даўно ў гэтым месцы нападалі на праезджых і грабілі. Аднойчы напалі і забілі двух яўрэяў. З гэтага часу пачало тут страшыць і зводзіць з дарогі.

Галоўнымі сродкамі ўтрымання ў Трасцянцы, апрача гаспадарання, было рамяство, перш за ўсё гарбарства і кушнерства, ды гандаль. ЗвеДаўшы, што нейкі тавар, прыкладна: жыта, бульба, авёс у данай мясцовасці даражэйшы чым тут, вязлі яго часам вельмі далёка.

У канцы 1914 года вёска пачала пусцець. Першая сусветная вайна. Многія выехалі ў бежанства ў Расію. І гэтак было да 1918 года. Потым людзі пачалі вяртацца.

Трасцянка мела вялікія магчымасці не толькі сельскагаспадарчага, але і прамысловага развіцця. Крыніцай апошняга магла стаць, заснаваная ў 1950 годзе, цагельня. Праўда, паўстала яна дзякуючы намаганням мясцовага настаўніка і жыхароў, якія аддалі свае глiністыя грунты з намерам выраблять цэглу для пабудовы вясковай школы, але ўсё ж такі магла яна стаць пачаткам развіцця керамічнай вытворчасці.

Вёска развіваецца. У 1957 годзе, па ініцыятыве жыхароў, пабудавалі ў Трасцянцы кафлярню. На жаль, прабыла яна толькі два гады і ў 1959

годзе згарэла. У 1958 годзе прыгожая трыццацікіламетравая асфальтавая шаша спалучыла вёску з Беластокам. Пайшлі аўтобусы. Рабілі яны па чатыры курсы ў дзень. У наступным годзе праз вёску праклалі новую шырокую брукаваную вуліцу, па баках якой паклалі тратуары, а ў 1961 годзе абсадзілі ліпамі. Год 1959 быў паспяховым годам для развіцця вёскі — пралажылі шашу ў Гайнаўку, правялі электрычнасць і паставілі кіёск з газетамі. У 1962 годзе пабудавалі ў Трасцянцы новую краму, годам пазней пачалі пабудову рамізы для пажарнай каманды, а ў 1964 годзе прыбывае вёсцы клуб „Рух".

Трасцянка з году ў год прыгажэе. Маюць тут сваю пошту, школу, вясковы асяродак аховы здароўя. У не так далёкай вёсцы Ваські паўстае шматгаліннае прадпрыемства сельскай гаспадаркі. У Трасцянцы будуюць яго філіял — ферму гадоўлі авечак. Інвестыцыя вялікая. Агульны кошт пабудовы — больш за 67 мільёнаў злотых. Ужо паявіліся першыя сотні авечак.

Трасцянка, не ўлічваючы самой Нарвы, з'яўляецца найбольшай вёскай у гміне. Жыве ў ёй 574 жыхары, у тым ліку 281 жанчына. Вёска налічвае 100 гаспадароў, а паверхнасць грунтаў — 637 гектараў.

Свайго часу Трасцянка была асяродкам развіцця асветы. Мае яна за сабой больш стогадовы складаны, але цікавы шлях. Да 1850 года школы ў Трасцянцы не было. Калі вучылі, то прыватныя настаўнікі, пераважна з духавенства. Толькі ў 1850 годзе тагачасны мясцовы святчэннік Рыгор Сасноўскі ў сваёй плебаніі ва ўрочышчы Ставок, што між Трасцянкай і Пухламі, заснаваў першую школу. Далейшае развіццё наступае ў шасцідзесятых гадах XIX стагоддзя. Гэты ж самы Рыгор Сасноўскі, а потым яго сын Флор арганізуюць у сваёй парафіі некалькі царкоўна-прыхадскіх школ і так званых школ „грамоте". Паўстаюць між іншымі школы ва ўрочышчы Ставок і ў Трасцянцы. Трасцянская школа перажыла цікавую гісторыю. У 1887 годзе пераіменавалі яе на ўзорную (образцовая), а з цягам часу ў царкоўна-настаўніцкую семінарыю.

Школа, якую ў 1850 годзе заснаваў Рыгор Сасноўскі ў Стаўку, праіснавала семнаццаць год і на працягу гэтага часу сам ён у ёй вучыў. Дзяржава аднак дала матэрыялы на пабудову школы ў Трасцянцы і ў 1867 годзе паявіўся там будынак. Школа перайшла ва ўладанне Міністэрства асветы і назвалі яе „народным училищем". Потым зноў пераіменавалі на „образцовую", якая і дала пачатак развіцця настаўніцкай семінарыі.

„Образцовая" школа распачала працу ў 1887 годзе. Вучоба трывала там шэсць год. Пер-

шы год быў падрыхтовачным, потым першы і другі класы, дзе вучоба трывала па два гады, і адзін год у апошнім класе спецыяльна для настаўнікаў. Вучыліся таксама і дзяўчаты, але пачаткова былі яны ў асобным будынку, што стаяў каля дарогі ў Бялкі. Потым, калі дабудавалі новыя памяшканні, жаночую і мужчынскую школы памясцілі разам. У 1890 годзе школа налічвала ўжо 98 вучняў — 42 дзяўчыны і 56 хлопцаў. Настаўніцай жаночай школы была Кацярына Грынкевіч, а мужчынскай — Мікалай Грыцюк. У 1888 годзе пры настаўніцкай семінарыі адкрылі для дзяўчат клас навучання ручным працам, а для хлопцаў — клас практычнага абучэння сельскай гаспадарцы: пчалярству, садоўніцтву, агародніцтву, прывучанню да апрацоўкі зямлі, гаспадаранню на лугах. Практычныя заняткі праходзілі ва ўрочышчы Ставок, дзе быў адведзены пад гэта спецыяльны палетак. Калі ўжо пры прадметах, неабходна ўспомніць, што ва ўзорнай школе ў Трасцянцы быў уведзены курс абучэння рамяству. Апрача малявання, пазалоты іканастасаў, рысавання, чарцяжу, ткацтва вучылі таксама разьбе. Вось якраз разьба, якую вялі ва ўзорнай школе ды садоўніцтва, якому абучалі ў настаўніцкай семінарыі і спрыялі развіццю дэкаратыўнай разьбы і закладанню садоў. Калі ідзе гаворка пра садоўніцтва, адным з запачаткавальнікаў яго быў былы вучань семінарыі, а ад 1911 года настаўнік — Андрэй Сяргеюк. Трасцянка славілася сваімі садамі на ўсю ваколіцу. Амаль у кожнай сялібе растуць яшчэ старыя фруктавыя дрэвы — след даўняга садоўніцтва.

Навучальны год працягваўся ад кастрычніка да канца красавіка. Заняткі канчаліся экзаменам, які адбываўся пасля Вялікадня. Папулярнасць школы з года ў год узрастала. Цеснымі рабіліся будынкі. І ў 1890 годзе прыходзіць згода на пабудову новай школы ў Стаўку, якую здаюць у карыстанне ў 1893 годзе. Быў гэта двухпавярховы мураваны будынак з інтэрнатам. Новая школа называлася школай гаспадарчай і была двухкласная з трохгадовым курсам навучання. Гаспадарчыя прадметы вялі па той самай праграме, што і ў настаўніцкай семінарыі. Аднак у 1905 годзе школа згарэла, а з пачаткам Першай сусветнай вайны ў Трасцянцы наступае перапынак у навучанні. Трывае ён па 1918 год. Потым паўстае ў Трасцянцы пачатковая школа. Вучылася ў ёй 60 вучняў і было тры аддзелы. З гадамі школа разраслася і ў 1932 годзе было ўжо тут пяць аддзелаў і вучылася 80 вучняў. У верасні 1939 года ў Трасцянцы адкрываецца сярэдняя беларуская школа, дырэктарам якой стаў Андрэй Сяргеюк, а настаўніцай Надзея Савіцкая. Вучацца ў ёй

таксама дзеці з суседніх вёсак і ў навучальным годзе 1940/1941 школа налічвала аж 180 вучняў. Потым успыхнула вайна. Школу закрылі. Дазвол на навучанне трасцянцы атрымалі ў снежні 1943 года. Школа была пад наглядам мясцовага солтыса і на сродкі жыхароў. Вучылі там беларускай мове і арыфметыцы. Працавала трох настаўнікаў — А. Сяргеюк, Н. Савіцкая і адзін настаўнік з Цялушак. Вучылася 82 вучняў, але школа праіснавала толькі да сакавіка 1944 г.

Сапраўднае развіццё школы ў Трасцянцы пачалося пасля вайны. У 1944/1945 годзе працуе тут сямігадовая школа. Расце колькасць вучняў. У навучальным 1946/1947 годзе пачынаюць працаваць пры школе — бацькоўскі камітэт, Саюз польскай моладзі, Польскі чырвоны крыж, а гадам пазней ТППР і іншыя арганізацыі. І вось першыя абсальвенты. У навучальным годзе 1948/1949 сёмы клас закончыла дзевятнаццаць вучняў, яны працягваюць вучыцца ў агульнаадукацыйных і прафесіянальных школах. Прыходзяць вучні з іншых вёсак, дзе былі школы чатырохкласныя. Прыходзяць з Бялок, Сацоў, Цялушак. Паўстае ў школе гарцэрская дружына.

У школе штораз больш адчуваюць цеснату. А і сам будынак ужо стары і пагражаў руінай. У 1950 годзе прыехалі сюды прадстаўнікі павятовых улад і пасля агляду прынялі пастанову пра пабудову новай школы. Умовай да гэтага было арганізаванне цагельні, якая б дала матэрыял на пабудову школьнага будынку. Цагельня паўстала яшчэ ў тым жа годзе, але сітуацыя змянілася, бо ўлады вырашылі, што ў Трасцянцы хопіць правесці рамонт, а школы трэба будаваць у тых вёсках, дзе іх няма. Туды і ішла цэгла.

У 1951 годзе былы дырэктар А. Сяргеюк адыходзіць на пенсію, а на яго месца назначаюць Міхася Яконюка. У 1957/1958 школьным годзе дырэктарам становіцца энергічны і ініцыятыўны Янка Тапалянскі. У школе паўстае фізіка-хімічны класакабінет, што выразна павышае вынікі навучання гэтых прадметаў. Яго намаганнем у навучальным 1960/1961 годзе арганізуецца таксама школа сельскагаспадарчай падрыхтоўкі, якая працавала амаль дзесяць год.

Цяпер у Трасцянцы восем класаў пачатковай школы, у ёй вучыцца 103 вучні, а таксама ёсць васемнаццаціасабовая прадшкольная група. Дырэктарам школы з'яўляецца Марыя Смактуновіч. Апрача яе вучыць тут яшчэ шэсць настаўніц — Аліцыя Грыгарук, Марыя Кавальская, Галена Куптэль, Валянціна Максімчук, Надзея Міхальчук і Галена Тапалянская. Галена Тапалянская працуе тут ужо дваццаць пяць год,

дзень у дзень нясучы вучням роднае слова. Вучыць яна беларускай мове. Абуджае ў маладых сэрцах любоў да роднага, знаёміць з роднай літаратурай, культурай. І, дзякуючы ёй, многія вучні, пасля заканчэння мясцовай школы прадаўжаюць вучобу ў агульнаадукацыйных ліцэях з беларускай мовай навучання, а затым на беларускай філалогіі.

На агульную колькасць вучняў 56 — гэта мясцовыя. Іншыя даходзяць з суседніх вёсак: з Анцутаў, Бялкоў, Жыўкова, Пухлаў, Сацоў. Летам даязджаюць яны веласіпедамі, а восенню і зімой арганізуюць іх давозку, у якой многа дапамагае шматгаліннае прадпрыемства сельскай гаспадаркі.

Школа памяшчаецца ў прыгожым прасторным будынку, яго здалі ў карыстанне ў 1959 годзе. Практычна дзеці цэлы дзень у школе. У сувязі з гэтым, пачынаючы ад кастрычніка і да паловы красавіка іх частуюць тут кубкам гарачага малака і булкай, каб маглі крыху перакусіць. Пры школе дзейнічаюць вучнёўскія арганізацыі. Вядучай з'яўляецца гарцэрская. Ёсць тут 11 гарцэрская дружына імя Кастуся Каліноўскага. Каб ушанаваць памяць вядомага нашага рэвалюцыянера, нашага суайчынніка, правадыра Студзеньскага паўстання на Беларусі і Літве прысвоілі школьнай гарцэрскай дружыне яго імя, якое напамінае вучням пра нашу гісторыю і з'яўляецца ўзорам чалавека, дастойнага наследвання.

Апрача гарцэраў ёсць зухі, працуе гурток Польскага чырвонага крыжа, Таварыства польска-савецкай дружбы. Вялікай папулярнасцю сярод вучняў карыстаецца школьны спартыўны гурток. Ёсць таксама вучнёўская крама.

Выхаваўчая праца пачынаецца ўжо з найменшых, што праходзяць дашкольны падрыхтовачны курс. Гэта база далейшай працы настаўнікаў. Школа — гэта не толькі кніжка, выхаванне — гэта не толькі ўрокі. Вялікае значэнне ў асветніцка-выхаваўчай дзейнасці мае таксама праца і адпачынак. На працягу школьнага года вучні актыўна ўключаюцца ў розныя працы на карысць школы і асяроддзя: садзяць лес, збіраюць макулатуру. За сабраныя грошы наладжваюць экскурсіі, вандроўныя лагеры. Наведалі ўжо Гданьск, Гдыню, Сопат, Варшаву, знаёмяцца з прыгажосцю Беласточчыны. Адной з форм адпачынку з'яўляецца спорт, які карыстаецца тут вялікай папулярнасцю, і асабліва настольны тэніс, які вядзе дырэктар школы Марыя Смактуновіч. Выязджаюць нават на цэнтральныя спаборніцтвы.

Узровень навучання, як на магчымасці вясковых школ, высокі. Сведчыць аб гэтым тое, што ўсе вучні прадаўжаюць вучобу ў сярэдніх школах. Вось, прыкладна, год

1978/1979. Школу заканчвае сямнаццаць абсальвентаў і ўсе яны ідуць вучыцца далей, пераважна ў прафесіянальныя школы, агульнаадукацыйныя ліцэі, тэхнікумы, школы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Пра ўзровень навучання сведчаць і пахвалы, якія атрымоўвае настаўніца матэматыкі Аліцыя Грыгарук ад дырэкцый сярэдніх школ, дзе вучацца быўшыя яе вучні. Гаворыць гэта пра добрую падрыхтоўку. Школа таксама актыўна ўключаецца ў шматлікія прадметныя конкурсы. Моцна цешыць і той факт, што вучацца тут беларускай мове. Дзякуючы адданай працы Галены Тапалянскай, яе заахвочваючым урокам дзеці любяць сваю родную мову, мову, якую ўзялі ад бацькоў, мову, на якой упершыню пазнавалі акружаючы свет. Цікавыя ўрокі родзяць цягу да знаёмства з беларускай літаратурай. Вучні вывучаюць творчасць беларускіх пісьменнікаў. За шматлікія гады сваёй працы школа дала нашай краіне рад лекараў, інжынераў, настаўнікаў.

Апошнім часам Трасцянка гаспадарча старэе. У вёсцы ўсё меней і меней застаецца моладзі. Гарады — Беласток, Гайнаўка, якія ляжаць недалёка вёскі, змянілі дэмаграфію Трасцянкі. Сталі адной з прычын яе гаспадарчага застою. А некалі Трасцянка была багатай вёскай, мела схільнасці да развіцця. Блізкасць успомненых гарадоў былі прычынай таго, што людзі, замест на развіццё гаспадарак, пачалі класці грошы ў купаванне сяліб і пабудову дамоў, асабліва ў Беластоку. Гэта і было прычынай адыходу моладзі з вёскі. Але кожны цэнтр культуры перажывае свае вяршыні і заняпады. А Трасцянка гэтакім цэнтрам несумненна была.

**Міхась Шаховіч**

## Ці тваё дзіця наведвае ўрокі беларускай мовы?

## ДАПАМАГАЦЬ ЛЮДЗЯМ

Калі так удумацца ў жыццёвы і працоўны шлях візітатара **Яна Канапелькі,** то перш за ўсё ўражвае ў ім гатоўнасць служыць сваімі ведамі і вопытам іншым людзям. Гэта ў ім склалася, відаць, недзе ў тыя адлеглыя часы, калі ў акенца іхняй хаты ў Ваўкавыску раз-пораз цёмнай ноччу ці на досвітку нехта стукаў дрыжачай ад хвалявання рукой і прасіў бацьку выйсці на хвілінку. Бацька, служачы ў царскай арміі, закончыў курс вайсковых фельчараў. Потым разам з іншымі сваімі суседзямі тупаў каля свае гаспадаркі, што была пад самым мястэчкам. Людзі з усяе ваколіцы хіліліся да яго ў розных няшчасцях, і ён ніколі і нікому не адмовіў у дапамозе. За ўменне ратаваць людзей і спагадлівае сэрца яго, Аўгусціна Канапельку, усе шанавалі болей чым дыпламаваных лекараў.



Ужо дарослым, дваццацітрохгадовым чалавекам у 1925 годзе Ян Канапелька закончыў ваўкавыскую гімназію і пайшоў па тым жа бацькоўскім шляху. Праўда, не паступіў вучыцца на медыцыну, бо ў тыя часы гэта было не па кішэні селяніну, але падаўся ў настаўніцтва. Пасля метадычна-педагагічнага курса, які арганізаваў ваўкавыскі інспектарат асветы, яго накіравалі на работу ў самы далёкі і глухі куток тадышняга Ваўкавыскага павету — у вёску Круглы Лясок, што цяпер у Міхалоўскай гміне. Была там чатырохкласная школка з адным настаўнікам.

— Вельмі ж я цешыўся гэтай маёй першай работай, — прыгадвае цяпер Я. Канапелька. — Хоць яна была далёка не лёгкай. Дзяцей у школе больш за семдзесят, а я — адзін. Заняткі вёў на дзве змены ў спалучаных класах, працаваў ад ранку і да позняга вечара па 12-14 гадзін штодня. І гэтага мне было мала! Так, маладосць прагная да дзеяння. Перш за ўсё са старэйшай моладдзю арганізавалі мы тэатральны калектыў і з году ў год ладзілі пастаноўкі не толькі ў Круглым Ляску, але і ездзілі выступаць у суседнія Падазераны, Ляўкова і іншыя мясцовасці. Колькі было рэпетыцый, клопатаў, бегатні, хваляванняя! Але якая радасць, калі пастаноўка ўдавалася...

Аднак Я. Канапельку гэтага было замала. Неўзабаве ён з галавой акунуўся ў пашырэнне сельскагаспадарчай асветы. Заснаваў у школцы ў Круглым Ляску трохгадовы курс сельскагаспадарчай падрыхтоўкі для старэйшай моладзі. Штогод у ім удзельнічала больш за 20 юнакоў і дзяўчат з усяго наваколля.

— Памятаю як сёння, у праграме першага года навучання было агародніцтва. І чамусьці прыйшлося нам па густу вырошчванне капусты. Выпісалі мы насенне бруншвіцкай, бо яна не баіцца марозу і расце вялікая. Вычыталі мы, што гэты сорт патрабуе добра выраблены і гнойнай зямлі. Моладзь была надта ж вынаходлівая. Пад капусту поле трэба было араць спецыяльным плугам з паглыбляючым ворыва падсашнікам. Па ўсёй ваколіцы ніхто нават і не чуў пра такі плуг, а купіць ці заказаць у каваля — дорага! Хлопцы і прыдумалі: кожную баразну паглыбнялі другім плугам з сашнікам, але без паліцы. Садзілі мы тую капусту дакладна па інструкцыі — вельмі рэдка, палівалі яе разведзенай жыжай з-пад жывіны. Людзі не тое, што смяяліся з гэтых нашых практыкаў, але і лаялі: „Пашто зямлю марнуеце? Вам жа адны шугаі парастуць!..“ А навосень усе ахалі, на нашую капусту гледзячы, — кожная галоўка важыла па дзесяць з лішнім кілаграмаў, на два пуды ішло ўсяго тры штукі! На павятовай сельска-



*Секстэт з Орлі заняў у „Беларускай песні-80“ для школьнікаў першае месца. Фота Я. Чэрнякевіч.*

гаспадарчай выстаўцы ў Свіслачы мы занялі адно з першых месц, а па ўсёй ваколіцы людзі сталі вырошчваць гародніну так, як мы на сваім курсе „вымудрылі“. Потым займаліся мы гадоўляй свіней, малочных кароў. З добрымі вынікамі...

А якім народны настаўнік Я. Канапелька явіўся сваім вучням са школы ў Круглым Ляску? Можна пачуць ад іх многа цёплых, сардэчных слоў пра яго. З іх я прыгадаю толькі выказванне былога ваеннага карэспандэнта Польскага прэсавага агенцтва (ПАП), працаўніка „Польпрэса“ і аўтара шэрагу кніг Міхала Андрушкевіча — былога вучня школкі ў Круглым Ляску. М. Андрушкевіч у сваёй кнізе „Другі старт“, што выйшла ў 1977 г., успамінаючы пра тое, як ён прыбыў у вайсковым шынялі разам з фронтам другой сусветнай вайны на Дольны Шлёнск, каб арганізаваць там выпуск польскай газеты, піша: „Пра Лягніцу я ведаў усяго толькі, што вынес з урокаў майго першага і найлепшага настаўніка Яна Канапелькі з Ваўкавыска“. І цяпер М. Андрушкевіч — заслужаны грамадскі дзеяч і вядомы пісьменнік — ніколі не абміне, наведваючы родныя мясціны, завітаць да свайго былога настаўніка Я. Канапелькі, каб па-сяброўску пагутарыць з ім, пакінуць экземпляр новага выдання сваіх твораў з сардэчным даравальным надпісам.

Гэты запал да грамадскай дзейнасці не загас у Я. Канапелькі і пазней, калі ён за-

снаваў уласную сям'ю. З 1937 г. ён разам з жонкай, таксама настаўніцай, атрымалі пасады ў школцы з двума настаўнікамі ў вёсцы Параф'яновічы каля Мастоў. Людзі жылі там яшчэ бядней, чым у ваколіцах Круглага Ляска.

— На гэта было страшна глядзець, — узрушаецца Я. Канапелька на ўспамін пра тыя адлеглыя часы. — Дзеці бледныя, заморыныя, надта бедна апранутыя. Заходжу я аднойчы ў клас пасля ўрокаў, бачу: у адной лаўцы нешта ляжыць, загорнутае ў кужэльную хусцінку. Разгортваю: гэта ж камячок поснай таўканіцы. Нейкае дзіцянё ўзяло з хаты на „другое снеданне"... І тады, ведаеце, я дзень у дзень давай у Масты ездзіць і прасіць у гміне і іншых установах грошай на харчаванне для дзяцей. Выхадзіў. Далі на кубак засалоджанай кавы і кавалачак хлеба са смальцам. Як жа ж цешыліся тыя дзеткі, з якім нецярпеннем чакалі яны „вялікага" перапынку, калі выдавалі мы ім гэты „ласунак". І я не адчуваў вялікай цяжкасці ад таго, што самому даводзілася мне штодня веласіпедам ездзіць за сем кіламетраў у Масты за хлебам, цукрам і тым жа смальцам.

З першых дзён Савецкай улады ў Заходняй Беларусі Я. Канапелька працуе на пасадзе дырэктара школы ў Біскупіцах каля Ваўкавыска. Кіруе працай пяці настаўнікаў, вучыць і сам вучыцца. Перш за ўсё вывучае рускую і беларускую мовы — абедзве яму вельмі блізкія. Рускую мову ён добра ведаў яшчэ з пачатковай школы, зачытваўся творамі рускай класічнай літаратуры, а беларускай штодня карыстаўся: дома, у размовах з вучнямі, іх бацькамі. Выдатна здаў кваліфікацыйныя экзамены па гэтых абедзвюх мовах, і з таго часу самастойна паглыбляў веды па іх, яны сталі яго любімымі прадметамі ў навучанні.

Нямецкую акупацыю яму ўдалося перажыць, прытуліўшыся да бацькавай гаспадаркі. Проста — пашанцавала.

Адразу пасля вызвалення яму даручылі арганізаваць і абсталяваць школу ў тых жа Біскупіцах. Як заўсёды, так і цяпер ён не шкадаваў уласнай працы і часу: хадзіў, здабываў, насіў, вазіў, заахвочваў і на пачатку верасня першы званок склікаў дзетвару з усяго наваколля на першы пасля некалькігадовага перапынку ўрок. Пасля жудасцей акупацыі сюды вярталася жыццё.

Чатыры гады Я. Канапелька працуе дырэктарам біскупіцкай школы, а потым разам з сям'ёй прыязджае на бацькаўшчыну жонкі ў Польшчу. Тут ён з'яўляецца кіраўніком школы спачатку ў Дабжынёўцы, потым у Харошчы, затым яго як вопытнага педагога паклікаюць да працы ў інспектарат асветы ў Беластоку, а праз год даручаюць пасаду візітатара школ з ня-

польскай мовай навучання ў беластоцкай куратарыі.

Хто з нас, тадышніх настаўнікаў беларускай мовы, не памятае візітатара Я. Канапельку? Ён жа не столькі з'ездзіў, колькі схадзіў усю Беласточчыну, наведаў і то не аднойчы кожную, нават самую маленечкую, школку. З'яўляўся ў настаўніцкім пакоі заўсёды нечакана, з налёту. На ўроках пільна сачыў за кожным словам настаўніка і вучняў, унікліва правяраў узровень ведаў і ўменняў дзяцей, уважліва ўчытваўся ў школьную дакументацыю. Ніякія недахопы ці нядбайнасць настаўніка не скрыліся ад яго пранікліваго вока. Потым, у размове, перабіраў усё па костачках — і заганнае, і вартаснае. Рабіў гэта мэтанакіравана — выхоўваў нас, настаўнікаў, вучыў працаваць салідна, ахвярна, з запалам. Што тут таіць: пабойваліся мы ўсе яго, але і шанавалі як вопытнага спецыяліста і сардэчнага чалавека. А якія ўражанні засталіся ў яго самога з візітацый нашай працы?

— Уражанні вельмі прыемныя! — усклікае Я. Канапелька. — Амаль усе настаўнікі беларускай мовы адносіліся да навучання свайго прадмета з асаблівай сардэчнасцю і ахвярнасцю. Праўда, здараліся час ад часу прабелы ў іх ведах ці ўменнях, але яны запаўнялі гэта сваёй працай, даходлівасцю, запалам. Патрапілі ўмела заахвоціць дзяцей наведваць урокі беларускай мовы, прывіць ім замілаванне да роднага слова, песні, мясцовасці, традыцыі. Мяне асабліва захапляла праца такіх настаўнікаў як Ілья Бернат з Бельска, Мікалай Лебядзінскі са Страшава і шэраг іншых. Памятаю, аднойчы дайшла да нас у кураторыю скарга з вёскі Плянта, што каля Нараўкі. Бацькі наракалі на настаўніцу, што яна „замоцна дзяцей вучыць". Заязджаю я туды, а там школка — як шклянка. Усё такое дагледжанае, акуратнае, чысценькае. У класе на падлозе ўзорыстыя хаднічкі-дарожкі, на вокнах — самаробныя фіранкі, усюды — кветкі. Узровень ведаў і ўменняў дзяцей таксама захапляючы. Вось толькі бяда — ужо не памятаю імя і прозвішча тае настаўніцы. Яна была праўдзівым народным настаўнікам, узорам і прыкладам для кожнага педагога. Ніякіх недахопаў ці лішніх вымаганняў! Ці не было цяжкасцей? Былі, вядома. Асабліва з падручнікамі па беларускай мове пасля ўвядзення ў 1957 годзе новага правапісу. Але больш ініцыятыўныя настаўнікі і гэтую цяжкасць хутка пераадолелі.

Візітатар Я. Канапелька ў 1968 г. выйшаў на пенсію, ён адзначаны Кавалерскім Крыжам Адраджэння Польшчы, Залатым Крыжам Заслугі, медалем „30-годдзя Народнай Польшчы", знакам „Заслужаны для Беласточчыны" і ін-

шымі. Сярод іх ёсць сярэбраны „Знак за заслугі ў грамадскай і прафсаюзнай дзейнасці“, які яму прызнала Галоўнае праўленне Польскага саюза пенсіянераў і інвалідаў. Ён якраз паказвае на тую дзялянку, у якой ужо 12 год дзейнічае Я. Канапелька з такім жа запалам і ахвярнасцю як раней у школьніцтве. Ён заўважае: „Старыя людзі такія самыя бездапаможныя, як дзеці, а мо нават яшчэ болей, яны як немаўляты“. І ён выконвае ў беластоцкім гарадскім аддзеле саюза найцяжэйшыя і найважнейшыя абавязкі, бо працуе старшынёй сацыяльнай камісіі. Я. Канапелька штодня ў руху, наведвае па ўсяму гораду якраз тых самотных старых людзей, якім найбольш патрэбна дапамога іншых людзей. Здабывае сродкі дапамогі, ахвотных заапекавацца і мноства іншых спраў. Ён няспынна дапамагае іншым людзям...

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

**З народнай творчасці**

## „ПОКОЛЬ СОНЦЕ ЗЫЙДЭ...“

У спеве гэтых абедзвюх жанчын з вёскі Мікулічы, што ў Мілейчыцкай гміне, перш за ўсё ўражвае асабістае заангажаванне ў выкананне кожнай песні. Для іх ці то разважанні пра нясталасць кахання („Там млоды конь стояў...“), ці пра шчасцедолю, што плыве недзе „з быстрою водою“ і, пэўна, абміне дзяўчыну і давядзецца ёй жыццё сваё „гороваты — горкою слізою лічко й умываты“ („Ні літай, мотылю...“), таксама баладныя аповесці пра злослівы жарт нявернага таварыша („Одна гора высокая, а другая крута...“), або пра лютую свякруху („Хотыла маты сына ожыныты...“), што сваёй ненавісцю абярнула нялюбую нявестку ў „тапаліну“ — усе яны яшчэ не сталі толькі красачнымі мастацкімі творамі, не страцілі глыбокага жыццёвага сэнсу. Гэтае жывое адчуванне блізкай сувязі песні з жыццём у мікуліцкіх спявачак, мабыць, абапіраецца на іх уласным жыццёвым вопыце, наназіраннях жыцця іншых.

**Ніна Такаюк** нарадзілася ў 1924 г. і належыць да таго пакалення, якога маладосць пакарэжыла трагічная гісторыя. Бацькі яе па-свойму намагаліся забяспечыць будучыню дзецям — ад вуснаў адымалі апошняе, каб толькі сабраць якісьці грош і прыкупіць загон зямлі ці кавалачак „смуга“. А Ніна хацела вучыцца. Здольная была, дапытлівая. Але што ў тыя ча-



*Н. Такаюк (злева) і Я. Вішанка.*

сы магло зрабіць вясковае дзіця са сваімі здольнасцямі? Школьная сістэма на вёсцы пры даваенных уладах была такая, што чым вышэйшы клас, тым даўжэй трэба было ў ім сядзець, нават па тры гады. Хоць яна і вучылася на адны пяцёркі. Што ж, панам патрэбны былі паслухмяныя ды цёмныя мужыкі, а не культурныя і адукаваныя людзі! Карэнныя змены ў жыцці, што завіталі сюды ў канцы верасня 1939 г. разам з Чырвонай Арміяй трывалі нядоўга: усяго паўтара года. Але і за гэты час новага жыцця ў простых людзей умацавалася асабістая годнасць і вера ва ўласныя сілы. Ніна нарэшце вучыцца! На жаль, паспела закончыць толькі пяты клас, як хлынула гітлераўская навала. Каб не трапіць на прымусовыя работы ў Германію, трэба было зараз жа выйсці замуж і як мага хутчэй мець дзеці. Пад вянец стала яна, маючы ўсяго 17 год. Праз год верхавод камісіі па набору рабочых у Германію не верыў, што такое дзяўчо ўжо мае дзіця, загадаў ёй дастаць грудзі і сам пераканаўся, што ў іх малако... Бацька Іван Бадавец дапамагаў савецкім салдатам, што апынуліся ў акружэнні і хаваліся ў вёсцы, таксама былі ў яго блізкія сувязі з партызанамі. Звычайныя бандыты, якія ў той

час прыкідваліся партызанамі і грабілі па начах вёскі, забілі яго — пазнаў некаторых з іх. Пасля вайны спакой у гэтых баках настаў не адразу, асабліва для яе сям'і. Муж — Яфім Такаюк, абаронца Варшавы ў 1939 г. належаў да першых і самых ахвярных у тых ваколіцах партыйных актывістаў. Яму кожны дзень пагражала смерць ад рэакцыйнага падполля. І ўсё ж яны, наперакор усім цяжкасцям, выхавалі пяцёра дзяцей, вялі ладную гаспадарку, добра пабудаваліся. Цяпер дзеці маюць свае сем'і, працуюць у Беластоку, Варшаве, на Шлёнску. У Такаюкоў ужо ціхая старасць заслужаных пенсіянераў. Але яны не ўмеюць сядзець склаўшы рукі, Ніна тчэ ўзорыстыя дываны і пасцілкі, ходзіць да пасадкі лесу, у грыбы. Ну, і спявае!

Хоць **Яўгіння Вішэнка** на тры гады маладзейшая ад Ніны Такаюк, але яе жыццё ў многім падобнае. Праўда, выйсці замуж у 16 год прымусіла яе не жыццёвая неабходнасць, але... незвычайная прыгажосць. Расла яна красуняй на ўсю ваколіцу, хлопцы не маглі наглядзецца на яе. І, вядома, ад сватоў проста адбою не было. Не далі і да паўналецця ў паненках пабыць — без пары ды без часу замуж выхапілі. Гаспадарка ў іх маленечкая, муж працуе ў мілейчыцкай кафлярні. Жывуць самі, бо трое дзяцей ужо дарослыя, працуюць у Чаромсе, Гданьску, маюць свае сем'і. Падобна як іх матуля, шануюць і любяць свае родныя напевы. Уладзімір і Валянціна Вішэнка доўгі час спявалі ў беларускім хоры, што быў пры гуртку БГКТ у Гданьску.

Ніна Такаюк і Яўгіння Вішэнка любяць спяваць у дуэце. Аднолькавая ўражлівасць на самыя далікатныя асаблівасці напеву і натуральная суладжанасць галасоў спявачак ужо колькі год палоніць тысячы слухачоў на конкурсах „Беларуская песня", на фэстынах БГКТ, у беларускіх перадачах па Беластоцкаму радыё, на розных урачыстасцях. І ўсіх захапляе шчырасць і непасрэднасць гэтага спеву-апавядання ў лепшых песенных традыцыях нашага рэгіёна.

Запіс змешчаных песень зроблены ў снежні 1979 г. аўтарам гэтага артыкула, мелодыі расшыфраваў мгр Ян Бондар.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

**ВЯСНЯНКА**

*Там млоды конь стояў, ў його сыва грыва.*
*Сподобалась міні, сподобалась міні*
*молода дзўчына.*
*Ны так та дзўчына, як еі лічынько.*

Andantino (♩. = 69)

Там мло-ды конь сто — яў,

ў ё — го сы - ва гры — ва —

спо-до-ба - лась мі-ні, спо-до-ба - лась мі - ні

мо - ло - да діў - чы — на.

— Подай мні, діўчыно, подай мні, діўчыно,
на коня ручэнъку.
Я ручкі ны дала, тры слова сказала:
— О, бодай, о, бодай, о, бодай, о, бодай,
кохання ны знала.
Бо тэ коханічко зраня до вэчора —
поколъ сонце зыйдэ, поколъ сонце зыйдэ,
кохання ны будэ.
Поколъ сонце зыйдэ, поколъ сонце зыйдэ,
кохання ны будэ.

## ЖНІЎНАЯ

Moderato (𝅗𝅥 = 100)

Зы — лё — на ліш — чы — на о-ры-хі ро-ды — ла,

*Зылёна лішчына орыхі родыла,*
*молода дыўчына жолнежа любыла,*
*жолнежа любыла, жолнежа кохала,*
*она до жолнежа дробны лісты слала.*
*Жолнеж рано ўстаўшы, ліст той прочытавшы,*
*тяжэло вздохнувшы, горко заплакавшы:*
*— Пане поручніку, одпусты додому,*
*зоставыў дыўчыну сам ны знаю кому.*
*— Одпушчу я тэбэ, алі ж ны самого —*
*осідлаю тобі коня вороного.*
*Коня вороного шчэ й новэ сёдэлко —*
*то і розвэсэлі дыўчыны сэрдэнько.*

## ВЯСЕЛЬНАЯ




*Ны літай, мотылю, по-над білым стэлём,*
*ны робы пороху на мою постэлю.*)*
*На моій постэлі подушкі білыя,*
*ой, тышатся мною ворогі тяжкія.*
*— Ворогі, ворогі, ны тыштэся мною —*
*плынэ мое шчасте з быстрою водою.*
*Плынэ мое шчасте, я йду лапаты,*
*як його злапаю, буду пановаты.*
*Альбо пановаты, альбо гороваты —*
*горкою слізою лічко й умываты.*
*Шумыла лішчына, як се розвывала,*
*плакала дійчына, як се выдавала.*
*— Як мні ны шуміты, колі ж зылёная,*
*як мні ны плакаты, колі ж молодая?*

---

*) Кожны другі радок паўтараецца.

## БАЛАДА

Andantino (𝅗𝅥 = 69)



Од-на го-ра вы-со-ка-я, а дру-га-я кру-та.



Дур-на дыў-ка, быз ро-зу-му, што лю-быт рык-ру-та.

*Одна гора высокая, а другая крута.*
*Дурна дыўка, быз розуму, што любыт рыкрута.*)*
*Рыкрут ходыт, рыкрут любыт, рыкрута забырають —*
*дурна дыўка, быз розуму з жалю умлівае.*
*— Таварышчу, таварышчу, гляды мэі дыўкі,*
*як я з войска повэрнуся — нап'емся горылкі.*
*Козак з войска вэртаеця, ідэ вон дохаты —*
*малэ дытя, малэсінькe рачкуе по хаты.*
*— Воліў бы я з коня ўпасты, голоўку побыты,*
*чым з тобою, таварышчу, горылоньку пыты.*
*Воліў бы я з коня ўпасты то й насмэрть забытысь,*
*чым з тобою, дыўчынонька, тыпэр ожынытысь!*
*— Таварышчу, таварышчу, ны выліка туга —*
*за год, за два, за чытыры будэ вам прыслуга*
*Таварышчу, таварышчу, ны выліка страта —*
*за год, за два, за чытыры будэ зваты: — Тата!*

## БАЛАДА

*Хотыла маты сына ожыныты,*
*а ныввыстонькі удома ны міеты*).*
*Послала маты сына ў солдаты,*
*а ныввыстоньку лёночок рваты.*
*— Ой, рвы жэ, рвы жэ то й ны йды додому,*
*як ны вырвэш всёго — станься тополёю.*
*Ой, рвала, рвала то й шчэ й ны дорвала,*
*а як ны дорвала то й заночовала,*

---

*) Кожны другі радок паўтараецца.




*а як ны дорвала — тополёю стала.*
*Прыйшоў сын з войска, пытаецця маты:*
*— Дэ моя мылая, што дома ныма е?*
*— А твоя мылая пошла до родыны,*
*а мні зоставыла малую дытыну.*
*— Ой, мамо, мамо; што то за новына,*
*што й на нашым полю ростэ тополіна?*
*— Ой, сыну, сыну, нагостры сокіру,*
*поіедым зрубаіем тую тополіну.*
*За пэршым разом лісте зашуміло,*
*за другім разом то й заговорыло.*
*За другім разом то й заговорыло:*
*— Ны рубай ты мэнэ, бо я твоя мыла.*
*— Як моя мылая, то іды додому —*
*будэ тут стояты ў полю тополёю.*
*— Ой, як умрэ маты чэрэз тры годыны,*
*тогды я вырнуся до своёй дытыны.*

## БАЛАДА

*Ой, там на украіны росцвылася каліна —*
*намовляла Катырына господарского сына:*)*
*— Кідай батька, кідай матэр, я покіну дробны діты,*
*то й поідымо до міеста мід-горылоньку пыты.*
*— Ой, боюсь я, Катырыно, кобы нас ны догналі,*
*кобы нашы білы ручкі то й назад ны звязалі.*
*— Ой, ны бойся ты, Васыльку, ныма кому доганяты —*
*я й послала Сымэна рано в поле ораты.*
*Орэ Сымэн, орэ то й на сонце поглядае:*

---

*) Кожны другі радок паўтараецца.




*— Чужы жонкі обід нэсут, а моеі ныма е!*
*Орал Сымэн, орал до самого одвэчора —*
*кінуў волы на дуброву, а сам гайда додому.*
*Пошоў вон додому, зайшоў вон дохаты,*
*пытаецця малых діток: — Дэ то е ваша маты?*
*— А нашая маты пошла в ліес по маліну,*
*забожылась, заклялася, што вас, діткі, покіну.*
*Пошоў Сымэн до коморы то й загляную вон до скрыні —*
*ныма злота, ныма грошы, ныма жонкі Катырыны!*
*Ой, прыйшоў Сымэн дохаты, грымнуў в стыну головою:*
*— Што ж я буду робыты шчэ й з малэю дітворою?*
*Катырына ны дура — новы чоботы обула,*
*в доўгы кожух одяглася то й у свіет потяглася.*

## БАЛАДА

*— Ой, умру я, умру та й буду дывытысь,*
*чы будэ мой мілы по мніе шчэ й журытысь.**)
*Мілый зажурыўся — шчэ й сіеў, подголіўся:*
*— Коб тую сховаты, хутчый бы жыныўся!*
*Ой, прыйшлі дівчата мэнэ наражаты —*
*мілый выбырае: — Котору з іх узяты?*
*Узеў бы я тую, што добрэ танцюе —*
*говорат людэ: дома ны ночуе.*
*Узеў бы я тую з чорнымі бровамы —*
*ны могу еі взяты за ворожэнькамы.*
*Почулі дітонькі та й сталі плакаты:*
*— Ой, Божэ, наш Божэ, што ж будэм робыты?*
*Ой, Божэ, наш Божэ, што ж будэм робыты —*
*возьмэмся за ручкі та й пойдэм служыты.*
*— Ой, тіхо, дітонькі, ны йдэтэ служыты,*

---

*) Кожны другі радок паўтараецца.

Moderato (♩=100)



Ой, ум-ру я, ум-ру тай бу — дудь-вы-тысь, чы



бу — дэ мой мі-лы по мнiе шчэ й жу-ры-тысь, чы



бу — дэ мой мі-лы по мнiе шчэ й жу-ры — тысь.

бо я шчэ й ны ўмырла — з вамы буду жыты.
— Ой, мыла ж ты, мыла, яка ты зрадлыва —
я думаў, што умырла, а ты ешчэ жыва!

## ЖАРТОЎНАЯ

Moderato (♩=96)



чом ты, мо-я ма — мо, до цэр-квы ны хо-дыш,



чом для мэ-нэ, мо-ло-дэ-і, до-лень-кі ны про-сыш? про — сыш!

*) Кожны другі радок паўтараецца.

*— Чом ты, моя мамо, до цэрквы ны ходыш,*
*чом для мэнэ, молодэі, доленькі ны просіш?*)*
*— Я й до цэрквы ходыла, шчыро молілася —*
*выдно тобіе така доля, доню, судылася.*
*— Повызу я свою долю в рынок продаваты:*
*люды знают ліху долю — ны хочут купляты.*
*— Ой, іды жэ, ліха доля, у дунай топыся,*
*больш за мною молодэю то й ны волочыся.*

---

*) Кожны другі радок паўтараецца.

  



*Вёска Збуч. Фота М. Гайдука.*

## МІНУЎШЧЫНА

# Максім Бурсевіч

**(Кароткі біяграфічны нарыс)**

Максім Бурсевіч належыць да тых дзеячоў Беларускай сялянска-рабочай Грамады, якія ў яе дзеянні адыгралі важную ролю і адначасова асталіся найменш вядомымі. Ён быў сакратаром Цэнтральнага камітэта і кіраўніком Цэнтральнага сакратарыята Грамады, загадваў касай арганізацыі і вёў яе рахункаводства. Каб сабе ўявіць, у чым заключалася яго роля ў часе найбольш актыўнай дзейнасці і росту Грамады, неабходна сабе прыгадаць, якая была структура яе кіраўнічых органаў. Абавязкі Цэнтральнага камітэта ў Грамадзе выконвалі яе паслы сеймавага клуба і кааптаваныя. У гэтым камітэце галоўная роля належала яе старшыні — Тарашкевічу і намесніку старшыні — Раку-Міхайлоўскаму. Кааптаваным у ліпені 1926 года, які працаваў на пасадзе сакратара ЦК, якраз і быў Максім Бурсевіч. Гэтыя кіраўнічыя абавязкі выконваў ён 7 ці 8 месяцаў, і ў абвінаваўчым акце Акруговага суда ў Вільні яны ацэнены так: „Абавязкі сакратара, якія выконваў Бурсевіч, у арганізацыйнай структуры БСРГ (Грамады) былі надзвычай важнымі і ў шматлікіх выпадках як выканаўчыя — рашаючыя". За гэтую дзейнасць ён быў засуджаны ў славутым працэсе Грамады ў маі 1928 г. на 8 год цяжкай турмы.

Безумоўна, гэта быў чалавек цікавы і асаблівы. Азнаёміцца з ім — значыць адкрыць яшчэ адну старонку дзейнасці Грамады. І хоць пра яго мы ведаем менш, чым пра іншых вядучых дзеячоў Грамады, хочам падзяліцца нашымі ведамі, якія не так лёгка нам дасталіся. Зразумела, разлічваем на тое, што гэтая публікацыя заахвоціць да далейшых пошукаў матэрыялаў пра яго.

У тым месцы, дзе звычайна аўтар знаёміць чытача з крыніцамі, мы мусім сказаць нешта іншае: пра тыя цяжкасці, з якімі мы сустракаліся пры збіранні неабходных звестак пра яго. Бурсевіч не быў паслом. Значыць, няма такой багатай для нас крыніцы як матэрыялы з Сейма. Няма судовых актаў Грамады, захаваўся толькі акт абвінавачання і



*Максім Бурсевіч. 1926 г.*

некаторыя дакументы з архіва Т. Дурача (напрыклад, прысуд Апеляцыйнага суда і іншыя). Адсутнічаюць якія-небудзь дакументы пра Бурсевіча з Камуністычнай партыі Польшчы ці Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Не збераглася яго дакументацыя з турмы (апрача паштоўкі да яго адваката Т. Дурача). З сям'ёй жа (сынам і дачкой) удалося наладзіць сувязі толькі ў канцы 1979 года. Усё гэта абумоўлівае тое, што нарыс будзе надта скромны.

Максім Бурсевіч, сын Тараса і Марыі, нарадзіўся 9 жніўня 1890 г. у беларускай сялянскай сям'і ў вёсцы Чамяры каля Слоніма. У спадчыне па бацьку выйшла яму адна дзесяціна зямлі і палавіна хаты з глінянымі сценамі і такой жа падлогай. Сям'я была шматлікая, але жыло толькі чатырох братоў. Максім быў трэцім. Нягледзячы на гэта, удалося яму і старэйшаму брату Андрэю здабыць адукацыю і стаць народнымі настаўнікамі. Ад сям'і вядома, што „звание народного учителя" ён атрымаў у Настаўніцкай семінарыі ў Жыровічах.

У „Геаграфічным слоўніку Каралеўства Польскага" знаходзім: Жыровічы — гэта невялікае мястэчка ў 9 вярстах ад Слоніма. Яго мінулае цесна звязана з гісторыяй тамтэйшага манастыра і манашаскага ордэна базыльянаў, якія пасяліліся тут у 1613 годзе. Базыльяне вялі розныя школы. Адна вышэйшая ў 1828 г. была рэфармавана ў уніяцкую духоўную семінарыю. Потым яна была ператорана ў іншую школу, якую праўдападобна закончыў М. Бурсевіч. Беларускі даследчык гісторыі Грамады У. Палуян пісаў у 1966 г., што Бурсевіч яшчэ да вайны здабыў сярэднюю адукацыю (ён не называе крыніцы гэтай інфармацыі). Мяркуючы па апавяданнях сям'і, М. Бурсевіч усё жыццё займаўся самаадукацыяй, быў начытаны і ведаў некалькі моваў. Ва ўзросце 18 год уступіў у грамадскую арганізацыю. Аднак цяжка сказаць, што гэта бы-

ла за арганізацыя. Ён такую інфармацыю пра сябе пакінуў у актах судовай справы. У адрозненне ад іншых абвінавачаных не выявіў, які характар мела гэтая арганізацыя. Землякі Бурсевіча з Чамяроў пішуць, што там пачынаючы з 1905 г. дзейнічала нелегальная арганізацыя і што гэта была сацыял-дэмакратычная арганізацыя, і яе членам з'яўляўся М. Бурсевіч. Аднак гэтай весткі не ўдалося праверыць.

Пасля заканчэння семінарыі ў Жыровічах (было гэта ў 1909 або 1910 годзе) падаўся Максім да старэйшага брата Андрэя — вясковага настаўніка ў вёсцы Нязбодзічы-Дабровая каля Ваўкавыска. Можа хацеў пераняць у брата вопыт або знайсці работу. Тымчасам звочыў у суседнім хутары Тарасаўка дзяўчыну, з якой і ажаніўся. Гэта была Апалінарыя Мацвеева. Яна была верным таварышам і памочнікам у яго далёка не лёгкім жыцці. Звянчаліся яны ў 1910 годзе. Тут адразу заўважым: у адрозненне ад многіх іншых левіцовых беларускіх дзеячоў была ў Бурсевіча вялікая сям'я (шасцёра дзяцей).

Амаль адразу пасля вяселля пачалося вандроўнае жыццё сям'і М. Бурсевіча. У 1911 г. працуе ён у вясковай школе ў Старым Сяле каля Кобрына, потым — у вёсцы Крупчыцы ў тым жа павеце. Хоць Бурсевіч у I сусветнай вайне ўдзелу не прымаў і нагул не служыў у войску, але бадзянне сям'і працягвалася: у гадах 1917-1920 яны ўжо на Украіне, у вёсцы каля Харкава. Бліжэй нічога невядома пра гэтыя гады. Адно толькі, што ён зарабляў на жыццё настаўнічаннем і навучыўся ўкраінскай мовы ў размове і пісьме. У сваю вёску Чамяры вярнуўся з усёй сям'ёй у 1921 або на пачатку 1922 г. Старая хата стаяла, але зусім пустая. Дапамагала сям'я жонкі, суседзі. Пачалі абжывацца. Сталай настаўніцкай работы ён быў пазбаўлены, хоць валодаў польскай мовай. Двойчы прабаваў засноўваць прыватныя беларускія школы: першы раз у Навагрудскім павеце, другі — у сваёй вёсцы. Жыццё і той і другой было надта кароткае — іх закрылі. Тую, што была ў вёсцы Чамяры ў 1924 г., яе вучні яшчэ памятаюць, паспелі пазнаёміцца і палюбіць свайго настаўніка. Пасля закрыцця гэтай школы яму забаранілі працаваць настаўнікам. Аднак гэта не было перашкодай для аўтара абвінаваўчага акта напісаць: „у вёсцы Чамяры (Бурсевіч) займаў пасаду (!) народнага настаўніка". А чаму яму не дазволілі вучыць дзяцей таксама чытаем: „Максім Бурсевіч да стварэння БСР Грамады вядомы быў сваёй антыдзяржаўнай дзейнасцю ў Слонімскім павеце... утрымоўваннем цесных сувязей з кіраўнічымі дзеячамі. У яго доме адбываліся нелегальныя



*Максім Бурсевіч пасля выхаду з турмы ў Каранове. 1930 г.*

сходы людзей, падазроных у прыналежнасці да камуністычнай партыі, а ў размовах з мясцовым насельніцтвам Бурсевіч агітаваў не плаціць падаткі". І там жа далей: „У Навагрудчыне яго двойчы арыштоўвалі за камуністычную дзейнасць". Як відаць з наступных старонак, гэтая „камуністычная дзейнасць" на Навагрудчыне заключалася ў тым, што заснаваў ён там беларускую школу. Адносна нелегальных сходаў і рэвізій, то нават сын і дачка памятаюць падрабнасці, хоць былі тады яшчэ малалеткамі. Пацвярджаюць гэтыя факты некалькіх камуністычных дзеячоў з Чамяроў, якія асабіста прымалі ўдзел у гэтых сходах у яго хаце. Відаць, не маючы магчымасці прымяніць сваю энергію ў педагагічнай працы, ён прысвяціў сябе грамадскай дзейнасці. Пераважна збіраў моладзь, чытаў ёй і тлумачыў навіны і артыкулы з беларускіх левіцовых газет. Толькі многа год потым стала вядома, што гэтыя газеты не адно прывозіў у вёску, але таксама пісаў у іх пад псеўдонімам „Чупрыновіч". Словам, ён быў адзіным у вёсцы чалавекам адукаваным, які карыстаўся вялікай пашанай у сваіх аднавяскоўцаў і то не толькі маладых — да яго голасу прыслухоўваліся ўважліва таксама старэйшыя людзі. Неаднойчы ён выступаў на нелегальных мітынгах, якія праводзілі ў вёсцы камуністы або камсамольцы. У Чамярах ён быў не толькі прапагандыстам, больш таго — быў духовым правадыром, і ён імкнуўся гэты ўплыў на сялян захаваць.

Як сцвярджае сям'я, М. Бурсевіч часта выязджаў. Куды? — Невядома. Можна толькі здагадацца, што ў яго былі сувязі з нейкім цэнтрам. З далейшага жыццёвага шляху выразна вынікае, што быў ён у тыя гады звязаны з беларускім асяродкам у Вільні. На карысць такога меркавання сведчыць некалькі вельмі важных фактаў. Па-першае, у 1922 годзе Беларускі цэнтральны выбар-

чы камітэт падаў яго кандыдатуру на пасла ў Сейм па спіску 16. Зразумела, што невядомага для сябе кандыдата не высоўвалі б. Па-другое, як сказана ў яго біяграфіі ў Беларускай Савецкай Энцыклапедыі (том 2, стар. 479), належаў ён да актыву Беларускага сеймавага клуба. Затым ёсць доказы, што ён меў цесныя сувязі асабліва з будучымі кіраўнікамі Грамады. Пра гэта надзвычай яскрава сведчыць тое, што калі дзейнасць Грамады пачала бурліва развівацца і няспынна расла ды спатрэбіўся ў Цэнтральным камітэце здольны і давераны чалавек, тады ў Вільню запрасілі з Чамяроў М. Бурсевіча з усёй сям'ёй і яму гэты Сакратарыят даверылі. Болей таго, каапталі яго ў Цэнтральны камітэт з правам падпісваць членскія білеты. А вядома, што для масавай арганізацыі далёка не абыякава тое, чый подпіс віднее на асноўным дакуменце, што пацвярджае прыналежнасць да партыі.

Тое, што кіраўніцтва Грамады рашыла яму даверыць Сакратарыят, значыць, не толькі яго ведала, але ведала вельмі добра, дасканала разумела, што ўводзяць яго ва ўсе таямніцы, а іх было не мала ў сціслага кіраўніцтва. У яго рукі аддалі ўсе фінансавыя сродкі — не інакш, мелі да яго бязмежны давер як да чалавека сумленнага. Высока ацэньвалі яго здольнасці і прадбачылі, што ён адолее ўсё. Хоць гэта і быў для Бурсевіча незвычайны скок: з вёскі ў горад і адразу за руль вялікай і ўвесь час растучай арганізацыі! Справіўся ён дасканала — пра гэта якраз сведчаць судовыя акты. У абвінаваўчым акце Акруговага суда, у той частцы, якая датычыцца асабіста М. Бурсевіча яскрава відаць, што няма довадаў віны. У асноўным усё зведзена да аднаго: быў ён кіраўніком Цэнтральнага сакратарыята БСР Грамады. Якраз гэтую дзейнасць у Сакратарыяце Апеляцыйны суд ацаніў больш важка, чым Акруговы суд. Апеляцыйны суд прыняў пункт гледжання, што Грамада не была змовай, але ўнутры яе дзейнічала змова, якую ўзначальвала сціслае кіраўніцтва арганізацыі. Да гэтага сціслага кіраўніцтва Апеляцыйны суд не залічыў нават усіх паслоў, але залічыў іменна Бурсевіча як накіраванага Цэнтральным камітэтам КПЗБ да працы ў Грамадзе. Гэтая ацэнка выявілася і ў прысудзе. Апеляцыйны суд зменшыў усім паслам прысуд на палавіну — з 12 да 6 гадоў. Бурсевічу ж зменшыў прысуд толькі на два (!) гады і такім чынам ён атрымаў такое ж пакаранне, як усе з кіраўніцтва Грамады — шэсць год цяжкай турмы.

З усяго, што нам удалося сабраць пра дзейнасць Цэнтральнага сакратарыята відаць, якім агульным прызнаннем і аўтарытэтам карыстаўся Бурсевіч. Нельга забы-

ваць: у Цэнтральным сакратарыяце стала працавалі не толькі вучні і вучаніцы Беларускай гімназіі, яны выконвалі тэхнічныя працы. Асноўную арганізацыйную работу вялі дзеячы з розным вопытам у грамадска-палітычных справах, з рознай адукацыяй (таксама і вышэйшай), з рознай палітычнай арыентацыяй і з розных мясцовасцей, што і не ведалі адзін другога. Тут, між іншым, працавалі актывісты КПЗБ і КСМЗБ, працавалі беспартыйныя, прыхільнікі. І ў той жа час у Сакратарыяце служыў таксама саветнік па справах права Ф. Акінчыц, з вышэйшай адукацыяй, які некалькімі гадамі пазней будзе заснавальнікам беларускай фашысцкай арганізацыі. З гэтага відаць, што кіраўніку хапала ўмення, тактоўнасці і палітычнай сталасці, каб працу гэтага даволі незвычайнага калектыву накіраваць у адну плынь — вызначаную кіраўніцтвам БСР Грамады. Нездарма У. Палуян пісаў, што Цэнтральны сакратарыят зрабіўся „сапраўдным арганізацыйным штабам Грамады“. Таксама абвінаваўчы акт акрэсліў ролю Сакратарыята як „кузню“ грамадаўскіх кадраў. І праўда, гэтыя кадры асабліва ва ўтрыманні сувязей з гурткамі, патрапілі рабіць цуды.

М. Бурсевіч, між іншым, апрача свае штодзённай працы ў Сакратарыяце, сам апекаваўся некалькімі паветамі, заўсёды размаўляў з тымі, хто прыбываў з гурткоў. Ён праявіў вялікую ініцыятыву ў арганізаванні павятовага актыву ў кастрычніку 1926 г., якая адыграла значную ролю ў далейшай дзейнасці Грамады.

Дзе ён усяму гэтаму навучыўся? Дзе здабыў такое ўменне? На гэта мы не адкажам. Вядома нам толькі, што ёсць такія людзі, якія пры раптоўнай змене сітуацыі губляюцца і нягледзячы на самыя шчырыя пажаданні не ведаюць як і за што ўзяцца. І ёсць такія людзі, што ў самым цяжкім і новым для сябе палажэнні праяўляюць многа знаходлівасці, кемлівасці, быццам бы іх здольнасці маглі выявіцца толькі ў выключна цяжкіх умовах. Да такіх, відаць, належаў Бурсевіч.

З-за недахопу дакументаў, цяжка што-небудзь сказаць аб грамадска-палітычных поглядах Бурсевіча. Выручыў нас у гэтым адзін з абвінавачаных у працэсе Грамады — праваслаўны духоўны з царквы на Сніпішках у Вільні і адначасова бухгалтар у Беларускім банку. Працуючы ў банку ён часта сутыкаўся з Бурсевічам. На следстве ён выракся Грамады, апраўдваючыся тым, што погляды правадыроў Грамады, і асабліва кіраўніка Цэнтральнага сакратарыята Максіма Бурсевіча былі вельмі блізкія камуністычнай ідэалогіі.

Постаць Бурсевіча выступае на старонках літаратур-



*Сям'я Бурсевічаў. Мінск 1930 г.*

ных публікацый. Беларускі пісьменнік Міхась Машара, які ў часе існавання Грамады і „Змагання“ быў у блізкіх сувязях з іх дзеячамі, між іншым рэдагаваў беларускую левіцовую газету „Наша воля“, часта сам наведваў Сакратарыят. У сваёй трылогіі „Крэсы змагаюцца“ (асабліва ў другой яе частцы „Сонца за кратамі“, Мінск 1968) адлюстраваў атмасферу, якая панавала ў Сакратарыяце, паказаў некалькі падрабязнасцей. Для нас найважнейшае: з гэтых абшырных апісанняў відаць, што аўтарытэт, якім карыстаўся М. Бурсевіч у Сакратарыяце, паходзіў не толькі ад яго службовай пасады. Прыгадаем некалькі момантаў з працэсу Грамады, дзе ўспамінаецца Бурсевіч. На працэсе прысутнічаў публіцыст з Савецкага Саюза. З подпісам Язэпа Паўлоўскага паявіўся ў 1929 г. у Мінску яго абшырны рэпартаж з судовай залы „На працэсе“ (у: „Заходняя Беларусь на лаве падсудных“). Прадстаўляючы знешні выгляд падсудных, ён піша: „Максім Бурсевіч нават сваім выглядам прыгадвае постаць рэвалюцыянера-народніка“. Адно цікавае здарэнне ў судовай зале, што было звязана з Бурсевічам, апісвалі віленскія газеты, але мне хочацца прыпомніць яго з аўтабіяграфіі Браніслава Тарашкевіча. У часе працэсу Тарашкевіч устаў, і за вострую і гучную заўвагу ў адрас суда і ўсяго ходу працэсу яго вы-

далілі з судовай залы. Зараз жа Тарашкевіча падтрымаў пружанскі камуніст Язэп Патапчук. Залягла цішыня. І толькі тады, як устаў Бурсевіч і падтрымаў Тарашкевіча, — усе падсудныя ўсталі ў знак салідарнасці. Дэманстрацыя ўдалася. Усіх іх выдалілі з судовай залы, аб'явілі перапынак у працэсе.

Ад часу арышту, які наступіў у палове студзеня (першы допыт адбыўся ўжо 19 студзеня 1927 г.), пачаліся зноў бадзянні Бурсевіча, цяпер ужо па турмах. Спачатку яго трымалі на Лукішках, праз месяц вывезлі ў Вронкі, дзе вялося следства ў справе Грамады. На пачатку 1928 г., перад вялікім судовым працэсам у Акружным судзе, яго зноў прывезлі на Лукішкі. Пасля працэсу вывезлі ў Каранова, дзе ён сядзеў разам з Ракам-Міхайлоўскім. У турмах здароўе яго пагоршылася, скардзіўся ён на розныя болі. Увесь час адчуваў ён старанлівую апеку жонкі, хоць яна сама была ў вельмі цяжкіх умовах. Адна з пяццю дзяцьмі, з якіх самы старэйшы, вучань беларускай гімназіі, быў тады ва ўзросце 16 год. Яшчэ цяжэй стала, калі ўлады зліквідавалі Цэнтральны сакратарыят Грамады, і сям'я Бурсевіча засталася без даху над галавой, бо жыла дагэтуль у адным з пакояў Сакратарыята. Давялося шукаць кватэру. Бурсевіч таксама ні на момант не забываў, што мае сям'ю. Пасылаў ёй цацкі, зробленыя з конскага воласу (розныя кулончыкі), вылепленыя з хлеба фігуркі, пісаў лісты на аздобленых сябрамі-вязнямі картках. Пра гэта памятае дачка і носіць кулончык ад яго.

Як вядома, усё кіраўніцтва Грамады ў палавіне 1930 г. звольнілі з турмы. Да сям'і вярнуўся таксама Бурсевіч. Некаторы час яны жылі ў Вільні. Адразу пасля выхаду з турмы Бурсевіч уключыўся ў грамадска-палітычную дзейнасць. На лістапад таго ж года былі вызначаны выбары ў Сейм, таму разам з іншымі звольненымі з турмаў правадырамі Грамады ён уключыўся ў перадвыбарчую кампанію. „Бурсевіч, Рак і Мятла заснавалі выбарчы камітэт", — пісаў Тарашкевіч у сваёй аўтабіяграфіі. У міжчасе ўмовы легальнай і паўлегальнай дзейнасці ўмоўна звольненым правадырам Грамады настолькі сталі цяжкімі, што кіраўніцтва КПЗБ вырашыла стварыць ім магчымасць выезду з Польшчы.

У 1931 г. Бурсевіч з усёй сваёй сям'ёй пасяліўся ў Мінску і пачаў працаваць кіраўніком аддзела культуры і навукі ў Дзяржплане БССР. Удзельнічаў ён таксама ў працы Камісіі па вывучэнню Заходняй Беларусі пры Акадэміі навук БССР, быў дэпутатам Цэнтральнага выканаўчага камітэта БССР. Дзеці вучыліся. Так было да паловы 1933 г., калі па беспадстаўных, паклёпніцкіх абві-



*Леаніла Максімаўна Пацёмкіна (дзявочае прозвішча Бурсевіч) — дачка М. Бурсевіча. Здымак зроблены нядаўна.*

навачаннях яго арыштавалі разам з іншымі дзеячамі, прыбыўшымі з Заходняй Беларусі. Мяркуючы па карэспандэнцыі з сям'ёй, Бурсевіч яшчэ ў 1939 г. пісаў дахаты з далёкай Поўначы.

Пра гэты, апошні, этап яго жыцця вядома вельмі мала. Дакументы, якія захоўвае сям'я, надта скромныя. З іх вынікае, што Максім Бурсевіч памёр 2 жніўня 1941 г. ва ўзросце 51 года жыцця. Пасля XX з'езда КПСС ён пасмяротна рэабілітаваны. Ніякіх іншых дакументаў, апрача здымкаў, па бацьку ў сям'і не захавалася. Калі б яшчэ жыла жонка Бурсевіча (памерла яна ў 1973 г.), вядома было б значна болей пра яго цяжкі жыццёвы шлях змагара. На жаль, узяліся мы за работу крыху запозна.

Гэты кароткі нарыс, які мы збіраліся аддаць у друк на яго 90 гадавіну нараджэння, прадстаўляем чытачам з невялікім спазненнем, але з надзеяй, што адклікнуцца тыя, хто яго ведаў, папоўняць нашыя веды пра гэтую вельмі цікавую грамадаўскую постаць.

**А. Бергман**

# Вільня ўвекавечыла памяць 21.I.1892—

У Вільні на вуліцы Людаса Гіры 37 (колішняя вуліца Віленская 12) 27 верасня 1979 года была адкрыта памятная табліца ў гонар Браніслава Тарашкевіча з надпісам:

**„У ГЭТЫМ ДОМЕ У ГАДАХ 1924-1926 ЖЫЎ БЕЛАРУСКІ ВУЧОНЫ І ПЕДАГОГ, ВЫДАТНЫ ДЗЕЯЧ РЭВАЛЮЦЫЙНАГА РУХУ, ЧЛЕН КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ АД 1925 ГОДА БРАНІСЛАЎ АДАМАВІЧ ТАРАШКЕВІЧ“.**





*Браніслаў Тарашкевіч з жонкай Верай Андрэеўнай і сынам Радаславам у часе іх пражывання ў Вільні на вуліцы Віленскай 12. 1925 г.*

Бранiслава Тарашкевiча
29.XI.1938



*На ўрачыстасцi адкрыцця таблiцы прамаўляе былы дзеяч КПЗБ i Грамады Аляксандр Сцефановiч.*



*Група вiленскiх беларусаў, першы злева вядомы мастак Пётр Сергiевiч.*



*На ўрачыстасці адкрыцця таблiцы.*

Мінулае гэтага дома — часціна гісторыі беларускага радыкальнага руху ў дваццатых гадах XX стагоддзя. У ім месціліся рэдакцыі беларускіх радыкальных газет, Цэнтральны сакратарыят БСР Грамады і шмат іншых важных беларускіх арганізацый. Такім чынам умураванне гэтай дошкі з'яўляецца ўшанаваннем усяго беларускага радыкальнага руху.

На ўрачыстасць прыбылі прадстаўнікі кіраўнічых партыйных і дзяржаўных устаноў сталіцы Літоўскай ССР. Прысутнічалі старыя дзеячы Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі і Беларускай сялянска-рабочай Грамады. З Масквы прыехала і выступіла з прамовай другая жонка Б. Тарашкевіча — Ніна Аляксандраўна.

**Тэкст і фота Антон Янкоўскі**

Вінцук Склубоўскі

# Нашчадкі Грамады

## 1. ПАЛІТЫЧНЫЯ ЎМОВЫ Ў ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

У трыццатыя гады ў міжваеннай Польшчы ўзмацняецца фашызацыя краю. Санацыйныя ўлады перабудавалі апарат правасуддзя і заканадаўства. Дэкрэтам прэзідэнта быў уведзены новы крымінальны кодэкс. Іншыя дэкрэты абмежавалі незалежнасць суддзяў і падпарадкавалі адвакатуру дзяржаўным уладам. Вянцом усяго было ўстанаўленне новай канстытуцыі з красавіка 1935 г., якая замацоўвала дыктатуру прэзідэнта, цяпер ён быў адказны толькі перад Богам.

У практыцы ўлады не шанавалі нават сваіх законаў. Праследваўся кожны праціўнік санацыі незалежна ад закону. Брэсцкі працэс Цэнтралеву, у якім былі пакараны правадыры дэмакратычных партый не за іх канкрэтныя ўчынкі, але як прадстаўнікі апазіцыйных партый, — пачаў новы этап фашызацыі краіны.

Тэрор праяўляўся ў штораз больш наглай і непрыкрытай форме. Толькі ў 1932 г. за прыналежнасць да Камуністычнай партыі Польшчы было арыштаваных 15 639 чалавек. [1]) Увянчаннем тэрору было ўтварэнне ў чэрвені 1934 г. канцэнтрацыйнага лагера ў Картуз-Бярозе, у які замыкалі па загаду старостаў людзей, што выдаваліся ўладам палітычна небяспечнымі, а такімі былі перш за ўсё камуністы, беларусы і ўкраінцы. У 1934 г. адмовіліся ад міжнароднага дагавору пра ахову правоў нацыянальных меншасцей. Пасля гэтага былі закрыты апошнія беларускія школы, гурткі ТБШ, беларускія клубы і бібліятэкі. Западозраныя ў радыкальнай дзейнасці з пагранічных раёнаў высяляліся ў глыб Польшчы. Многіх арыштавалі і замкнулі ў Картуз-Бярозе[2]).

У такой палітычнай абстаноўцы толькі згуртаванне народных мас у адзіным фронце, які б яднаў працоўных усіх нацый, што жылі ў Польшчы, магло стварыць запору наступаўшаму фашызму. Арганізатарам гэтага фронту магла быць толькі камуністычная партыя, бо яна была ўзброена правільнай тэорыяй і рэвалюцыйнай тактыкай. Правільны падыход да справы левіцовага фронту — згодна з рашэннямі Камуністычнага інтэрнацыянала — выпрацавала КПП на чацвёртай канферэнцыі ў снежні 1925 года. Пастановы канферэнцыі гаварылі пра неабходнасць аб'яднання рэвалюцыйнай барацьбы рабочага класа, сялянства, прыгнечаных народаў і заваявання ўздзеяння на тых працоўных, якія знаходзіліся пад уплывам буржуазных і апартуністычных партый.



*Група актыву рэдакцыі газеты „Наша воля“. Злева направа: М. Васілёк, А. Шэўчык (сакратар рэдакцыі), В. Склубоўскі (галоўны рэдактар), П. Граніт, М. Танк.*

Гэтыя пастановы ляглі ў аснову працы IV канферэнцыі КПЗБ. Канферэнцыя адкінула тактыку непасрэднай падрыхтоўкі ўзброенага паўстання і выпрацавала праграму барацьбы за мабілізацыю ўсіх сіл рабочых, сялян і нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі на рэвалюцыйную барацьбу. Партыя абавязала камуністаў ісці ва ўсе арганізацыі, дзе знаходзяцца рабочыя і сяляне, падтрымоўваць усе частковыя патрабаванні працоўных, накіраваныя на паляпшэнне іх жыцця, і знаходзіць агульную мову з тымі працоўнымі, якія яшчэ ішлі за згодніцкімі партыямі, і накіраваць іх на барацьбу за звяржэнне прыгнёту памешчыкаў і буржуазіі.[3])

Не ўсім кіруючым дзеячам КПЗБ была зразумелай неабходнасць нацыянальна-вызваленчай барацьбы і ідэі народнага фронту. Некаторыя з іх не хацелі прызнаваць партыі, якой праграма не была б такой самай, як праграма камуністычнай партыі, і члены яе не былі б камуністамі. Само слова „беларускі“ ў назве партыі ім выдавалася неадпаведным.[4])

Такія погляды былі сфармуляваны на III канферэнцыі КПЗБ.

## 2. БЕЛАРУСКАЯ СЯЛЯНСКА-РАБОЧАЯ ГРАМАДА

Існуючыя ў Заходняй Беларусі партыі былі слабыя, а іх уплывы на насельніцтва — нязначныя. Патрэбна была легальная партыя, якая патрапіла б згуртаваць як мага болей працоўных. Такую ролю адыграла Грамада. Яна была асаблівай з'явай у гісторыі нацыянальна-вызваленчых рухаў. Кіраўніцтва Грамады пры дапамозе ЦК КПЗБ апрацавала праграму, якая верна адлюстроўвала нястачы, патрэбы і імкненні народных мас. Удзел камуністаў у працы грамадаўскіх арганізацый прадухіляў хістанні і нерашучасць, што ўласцівы рухам неаднароднага сацыяльнага складу. На самай справе праграма Грамады была праграмай мінімум КПЗБ, якой не хапала ёй да гэтага часу. У яе аснове было якраз тое, што з'яўляецца зместам ідэі народнага фронту. КПЗБ знайшла ў Грамадзе магутнага саюзніка ў барацьбе за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, шырокую легальную грамадскую базу. Грамада развівалася з такім размахам, што хутка іншыя палітычныя групоўкі, што спрабавалі ёй супрацьставіцца, страцілі ўплыў сярод насельніцтва, а грамадскія арганізацыі трапілі пад яе ўплыў. Яскравым прыкладам гэтага было здабыццё Грамадой кіраўніцтва ў Беларускім нацыянальным камітэце, створаным у Вільні ў 1919 г. пад лозунгам барацьбы супраць Савецкай улады.[5]) Ёй поўнасцю было падпарадкавана Таварыства беларускай школы, якое ў 1926 г. прыняло новы статут цалкам згодны з ідэйнымі прынцыпамі Грамады.

Грамада была ліквідавана, але людзі, якія яе стварылі, не зракліся барацьбы. Непасрэдным прадаўжальнікам яе быў Беларускі сялянска-рабочы пасольскі клуб „Змаганне" (1928-1930), які гуртаваў даволі вялікі актыў, што меў трывалыя сувязі з масамі працоўных. Гэты клуб фактычна кіраваў Таварыствам беларускай школы. У 1930 г. „Змаганне" было разгромлена ўрадам, а яго кіраўнікі прыгавораны судом на турэмнае зняволенне. З прагрэсіўных арганізацый аставалася яшчэ ТБШ, дзейнасць якога была амаль поўнасцю паралізавана. Але былі ў Заходняй Беларусі тысячы ахвярных актывістаў, што жылі ідэямі Грамады, „Змагання" і гатовыя былі па першаму закліку зноў падняцца на барацьбу. Адхіліліся толькі часовыя спадарожнікі, якіх раней захапіла бурлівая хваля ўздыму рэвалюцыйнага руху, а пасля разгрому партый яны апынуліся на бездарожжы.

## 3. БЕЛАРУСКАЯ САНАЦЫЯ

Каб аслабіць рэвалюцыйны рух, урад Пілсудскага зрабіў у 1929 г. некалькі ўступак і абяцаў наступныя ў галіне нацыянальнай культуры. Ён прызнаў Віленскай беларускай гімназіі правы дзяржаўнай школы і некалькі дзяржаўных стыпендый, у Ві-

ленскім універсітэце была створана кафедра беларускай мовы, пачалі выдаваць на беларускай мове школьныя падручнікі.[6]) Гэта схіліла частку інтэлігенцыі да супрацоўніцтва з урадам. Яе ўзначальвала група Астроўскага, якая выступіла пад беспартыйнай шыльдай і падкрэсліла сваю незалежнасць, хоць залежнасць яе ад санацыйных уладаў нікому не была таямніцай.

Пасля ліквідацыі клуба „Змаганне" група Астроўскага стварыла Цэнтральны саюз культурных і гаспадарчых арганізацый (Цэнтрасаюз), які рэкламаваў сябе адзіным прадстаўніком ідэі Грамады і ставіў сваім заданнем у супрацоўніцтве з урадам весці мірную культурную работу. Цэнтрасаюз сарганізаваў Таварыства беларускай асветы (ТБА), якое падобнай да ТБШ назвай спрабавала ўвесці ў зман сялянскія масы. Органам ТБА быў „Родны край". Не ўсе спадарожнікі гэтага руху былі за безумоўным супрацоўніцтвам з урадам. Некаторыя з іх лічылі сваю прыналежнасць да руху тактыкай. Яны былі пераканаyы, што дэкларуючы такое супрацоўніцтва, можна будзе весці прынамсі беларускую культурна-асветную працу. Зразумела, сярод іх былі таксама такія як Астроўскі ці Акінчыц, што выказваліся за безумоўнае супрацоўніцтва з урадам і гатовыя былі апраўдаць тэрор санацыйных уладаў неабходнасцю барацьбы з камунізмам.

## 4. БЕЛАРУСКАЯ ХРЫСЦІЯНСКАЯ ДЭМАКРАТЫЯ

Легальнай партыяй, якая пасля ліквідацыі Грамады і „Змагання" высоўвалася на першы план, была Беларуская хрысціянская дэмакратыя. Яна мела прыхільнікаў сярод дробнай буржуазіі, інтэлігенцыі і каталіцкага духавенства. Праграма яе адпавядала капіталістычнай рэчаіснасці: прызнавала прыватную ўласнасць „падставай цывілізацыйнага поступу грамадства", хоць і рабіла засцярогу, што гэта можа быць крыўдна, калі яна празмерна сканцэнтравана ў прыватных руках, і прадбачвала: „калі гэтага вымагае дабро працоўных", каб яна пераходзіла ва ўласнасць грамадскую. Праграма гарантавала палітычныя і грамадскія свабоды, асабліва роўнасць перад законам, свабоду слова і сумлення, але з другога боку патрабавала абавязковага навучання рэлігіі ў школах і то як у дзяржаўных, так і ў прыватных. Для касцёла і царквы патрабавала поўнай свабоды і магчымасці кіравацца кананічным правам і карыстацца „палітычнымі і грамадскімі правамі нароўні з іншымі ўстановамі і грамадзянамі дзяржавы". Выступаючы супраць аддзялення царквы і касцёла ад дзяржавы, праграма засцерагалася, „каб урад не мог выкарыстаць рэлігіі ў палітычных мэтах". Да касцёла і царквы гэтая засцярога не адносілася. Да вызначанай мэты трэба ісці па шляху „арганізавання ўсведамлення і ўзгадавання сялян, работнікаў і

інтэлігенцыі на хрысціянска-дэмакратычных ідэалах і народнай культуры“.

Праграма хрысціянскай дэмакратыі (хадэцыі) не мела ніякіх шанцаў, каб мабілізаваць шырокія сялянскія масы, бо яны былі настроены радыкальна і ў асноўнай сваёй масе — антыклерыкальна. Гэта прымусіла кіраўнікоў хадэцыі змяніць праграму ў напрамку большай дэмакратызацыі. Партыя таксама змяніла назву на Беларускае народнае аб'яднанне (БНА). Гэтыя ўступкі былі толькі тактыкай, антыкамуністычная прапаганда не сыходзіла са старонак хадэцкага друку.

Дзейнасць хадэцыі не пагражала дзяржаўнаму ладу. І ўсё ж яе праследвалі як беларускую партыю. Таму яна магла быць саюзнікам у нацыянальна-вызваленчай барацьбе.

## 5. БЕЛАРУСКІЯ НАЦЫЯНАЛ-САЦЫЯЛІСТЫ

Раз'юшаны нацыяналізм быў чужы для беларускага насельніцтва. Уплыў яго абмяжоўваўся вельмі вузкім колам інтэлігенцыі. Большасць прыхільнікаў нацыянал-сацыялізму не адважваліся нават адкрыта выступаць, а дзейнічалі пад хадэцкай шыльдай. У радах хадэцыі нацыянал-сацыялісты адыгрывалі не малую ролю. Прыклад: Шчорс як прадстаўнік хадэцкай моладзі быў старшынёй Беларускага студэнцкага саюза. Адкрыта як нацыянал-сацыялісты выступалі Акінчыц і Казлоўскі. Пасля прыходу Гітлера да ўлады яны намагаліся стварыць у Заходняй Беларусі фашысцкую партыю. У канцы 1933 г. яны пачалі выдаваць двухтыднёвік „Новы шлях“ — „орган беларускай нацыянальна-сацыялістычнай думкі“. У студзені 1936 г. яны абвясцілі сваю праграму, у якой адназначным быў толькі антыкамунізм. „Нацыянальны фронт“, які яны супрацьставілі адзінаму фронту, павінен быў абапірацца на нянавісці да Савецкага Саюза: „Кожны вораг расійскага камунізму ёсць нашым прыяцелем“, — аб'яўлялі яны. Галоўная роля ў ажыццяўленні праграмы адводзілася інтэлігенцыі, якая на думку нацсоцаў з'яўляецца волатам, што завядзе „сялянска-пралетарскую беларускую нацыю“ да гістарычнай славы, упырснуўшы „элемент волі“ ў дрымотную масу народнага духа.

Аднак беларуская інтэлігенцыя не рэагавала на гэтую лісліваць. „Калі мы наглядаем нянавісць да нацыянал-сацыялістычнай Нямеччыны з боку буржуазна-дэмакратычнай часткі беларусаў, дык тут справа больш чымсь дзіўная“, — сцвердзіў „Новы шлях“. „Небяспечнай для нас акалічнасцю з'яўляецца яшчэ і тое, — трывожыўся „Новы шлях“, — што значная частка беларускай інтэлігенцыі калі не выяўляе выразных сімпатый у бок бальшавізму, то і не выступае ў спосаб рашучы супраць пашырэння гэтых уплываў.[7])

## 6. ПРАДАЎЖАЛЬНІКІ ГРАМАДЫ

Асноўны актыў беларускага нацыянальна-вызваленчага руху складаўся з прыхільнікаў Грамады. Гэта былі людзі блізкія КПЗБ. Задума стварыць без іх народны фронт была нерэальнай. Іх адзінай арганізацыйнай базай аставалася ТБШ, хоць нізавыя яе арганізацыі былі разгромлены. Перашкодай у стварэнні народнага фронту была памылковая пазіцыя ЦК КПЗБ, якая асабліва яскрава выявілася ў прынятых у 1934 г. дзвюх рэалізацыях: „Агонь барацьбы супраць нацыянал-апартунізма“ і „Аб асноўных жаралах нацыянал-апартунізма ў КПЗБ“. Іх прынялі пад уплывам беспадстаўных арыштаў былых паслоў, кіраўнікоў Грамады і „Змагання“, а таксама некаторых кіруючых работнікаў ЦК КПЗБ.[8]) Вялася барацьба супраць агульнашанаваных дзеячоў ТБШ. Дайшло нават да таго, што М. Танку было забаронена друкаваць свае творы ў „Летапісе ТБШ“ — адзіным у той час легальным дэмакратычным часопісе ў Заходняй Беларусі.[9]) „Нігілізм у нацыянальным пытанні, прыкрыты плашчом дрэнна зразумелага інтэрнацыяналізму, — пісаў Анісаў, — не быў у некаторых партыйных кругах да канца пераадолены. Яшчэ ў 1935 г. некаторыя партыйныя работнікі КПЗБ адмоўна адносіліся да адзінага ў той час прагрэсіўнага часопіса ў Заходняй Беларусі „Летапіс ТБШ“, які рэдагаваў Рыгор Шырма“.[10]) Гэта не толькі не спрыяла таму, каб здабываць прыхільнікаў сярод тых, што апынуліся на бездарожжы і шукаць сувязей з іншымі групоўкамі, для стварэння адзінага фронту, але адпіхала ад рэвалюцыйнага руху былых грамадаўцаў, якіх ахрысцілі нацдэмамі.

Рашэнні VII кангрэса Камуністычнага інтэрнацыянала 1935 г. дапамаглі КПЗБ пераадолець левую сектанцкую абмежаванасць і яна пачала праводзіць больш гібкую палітыку. Паступова фармуецца адзіны народны фронт барацьбы супраць фашызму і нарастання пагрозы вайны. Яго аснова — гэта былыя грамадаўцы і выхаванае імі маладое пакаленне.

## 7. „ПА ПРОСТУ“

Сярод студэнцкай моладзі ініцыятыва стварыць супольны фронт выйшла ад групы польскіх студэнтаў, якою кіравалі Дэмбінскі і Ендрыхоўскі. Зімой 1932-33 года ў Віленскім універсітэце ўзнікае студэнцкая арганізацыя „Фронт“, у ёй актыўны ўдзел прымаюць студэнты-беларусы. Гэтая арганізацыя па ініцыятыве ЦК КПЗБ у жніўні 1935 г. прыступіла да выдавання літаратурна-грамадскага часопіса „Па просту“, які хутка стаў папулярнай ва ўсёй краіне адзінафронтовай газетай. Дзейнасць „Фронту“ не спынілі арышты яго дзеячоў і гэтак званы „працэс акадэміцкай лявіцы“, што адбыўся ў студзелі 1936 г. Па яго прысуду галоўны



*Група моладзі, якая дапамагала пры распаўсюджванні „Нашай волі“.*

абвінавачаны У. Друто атрымаў 5 год, а Шчэкала, Смоль і Петрусэвіч па 4 гады турмы.

## 8. „НАША ВОЛЯ“

Узнікла неабходнасць мабілізаваць як мага большую колькасць насельніцтва Заходняй Беларусі, беларускага сялянства. Для гэтага была патрэбна беларуская газета. Ёю і стала „Наша воля“. Першы яе нумар выйшаў 24 снежня 1935 г. Пад гэтай датай Максім Танк у „Лістках з календара“ піша: „Ва ўсіх нас — святочны настрой. Пасля столькіх захадаў выйшаў першы нумар газеты „Наша воля“. Цэлую ноч у студэнцкім пакоі рэдактара В. Склубоўскага пісалі адрасы. Раніцай загрузілі ўвесь тыраж на санкі рамізніка і завезлі на пошту. На Татарскай вуліцы ля пад'езда дома 15, дзе размясцілася рэдакцыя, і каля друкарні ўжо другі дзень круціцца нейкі падазроны тып. Відаць, сочыць, сабака“.[11])

Каля „Нашай волі“ на грунце ідэі народнага фронту згуртаваліся пісьменнікі, камуністы і беспартыйныя. Яго актыўнымі ўдзельнікамі сталі былыя грамадаўцы і дзеячы ТБШ: Р. Шырма, С. Паўловіч, Ф. Стацкевіч, В. Труцько, Манцэвіч і іншыя. З

газетай супрацоўнічалі: Васілёк і маладыя паэты — М. Танк, А. Іверс, Н. Тарас, Г. Новік і інш. Непасрэдным арганізатарам газеты „Наша воля“ быў Р. Шырма. Праграмным заданнем яе была барацьба супраць наступаючага фашызму і пагрозы вайны, супраць сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, за справядлівы сацыяльны лад, свабоду і дэмакратыю.

Першы нумар адкрываўся артыкулам Р. Шырмы са слоў: „Трывожна на свеце...“ і далей паказваліся ўсё больш нахабныя атакі фашысцкіх агрэсараў на Далёкім Усходзе, у Афрыцы і Еўропе. Перад газетай ставілася таксама заданне „бараніць народныя інтарэсы ад усялякай крыўды, злучаць у гэтым высокім парыве ўсё здаровае, свежае сіламі ў нашым грамадстве“. Газета вяла рашучую барацьбу з нацыяналізмам, які атручваў свядомасць працоўных і гэтым самым быў на руку рэакцыі. „Ніякіх выпадаў супраць суседніх народаў на сваіх старонках не дапусцім, — гаварылася ў № 1/2 „Нашай волі“ ў адказ на атаку з боку „Роднага краю“. — Палякі, украінцы, літоўцы, расейцы як нацыі заслугоўваюць на роўную пашану. З беларускім заалагічным нацыяналізмам, які прышчэплівае нам нянавісць да суседніх народаў, будзем бароцца як і з кожным іншым“. Газета заклікала шырокія працоўныя масы да яднання.

І доўга чакаць не даводзілася. Адразу пасля выхаду першага нумара пасыпаліся лісты з гарадоў і вёсак, у якіх гаварылася пра пануючы тэрор і барацьбу працоўных мас за свае правы. „Хоць рэдка выходзіць, але праўду піша. „Наша воля“ падабаецца нават тым, хто наогул мала цікавіцца газетамі“, — паведамляе рэдакцыю група моладзі з вёскі Гарбачы Ваўкавыскага павету. „Нашу волю“ чакаюць на вёсцы, як пірага з печы“, — пісалі падпісчыкі з вёскі Пацвілы Касаўскага павету.

Нялёгка ў той час было выдаваць газету з-за праследаванняў цэнзуры. Справа заключалася не толькі ў тым, каб не парушыць абавязваючыя буржуазныя законы. Газету канфіскавалі ўжо толькі за тое, што яна не падабалася ўладам, нават калі б яна выступала ў абарону законаў. Зачэпку знайсці было няцяжка. Калі газета крытыкавала палітыку ўладаў, прымяняўся артыкул крымінальнага кодэкса, што прадбачваў пакаранне да 10 год турмы за падбухторванне друкаваным словам да звяржэння ўлады або пануючага ладу. Калі зусім ужо не было да чаго прычапіцца, цэнзар паклікаўся на артыкул аб распаўсюджванні фальшывых паведамленняў, якія могуць выклікаць публічны неспакой. Няпраўдзівымі лічыліся тыя паведамленні, што не падабаліся ўладам, а публічны неспакой, на іх думку, выклікала ўсё, што не было згодна з іх поглядам. Прыклад: пасля канфіскацыі газеты за артыкул аб пагрозе вайны з боку фашызму рэдактар „Нашай волі“ быў засуджаны Акружным судом у Вільні за падбухторванне да дзяржаўнага перавароту. Апе-

ляцыйны суд, бачачы яўную недарэчнасць такой кваліфікацыі, змяніў яе і засудзіў рэдактара за распаўсюджванне фальшывых паведамленняў, якія могуць выклікаць публічны неспакой. Праследаваліся не толькі рэдактары і супрацоўнікі газеты, але таксама тыя, хто чытаў прайшоўшую ўжо праз цэнзуру рэдакцыйную газету. Максім Танк прыводзіць такі прыклад: „Наведалі знаёмыя хлопцы са Сватак. Расказвалі, што іх выклікаў камендант паліцыі, угаворваў, каб яны не выпісвалі „Новай волі“, бо гэта — газета камуністычная“.[12]) У рэдакцыю прыходзілі весткі, што часам была ў рабоце гумовая палка паліцыі. Часта паліцыя проста забірала на пошце „Нашу волю“. Таму моладзь з некаторых вёсак прысылала свайго прадстаўніка ў Вільню, і ён забіраў газету для некалькіх вёсак.

## 9. РЭВАЛЮЦЫЙНЫ ЎЗДЫМ І НАСТУП ФАШЫЗМУ

Вясной 1936 г. па ўсёй краіне пракацілася хваля забастовак і дэманстрацый, якія канчаліся расстрэламі рабочых паліцыяй. Пачатак даў Кракаў, там была расстраляна дэманстрацыя рабочых „Сэмперыта“. Найбольшая трагедыя адбылася ў Львове. Там у часе пахавання забітага ў дэманстрацыі беспрацоўных Казака тысячы рабочых у пахавальным шэсці, не зважаючы на забарону ўладаў, рушылі галоўнай вуліцай з накрытай чырво-



*Група дзеячоў беларускага прагрэсіўнага руху ў Заходняй Беларусі. Злева направа: В. Склубоўскі, І. Хвораст, Р. Шырма, А. Тумаш, М. Танк, В. Труцько.*

ным штандарам труной. Паліцыя адкрыла агонь па труне, якую неслі рабочыя. Паражаных кулямі заступалі іншыя. Нават не памаглі атакі коннай паліцыі. І ўсё ж труна значаным крывёй шляхам была данесена на могілкі. У Заходняй Беларусі моцным рэхам адгукнулася забастоўка рабочых лідскай фабрыкі гумовых вырабаў „Ардаль". Адказам на санацыйны тэрор былі магутныя адзінафрантовыя першамайскія паходы і дэманстрацыі. Аднак яны не маглі ўстрымаць наступлення фашызму. Хістанні і нерашучасць рэфармісцкіх партый далі буржуазіі і памешчыкам магчымасць устрымаць рэвалюцыйны рух і прыступіць да контрнаступлення і паступовай ліквідацыі рэштак дэмакратыі.

Часы, якія настали, трапна схарактарызаваў Е. Путрамент: „Кожны наступны год быў мацней нагружаны падзеямі. Усё прадказвала адно: набліжэнне вайны. Але пісаць пра гэта было вельмі цяжка. Нялёгка было абвінавачваць гітлерызм. Абы-што служыла зачэпкай да інтэрвенцыі за „зневажанне правадыра прыязнай для Польшчы дзяржавы". Было ў гэтым нешта з механікі кашмару, калі чалавеку, што ўцякае, застываюць ногі і ён становіцца бяссільным перад пагрозай".[13])

## 10. ЛІКВІДАЦЫЯ ЛЕГАЛЬНАЙ ДЗЕЙНАСЦІ ЛЕВІЦОВАГА РУХУ

У Заходняй Беларусі тэрор прымяняўся асабліва бязлітасна — санацыйныя ўлады наносілі рэвалюцыйнаму руху ўдар за ўдарам. У сакавіку 1936 г. загадам Акруговага суда ў Вільні было спынена выдаванне часопіса „Па просту". Праўда, у маі вышла на яго месца „Карта", але яе жыццё было кароткае. У верасні 1936 г. настала чарга на „Нашу волю", а ў лістападзе закрылі „Беларускую летапісь".

„Як нам пасля закрыцця „Па просту", „Карты" і „Нашай волі" не хапае зараз сваёй трыбуны, якая б гаварыла, што трэба рабіць", — піша М. Танк.[14]). А ў іншым месцы: „Пасля закрыцця „Нашай волі" ўсе мы сябе адчуваем як без рук. Цэлы вечар утраіх (...) думалі над тым, як бы зноў пачаць выдаваць сваю газету, як бы не растраціць сувязей і адрасоў падпісчыкаў „Нашай волі" і яе супрацоўнікаў".[15])

Аднак мара пра новую газету ў тагачасных палітычных абставінах не магла здзейсніцца.

Пасля разгрому легальных форм дзейнасці левіцовага руху ўлады вырашылі расправіцца з яго правадырамі. Ужо ў 1936 г. Акруговы суд у Вільні засудзіў на шматгадовую турму рэдактараў і супрацоўнікаў легальных КПЗБоўскіх газет: „Беларускай газеты", „Літаратурнай старонкі" і „Асвы". Іх судзілі не за прэсавае злачынства, бо за гэта рэдактары адказвалі пасля кожнай канфіскацыі. Іх судзілі за выказванне поглядаў, якія не

падабаліся ўладам, хоць цэнзура прапусціла артыкулы, у якіх былі выказаны гэтыя погляды. Яны кваліфікаваліся як падрыхтоўка да дзяржаўнага перавароту, або пасяганне на цэласнасць дзяржавы. Такі самы працэс быў праведзены супраць рэдактараў і супрацоўнікаў „Па просту" і „Карты". Падобны падрыхтоўвайся супраць рэдактара і супрацоўнікаў „Нашай волі".

Працэс Дэмбінскага, Ендрыхоўскага, і іх таварышаў, у якім кідалася ў вочы інтэлектуальная перавага падсудных і іх абаронцаў над пракуратарам і суддзямі, кончыўся правалам і кампрамітацыяй дэфензівы і яе кіраўніка Пясэцкага, за гэта яго звольнілі з пасады. Пасля такога „ўрока" дэфензіва не наважылася рабіць працэс супрацоўнікам „Нашай волі", бо яго асновы былі скампрамітаваныя.

Аднак наступ фашызму не спыняўся. Пасля ліквідацыі левіцовага руху, прыйшла чарга на Беларускае народнае аб'яднанне (БНА). Улады закрылі іх орган „Беларускую крыніцу". Была ліквідавана кожная легальная дзейнасць, калі яна вялася на беларускай мове. Перастаў выходзіць нават „Родны край", бо ён сваю ролю выканаў і ўжо быў непатрэбны.

Тым больш балюча адчуваўся роспуск КПП і КПЗБ — спыняла дзейнасць партыя, якая была здольная кіраваць нацыянальна-вызваленчым рухам і то ў такі момант, калі над краінай навісла смяротная фашысцкая пагроза.

Набліжалася вайна і цёмная ноч гітлераўскай акупацыі.

**Вінцук Склубоўскі**

1) Borkowski, Endecja i piłsudczyzna — dwa obozy polskiej prawicy, „Nowe Drogi", Nr 6/78.
2) Революционный путь компартии Западной Белоруссии, стар. 295.
3) KPP. Uchwały i rezolucje, t. II, s. 248
4) Революционный путь компартии Западной Белоруссии, стар. 116.
5) Ладысёў, У., Шлях да свабоды, Мінск 1978, стар. 48.
6) Революционный путь компартии Западной Белоруссии, стар. 222.
7) Глядзі: Ладысёў У., Шлях да свабоды..., стар. 92 і інш.
8) Революционный путь компартии Западной Белоруссии, стар. 318.
9) Калеснік У., Паэзія змагання, Мінск 1959, стар. 36.
10) Анісаў С., Крутымі шляхамі, Мінск 1960, стар. 36-7.
11) Танк М., Збор твораў у чатырох тамах, т. IV, Мінск 1967, стар. 226.
12) там жа, стар. 224.
13) Putrament J., Wybrańcy, W-wa 1970, t. I, s. 215.
14) Танк М., Збор твораў..., т. IV, стар. 330.
15) там жа, стар. 285.

# ГРОДЗЕНСКІ ГУРТОК БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

1909 год. Восень. У маленькім памяшканні Францішка Грынкевіча ў Бернардынскіх мурах у Гродне сабралася невялікая грамадка моладзі.[1]) Гэта арганізацыйны сход беларускага гуртка. Былі там гімназісты апошніх класаў: Адам Бычкоўскі (дваюрадны брат рэдактара віленскага „Беларуса“ Антона Бычкоўскага), Ф. Эйсмант, П. Алексюк, сёстры Ганна і Марыя Салянкі, Галена Шэгідэвічанка (ужо закончыўшыя школы) і я — Людвіка Сівіцкая, вучаніца шостага класа. Абмеркавалі патрэбу стварэння сваёй арганізацыі, узгоднілі яе назву: „Горадзенскі гурток беларускай моладзі“ (ГГБМ), абдумалі, якую зрабіць пячатку і выбралі праўленне („урад“) гуртка ў складзе: А. Бычкоўскі — старшыня,[2]) П. Алексюк — намеснік старшыні, З. Абрамовіч — сакратар і Л. Сівіцкая — бібліятэкар.



*Людвіка Войцікава (Зоська Верас) са сваім унукам інжынерам Яраславам Луцкевічам. 1979 г.*
*Фота М. Гайдука.*

На гэтым першым пасяджэнні праўленне гуртка абмеркавала план працы на бліжэйшы час і акрэсліла яго мэты: згуртаванне беларускай моладзі ў Гродне, галоўным чынам школьнай, самаасвета і магчыма шырокая сувязь з вёскай. Нашым кіраўніком быў школьны капелан, кс. Ф. Грынкевіч. Гэтая акалічнасць мела істотнае значэнне, паколькі гурток быў нелегальны, а ў памяшканні кіраўніка мог параўнальна бяспечна праводзіць свае сходы.

Важнай справай у праграме нашай дзейнасці было арганізаванне бібліятэкі. На пачатак сябры ахвяравалі „Смык“ і „Дудку“ Багушэвіча, „Жалейку“ Купалы, „Люд беларускі“ Федароўскага і гадавік „Нашай нівы“. Зараз жа было выпісана (за складковыя грошы) крыху кніжак з пецярбургскай суполкі „Загляне сонца і ў наша аконца“. Акрамя таго, у выніку маіх захадаў, гурток атрымоўваў з Вільні „Нашу ніву“, календары і іншыя кніжкі на камі-

сію з вялікай скідкай. Грошы, атрыманыя з прадажы, ішлі на патрэбы бібліятэкі, а часткова і канцылярыі гуртка. Усе сябры гуртка, едучы на святы і канікулы, былі абавязаны браць з сабой літаратуру і прадаваць яе па вёсках. Рахункі захаваліся ў мяне дагэтуль.

Першым, так сказаць, публічным выступленнем нашай моладзі была вечарына-спектакль. Адбылася яна 19 лютага 1910 г. у памяшканні Салянкаў на Паліцыйнай вуліцы. Захавалася яе праграма, якая паказвае, колькі працы і добрай волі ўлажылі сябры ГГБМ у сваё першае выступленне. Вечарына складалася з трох частак:

**Першая частка:** прамова А. Бычкоўскага, даклад П. Алексюка „Беларусы і іх нацыянальнае адраджэнне", песня „А хто там ідзе" (музыка Рагоўскага) у выкананні Ю. Касацкай і З. Абрамовіч, верш Купалы „Пажалей мужыка" ў вык. А. Клюкоўскага і выступленне струннага аркестра.

**Другая частка:** камедыя Крапіўніцкага „Па рэвізіі".

**Трэцяя частка:** „Дудка" Мацея Бурачка ў вык. Э. Кунды, песня „Гора" ў вык. Ю. Касацкай, верш Янкі Лучыны „Ямшчык" у вык. П. Алексюка і К. Бужынскага і „Храк" — маналог А. Ляўковіча.

Гасцей сабралося поўна. І сядзелі і стаялі пад сценамі — не было дзе павярнуцца. На вечарынку прыйшлі Сільвестр Ваявудскі і М. Янкоўскі — прадстаўнікі польскага гуртка ў Гродне, з якім мы былі ў цесным кантакце. А. Бычкоўскі і я былі членамі гэтага гуртка, бывалі на лекцыях літаратуры, вечарынках, карысталіся іх багатай бібліятэкай і г.д., а яны ўзаемна бывалі ў нас. Часам у памяшканні маёй маці праводзілі рэпетыцыі хору ды вечарыны.

Наша першая вечарына ўдалася добра. Нязгорш адыгралі камедыю „Па рэвізіі", у якой я выконвала ролю Пантурчыхі і, хоць першы раз выступала на сцэне — не хвалявалася, бо была загрыміравана так, што родная маці мяне не пазнала. Грыміраваў наш сябра — рэжысёр З. Абрамовіч, які пазней належаў да аб'язнога тэатра Ігната Буйніцкага. На другі дзень, на жаданне публікі, прышлося спектакль цалкам паўтарыць.

У адпаведнасці з мэтай нашага гуртка, на адным з пасяджэнняў пастанавілі мы ехаць з нашым спектаклем на вёску. Зрабіць гэта было нялёгка. Наступіла зіма. Наладзіць спектакль у якой-небудзь адрыне немагчыма, а цесныя вясковыя хаты на такое выступленне не надаваліся. Думалі, думалі і нарэшце пастанавілі звярнуцца да ўласнікаў маёнтку Крыштапарова пад Новым Дваром на Сакольшчыне. І вось паехала я з нашым кіраўніком і стар-

шынёй. Падарожжа было не зусім прыемнае: з Гродна цягніком да станцыі Бяляны, а далей фурманкай яшчэ вёрстаў шэсць. Снег, мяцеліца і мароз немалы. Наш старшыня ў вучнёўскім шэрым пальтачку жартаваў: „Каб не ўмеў дрыжаць, то б замёрз...“ Але рэзультаты былі як найлепшыя: нам не толькі далі вялікі пакой, але і абяцалі зрабіць сцэну. І сапраўды, калі мы прыехалі ў назначаны дзень — сцэна была гатовая. Праграма спектаклю — тая ж, што ў Гродне.

Людвіка Войцікава, з дому Сівіцкая (літаратурная мянушка — Зоська Верас) — актыўная ўдзельніца беларускага грамадска-культурнага руху нашаніўскай пары і міжваеннага дваццацігоддзя. Нарадзілася ў 1892 г. З 1923 г. жыве ў Вільні. У 1909 г. удзельнічала ў стварэнні нелегальнага Гродзенскага гуртка беларускай моладзі, у складзе якога працавала моладзь і з Сакольшчыны. Ніжэй змяшчаем успаміны Зоські Верас пра дзейнасць гэтай першай беларускай грамадска-культурнай арганізацыі на Гродзеншчыне і Сакольшчыне.

На жаль, гледачоў было няшмат, магчыма таму, што вёскі Пагараны, Міленкоўцы і Бернікі былі мала знаёмыя, не было адпаведнай прапаганды, ды і пагода мала спрыяла. Усё ж нейкі пачатак быў зроблены.

Нягледзячы на тое, што перад спектаклямі работы было шмат, мы ўсё ж пачалі ладзіць і перыядычныя лекцыі. Запісы, якія захаваліся, даюць мне магчымасць апісаць іх больш падрабязна. І так, на першай лекцыі, якая адбылася ў лютым 1910 г. мы пазнаёміліся з межамі Беларусі, адзначылі на карце губерні і паветы, заселеныя беларусамі і г.д. На другой лекцыі, 10 сакавіка, чыталі народнае апавяданне „Хітры мужык“, гаварылі пра Багушэвіча, чыталі яго творы. На трэцяй — заняліся суседзямі-славянамі. Чацвёртая была прысвечана памяці С. Палуяна. Апрача лекцыяў ішлі рэпетыцыі хору і струннага аркестра.

Надыйшла вясна. У горадзе не сядзелася, і кожную вольную хвіліну праводзілі мы над Нёманам у Ласосне, дзе пад шум вады і шчэбет птушак практыкаваўся наш хор. Карыстаўся хор першым спеўнікам А. Грыневіча, але найчасцей спявалі песні, прывезеныя сябрамі з родных вёсак, і такім чынам атрымаўся зусім арыгінальны свой уласны рэпертуар. Загадчыкам хору быў сябра Янка Ляўковіч з вёскі Біты Камень, што на Сакольшчыне. Называлі мы яго мянушкай „капельдудка“. Хутка, можна



*Група членаў Гродзенскага гуртка беларускай моладзі. Стаяць: Язэп Раманскі, Адольф Зянюк, Янік (імя невядомае); сядзяць: Людвіка Сівіцкая (З. Верас) і Марыся Бобрык, ніжэй — Юзя Грынкевічанка.*

сказаць, работа ў гуртку спынілася: экзамены, канец школьнага года не давалі свабоднага часу. У канцы мая раз'ехаліся на лета.

І вось новы 1910/11 школьны год. Пасля адпаведнай агітацыі, у гурток запісалася шмат новых вучняў з малодшых класаў. Пры новым складзе гуртка неабходна было падзяліцца на секцыі. У старэйшай секцыі моладзь займалася самаасветай, кіраваннем працай гуртка, а таксама вяла заняткі з сярэдняй і малодшай секцыяй. У малодшай дзеці вучыліся чытаць па-беларуску, пісалі дыктоўкі, вучыліся вершаў і

г.д. Раз у месяц рабіліся для іх вечарынкі з дэкламацыямі, спевамі і гульнямі.

Адразу з восені пачалі мы рыхтавацца да чарговай вечарыны-спектаклю. Выбралі „Модны шляхцюк“ К. Каганца. Заварушыўся наш гурток — пачалося вывучэнне роляў, рэпетыцыі, спеўкі, рэпетыцыі аркестра, падрыхтоўка дэкарацыяў і г.д., што запаўняла ўсе свабодныя ад навукі хвіліны. На гэты раз пастараліся мы зрабіць заслону. Выканалі яе з блакітнага паркалю з чырвонай аблямоўкай, угары намаляваныя хмаркі, з-за якіх усходзіць залатое сонца. Купілі таксама крыху рэквізіту: бароды, вусы, фарбы.

Галоўнай праблемай былі касцюмы. Але тут знайшоўся выхад зусім просты: у Сакольскім павеце была вёска Бяляны, дзе ў мяне было шмат знаёмых. І вось паехала я туды, пагаварыла і там абяцалі нам пазычыць аўтэнтычныя вясковыя вопраткі, як мужчынскія, так і жаночыя. Апошнія на выбар: дамотканыя спадніцы, андаракі, папярэчкі — што мне падабаецца, нават са старых бабуліных скрыняў. Зналі мяне бялянскія сяляне ад малога, так што ахвотна згадзіліся памагчы ў нашым клопаце. Апрача вопратак удалося мне завербаваць музыку-скрыпача Яна Шыдлоўскага, які іграў на ўсіх вясковых вяселлях, вечарынах і т.п. Калі вярнулася ў Гродна і расказала, як усё ўдалося наладзіць, радасць сяброў была вялікая.

Нарэшце ўсё было гатова. Памяшканне дасталі добрае: вялікі пакой з сумежным малым на гардэроб. Нашы хлопцы зрабілі выгодную сцэну, нават з суфлёрскай будкай пад сцэнай. На пару дзён перад спектаклем паехалі ў Бяляны па вопратку. Набралі два вялікія мяхі — усяго ўсялякага, аж да ботаў уключна. Прышлося пераначаваць, але было не да сну: у Бялянах была тады тайная школа, у якой вучыла дзяцей сяброўка нашага гуртка Марыся Бобрык. Праўда, вучыла папольску, бо сяляне каталікі ўважалі польскую мову неразлучнай з „польскай верай“, але Марыся ўмела паміж іншым прачытаць дзецям беларускую кніжку, верш, спяваць з дзяцьмі беларускую песню. Вось мы з ёю цэлую ночку прагаварылі.

Раніцай сяляне адвязлі нас на станцыю, а ў Гродне спаткалі на вакзале нашы таварышы і сярод смеху, жартаў давалаклі мяшкі да нашага „тэатра“. У назначаны на спектакль дзень — каля паловы лютага 1911 г. прыехаў і музыка.

Насамперш А. Бычкоўскі прачытаў даклад на тэму: „Адгалосак душы беларускага народу ў яго песнях, казках і легендах“. Далей выступаў хор, было некалькі дэкламацый. Паміж іншымі, малая дзяўчынка Юзя Грынкевічанка дэкламавала мой

верш „Што я люблю“. Пры гэтым было смешнае здарэнне. Я (з-за сцэны) шапчу ёй: „Юзя, не кажы чый верш!“, а наш старшыня грозна: „Юзя, скажы абавязкова!“. Тады яна павярнулася да нас і кажа ўголас: „То каго ж з вас я маю слухаць?“... аж публіка засмяялася.

„Модны шляхцюк“ выйшаў вельмі добра. У яго пастаноўцы прымалі ўдзел: Л. Сівіцкая (Ганка), Язэп Лявіцкі (бацька), Казюк Кальшка (шляхцюк), Вінцук Семяновіч (Ігнась), Янка Ляўковіч (сват), Адольф Зянюк (суфлёр), Адам Бычкоўскі (рэжысёр). Дэкламавалі і спявалі ў хоры: Ганна і Марыя Салянкі, Юзя Грынкевічанка, Стася Кунда, Юзя Касацкая, Марыя Бобрык, Фэлька Лабенец, Антон Спявак, Эдзюк Кунда і іншыя.

Публікі было шмат, быў нават адзін настаўнік літаратуры з Гродзенскай рэальнай гімназіі, прагрэсіўны, разумны чалавек. Але найбольшую радасць адчувалі мы, бачучы дарагога госця з Вільні — Івана Луцкевіча, які прыехаў на нашае запрашэнне. Потым у „Нашай ніве“ (№ 8, 1911 г.) пісаў ён: „Я дзіваваўся, гледзячы на артыстаў, як яны ўмелі падглядзець, падсцерагчы характар вясковых сватанняў, умелі наладзіць усё так, як яно папраўдзе бывае ў хаце беларусаў“. Сваю карэспандэнцыю закончыў ён словамі: „Вынес я ў падзяку за прыемны вечар, веру, што гродзенская беларуская моладзь родную справу пасуне ўперад“. На другі дзень прыйшлося спектакль паўтарыць для малодшай вучнёўскай моладзі, для якой у першы дзень не хапіла месца.

Аддаючы вопратку бялянскім сялянам мы абяцалі, што прыедзем са спектаклем да іх. У хуткім часе мы мелі тры свабодныя ад навукі дні г.зн. „царскія дні“. Вось у гэты час мы пастанавілі паехаць у Бяляны. Недалёка ад гэтай вёскі быў маёнтак гродзенскага архірэя — Дубніца, там мы дасталі ў арандатара большменш адпаведнае памяшканне. Разумеецца, прыйшлося тром нашым сябрам паехаць раней, каб зрабіць сцэну. Я паехала з імі, бо ўся гэта ваколіца была мне добра знаёмая. Сцэну зрабілі. Пакуль хлопцы працавалі, я абыйшла блізкія вёскі Бяляны, Хварасцяны і Стрэльчыкі і паведаміла жыхароў калі адбудзецца спектакль.

У назначаны дзень мы прыехалі цягнікам на станцыю Бяляны, а адтуль пехатой у Дубніцу. На гэты раз была нас немалая грамада: „артысты“, хор, аркестр. Зноў бялянскія жанчыны падрыхтавалі нам вопраткі, успомнены ўжо музыка з'явіўся нават няпрошаны. На праграму злажыліся: даклад А. Бычкоўскага, дэкламацыі вершаў Багушэвіча, выступленне хору і аркестра і „Модны шляхцюк“.

Усё ўдалося добра. Публікі

была маса. Цесната такая, што адны другіх на сцэну выпіхалі, выходзячы ўсходні паламалі... Ну, але нічога. Арандатар не злаваў, чалавек ён быў добры і з пачуццём гумару. Позна вечарам развіталіся з задаволенымі сялянамі і пайшлі на станцыю. Свяціў месяц, пагода была добрая — мы ішлі радасныя з музыкай і песнямі. Цягнік быў не хутка, і мы чакаючы ў пустой у той позні час пачакальні пайшлі скакаць „Лявоніху".

Але гэта, такое прыемнае і вясёлае (і хіба карыснае) мерапрыемства ледзь не скончылася для некаторых з нас вельмі сумна... Справа вось у чым: у арандатара Дубніцы не было адпаведных на сцэну дошак і ён параіў нам пайсці ў фальварак Малая Дубніца да пражываўшага там манаха і ўзяць адтуль дошкі. Дошкі манах даў, але ў хуткім часе паехаў да архірэя і пахваліўся: „А ў нас быў спектакль, прыязджала моладзь". Архірэй да губернатара: „Каму даваў дазвол?". Губернатар, вядома, нічога не ведаў, паслаў у Новы Двор у паліцыю — там таксама нічога не ведалі і звярнуліся на станцыю Бяляны да яе начальніка і жандара — і так па нітцы да клубка дайшлі, што прыязджала моладзь з Гродна. А хто? Амаль уся моладзь была нетутэйшая, але ведалі толькі мяне і яшчэ аднаго з г. зв. Пушкінскай школы, які паходзіў з вёскі Хварасцяны. I ён і я былі ў апошніх класах і нас, вядома, у найлепшым выпадку выгналі б са школ. Але на нашае шчасце ў губернатарскай канцылярыі працаваў бацька адной з нашых сяброўак. Баючыся, каб і яго дачку не пацягнулі да адказнасці, пастараўся, каб наша „дзела" прапала...

Зноў пачалося нармальнае жыццё гуртка. Бібліятэка ўсё пашыралася. Перапіска з І. Луцкевічам, В. Ластоўскім і А. Уласавым была сувяззю з беларускім жыццём у Вільні. Наш маленькі гурток адчуваў сябе часткай вялікага цэлага...

У маі 1911 г. адбылася ў нас вечарынка на якой ГГБМ з вялікім жалем развітаўся са сваім арганізатарам і першым старшынёю Адамам Бычкоўскім, які закончыў гімназію і выязджаў з Гродна. Неўзабаве ўсе сябры раз'ехаліся на летні адпачынак.

Восенню 1911 г., калі моладзь зноў з'ехалася ў Гродна, выбралі мы новага старшыню ГГБМ — Казюка Кальшку, гімназіста восьмага класа. Зноў пачаліся лекцыі, спеўкі і вербаванне новых сяброў. У кастрычніку малодшая секцыя гуртка падрыхтавала невялікі спектакль. Сцэнічных твораў для дзяцей у нас не было. На маю просьбу прыслаць што-небудзь, атрымалі мы ад В. Ластоўскага з Вільні рукапіс „Снатворнага маку" К. Лейкі. Зараз жа яго перапісалі і рукапіс адаслалі назад. На жаль, гэты твор нам не падыйшоў і паставілі



*Адам Бычкоўскі — гімназіст VIII класа. 1912 г.*

п'есу „Пастушка“, якую я пераклала з польскай мовы.

Ігралі ў нашым памяшканні на Гараднічанскай вуліцы. Прывезлі поўны воз ёлак, кветак і зрабілі сцэну: лясную палянку. Апрача „Пастушкі“ было крыху дэкламацый і жывыя вобразы, асветленыя каляровымі агнямі. Усё выйшла добра, эфектоўна, а дзеці — наймалодшыя нашы сябры былі вельмі задаволены сваёй работай.

Хутка пасля гэтага пачалі думаць аб спектаклі. Праектавалі паставіць „У зімовы вечар“ Э. Ажэшка. Пачалі нават рэпетыцыі, аднак з увагі на нястачу сіл, пакінулі гэту задуму і пастанавілі арганізаваць калядную ёлку для дзяцей у якой-небудзь вёсцы. Выбралі вёску Серуцёўцы Сакольскага павету, бо ў той бок мы яшчэ не дабіраліся. Грошы ў касе гуртка было мала, таму зрабілі складчыну, купілі цукерак, пернікаў, арэхаў, яблыкаў... Зрабілі крыху цацак і ўзяўшы з сабой вялікую колькасць газет, каляндароў і кніжак, каб раздаць сялянам, паехалі. Зноў да станцыі Бяляны, а далей пехатой вёрст 6 ці 7. Зіма, снег, добра, што мароз быў невялікі. Пакуль зайшлі, ужо сцямнела. Зараз жа гаспадар хаты прынёс ёлку. Прыбралі, запалілі свечкі. Дзяцей і дарослых набралася поўная хата. Крыху пагулялі з дзяцьмі каля ёлкі, раздалі дзецям цукеркі і іншае, а дарослым — календары і кніжкі і пачалі збірацца на цягнік. Цяпер было ўжо лепш, бо гаспадар запрог каня і адвёз нас на станцыю. Ездзіла нас, здаецца, чалавек шэсць. А ў наступную нядзелю ў Навадворскім касцёле пробашч лаяў нас з амбона (завочна) за беларускую прапаганду. Толькі бацюшка маўчаў. Мусіць не ведаў, што былі там і яго „авечкі“.

Пасля новага 1912 года наш кіраўнік, пад націскам вышэйшых духоўных улад адыйшоў ад гуртка і наогул ад беларускіх спраў. К. Калышка быў старшынёй толькі з тытулу. Сакратаром у той час быў С. Більмін, які аказаўся здраднікам: знішчыў усе пратаколы пасяджэнняў гуртка ад самага пачатку яго існавання. Працаваць было

штораз цяжэй. Капелан мужчынскай гімназіі меў на ўвазе тых гімназістаў-католікаў, якія належалі да ГГБМ і пагражаў ім, што будуць мець рэлігію па-руску, а з захавання паменшаныя ацэнкі. Некаторыя малодшыя, на жаданне бацькоў, пакінулі гурток. Усё гэта цяжка адбівалася на настроях нашай старэйшай моладзі. Хутка аднак страхнулі з сябе гэтую прыбітасць і няпэўнасць і пад кіраўніцтвам сваіх лепшых сяброў з падвойнай энергіяй узяліся за работу. Працягвалі лекцыі ў сярэдняй і малодшай секцыях, папаўнялі бібліятэку і тэатральны рэквізіт, чыталі і разбіралі новыя творы беларускіх пісьменнікаў, а час ад часу некаторыя з сяброў прыносілі на лекцыі свае ўласныя творы.

На запусты 1913 г. арганізавалі мы невялікі спектакль — ставілі „Міхалку" і „Варажбу цыганкі" (перапрацоўка з польскага Л. Сівіцкай), аднак цеснае памяшканне і недастатковая падрыхтоўка не выклікалі добрага ўражання. Не ладзілася таксама праектаваная выстаўка хатніх вырабаў, хоць гэта было ўзгоднена з Вільняй. У гэтай справе пісаў нам Іван Луцкевіч: „Праект добры. Рабіце выстаўку ў сябе (у Горадні), мы тымчасам падрыхтуем тут, і вы са сваімі экспанатамі таксама да нас прыедзеце". Чаму гэта не здзейснілася, не памятаю.

Затое пачалася энергічная падрыхтоўка матэрыялаў для газеты — аднаднёўкі. Рэдакцыйная калегія, у склад якой уваходзілі А. Зянюк,[3]). Я. Лявіцкі,[4]) Л. Сівіцкая, Ж. Бобрык і Ф. Лабенец, працавала шчыра і заўзята. Я. Лявіцкі (псеўданім „Юрка Снапко") даў некалькі сваіх вершаў. А. Зянюк і М. Бобрык — апавяданні. Адно апавяданне апрацаваў Ф. Лабенец, а я напісала перадавіцу. Пазычылі шапірограф і позна ўвечары, завесіўшы вокны, узяліся за работу. А. Зянюк перапісваў (ён прыгожа пісаў), а Я. Лявіцкі адбіваў. Прасядзелі амаль да раніцы, адбілі 50 экземпляраў. Назва аднаднёўкі — „Колас беларускай нівы". На вокладцы загаловак і рысунак каласоў...

Якая радасць, можна сказаць, шчасце запанавала ў сэрцах ініцыятараў і рэдактараў, калі ўгледзелі рэзультат сваёй працы. Здзейснены праект, вылітыя на паперу думкі ажывілі ўсіх нас, дадалі веры ў свае сілы. Частку тыражу аднаднёўкі прадалі, частку параздавалі сябрам гуртка, паслалі тым, хто выехаў і ў мяне астаўся адзін экземпляр і то бракоўны. Вазіла яго з сабой у Варшаву і ў Мінск, ды назад у Гродзеншчыну, аж тут у Вільні, на вялікі мой жах, прапаў...

Восенню 1913 г. выехала я ў Варшаву на курсы. Гурток астаўся пад кіраўніцтвам А. Зянюка. Як ён пісаў мне ў Варшаву, сябры гуртка працягвалі працу далей, але гэта

ўжо нядоўга трывала. Вясной 1914 г. сябры ГГБМ раз'ехаліся па хатах, каб болей у Гродна не вярнуцца. Пачалася вайна і параскідала іх па свеце. Гурток скончыў сваё існаванне. Бібліятэка і тэатральны рэквізіт, якія асталіся ў Гродне прапалі ў час першай сусветнай вайны.

---

[1]) Кс. Францішак Грынкевіч нарадзіўся ў 1884 г. у Новым Двары Сакольскага павету. Закончыў Віленскую духоўную семінарыю і Пецярбургскую духоўную акадэмію. Памёр у 1933 г.

[2]) Адам Бычкоўскі (1889-1937) паходзіў з фальварку Талочкі Сакольскага павету. Закончыў юрыдычны факультэт Пецярбургскага універсітэта. Працаваў суддзёй у Саколцы, а ў 30-тыя гады адвакатам у Варшаве. Адзін з заснавальнікаў Асветнага таварыства беларусаў у Варшаве (гл. „Беларускі каляндар“ 1980 г.).

[3]) Адольф Зянюк (1894-1938) паходзіў з Сухаволі Сакольскага павету. Вывучаў права ў Пецярбургскім і Віленскім універсітэтах. У 1925 г. быў рэдактарам „Студэнцкай думкі“ ў Вільні. Працаваў юрыстам.

[4]) Язэп Лявіцкі паходзіў з-пад Сухаволі Сакольскага павету. Закончыўшы Гродзенскую гімназію быў студэнтам ваеннай Медыцынскай акадэміі ў Пецярбурзе. Загінуў на вайне ў 1916 г.

**Грыгорый Сасна**

# СУПРАСЛЬСКАЯ ДРУКАРНЯ І ЯЕ ВЫДАННІ

Зямля, на якой распаложана мястэчка Супрасль, калісьці належала да ўладанняў Аляксандра Хадкевіча, навагрудскага ваяводы і маршалка Вялікага княства Літоўскага. Каля мястэчка знаходзіўся славуты праваслаўны мужчынскі манастыр, заснаваны тым жа ўладальнікам.

Спачатку манахі пасяліліся ў Гарадку (1498 год), які распаложаны каля дваццаці кіламетраў уверх па цячэнню ракі Супраслі. Паводле легенды паходзілі яны з гары Афон, але больш праўдападобна з Пячэрскага манастыра ў Кіеве. Запрасіў іх і пасяліў у сваім замку ў Гарадку Аляксандр Хадкевіч. Ён згадзіўся, каб манахі перасяліліся ў больш зацішнае месца, у глыбі тадышняй Блудаўскай пушчы, ва ўрочышчы Сухі Груд, непадалёку ўпадзення рэчак Беразоўкі і Грабоўкі ў Супрасль. Новае месца было самым адпаведным суровым правілам манашаскага ордэну, які вымагаў поўнага адасаблення і роздумаў. Тут у 1500 г. пачалася пабудова манастыра. У гадах 1503-1511 была ўзведзена велічная царква Благавешчання П. Д. М. Прадстаўляла яна сабой мураваны, абароннага характару храм з надзвычай цікавым архітэктурным рашэннем, у якім з'ядналіся ўласцівасці візантыйскага будаўніцтва з позняй готыкай (царква была знішчана ў 1944 г.).

У 1506 г. смаленскі архіепіскап Іосіф Солтан, які потым быў мітрапалітам усяе Русі, ахвяраваў манастыру вёскі Тапілец, Бацюты і Пышчава,



*Супрасль. Пасляманастырскі ансамбль з руінамі царквы Благавешчання П.Д.М. на першым плане. Стан з 1952 г*

што знаходзіліся каля ракі Нарвы. Хадкевіч жа ў 1510 г. аддае манастыру мястэчка Хорашч (Хворашч) з вялікім абшарам зямель паміж рэкамі: Нарвай, Супраслю, Белым Істокам, Хварошчай і Рагаўкай. Па дазволу (1529 г.) караля Зыгмунта і манашаскай брацііі, Аляксандр Хадкевіч у замен за Харошчу даў манастыру вёскі: Хворастава і Пужычы на Палессі з дваром у Клявінаве.

Пасля падпісання Люблінскай уніі (1569 г.) наступае заключэнне царкоўнай Брэсцкай уніі (1596 г.) і на пачатку XVII стагоддзя (1607 г.) супрасльскі манастыр пераходзіць ва ўладанне уніяцкага базыльянскага ордэна. Манастыр узначальвалі, як правіла, прадстаўнікі вышэйшай царкоўнай іерархіі, напрыклад, у 1656 г. на чале супрасльскай архімандрыі быў пастаўлены Гаўрыіл Календа, архіепіскап полацкі, якому належала кіраўніцтва мітраполіі.

Каля 1690 г. па загаду мітрапаліта Кіпрыяна Жахоўскага і пры дапамозе караля Радзівіла супрасльскія базыльяне дзякуючы розным захадам дасталі з віленскага манастыра асноўнае друкарскае абсталяванне: друкарскі прас і кірылаўскі шрыфт. Наступіла гэта без згоды віленскіх манахаў, якія на кангрэгацыі ў Жыровічах (1694 г.) дамагаліся вярнуць ім забраную маёмасць і называлі: „wileńskie matrices, poncony, prasa jedna i w wielkiej części druku materia..“ Аднак справу адклалі да наступнай кангрэгацыі, якая адбылася ў 1703 г. У прынятым рашэнні, не надта выразна сфармуляваным, гаворыцца пра „аддачу друкарні ў спрыяльным часе“ (Drukarze dawnej Polski, z. 5, Wielkie Księstwo Litewskie, Ossolineum

1959). Значыць, супрасльская друкарня бярэ свой пачатак з Вільні.[1]) Відаць, скарысталі з застою, які наступіў у багатай друкарні віленскіх манахаў.

Першай кнігай, якая была надрукавана ў Супраслі кірылаўскім шрыфтам для патрэб уніяцкай царквы, — гэта быў „Служебник" (1695).[2]) Але друкарня тады яшчэ не разгарнула шырэйшай дзейнасці. Віленскія базыльяне настойліва і неадступна дамагаліся аддачы захопленай некалі супрасльскімі манахамі маёмасці. Запіс у хроніцы пад датай 27 ліпеня 1697 г. гаворыць, што „prasa drukarska, poncony i matryce słowiańskie, polskie i łacińskie" павінны вярнуцца ў Вільню. Пасля некалькіх выданняў наступіў доўгі перапынак, бо аж да 1711 года. У 1708 г. ігуменам манастыра быў пастаўлены Лявон Кішка, брэсцкі епіскап, мітрапаліт уніяцкай царквы ўсёй Русі. Ён выдатна садзейнічаў развіццю друкарні. Абнавіў запас шрыфту, паклапаціўся пра мясцовую паперню. Надзвычай шчаслівымі аказаліся для друкарні гады 1715-1720. Сінод у Замосці (1720 г.) даручыў супрасльскім базыльянам надрукаваць новыя літаратурныя кнігі „...podług ustaw na tymże synodzie ułożonych w okoliczności Cerkwi św., J. W. Imi X. L. Kiszka, metropolita całej Rusi, przyjął na siebie na Ruś całą w unii zostającą, wydrukować mszały, rytuały, brewiarze, tak aby we wszystkich diecezjach każdej się cerkwi mogli dostać, których cerkwi znajdowało się 10 000 i uiścił to swoje przedsięwzięcie w drukarni Supraskiej, kosztem, pracą i papierem supraskim, ponieważ tego monastera był opatem. Takowe księgi, gdy z pod prasy drukarskiej wyszły i ekspensem klasztornym oprawione, zostały rozesłane na każdą diecezję, ile w której znajdowało się cerkwi, ułożywszy taxę po 40 złp od mszału, tynfów 10 od rytuału, a 78 tynfów od brewiarza, skąd zebrał sumę znaczną na 628 000 wynoszącą. Z tej więc sumy kazał murować pałac w Warszawie z kaplicą i dać zastaw na wieś Strable..." (Сінярска-Чапліцка Я., Młyn papierniczy w Supraślu, „Przegląd papierniczy", 1962, стар. 263). Мітрапаліт Л. Кішка атрымаў у Рыме ў 1721 г. „dekret nuncjatorski kasujący inhibicję wyprawianą przez Akademię Krakowską nad drukarnią...". Даходы з прадажы кніг дазволілі працягваць пашыраць будынак манастыра. У ім былі архімандрыцкія пакоі, капліца, бібліятэка са славутым „Супрасльскім рукапісам" (XI стагоддзе), друкарня, жыллё для бібліятэкароў і друкароў, на першым паверсе — трапезная, кухня і гаспадарчыя памяшчэнні.[3])

Больш-менш на пачатку панавання караля Станіслава Аўгуста пачынаецца трэці раздзел у гісторыі Супрасльскай друкарні. Яна „патрапіла паддацца жывой абнове Асветніцтва, адлюстроўваючы новыя напрамкі грамадскага і літаратурнага жыцця" — сцвярджаюць аўтары манументальнага даследавання „Друкары колішняй Польшчы". Супрасльскія друкары не толькі працягваюць выдаваць богаслужэбныя кнігі, друкаваныя кірыліцай, выпускаюць таксама іншыя разнастайныя выданні: раманы, аповесці, творы на грамадска-палітычныя тэмы, навуковыя даследаванні, падручнікі, паэзію, драматычныя творы, рэлігійную літаратуру і несмяротныя календары. Кіраўнікі друкарні адчувалі пульс тагачаснага культурнага і палітычнага жыцця і адразу выпускалі самыя папулярныя вы-

данні. Выходзілі таксама пераклады з англійскай, французскай, грэчаскай, лацінскай, партугальскай, рускай, італьянскай і іншых моваў.

Апошні перыяд дзейнасці друкарні прыходзіцца на бурлівыя часы, што ўскалыхнулі краінай у апошніх гадах XVIII стагоддзя. Прускія войскі занялі Беласток і навакольную тэрыторыю ў 1795 г. Новастворапы Беластоцкі дэпартамент увайшоў у склад г.зв. Новаўсходняй Прусіі. У Беластоку пачала сваю дзейнасць Ваенна-эканамічная камера — галоўнае адміністрацыйнае кіраўніцтва дэпартамента. Усё, што друкавалася ў Супраслі, абавязана было атрымаць дазвол камеры. Урадавы друкар Е. Кантэр рабіў вялікія намаганні, каб захапіць абсталяванне Супрасльскай друкарні. Аднак яго энергічныя захады засталіся без выніку. Толькі яго наступнік, нейкі Ё. Апельбаум садзейнічаў заняпаду базыльянскай друкарні. Калі яна выдала без ведама камеры „Klucz prognostykarski" разам з гадавым календаром, Апельбаум данёс пра гэта прускім уладам. 9 чэрвеня 1803 г. усю друкарню разам з ліцейнай шрыфту прадалі за 1 140 прускіх талераў. Набыў яе беластоцкі купец Арон.

За час свае дзейнасці друкарня выпусціла больш за 300 кніг на царкоўнаславянскай, беларускай, рускай, польскай, лацінскай і літоўскай мовах. Сярод іх больш за 100 выданняў кірылаўскім шрыфтам. Супрасльская друкарня была выдавецкім цэнтрам на ўсходніх землях Рэчы Паспалітай. Нароўні з Пачаеўскай друкарняй яна ўнесла вялікі ўклад у гісторыю культуры беларускага і ўкраінскага народаў. Уніяцкія выданні кірыліцай з Супрасльскай друкарні маюць супольныя элементы як з польскімі так і з усходнеславянскімі выданнямі XVII-XVIII стагоддзяў, у тым ліку і з маскоўскімі. Друкаваліся яны на паперы з мясцовай паперні, а таксама на прывазной з польскіх і заходнееўрапейскіх фабрык.

Кнігі з базыльянскай друкарні ўдзельнічалі ў пабудове гмаху агульнанацыянальнай культуры, яны траплялі да чытачоў таксама на тэрыторыі суседняй з Супраслю, як і да шырокага кола зацікаўленых па ўсёй краіне. Супрасльская друкарня — гэта выдатная з'ява ў нашай культурнай спадчыне.

Большасць выданняў Супрасльскай друкарні апісана ў „Польскай бібліяграфіі" Эстрайхера, а на кнігі, выдадзеныя ў ёй кірылаўскім шрыфтам, складзены Ю. А. Лабынцавым у Бібліятэцы імя У. І. Леніна ў Маскве каталог „Кирилловские издания Супрасльской типографии", Масква 1978. Аднак гэта яшчэ не закончаны пералік яе выдавецтваў. Частка іх, напэўна, не трапіла ні ў бібліяграфію, ні ў бібліятэкі, як сёння вядома, сама меней некалькі кніг мела на загалоўных лістах фікцыйны выдавецкі адрас. Аднак на падставе даступных крыніц можна скласці па меры магчымасці поўны пералік кніг Супрасльскай друкарні.

---

[1]) У XIX стагоддзі знаўцы мінулага супрасльскага манастыра выказвалі меркаванні, што друкарня ў Супраслі была працягам Заблудаўскай друкарні (Баброўскі П., Гродзенская губерня, 1863, II, 1022-1033). Аднак у святле навейшых даследаванняў гэта не знайшло сваіх прыхільнікаў.

[2]) Бібліяграфічныя крыніцы (Эстрайхер К., Bibliografia polska, т. 8, стар. 18; Баброўскі П., Гродзенская губерня... і інш.) адзначаюць, што ў

1695 г. выйшла „Минея общая“, але іншыя (Ундольскі В. М., Очерк славяно-русской библиографии, М., 1871, стар. 1101; Галенчанка Г. Я., Библиографический список белорусских старопечатных изданий XVI-XVIII в.в., Мінск, 1961, стар. 327 і інш.) даказваюць, што ў 1689 г. у Супраслі выйшлі „Страсти Христовы“. Аднак успомнены каталог Бібліятэкі імя У. І. Леніна ў Маскве. („Кірылаўскія выданні Супрасльскай друкарні“, стар. 49) поўнасцю адхіляюць такую магчымасць. У кароткай нататцы „Супрасльскае друкаванне“ ў „Ніве“ (Нр. ад 15.II.1970, 7/729) гаворыцца, што ў 1691 г. выйшаў „Трифологий“, але аўтар нататкі У. Юзвюк не называе крыніцы, адкуль такую вестку пачарпнуў, каб гэтае выданне лічыць першым у Супрасльскай друкарні.

[3]) У 1836 г. частка манастырскіх будынкаў была аддадзена на фабрыку сукна, а ў 1883 г. прададзена (Далматаў Н., Супрасльский монастырь, С.-Пецярбург, 1892, стар. 220). Сёння колішнімі манастырскімі будынкамі карыстаецца Тэхнікум механізацыі сельскай гаспадаркі і Акруговы музей у Беластоку.

## ВЫДАННІ СУПРАСЛЬСКАЙ ДРУКАРНІ

1. Страсти Христовы. Супрасль, 1689, 4°, к. 172.
2. Трифологий. Супрасль, 1691.
3. Минея Общая. Супрасль, 1695, 2°.
   Паводле навейшых даследаванняў гэтыя выданні памылкова залічаны да супрасльскіх; гл. уступ, параўнай выданні пад пунктамі 250, 260 і 264.
4. ЛЕІТОУРГІКОН си есть Служебник. Вильно-Супрасль, 1695, 2°, к. 328.
   На франтыспісе партрэт К. С. Радзівіла, на тытульнай стар. эстамп „Устроеніе тетрпода“. Выданне з падвойнымі выхаднымі дадзенымі: на тыт. стар. Вільня 1692 і ў калафоне Супрасль 1695. Такім чынам гравёр Л. Тарасевіч пачаткова падрыхтаваў у Вільні тыт. стар., а кніга была надрукавана ў Супраслі.
5. Житие св. Онуфрия. Издал И. Петкевич, игумен Жировицкий, 1696, 4°, к. 29.
6. Последование постригу... в Малый иноческий образ и во Великий, 1697, 2°, к. 16.
   Ксілаграфічны адбітак нотаў трапара „Объятия Отча“.
7. Катехизис... Иосафата. 1700.
8. Niestojemski M.: Modlitwy ..., 1711, 4°, c. 80.
9. — Rozmyślania ..., 1711, 4°, c. 208.
10. Rakiewicz A.: Garści mirrhowego snopka ..., 1711, 4°, c. 206.
11. — Snopek mirrhy gorzkiej ..., 1712, 4°, k. 5, c. 272 i k. 1.
12. Kiszka L.: Morze Łask ..., 1712, 4°, c. 154.
13. (Szczyt Niemirowicz J.): Pennata Maiestas scientiarum in avita ..., 1712, 2°, k. 7.
14. Szyrma A.: Drogi depozit do Domu Wieczności wniesiony od J.W.J. Mci Stefana Mikołaja Branickiego ..., 1713, 4°, k. 22.
15. Szyrma A.: Kazania albo exhorty ..., 1713, 4°, k. 4, c. 360.
16. Dowgiało A.: Niebo sprawiedliwym — piekło grzesznikom ..., 1714, 2°, s. VIII+604+27.
17. Pociej H.: Kazania i homilie Hipacjusza Pocieja, metropolity Kijowskiego, Halickiego i całej Rusi z listem Melecjusza patriarchy Aleksandryjskiego a responsem Hipacjusza przez L. Kiszkę ... z ruskiego na polski tłumaczone ..., 1714, 4°, k. 27, c. 612.
18. Kiszka L.: Żywot Hipacjusza Pocieja, metropolity ... i list Melecjusza patriarchy ..., 1714, 4°, c. 64+612.
19. Поучение на воскресные и праздничные дни. 1714.

20. Букваръ языка славенскаго. ..., 1715, 8°.
Пра яго нататка: „Ніва“ ад 21.IX.1979. нр. 42 (1234).
21. Retzen J.: Kalendarz Polski i Ruski na r. 1715, 4°.
22. Шапель И.: Вопросы еллино-российскии ответами от книг церковныхъ изъбранными..., 1715, 12°. с. 224.
Надрукавана лацінскім і кірылаўскім шрыфтамі на польскай і рускай мовах.
23. Wyszyński W.: Niebo z Ogończyka klejnotów Piotrowi G. Szpilowskiemu i Helenie Ryszkowskiej ..., 1715, 2°, k. 10.
24. Понтификаль си есть Служебник Святительский. 1716, 2°, к. 4.
25. Retzen J.: Kalendarz Polski i Ruski na r. 1716, 4°.
26. Bazyli W.: Cedr mistyczny ..., 1717, 4°, k. 6, с. 222 і к. 2.
27. — Ustawy wkrótce zebrane. 1717.
28. Joanni A.: Dapes honorum post scientiarum ..., 1717, 2°, k. 6.
29. Rackiewicz A.: Zapach mirrhowego snopka ..., 1717, 4°, с. 76.
30. (Regis J. F.): Arcus Triumphalis ..., 1717, 2°, k. 4.
31. Zankiewicz D.: Wódz malutkich to jest nauka chrześcijańska nie dla malutkich ..., 1717.
32. Retzen J.: Kalendarz Polski i Ruski na r. 1718, 4°.
33. (Micuta A. T.): Hymettus Marianus avitto sub auspicio Casimiri Floriani Micuta ..., 1719, 2°, ark. 4 1/2.
34. Retzen J.: Kalendarz Polski i Ruski na r. 1719, 4°.
Змешчаны працяг „літоўскай“ гісторыі.
35. Bando przeciwko gorzałce i wszystkim jej naśladowcom. 1720, 4°.
Глядзі: п. 88.
36. Retzen J.: Kalendarz Polski i Ruski na r. 1720, 4°.
37. Святая великая неделя Пасхи. (Супрасль, после 1720 г.), 8°, к. 36.
38. Lilia Niebieska ... przez pewnego ojca zakonu S. B. M. opactwa supraślskiego ..., 1721, 8°, k. 12, с. 567 і k. 7.
39. Retzen J.: Kalendarz Polski i Ruski na r. 1721, 4°.
40. Romanowski K.: Żal nad żale ... przy depozycji Teresy z Brzostowskich Ogińskiej ..., 1721, 2°.
41. Złoty ołtarz ..., 1721, 4°, k. 10, с. 652 і к. 4. Гл. п. 138.
42. Flawiusz J.: Sława dawnej Jerozolimy ..., 1722, 8°, с. 8+362+160. Гл. п. 55.
43. Klucz prognostykarski to jest rzetelne objaśnienie słów i przezwisk niewyrozumialnych ..., 1722, 4°, k. 28. Гл. п. 58, 72, 84, 119, 157 і 182.
44. Лексиконъ... имеющъ в себе словеса первее Славенския, Азбучныя, посемже Польския..., 1722, 4°, к. 33.
Здымак тыт. стар. у „Ніве“ ад 8.II.1976, нр. 6 (1041). с. 3.
45. Peregrinacja prawdziwego opisania Ziemi św. ..., 1722, 8°, с. 160.
46. Retzen J.: Kalendarz Polski i Ruski na r. 1722, 4°, k. 17.
Працяг „літоўскай“ гісторыі (Альгерд Вялікі), на канцы паказчык кірмашоў.
47. Собрание Припадков краткое... с выкладом Веры Православной Кафолической. 1722, 4°, к. 6 + 152 + 2.
48. Табель сакраментов Кафолическия Церкве ..., 1722. к.1.
49. Victor cornatus in majestate Rex Vladislaus III Polaniae et Hungariae ..., 1722, 2°, ark. 2.
50. Klucz prognostykarski ..., 1723, 4°. Гл. п. 43, 72, 84, 119, 157, 182.
51. ЛЕІТОУРГІКОН си есть Служебник..., 1723.
52. Informatio in causa filiorum Stanislai Jabłonovii castelani Cracoviensis ..., 1724, 2°.
53. Wielowiejski S.: Żale za grzechy ..., 1724, 4°, k. 4+88.
54. Anzelm P.: Peregrinacja opisania Betleem i Jerozolimy ..., 1725, 8°, с. 160, k. 4.



*У засені старых дрэў Міхалоўская царква.* *Фота Я. Целушэцкага*

55. Flaviusz J. T.: Sława dawnej Jerozolimy ... wystawiona kosztem Jerzego Krakiewicza ..., 1725, 8°, k. 5, c. 362+160, k. 4.
56. Pater P.: Kalendarz Polski i Ruski na r. 1725.
57. Календаръ або месяцеслов христианский. 1726, 4°.
58. Temezwari J. I.: Anima poenitentis ad regulas decalogi ..., 1726, 4°, k. 9, c. 101.
59. Букваръ языка славенскаго..., 1727, 8°, к. 40; Гл.: п. 20.
60. Kołudzki A.: Tron ojczysty ..., 1727, 4°, k. 9, c. 219.
61. ЛЕІТОУРГІКОН си есть Служебник..., (Супрасль 1727 — 14 января 1732), 2°, с. 512.
62. Łapczyński A. Ch.: Ziemski Olimp ..., 1727, 2°, ark. 6.
63. Апограф или слог чинный Вечерних и Утренних пений... (Супрасль, 10 — 30 = е гг. XVIII в.), 2°, к. 14.
64. Доксастиконъ си есть Песнословникъ... (Супрасль, 10—30=е гг. XVIII в.), 2°, к. 8.

65. Месяца сентомврия в 16 день, служба Иосафату... (Супрасль, 10—30 = е гг. XVIII в.), 2°, к. 14.
66. Nardi I.: Relacja obrazu N. M. P. Żyrowieckiej ... po włosku wydana r. 1721, teraz po polsku tłumaczone ..., 1728, 8°, ark. 4. Гл. п. 105, 113 i 123.
67. Октоихъ си есть Осмогласникъ ..., 1728, 2°, к. 177.
68. Hoffman J.: Rada zdrowa albo kazanie przy dorocznej uroczystości Jozafata Kuncewicza ..., 1729, 2°, k. 13.
69. (Jętkiewicz T.): Aquila grandis alarum in Żyrowiciana solitudine ..., 1730, 4°, c. 128, ark. 3.
70. Niewieski F.: Kalendarz ..., 1731.
71. Statuta genarilis ordinis ..., 1732, 4°, c. 241.
72. Klucz prognostykarski ..., 1734, k. 37. Гл. п. 43, 50, 84, 119, 157, 182.
73. Sałtszewicz W. J.: Kalendarz Polski i Ruski na r. 1734, 4°.
74. Zbiór osobliwego nabożeństwa ..., 1734. Гл. п. 334.
75. ЛЕІТОУРГІКОН си есть Служебникъ ..., 1735.
76. Sałtszewicz W. J.: Kalendarz Polski i Ruski ... na r. 1735, 4°.
77. ЕУХОЛОГИОНЪ си есть Требник..., 1736, 8°, с. 764.
78. Sałtszewicz W. J.: Kalendarz Polski i Ruski ... na r. 1736, 4°, k. 11.
79. Букваръ языка славенскаго..., 1737.
80. Гебдомадаръ си есть седмичный Песнословецъ ..., 1737, 8°, с. 90.
81. Pedemontan A.: Tajemnice wszystkim obojej płci nietylko ku leczeniu rozmaitych chorób ... z łacińskiego na polski przełożone przez S. Sleczkowskiego ..., 1737, 4°, k. 4, c. 491 i k. 11. Гл. п. 130, 217, 242.
82. Czarkowski M.: Zodiacus Infulatus duodecim Pinscensium ..., 1739, 2°, k. 31.
Заснаванне Пінскай калегіі ў 1633 г., пералік епіскапаў пінскіх і тураўскіх, ад Іахіма з 1415 г. пачаўшы і кончыўшы Юрыем Булгакам.
83. (Ogińska T.): Wzór konwersacji w ojczystej bramie dla przykładu serc ..., 1739, 8°, k. 12, c. 520+8.
84. Klucz prognostykarski ..., 1740, 4°, k. 36. Гл. п. 43, 50, 72, 119, 157, 182.
85. Regulamin zakonny ... prowincji Wiel. Księstwa Litewskiego ... zakonu św. Franciszka ..., 1740, 2°.
86. Róża Niebieskich pełna adorów ..., 1740, 8°.
87. Speculum homini Ecclesiastico ..., 1741, 4°, k. 6, c. 228 i k. 3.
88. Bando przeciwko gorzałce i wszystkim jej naśladowcom. 1742, 4°. Гл. п. 35 і інш.
89. Ewangelie na niedziele i święta całego roku według porządku Kościoła lub Cerkwi Rzymskiej i Greckiej ..., 1742, 12°.
90. Podróż do wyspy Miłości ..., 1742, 8°, k. 25. Гл. п. 196, 257.
91. Zbiory nauki duchownej ..., 1742, 4°, k. 25.
92. Библия Руска. 1743.
Ю. А. Лабынцаў „Кирилловские..." на стар. 50 даказвае, што такога выдання ў Супраслі не было, а К. Эстрайхер „Bibliogr. Polska", т. 13, стар. 39 уважае, што епіскап Булгак (пам. у 1769 г.) тэкст загадаў складаць манахам Інакенцію Харкевічу і Феафілу Ляцэвічу.
93. (Brzostowski A.): Ingres Sarmackiej heroiny ..., 1743.
94. — Planta felicitatis publicae ad festivos hymenaci ignes A. Brzostowski et G. Ogińska. 1743, 2°, c. 12.
95. (Kuncewicz J.): Nabożny affekt do Józefata ... przełożone z łacińskiego na polskie ..., 1743, 12°. Параўнай: п. 101, 102.
96. Wykład mszy św. J. Chryzostoma według Cerkwi Wschodniej ... na jednej paginie językiem Slowieńskim na drugiej zaś językiem polskim ... 1743, 8°, c. 126. Гл. п. 115.
97. Hugo H.: Pobożne żądania trzema księgami zawarte ... łacińskim wierszem napisane ... przez J. Żabę na polski przełożone ..., 1744, 8°, c. 180.

98. Служебникъ ..., 1744.
99. Richter Ch. Z.: Krótka specyfikacja medykamentów ..., które nie tylko małe defekty ale największe choroby doskonale uzdrawiają ... teraz na polski przetłumaczone ..., 1745, 8°, k. 7, c. 96 i k. 8. Гл. п. 121.
100. Iwanicki P.: Institutio Politica C. Coeneli Taciti verbis ..., 1746, 4°, k. 4, c. 84 i k. 1.
101. Nabożeństwo do Józefata ..., 1746, 8°. Парaўнай: п. 95, 102.
102. Nabożny affekt do Józefata ..., 1746, 8°, c. 48. Параўнай: п. 95, 101.
103. Żagielski J. A.: Vita et res gestae L. Kiszka ..., 1746, 4°, ark. 3.
104. Marek z Ulisbony: Kroniki trzech zakonów ... językiem portugalskim napisana ... na język polski wytłumaczona ..., 1747, 2°, I, k. 6, c. 468 i k. 9; II, c. 469—912.
105. Nardy I.: Relacja zjawienia obrazu N. M. P. Żyrowieckiej ... po włosku napisana ... teraz po polsku przetłumaczona przez I. Kulczyńskiego ..., 1747, 8°, ark. 4. Гл. п. 66, 113, 123.
106. Korsak J.: Rok jak dzień krótki co do wdzięcznej pracy ..., 1748, 8°, I, k. 17, c. 176; II, c. 171; III, c. 116.
107. Marcinkiewicz A.: Philosophia peripatetica ex mente D. Joannis Damasceni Basiliani ..., 1749, 2°, k. 34. Параўнай: п. 108.
108. Młodawski A.: Philosophia peripatetica ex graeca divi Joannis Damasceni Basiliani ..., 1749, 2°, ark. 17. Параўнай: п. 107.
109. Jabłonowski J. S.: Ezop nowy Polski ..., 1750, 8°, k. 29, c. 244 i k. 5. Гл. п. 153.
110. — Skrupuł bez skrupułu w Polsce. 1750.
111. Kłosowicz A.: Instrukcja względem pryncypialniejszych punktów religii, obyczajów itd., od ojca córce swej dana. 1750, 4°, c. 284. Гл. п. 129.
112. Kochanowski M. H. K.: Głosy wolne sławą i powagą ojczystą ... hrabi A. J. Sołłohuba ..., 1750, 4°, k. 28, c. 148.
113. Nardy I.: Relacja zjawienia obrazu N. M. P. Żyrowieckiej ... 1750, 8°. Гл. п. 66, 105, 123.
114. Korona z herbowych Sapiehów strzał złożona o cudownym obrazie w kościele Wileńskim ..., 1751.
115. Wykład mszy św. J. Chryzostoma według zwyczaju Cerkwi Wschodniej ..., 1751, 8°. Гл. п. 96.
116. Psyche ..., Cyd albo Roderyk ..., Hippolit ..., Andromacha ..., przekładu J. Andrzeja i Stanisława Morsztynów (1752).
Тытульная стар. падае Лейпцыг 1752, але гэта фікцыя, бо кніга выйшла ў Супраслі коштам лейпцыгскага кнігапрадаўца С. Славінскага. Глядзі: Bibliografia Literatury Polskiej „Nowy Korbut", 1964, z. 2, c. 531, 537, „Drukarze Dawnej Polski", z. 5, c. 38.
117. Bonawentura św.: Żiwatas Pona ir Diewa Musu Jezisa Christusa ... 1753, 8°. Гл. п. 224.
118. Ferreriusz W.: Anioł w ciele, apostał w słowach ... 1753, 8°.
119. Klucz prognostykarski ..., 1752, 4°, k. 36. Гл. п. 43 і інш.
120. Букваръ языка славенскаго ... 1754, 8°, к. 40.
121. Richter Ch. Z.: Krótka specyfikacja medykamentów ... (1754). Гл. п. 99.
122. Rubinkowski J. K.: Janina zwycięskich triumfów ... Jana III króla polskiego na Marsowym polu najjaśniejszej po przełamanej Otomańskiej i Tatarskiej sile ... 1754, 4°.
123. Nardy I.: Relacja zjawienia obrazu N. M. P. Żyrowieckiej ... edycja 3, 4, 5, 6 ..., 1755, 8°, c. 48. Гл. п. 66 і інш.
124. Ryłło Max.: Commentarius de Baronii historica relatione de ruthenorum religione ... 1755.
125. Jurkowski G.: Cuda N. M. P. w obrazie Różanostockiem ... 1756, 4°, c. 188 i k. 5.

126. — Wonność mistycznej Róży z kościoła Różanostockiego ... 1756, 4°, c. 193, k. 8.
127. Полустав ..., 1757, 8°, с. 880.
128. Служба Воскресная и Повседневная. (50-е гг. XVIII в.), 8°, с. 48.
129. Kłosowicz A.: Instrukcja względem pryncypialniejszych punktów religii, obyczajów i przystojnego rządzenia się na świecie ... 1758. Параўнай: п. 111.
130. Pedemontan A.: Tajemnice wszystkim obojej płci nie tylko ku leczeniu rozmaitych chorób ..., 1758, 4°, k. 3, c. 406 i k. 9.
131. Служебник ... 1758, 2°, с. 172, к. 1.
132. Грамота ставленная (о поставление в иерейское звание) ... (не пазней 25 ліпеня 1759 г.), Аднакартк. выданне 330×130 мм.
133. Грамота ставленная (о утверждении иерея за приходом) ... (не пазней 25 ліпеня 1759 г.), Аднакартк. выданне 330×182 мм.
134. Sacewicz B.: Pobudka duchowna wszystkim ..., 1759, 8°, c. 261.
135. Служебник ... (50-60 г. XVIII в.), 2°, с. 1-60 (...).
136. Сословие (краткое) науки христианския. 1759, 12°, с. 98.
137. Ewangelie na niedziele i święta całego roku według porządku Kościoła lub Cerkwi Rzymskiej i Greckiej ... 1760, 16°, т. I, c. 206, k. 3; т. II, c. 244, k. 5. Параўнай: п. 172.
138. Ołtarz wonnego kadzenia ..., 1760, 4°, k. 13, c. 594 i k. 5. Гл. п. 41.
139. Ryłło M.: Antiqutates Ecclesiae Ruthenicae Sacrae Romanae Unitae ..., 1760.
140. Требникъ. 1760, 8°.
141. Букварь языка славенскаго ..., 1761, 8°, к. 40.
142. Ferreriusz W.: Anioł z ludzką twarzą albo anioł w ciele ... 1761, 8°, k. 19, c. 570.
143. Величания движимым праздникам и припевы общие святым. (после 1760 г), 8°, к. 32.
144. Jabłonowski J.: Kazanie w dzień pogrzebu Konstancji z Kuczyńskich Matuszewiczowej ... 1763, 4°, k. 19.
145. ЛЕІТОУРГІКОН си есть Служебник ..., 1763, 2°, с. 732.
146. Korzeniewski J.: Palatium Reginae Coeli ... 1764, 12°, c. 52+438.
147. Sposób rozpamiętywania męki Chrystusowej podczas passii ... 1764, 8°, k. 8.
148. Молитвослов ... (60-е гг. XVIII в.), 8°, к. 20.
149. Служебник в немже литургия св. И. Златоустаго со Службою на всякъ. день за Упокой. (60-е гг. XVIII в.), 2°, к. 1, с. 196 + 28 + 9 + 48.
150. ЕУХОЛОГІОН сиречь Молитвенникъ ... 1766, 8°, с. 856.
151. Гебдомадарь прекрасного Песнословия. 1766, 8°, с. 128.
152. Служебник в немже литургия св. И. Златоустаго со Службою на всякъ день за Упокой. (60-е гг. XVIII в), 2°, к. 1, с. 196+28+9+48.
153. Jabłonowski J. S.: Ezop nowy Polski ... 1767, 8°, k. 30, c. 229. Бібліяграф Пшылэнцкі піша яшчэ пра выданне: Супрасль 1788, 8°, к. 24, с. 196, але Эстрайхер паддае яго сумненню. Параўнай: п. 109.
154. Nauki zbawienne, modlitwy pożyteczne ..., 1767, 8°, k. 205.
155. Waga T.: Historia królów i książąt polskich ..., 1767, 8°.
156. — Krótkie zebranie historii i geografii polskiej ... 1767, 8°.
157. Klucz prognostykarski ..., 1768, 4°, k. 34. Гл. п. 43 і інш.
158. Korzeniewski J.: Palatium Reginae Coeli ..., 1768, 12°, k. 12, c. 438. Гл. п. 255, 330.
159. [Pociej H.]: Obrońca wiary katolickiej H. Pociej ... zbijający dowodnemi i gruntownemi racjami błędy Melecjusza ... i z nim całej odszczepionej od Kościoła powszechnego, Grecji ... 1768, 4°, c. 139.
160. Zegarek czyścowy albo godzinki. 1768.
161. Morawski J.: Actus virtutum et orationes ad Deum Deig ... (1769), 8°, c. 242 i k. 3.

162. De Jeney: Partyzant czyli sztuka prowadzenia pomyślnie wojny podjazdowej ... przez de Jeney kapitana wojsk francuskich wydany, a teraz na polski język przetłumaczony ... 1770, 8°, k. 6, c. 198.
163. Sposób wyprowadzenia Kommissii Duchownej ... dla duchowieństwa diacezji Włodzimierskiej i Brzeskiej ... 1770, 8°, k. 2, c. 204.
164. Sposób życia chrześcijańskiego pod zaszczytem Zofii z xiążąt udzielonych de la Tour et Taxis Radziwiłłowej ... (?), 8°, k. 48.
165. Книга глаголемая Часослов ... 1772, 2°, к. 360.
Перадрук маскоўскага выдання ад 17.III.1652 г.
166. Лексикон сиречь Словесник, словеса первее Словенския, Азбучныя, посемже Польския .... 1772, 4°, к. 33.
167. Служебник ... 1773.
Ю. А. Лабынцаў „Кирилловские..." на стар. 50 даказвае, што такога выдання не было, праўдападобна гэта кніга з 1763 г. Гл. п. 145.
168. Святцы с кратким святыхъ житием ... 1774, 12°, к. 224.
Перадрук маскоўскага выдання ад 14.XI.1648 г.
169. Korn W.: Kazanie po ufundowaniu Trybunału Głównego Wiel. Księstwa Litewskiego w Grodnie ... 1775, 4°, k. 9.
170. Zdania najwyższych Pasterzów o poście ... 1775.
171. Zdania z fizyki o własnościach elektrycznych. (1775).
172. Ewangelie na niedziele i święta całego roku ... 1776, 16°, т. I, c. 227, k. 11; т. II, c. 228, k. 6. Параўнай: п. 137.
173. Nauczanie przez jakie sposoby nagle zaginione i za umarłe poczytane osoby ratowane bydź mogą ..., 1776, 12°, k. 12 i 16.
174. Сия книга нарицаемая Часовникъ ..., 1778, 8°, к. 248.
175. Bieretowski P. J.: Wiadomość ciekawa czyli skutki zbóż, jarzyn i ziół ku zdrowiu ludzkiemu wielu służąca ... 1779, 8°, k. 2, c. 237, k. 8.
176. Koronczewski A.: Teologia moralna dla sposobjących się do stanu kapłańskiego ... 1779, I, k. 3, c. 442; II, c. 410, k. 4.
177. Bajki czyli zabawka nieprożnującego. 1780, 8°, c. 30. Гл. п. 187.
178. Сия книга нарицаемая Часовникъ. 1780, 8°, к. 272.
179. Сия книга Часовникъ. 1780, 8°, к. 240.
180. Сия книга Псалтиръ. 1780, 4°, к. 341.
181. Borysławski M.: Kazanie na sumie pogrzebowej Jana Mikołaja Chodkiewicza ... 1781, 8°.
182. Klucz prognostykarski ..., 1781, 4°. Гл. п. 43 і інш.
183. Lewicki B.: Kazanie na pogrzebie Chodkiewicza. 1781.
184. Metastazy P.: Józef poznany ... z włoskiego języka na polski przetłumaczone przez B. Popiela. 1781, 8°, c. 41. Гл. п. 190.
185. Miscellanca czyli zbiór wierszy ciekawych, 1781, 8°, c. 41.
186. Сия книга глаголемая Азбука ..., 1781, 8°, к. 64.
187. Bajki czyli zabawka nieprożnującego. 1782, 8°, c. 30. Гл. п. 177.
188. Bellegarde J. B. M.: Rozmowa między Teagenem i Eutymem ... 1782, 8°, k. 2, c. 84.
189. Metastazy P.: Dzieła święte wybrane, tłumaczenia B. Popiela ... 1782, 8°. Гл. п. 200.
190. — Józef poznany ..., 1782, 8°, c. 60. Гл. п. 184.
191. — Joasz król judzki ..., 1782, c. 74.
192. — Izaak figura odkupiciela ..., 1782, 8°, k. 2, c. 57.
193. Miscellanca czyli Bando o gorzałce. 1782.
194. Rozmowa o stateczności umysłu. 1782.
195. Saint-Real C. V.: Życie Jezusa Chrystusa ... w języku francuskim napisane ..., 1782, 8°, k. 248.
196. Podróż do wyspy Miłości ..., 1782, 8°, k. 25. Гл. п. 90, 257.
197. Zbiór różnych dzieł. 1782.



*Царква ў Белавежы. Фота М. Гайдука.*

198. Анфологіонъ или Трифологіонъ сиречь Минея Праздничная и Общая ... 1783, 2°, к. 1046.
199. Fleury C.: Obyczaje Izraelitów ..., 1783, 8°; I—III, c. 438, k. 1. Гл. п. 270.
200. Metastazy P.: Śmierć Abla ..., 1783, 8°, c. 60. Гл. п. 189.
201. Niesiołowski K.: Zabawki domowe ciekawego. 1784, 4°, c. 434, k. 6.
202. Traktat o pszczołach tłumacz. z francuskiego. 1783. Гл. п. 267.
203. Uwagi rozłożone na rok cały ..., 1783, 12°, c. 119.
204. Fleury C.: Obyczaje dawnych chrześcijan, z francuskiego na polski język przełożone ..., 1784, 8°, c. 648, k. 2. Гл. п. 235.
205. Nurzahad człowiek nieśmiertelny, historia wschodnia napisana w języku angielskim ..., 1784, 8°, k. 4, c. 160.
206. Святцы, с кратким святых жытием ..., 1784, 8°, к. 276. Гл. п. 168, 323.
207. Swift J.: Podróże kapitana Gulliwera ... w języku angielskim napisane ..., 1784, 8°, т. I, k. 2, c. 312, k. 2; т. II, c. 368, k. 2. Гл. п. 232, 225.
208. Umiastowski T.: Suplement do Sądowego Processu tak dla Korony jako i Litwy z Konstytucji teraźniejszego sejmu Grodzieńskiego 1794 ..., (1784), 8°, s. 47. Гл. п. 222.
209. Дорофей. Заповеди Евангельские. 1785.
(У сапраўднасці — гэта „Цветник Дорофея"; параўнай: п. 259, паводле Ю. А. Лабынцава „Кирилловские ..." с. 50.
210. Osuchowski M.: Wychowaniec natury z francuskiego przetłumaczony ... 1785, 8°, I, k. 3, c. 320; II, c. 227.
211. Pamiętnik dobrego obywatela ... 1785, 8°, ark. 1.
212. Staszic S.: Uwagi nad życiem J. Zamojskiego ... 1785, 8°, c. 365+2.

213. Kalendarz Polski i Ruski. 1786, 4°, k. 10.
214. **Канонику...**, 1786, 4°, к. 355.
215. Kawaler i panienka oboje w młodości źle wychowani, z francuskiego ..., 1786, 8°, c. 116.
216. Miłość na doświadczeniu, powieść indyjska z francuskiego języka przetłumaczona przez Pannę B. O. W. K., 1786, 8°, c. 27.
217. Pedemontan A.: Tajemnice wszystkim obojej płci nie tylko ku leczeniu rozmaitych chorób ..., 1786, 4°, Гл. п. 81, 130, 242.
218. Сия книга нарицаемая Часословъ. 1786, 2°, к. 326.
Перадрук маскоўскага выдання ад 17.III.1652 г.
219. Сия книга Ефрема Сирина. 1786, 4°, к. 523.
Перадрук маскоўскага выдання ад 1.I.1652 г., літаграфія Яфрэма Сірына.
220. Сия книга Псалтырь. 1786, 4°, к. 390.
Перадрук маскоўскага выдання ад 1651 г., літаграфія караля Давіда.
221. Служба всемъ святымъ Российскимъ. Супрасль, „с преждепечатанной в Кракове“. 1786, 4°, к. 82.
222. Umiastowski T.: Sądowy Proces ..., 1786, 8°, k. 12, c. 289+5. Гл. п. 208.
223. Zbiór ciekawych przypadków i dowcipnych żartów. 1786.
224. Bonawentura św.: Żiwatas Pona ir Diewa musu Jezisa Christusa ... kasztu ir storonę Josupa Ragauska metusy Pona, 1787, 8°, c. 336+8. Гл. п. 117.
225. Dimarce K.: Uwagi filozoficzne, krytyczne i moralne nad Gulliwerem ..., 1787, 8°, c. 120. Гл. п. 207, 232.
226. Fielding H.: Awantura Amalii wyjęta z dzieł J. Riccoboni ..., 1787, 8°, т. I, c. 152; т. II, c. 173. Гл. п. 234.
227. Kalendarz Polski i Ruski na r. 1787 ..., 4°, k. 10.
228. Riccoboni M. J.: Awantura Ernestyny, z francuskiego przełożona ... 1787, 8°, c. 123.
229. Сия Книга со всеми службы, тропарями, кондаками и житием... Николы архиепископа Миръ Ликийских ... 1787, 4°, к. 252.
Перадрук маскоўскага выдання ад 7.VIII.1643 г.
230. Сия книга ... преподобныхъ отецъ Ефрема Сирина, и аввы Дорофея (после 1786 г.), 2°, к. 440.
Перадрук маскоўскага выдання з 1652 г.
231. Служба на июля 17 дня. Празднование памяти всех Чудотворцев Российских. 1787.
232. Swift J.: Podróże kapitana Gulliwera w różne kraje. 1787, т. III—V. Гл. п. 207, 225.
233. ЕУХОЛОГІОНЪ си есть Требник. (Супрасль?).
234. Fielding H.: Awantura Amalii wyjęta z dzieł J. Riccoboni, 1788, 8°, т. III, c. 233. Гл. п. 226.
235. Fleury K.: Obyczaje dawnych chrześcijan ..., 1788, 8°.
236. Kalendarz Polski i Ruski ... 1788, 4°.
237. Kalwinka na pustyni wychowana ..., 1788, 8°, т. I, c. 206; т. II, c. 225.
238. Каннoник. 1788, 8°.
239. Miłostki dawnych filozofów i dawnych bohatyrów starożytnych ... 1788, 8°, т. I, c. 203; т. II, c. 164.
240. Сия книга глаголемая Часовникъ ... с переводу многихъ книгъ... 1788, 8°, к. 490.
241. Поучения Христианского благочестия ..., 1788, 8° ч. I-II, к. 178.
242. Pedemontan A.: Doktór wyjawiający sekreta medycyny obojej płci służące ..., 1788, 4°, c. 406, k. 9. Параўнай: п. 81, 130, 217.
243. Покаяние с Челобитною .., 1788, 8°.
244. Rzewuski W.: Mowy i Listy Wacława Rzewuskiego ..., 1788, 8°, c. 94.
245. Сия книга нарицаемая по гречески Альфа и Омега, словенски толкуется Начаток и Конец .., 1788, 2°, к. 690.

246. Сия книжица напечатана с житием и страданием Словецкихъ чюдотворцев иже пострадаша за древле церковное благочестие и за неприятие от Никона патриарха преданных новостей. 1788, 8°, к. 169.
Выданне складаецца з дзвюх частак: 1) „История о отцахъ и страдальцех Соловецкихъ“, к. 1-124, 2). „Списано с челобитной Соловецкого монастыря каков послана к великому государю в Москве...“ к. 124-169.
247. Скитское покаяние. 1788, 8°, к. 90.
248. Собрание краткия науки о артикулах веры. 1788, 8°, к. 128.
Перадрук маскоўскага выдання ад 20.I.1649 г.
249. Святцы... 1788, 8°, к. 295.
У сапраўднасці гэта ёсць частка Часовника з 1788 г. Гл. п. 240.
250. Страсти Христовы. 1788, 4°.
Паводле Ю. А. Лабынцава „Кирилловские...“ стар. 51 гэта выданне з датай 1689, якую трэба замяніць на 1789. Гл. п. 1, 264.
251. Awantury filozofów kochających się w modnych kobietach ..., 1789, 8°, т. I, с. 203; т. II, с. 164.
252. Gajdziński M.: Kazania na niedziele od adwentu aż do Zielonych Świątek ..., 1789, 8°, т. I, с. 565.
253. — Kazania od niedzieli I Postu aż do Zielonych Świątek ... 1789, 8°, т. II, с. 516.
254. Kalendarz Polski i Ruski ..., 1789, 4°.
255. Korzeniewski J.: Palatium Reginae Coeli ..., 1789, 12°. Гл. п. 158, 330.
256. Millon de Lavalle: Lińska hrabina, powieść polska. 1789, 8°, т. I, с. 246; т. II, с. 3—207.
257. Podróż do wyspy Miłości ..., 1789, 8°, с. 48. Гл. п. 90, 196.
258. Сборник, ... около 1789, 4°, к. 204.
Зборнік складаецца з раздзелаў: История о отцех и страдальцех Соловецких, к. 1-69; „Соловецкая челобитная“ посланная к Великому государю в Москве во 176 г. в октябре месяце“, к. 69-92; Посланник к брату инока, к. 92-154; Повесть о белом клобуке, к. 155-185; Феодор Иванов, диакон: Повесть о св. отцех наших священнопротопопе Аввакуме, священноиереи Лазари, и преподобном Епивании, к. 186-188; Мучение некоих старец Петра и Евдокима, к. 188-194; Прение священнодиакона Феодора с митрополитом Афанасием Иконнийским о сложении перст в знамении крестном, к. 195-203.
259. Сия книга глаголемая Цветникъ, сочененная Дорофеемъ, содержащая в себе, Заповеди Евангельския, и отецъ Поучение. 1789, 4°, к. 480.
260. Сия книга нарицаемая Минея Общая. 1789, 2°, к. 763.
Перадрук маскоўскага выдання ад 2.II.1645 г., яго часткова дадрукавалі на пачатку 90-х гадоў.
261. Сия книга Псалтырь. 1789, 4°, к. 390. Гл. п. 220.
262. Сия книга, содержащая в себе от предания св. отецъ, како подобает инокамъ и христианомъ жити..., 1789, 8°, к. 80.
263. Сия книга со всеми службы, ... и житием св. Николы архиепископа Мир Ликийских..., 1789, 4°, к. 252.
264. Сия книга нарицаемая Страсти Христовы, (конец 80-х гг. XVIII в.). (В колофоне указано „в типографии Супрасльской в лето 1689, с прежде печатанной в Кракове“). 4°, к. 172. Параўнай: п. 1, 250.
265. Сия книга... преподобных отецъ Ефрема Сирина, и аввы Дорофея..., 1789, 2°, к. 440. Гл. п. 230.
266. Tissot S. A.: Porządek życia i czerstwości zdrowia i długie prowadzący lata ... (1789).
267. Traktat o pszczołach, z francuskiego wytłumaczony ... 1789, 8°, с. 132. Гл. п. 202.
268. Жития и страдания св. Соловецких чюдотворцев..., 1789, 8°, с. 173. Гл. п. 246.

269. Dziekoński B.: Zasady o rolnictwie, rękodziełach i handlu ..., 1790, 8°, k. 106.
270. Fleury C.: Dobry Żydek. 1790, 8°, c. 438, k. 2.
271. Kalendarz Polski i Ruski ..., 1790, 4°.
272. Riccoboni M. J.: Awantura Elżbiety ..., 1790, 8°, c. 348.
273. Сия книга, глаголемая Часовникъ ..., 1790, 4°, к. 186. Гл. п. 240.
274. Сия книга, содержащая в себе от предания св. отецъ. Како подобает инокамъ и христианамъ ..., 1790, 8°, к. 78.
275. Учительное Евангелие. 1790, 2°, к. 416.
Перадрук маскоўскага выдання ад 12.VI.1652 г.
276. Колядная песня. (1790).
277. От завещаний божественных Апостол. (1790).
Выданні пад. нр. 276 і 277 залічаны да супрасльскіх. Гл. У. Юзвюк, Супрасльскае друкаванне, „Ніва" ад 15.II.1970 г.
278. Болгарский Ф.: Евангелие благовестное, (после 1790 г.), 2°, к. 937.
279. Часовникъ. 1791, 4°, к. 188.
280. Kalendarz Polski i Ruski ..., 1791, 4°.
281. Pieśni nabożne. 1791, 8°.
282. Пролог (сентябрь — февраль). 1791, 2°, к. 907.
283. Сия книга нарицаемая Каноник. 1791, 4°. к. 354.
Перадрук маскоўскага выдання ад 25.VIII.1651 г.
284. Сия книга нарицаемая Соборник. 1791, 2°, к. 171.
285. Сия книга ... преподобных отецъ Ефрема Сирина, и аввы Дорофея ... 1791, 2°, к. 440. Гл. п. 230, 265.
286. Сия книга Псалтырь., 1791, 4°, к. 390. Гл. п. 220, 261.
287. Собрание словесъ и деании отецъ скитскихъ яже обретаются в патерицехъ по алфавиту. 1791, 4°, к. 574.
288. Букварь языка славенского ..., 1792, 8°, к. 24.
289. Kalendarz Polski i Ruski ..., 1792, 4°.
290. Karpiński F.: Pieśni nabożne. 1792, 8°, c. 84 i k. 4.
291. Пролог (март-май) ..., (после 1791), 2°, к. 463.
292. Сия книга Псалтырь. (после 1791 г.). 4°, к. 390. Гл. п. 220, 261, 286.
293. Szczurowski T.: Missja Bialska xx. Bazylianów. Prawo Kanoniczne o wszystkich ustawach i dekretach synodalnych ..., 1792, 4°, k. 5, c. 255 i k. 9.
294. — — Trzy księgi Prawa Kanonicznego. 1792, c. 107, k. 5; c. 105, k. 5; c. 583, k. 3+9.
295. — — Łatwy sposób ćwiczenia się w rozmowach katechizycznych ..., 1792, 4°, I—II, c. 255+14; V, k. 1, c. 15—85.
296. — — Sposób łatwy do ćwiczenia się w modlitwie umysłowej i społecznej w rozmowach zbawiennych ..., 1792, 4°, т. I, c. 188, k. 5.
297. — — Ośmiodniowa i całomiesięczna ..., dla ludu prostego po wioskach i miasteczkach żyjącego ..., 1792, 4°, т. II, c. 103, k. 9+5.
298. — — Całoroczna ..., mający na wszystkie święta uroczyste nauki, uwagi i pieśni ułożone. 1792, 4°, т. III, IV, c. 271, k. 5.
299. — — Patent confranterii Bialskiej. 1792, 4°, c. 21. Гл. п. 309.
300. Златоуст. 1792, 2°, к. 8 + 358.
301. Архиератикон ..., 1793, 2°, к. 31.
302. Kalendarz Polski i Ruski ..., 1793, 4°.
303. Lachowski S.: Kazania niedzielne. 1793, 8°, т. I, c. XIV+744, k. 2; т. II, k. 2, c. 646 i k. 2.
304. Obrona wojska moskiewskiego w Polszcze przez Iwana Wasilewicza oficera w tymże wojsku. (1793), 4°, k. 2.
305. Сия книга глаголемая Триодь Цветная ..., 1793, 2°, к. 587.
306. Сия книга Каноникъ с дополнением из прочих книг ..., 1793, 4°, к. 552.
307. Сия книга нарицаемая Часослов, 1793, 2°, к. 362. Гл. п. 165, 218.

308. Sposób łatwy i niezbyt kosztowny edukowania cerulików dla prowincjów. 1793, 8°.
309. Szczurowski T.: Patent confranterii Bialskiej. 1793, 4°, с. 21. Гл. п. 299.
310. Часовник (Вариант). 1794, 4°, к. 110 + 58 + 1.
Ю. А. Лабынцаў, „Кирилловские...“ стар. 51 уважае, што гэтае выданне выпусціла патаемная друкарня стараабрадцаў.
311. Kalendarz Polski i Ruski ..., 1794, 4°.
312. Пролог (март-май, июнь-август), (после 1793 г.), 2°, к. 953.
313. Сия книга нарицаемая Часовникъ. 1794, 4°, к. 265.
Перадрук маскоўскага выдання ад 22.III.1652 г.
314. Сия книга Псалтырь. 1794, 4°, к. 396. Гл. п. 220, 261, 286.
315. Сия книга нарицаемая Страсти Христовы. 1794, 4°, к. 180.
316. Сия книга нарицаемая Страсти Христовы. 1794, 4°, к. 190.
317. Kalendarz Polski i Ruski ..., 1795, 4°, k. 10.
318. Psalmi communes cum Antiphonis ..., 1795.
319. Страсти Христовы. 1795, 4°, к. 186.
320. Dziekoński B.: Przepisy rolnictwa i ogrodnictwa najnowszymi przykładami, wzorcami i planami ekonomiki objaśnione i potwierdzone w szkołach Białostockich narodowych ..., 1796, 8°, k. 10, c. 223.
321. Kalendarz Polski i Ruski ..., 1796, 4°, k. 10.
322. Сия книга Псалтырь. 1796, 4°, к. 396. Гл. п. 220 і інш.
323. Сия книжица ...Жития Святых., 1796, 8°, к. 232. Гл. п. 168. 206.
324. Symon J. Ch.: Informacja praktyczna o paleniu wodek, pędzeniu dobrych gorzałek i likorów ..., 1796, 8°, c. VI+68.
325. Galland A.: Turczyn wojażujący, z języka rosyjskiego ... przedrukowany ..., 1797, 8°, c. 150.
326. Powieści chrześcijańskie albo Katechizm ..., 1797, 12°, c. 104.
327. Сия книга нарицаемая Часовникъ..., (пасля 1796 г.), 4°, к. 264. Гл. п. 313.
328. Сия книга нарицаемая Златоуст. 1797, 2°, к. 366. Гл. п. 300.
329. Сия книга Псалтырь. 1797, 4°, к. 396; Гл. п. 220 і інш.
330. Korzeniewski J.: Palatium reginae coeli ..., 1798, 12°, k. 12, c. 438 i k. 3. Параўнай: п. 158, 255.
331. Сия книга нарицаемая Часовникъ..., (пасля 1797 г.), 4°, к. 264. Гл. п. 313.
332. Сия книга нарицаемая Страсти Христовы..., (пасля 1797 г.), 4°, к. 190. Гл. п. 316.
333. Сия книжица Святцы..., (пасля 1797 г.), 8°, к. 269. Гл. п. 168, 206, 323.
334. Zbiór osobliwego nabożeństwa ..., 1798. Гл. п.74.
335. Zegarek czyścowy czyli nabożeństwa ..., 1798.
336. Bulle, brevia i listy okólne papieskie ... z łacińskiego na polski przełożone ..., 1799, 8°, c. 138 i k. 2.
337. Darowski J.: Officium codzienne ... z przydatkiem niektórych pieśni ..., 1799, 8°, k. c. 361.
338. Ordo divinorum officiorum ..., 1799.
339. Pieśni nabożne na adwent, Narodzenie, post Zmartwywstanie i inne święta ..., 1799, c. 595, k. 10.
340. Michelis J. F.: Krótka nauka dla akuszerek po prowincjach ... lekarza Branickiej ..., 1800, 8°, c. 146+IX.
341. Michelis J. F.: Krótka nauka dla pospólstwa w czasie panującej ospy ..., 1801, 8°, c. 65 i k. 2. Гл. п. 343.
342. Mietelski T.: Kazanie o różnych odmianach świata ..., które się stały w w. XVIII w narodach, rządach, charakterze i opinii ludu, w naukach i świątle rozumu ..., 1801, 8°, c. 48 i k. 15.

343. Michelis J. F.: Krótka nauka dla pospólstwa w czasie panującej ospy ..., 1803. Гл. п. 341.
Звесткі пра Міхеліса ў: „Gazeta Współczesna“, Беласток, нр. ад 12-13.V.1979 г. стар. 8.

**Грыгорый Сасна**



*Бор каля Супраслі. Фота М. Гайдука.*

# Літаратурныя гоні





**Надзея Артымовіч**

* ⁂ *

*Бацьку прысвячаю*

жыццё
сатканае з чулалюдскіх нітак
не запутаных нават у цёмную ноч
твае далоні вучыліся рана
распазнаваць
што пад паверхняй блізкага
прайшоў ты з чамаданам інструментаў
рознымі дарогамі
памятаю: быў люты 1956
зімой у бездапаможнай пасцелі
твой сон не рысаваў надзеі на апошняе лета
гэтым летам твае жоўтыя настурцыі
скінулі свой сонечны колер
назаўсёды
сакавік
сок твой пераліўся ў задуманае дрэва
даспяваўшае сваім незалежным жыццём
і не перакананае да канца ніколі
чужым агнём

твая кніжка і цяпер для нас завялікая
зразумелы можа толькі алфавіт
а да слоў
чынаў праўдзівых
далёка
хто вучыць
хто навучыць нас слоў
што жылі ў тваім сэрцы

па табе стаіць
мой час адзінокі

* * *

сёння мне ўспомнілася
першая каляда ў Бельску
І матчын агародчык у зялёнай сукенцы
і запах сакавіка з сёмага класа
і вокны шырока адчынены
і непаўторнае „цёплая вясна“ суседзяў
і драўляная лаўка на панадворку
і неба з дзікага хмелю
здаецца побач словы мамы
і шчыры стол абедні

сакавіцкі дзень
затрыманы ў кадры

* * *

як назваць гэты час
            пад блакітным сонцам

сніцца ранняе малако
            і тады запозна
дзяліць час падарожжаў-вяртанняў

паляўнічы ловіць
у маўклівай пушчы
дзе адно жыццё
заснула на галінцы

шлях блудных промняў
            як назваць
ачышчаны дзень згубіў
            магчымасць
быць чыстым

як назваць цябе задуменнага
акрэсленага маімі здагадкамі
бо не словам прамінаючым
не следам пакінутым
у нікому невядомым месцы

як назваць
гэты пейзаж

* * *

над антыкварыятамі высказаных слоў
плывуць бронзавыя хмары
час продажы надзеі ўжо мінуў
у бяспальцых руках самотная іржа
сляды без слядоў

адзінокая сярод адзінокіх
кідаюся ў фіялетавы прастор
каб заснуць
і час усё меншы
для паляўнічых добрыя ночы
і цёплыя сны

варажу з вятроў
хоць усюды спакойна
павуцінне над маім небам аднаўляецца тады
калі бяздомны сабака паўтарае сваю біяграфію
ці ўласную...

сумненне як ціхае кацянё падыходзіць да гарбатай бярозы
у яе ценю шукае крыніцы
з пытаннем — чаму...

трыццацігадовыя сыны хутка губляюць белыя кашулі
спяшаюцца ў пошуках перадапошніх колераў
бягуць па шэрых вуліцах
і ўсё ж стаяць

бронзавыя хмары плывуць сцяной

**Надзея Артымовіч**



Іван Кірызюк

## БУДУЙМО ДАЛІЙ ГІСТОРЫЮ РУОДНЫХ ЗЭМЭЛЬ...



Уродывся я 10-го кастрычніка 1949 року в сэлі Крывятычэ на Більшчыны. Початкову школу з білоруською мовою научання закончыв у сусіднёму сэлі Морэ бувшого Гайнувського повіту. Вершы начав пысаты ў пятому класі початковоі школы на говорці руодного сэла. Учывся в Білоруському ліцэі в Більську і ў Будовляному тэхнікумі в Білостоці. Од 1964 року належу до БГКТ, а од 1965 до 1970 року був старшынёю гуртка БГКТ в Крывятычах. Пару ліет працёвав будовляным тэхніком на разных будовах в Більску. У 1971-2 ліетех студ'ёвав у Білостоці. В'юв тогды студэнцькі гурток пры БГКТ. З'являюсь постоянным чытачом „Нівы" і йеі корэспондэнтом од 1964 року. Був дэлегатом на з'їздах БГКТ. Вэльмы люблю і цэню супрацовніцьтво з „Нівою" і БГКТ. Два рокі працёвав у Бішчадах, дэ кіровав будовлянымі роботамы в Балігроді і в Затварныці, што коло Двэрніка над Саном. Од 1975 року належу до білоруського хору „Васілёчкі" в Більську.

Вершы в „Ніві" начав друковаты од 1971 року. Дякуючы моім добрым учытэлям, якійі учылі білоруськеі мовы — Ніне Тесновськеі, Ярославу Костыцэвічу, Міколаю Гайдуку, которы зашчэпілі во мні любов до руодного, я найбуольш вершув посвячаю батькувськуй зэмлі і розважаннём над сэнсом людського існовання. Вершы пышу мовою моіх продкув, мовою, которэі научыла мэнэ руодна маты. Сею мовою і только йею могу з глубіны сэрця выказаты любов до йеі, до хороства руоднэі зэмлі. Сею мовою высказую своі радосці, смуткі і нэўдачы як жэ ж заплутаного тэпэрышнёго жытя. Понімаю добрэ вэлікі розмах тэхнікі і корысті, якіі вона прыносыт людём, але думаю: людём то ж потрыбна простота думок, шчырость і любов до чоловіека. Потрыбны шацунок і розумінне, што мы і нашэ жытє ў сюй эпосі — то маленечка пылінка людського

існовання. Хочу, коб мое вершы радувалі люды, а тако ж хоч чуточку наўчалі: чоловіек повінён жыты для чоловіека, повінён буты ёму братом. Хочу, коб людэ шановалі свое руоднэ і нэ вырыкалісь ёго. Як жэ часто мы забуваем, што жывэмо на зэмлі богатуй в гісторыю. А тую славну мінувшчыну выковувалі нашы прэдкі; то ж і йіх частынка кровлі плывэ в нашых жылах. Шануймо ўсё тое, збэрэгаймо, нэ будьмо яловы духово до того, што мынуло. Стараймось будовати далій гісторыю руодных зэмэль. Нашы прэдкі поставылі віковічны фундамэнты: на нашых зэмлях як жэ ж мнуого старынных курганув, старых будовлі і легэнд про мынулэ. У свуой віек постараймось і мы в стыну гісторыі вбудоваты свою часть муру, коб нашы нашчадкі з гонором вспомыналі нас. І так, вершы, которы створаю з любостю до руоднэі прыроды, а тако ж заміловання до матчыноі мовы і моя шчырость хай оправдают усё.

---

**Іван Кірызюк**

## НОШУ В СЭРЦІ

Далікатно і мірно
Співае мні вітёр
Свою свободну пісню
О руоднуй зэмлі
Іграют скрыпачы
З зэлёнэйі бэрэзіны
Мэлёдыю молодості,
І каліна,
Бы молода дівчына,
Цілуе мойі очы
Чэрвоными пацюркамі
Свойіх губ.
Слава руоднуй зэмлі!
Слава шырокім загонам
пшэныці,
Золотойе літо!
Эх, ты шырокі простор, —
Моя БАТЬКУВШЧЫНО!,
Любов до тэбэ
Ношу на сэрці, як маты
Новонароджанойе дытя.

## ШТО ОСТАНЭ

Прыбулі мої прэдкі
Дэсь з далекіх сторуон,
Заоралі тут зэмлю
І поставылі дуом.
Свіежым хліебом пахтіло
Часто в йіх на столі,
На бандуры сушылісь
Із лыка постолы.
Знаты, з руськіх сторуон,
Бо чыталі „Псалтыр“,
А діды спомыналі
Як воёвав Влодімір,
Як крыж православны
На купол взнэслі
І „Многае лета“
Святом
Співалі звоны.
Промынулі столітя,
Як мыняецца час
По прэдках осталі
Свідкі курганы,
А што ж останэ по нас?

## ЗЭЛЁНА СВЯТЫНЯ

Над коронамі біловежського
бору
Долікатно, на пальцях,
Проходыт час,
Крылаты хмары
Сэрэбрыстым вэлёном
Отуляют зэлёнэ царство.
Лежучы
На моховум коврові,
Дівюсь у білы очы
Росцвівшому ландышові.
Соловйіна оркестра
Высвістуе
Розвілісты трэлі,
А комары
Скачут у ліхому танцёві.
П'ю спокуй руоднойі зэмлі.
Пташкі, бы ангелы,
Нэсут у бэскрэс
Мойі смуткі
І нэудачы.

* * *

Душою
Хотів бы дэсь улітысь
У той зэлёны гушчар,
Росплывстысь, як цэрковны
псальм,
По лісточках
Білостволэйі бэрэзіны.
Блізке усё мні тут
По найдолікатнійшу
Частынку сэрця,
По остатні його удар.

## СЛОВО

Любов до руоднэі зэмлі,
Любов до свого —
То жар душы
То тело з кровлею,
То так, як надія
Берэменнэі матэры.
Ох, так хотів бы
Воскрэсіты
У нас всіх
Тую нэпокаляну
Словянську шчырость,
Котора нэ раз сохла
У з'ядлівых тісках ярма.

## КУЕМ ГОРЫЧ

Росцвівшы, слонэчнікі,
Што ростут в огороді,
Огрывают мэнэ свойім сонцём,
Улівают у душу
Капля по каплі
Спокуй і повагу руоднэйі зэмлі.
Часто сюды ворочаюсь
І у думках,
І у снах.
Малюю світ батькувшчыны
Світ дытынства і молодості.
У дуплі старэйі грушы
Сховав бы дэсь сэрце,
Коб було чыстэ,
Коб було нэзміннэ.
Тяжко жыты

У дісійшум світы
Бо одкололісь мы од прыроды.
Роскрунулі спружыну часу.
І, як у ліхорадці,
Куем горыч
у своюй душы.

## У ВЭСНОВУЮ ПОРУ

Згаслі зоры.
Тыхі подых вітру
Ростягнув по лугах
Долікатны пасма туману,
Загойдалісь зэлёны вэршкі
Білостволых бэруз.
Як райські дзвоночкі,
Задзэленчалі ў шарум нэбі
Пэршы жаворонкі.
У хмызняках
Одён за другім
Заболботалі тэтэрычы.
І зубор горбаты,
Пуоднявшысь з мохового ковра,
Погруоб копытом
У росянуй траві,
Як бы шукав ключа,
Коб одомкнуты двэры
До наступаючого дня.
Так будыцця зо сну
У вэсновую пору
Біловіжська пушча.

## ВЭРБО МОЯ

Вэрбо моя зэлёна,
Вэрбо моя спокуйна,
Ростэш сама пры дорозі,
Отуляна покутою
І одыноцтвом.
Дісь ворочаюсь до тэбэ
По стэжках дытынства,
Бачу,
як усміхаешся до мэнэ
З далечыні мінулых літ.
Нэздармо колышэш комлём,

У которому цвіркочут
Жовтодёбы воробленята.

* * *

Так з охотою
Здрымнув бы дэсь
У твому тынёвы,
Шчэ раз проснів бы
Нэсповнены сон
з літ дытынства.

## ПШЭ

Дывлюсь
На руоднэ поле.
Над йім нэбо і хмары,
І мужыцька тяжка доля,
І могілкі тых,
Што повмыралі.
Віе морозяны віетёр
По загонах,
Як по біелуй строніці,
Пішэ богату кроніку
Стэблом —
луньскеі
пшэныці.

## ПРЫМЫ

Сонною ночою
Плывут в бездані нэба
Сколохмачоны хмары,
А місэць,
Як молоды хлопэць у садковы, —
Долікатно,
Помаленьку
Скрадаецця до королевы зуор.
Стою в просторы
Крывятыцькіх полюв.
Батькувська зэмля
Спокуйна і віерна
Лежыт пуд моімы ногамы
І я юй віерны до скону —
То нашэ нэпысанэ право
До сэбэ.
Зэмэлько руодна,
Куточку мэі мовы,

О тобі,
О твоєму хороствіе,
Повазі
Молодості
і гордості
Выгрую на гуольці зэлёнуй
Молодэі бэрэзіны
Найчульшу,
Найдолікатнійшу
Нутку
Чуцця мого сэрця.
А колі за горло стыснэ...
І одлетіт
Послідня мынута
Мого існовання —
Прымы мое тело
Пропытанэ любов'ю до тэбэ,
будь мні лёгка.

---

**Мікалай Гайдук**

# СПОЛЫХ



Было гэта гадоў трыццаць таму назад.

Восень.

У цёплым мараве палаюць разнаколернымі плямамі бярозавыя і асінавыя зараснікі, параскіданыя па спадзістых пагорках і плоскіх лугах. Недзе на даляглядзе ледзь трымцяць цёмныя зубелістыя лясы. У мяне ў школе надараецца вольны ад заняткаў дзень, і я разам з бацькамі еду на самае далёкае ў нашай гаспадарцы поле капаць бульбу. Выбіраем мы з сыпучых, бы прысак, разораў жаўтаватыя ад спеласці крамяныя бульбіны і, нібы не хочучы парушаць асенняй ціпы поля, толькі зрэдку перакідваемся скупым словам. У руках шамаціць крохкі бульбоўнік, зубы матычкаў час ад часу паскрыгітваюць па блакітных з белымі жылкамі крамухах, поўняцца кошыкі і за намі паволі адстае на

бульбянішчы радочак пукатых мяшкоў. Надвечар адзін воз бульбы бацька адвозіць на зімовы сховак у яму, каб затым вярнуцца на поле па рэшту мяхоў, плуг і нас. Мы з матуляй дакопваем выараныя радкі, устрасаем і завязваем мяхі. Прастуем збалелыя плечы, войкаем. Матуля, згарнуўшы над вачыма брылёк са свае шэрай ад пылу далоні, глядзіць на ападаючае за гарбаты пагорак сонца. „Пайду я пехатою, — кажа, — хутчэй будзе, яшчэ завідна каля жывіны ўпраўлюся“. Я астаюся на полі, бо трэба дапамагчы бацьку ўзваліць на воз мяхі.

Ляжу я так на паваленым мяшку дробнай бульбы, услухоўваюся, як ныюць плечы і рукі ды на губах мызгаецца тонкая плёначка клейкага пылу, гляджу, што на небе на змену яскравым водбліскам захаду ўсё гусцей насоўваецца з-за небасхілу цёмнасіняя халодная тонь. Думаю пра нешта сваё, хлапечае, школьнае. Уверсе з гусцеючай топелі пачынае ўсё смялей прабівацца мітуслівая зорная рунь. Яна выразна разрастаецца, паўнее, набліжаецца да патанаючай у цяжкай асенняй цемры зямлі. І тут раптам адна зорка адрываецца ад іншых і ляціць, пахістваючыся то ўправа, то ўлева, проста на мяне. Я з усіх сіл намагаюся падняцца з мяшка, адбегчы ўбок, але нейкая моц прыціскае мяне так, што я адчуваю на плячах кожную, нават самую маленькую, бульбіну. З халадзеючым сэрцам гляджу на падаючую аграмадзіну, але яна ў апошнюю хвіліну паварочвае ўбок і з імпэтам валіцца на зямлю. Я зрываюся з мяшка, устаю і бачу светлы сполых унізе, пад пагоркам, дзе схіл сыходзіць на лугі, а далей — на багно Жаралы. Раптам з-за пагорка выкочваецца вогненны клубок. Ён то падскоквае ўверх, то апускаецца ўніз, зусім гасне або зноў разгараецца. Я проста не магу адарваць вачэй ад яго, а ён усё вакол сябе шугае нейкай незвычайнай яснасцю, пераліваецца ірдзістымі гарачымі колерамі ды пырскае ў бакі залацістымі праменнямі-іскрамі. Але так — скок-скок! — і апускаецца ўніз, бліжэй да Жаралаў. Мільгае яшчэ раз ці два і знікае недзе за зараснікамі, а мо ўпадае ў бяздонную іржавую твань багны на Жаралах. Я спрабую бегчы за ім, але тут даносіцца да мяне паскрыпванне калёс ды бацькава: „Но-о! Гнеды! Но, пайшоў“. Я ўстрымоўваюся, і мы неўзабаве з бацькам разам узвальваем на воз мяхі, паверх іх кладзем плуг, неяк прымошчваемся самі і едзем паволі дадому.

Конь асцярожна ступае ў густую цішыню ночы. Я ж увесь час упіраю зрок у бок, дзе знікла вогненная з'ява, але ніводзін праменьчык, ні адна іскрыначка не прабіваецца з непрагляднай цемры, што затапіла Жаралы. Кручуся я, кручуся на возе і, не стрываўшы, расказваю ўрэшце пра яе бацьку. Ён доўга адкашліваецца і, памаўчаўшы, кажа: „Гэта, пэўна, я, едучы, папяросу прыкурваў. Запалкі цяпер такія, што адно — пшык! — табе пад носам, засмярдзяць, бы той цмок, а прыкурыць так і не прыку-

рыш, пакуль увесь карабок не перачыркаеш. А і ў гэтыя „трыумфы“ таксама цяпер такую розную дрэнь ўпіхваюць, што ані табе смаку, ані паху — гарыць полымем, бы смольная галавешка“. І ў падмацаванне свайго глыбокага незадавальнення вырабамі запалкай і тытунёвай вытворчасці сакавіта плюе ў цемру. Слухаю я бацькаву няспешную гаворку, а сам поўнюся нясцерпным чаканнем, што вось-вось зноў блісне і пакоціцца па Жаралах дзівосны вогненны клубок.

Ён чамусьці не з'яўляўся.

*

Срэбра шату на конскіх грывах і чолках збілася ў празрыстыя ледзянцы. У бляску нізкага зімовага сонца яны непакояць зрок і пры кожным руху конскай шыі адзываюцца ледзь чутным хрупасткім шолахам. Мёрзнуць ступні ног, грэбнуць рукі. Добра яшчэ, што вось гэты кажушок ды лісіную шапку ў Бярэсці ад князёўскіх конюхаў прыдбаць удалося, бо портаў добрых так і не натрапіў, а гэтыя, хоць і суконныя, але на каленях ды сядзенні выцерліся да дзірак — па голым целе жывы вецер ходзіць.

— Мовіў ты, што за два дні ў Гарадку будзем, а тут ужо другі дзень у палавіне, а мы яшчэ толькі да Нарвы набліжаемся, — з'едліва хрыпіць прастуджаным голасам Хведзька і наўскрыж б'е рукамі па баках свае ледзь ліпячай на магутных плячах світкі, аж коні стрыгуць вушамі.

— Ну і што, але затое ад Нарвы да Гарадка ўсяго рукою падаць. Чэлядзь гарадоцкага пасадніка, пэўна, тоўстыя жбені на масле пячэ, такім пахам адтуль нясе. Ты ано вазьмі ды нюхні, — не паддаецца Алекса, добра ведаючы, што прастуда і горла і нос Хведзькін зусім заткнула.

— Гэта ты ўжо лепш прымай блінцы аржаныя з пухленькай ручкі пасаднічыхінай, а мне б лепш чаго-небудзь з рогу турынага да прапаласкання горла...

І як бы ў доказ свае цяжкай прастуды Хведзька аж захлынаецца ад нападу ўдушлівага кашлю.

Ужо некалькі год вось так, перакідваючыся жартамі ды колкасцямі разам яны топчуць шляхі-дарогі па ўсяму ўладанню князя Васілька Раманавіча. Блукаюць то па балоцістай твані берагоў Прыпяці, то снуюць па пагорках Валыні, то круцяцца над Нарваю. Цяпер жа па старым гасцінцы, што вядзе з Бярэсця над Бугам у Городна над Нёманам, выбраліся ў маленькую цвердзь Гарадок. Стаіць яна на выгалку сярод балот пры пераправе цераз топкую рэчку Супрасль.

На добры лад, то яны павінны былі крыху перадыхнуць, ад'есціся, адаспацца ў цяпле ды і рукам хоць на некалькі дзён адпачынак даць. Але дзе ж там! Ужо з самай ранняй вясны работа работу гоніць, што няма калі і носа падцерці.

Як толькі адышла ўмёрзлая зямля ды на Бузе і Мухаўцы

лёд сышоў і можна было сплаўляць нарыхтаванае па берагах абедзвюх рэк дрэва, а таксама капаць равы і сыпаць валы вакол крэпасці, яны з дня ў дзень не выпускалі з рук сякеры і сажня. Усіх гароднікаў узначальваў стары Бакун, што зубы з'еў на ўзвядзенні многіх крэпасцей і цэркваў па ўсёй рускай зямлі. Зрываўся ён на ногі як толькі на ўсходзе пачынала балавець неба і адразу іх раскатурхаў са сну ды гнаў да работы. Маўляў, што раніцай, калі ўсе яшчэ спяць, найлепш відаць недаробкі ўчарашняга дня і тое, што і як трэба зрабіць днём сённяшнім. Вельмі ж уніклівы і вымагальны гэты Бакун: ва ўсе шчыліны ды закуткі будовы свой востры нос усадзіць, да кожнай недакладнасці прычэпіцца, нічога не абміне — за ўсё вылае і тут жа паправіць прымусіць. Не дзіва, што князь Васілька Раманавіч і паставіў яго на чале ўсіх гароднікаў-будаўнікоў у сваім княстве. Сухі і ўчарнелы, бы мінулагодняя яловая трэска, гарбаты і даўгарукі, ён звітна, як тая вавёрка, улазіў і спускаўся па самых стромкіх сценах. Адны казалі, што горб набіў ён, калі ўпаў з самага купала Георгіеўскага сабора, які ўзводзіў для князя Святаслава Усеваладавіча ў далёкай паўночна-ўсходняй Русі, недзе ў горадзе Юр'еве, што стаіць ва ўладзімірска-суздальскай зямлі. Іншыя ж нашэптвалі, што яго адтуль сапхнулі самі будаўнікі за незвычайную прыдзірлівасць. Але што б ні казалі пра яго, усе добра ведалі пра адно: няма ва ўсёй зямлі рускай такога будаўніка-гародніка, як стары Бакун. Таму хоць Алекса і Хведзька сердавалі на варавітасць старога ды баяліся яго проста звярынай бояззю, але пільна выконвалі ўсё, пра што той хоць паўсловам буркнуў ці на чым зрок свой затрымаў.

Будавалі яны новыя ўмацаванні вакол Бярэсця. Праўда, ад нашэсця татараў, што падобна як усю Русь, так і Берасцейскую зямлю, услалі труп'ём ды ўкрылі папялішчамі, мінула ўжо шэсць год, але сюды, на гэтае пажарышча ў сутоку Мухаўца і Буга, людзі не спяшаліся. Надта ж рухлівае гэта месца: як ні натоўпы яцвягаў і літоўцаў, то татарская арда любяць сюды заглядаць. Таму ў некалькіх зямлянках, што прытуліліся на дзядзінцы да крапасных валаў з рэшткамі абгарэўшых ды прагніўшых сценаў, гнездзіліся дзесяткаў са тры чалавек. І былі гэта старыя жанчыны ды малалетнія дзеці. Усіх жа дарослых, калі іх не пранізалі варожыя пікі ці стрэлы ў часе абароны крэпасці, татары пагналі перавязаных у сваю арду. Дзяўчат і маладзіц, пэўна, адправілі ў чарнаморскі порт Судак на продаж у вечную няволю ў спаленыя сонцам аравійскія краіны. Мужчын і юнакоў бралі ў падручныя татарскім ваяўнікам, каб пасля двух ці трох месяцаў прывучання ўліць іх у хмару сваіх ваяўнікоў. Перамешаныя з манголамі, узбекамі, таджыкамі, мардвінамі, рускімі, полаўцамі і падзеленыя на дзесяткі, сотні, тысячы ды цьмы пад пільным наглядам татарскіх дзясяцкіх, соцкіх, тысяцкіх і цем-

нікаў яны паслухмяна выконвалі волю хана. Таму і давялося князю Васільку Раманавічу сцягнуць з Бельска, Бранска, Суража, Нарвы і іншых гарадоў і вялікіх весяў яго княства вольных людзей і сабе падпарадкаваных смердаў да пабудовы берасцейскай крэпасці. У паўночна-ўсходнюю частку Уладзімірска-Валынскага княства татарская арда не пранікла, і ўсё, што знаходзілася на поўнач ды ўсход ад Мельніка і Драгічына аж пад самае Гародна, пазбегла знішчажэння і нявольнічага ярма. І нічога не скажаш: людзі стараліся, як маглі. Ведалі, што толькі ў моцных крэпасцях можна ўратавацца ад ворагаў. Тым болей, што на змену адыйшоўшым на ўсход у свае стэпы татарам, пачалі ўсё часцей наведвацца ў землі паміж Нёманам і Бугам літоўскія кунігасы-князькі з натоўпамі сваіх ваяўнікоў. Працавалі людзі сумленна, дбайна клалі ў моцную вязь тоўстыя зрубы гародзяў, напаўнялі іх зямлёй ды каменнем, і вырастала з іх высокая сажняў на пяць ды шырокая сажняў на два сцяна крэпасці. На яе версе шчэрылі зубы тоўстыя дубовыя заборалы з бойніцамі. Вакол сцяны шырокім і глыбокім руслам звольна пасоўвалася цёмная плынь Мухаўца. У крэпасць можна было трапіць толькі ўзваднымі мастамі, што вялі ў вароты, над якімі высіліся старажавыя вежы.

На агляд занава адбудаванай крэпасці прыехаў са сталіцы княства горада Уладзіміра Валынскага, сам князь-уладар. Не скрываў, што пабудова яму падабаецца. Пахваліў Бакуна, з добрым словам звярнуўся да памочнікаў галоўнага гародніка, аж Алексу і Хведзьку цяплей на сэрцы стала.

Ужо седзячы за багата застаўленым ежай і пітвом сталом у новай абшырнай грыдніцы, ён загадаў клікнуць Бакуна да сябе. Пасля таго, як стары Бакун ні то выпаўз, ні то выкаціўся з шырокіх дзвярэй грыдніцы, нешта мармочучы задаволеным голасам, паклікалі да князя Алексу і Хведзьку.

Грыдніца гудзела хмяльным паўгалоссем, але Васілька Раманавіч быў цалкам цвярозы. Ён трымаў у руках нейкі цёмны, абкаваны золатам рог, але не спяшаўся прыгубляць яго. Гаварыў да стоячых перад ім маладых гароднікаў-будаўнікоў спакойна, як бы разважаючы ўголас з самім сабою:

— Што ж, даволі ўжо вам, малайцы, пад наглядам нашага гародніка, старога Бакуна, хадзіць. Пара і самастойна сажнем мерыць ды сякераю махаць. Перадыхніце вось тыдзень які ці два і едзьце ў Гарадок на Супраслі. Там трэба заняпаўшую крэпасць абнавіць. Яна, праўда, маленькая, але надта ж важная для нас. Літоўскі князь Міндоўг, бачыце, усе літоўскія землі пад сваё панаванне прыбраў і на нашыя паўночныя ўскраіны сквапна паглядае. Таму і трэба нам пра ўмацаванні над рэкамі Бабровай, Супраслю, Нарвай і іншымі больш паклапаціцца. Ведайце, ваша старанне ў працы я без ўзнагароды не пакіну.

І не дзіва, што яны лішне не мешкалі. Не падаваўся Алекса ў свой родны Мельнік, Хведзька таксама не адлучаўся да бацькоў у Сураж. Яшчэ з іхніх галоваў цалкам не выветрыўся хмель ад сычанага мёду ды піва на ялаўцовых ягадах, што пасля ад'езду князя частаваў іх новы берасцейскі пасаднік, як яны выехалі з Бярэсця цераз Гарадзенскія вароты. Надта ж нецярпелася да самастойнай работы.

Імчаліся, як ашалелыя. Толькі ў Бельску спачывалі ноччу ўсяго ад першых да трэціх пеўняў. Упоцемку сарваліся, асядлалі не ахаланупўшых ад стомы коней і зноў выскачылі на гасцінец.

У варотах крэпасці ў Нарве, ужо згортваючы ў трубкі ды хаваючы за пазуху свае ахоўныя граматы, якія надта ж пільна прагледзелі тамашнія старожы, яны перапыталі:

— А як бы тут у вас на зуб сабе нешта закінуць?

— У карчме можна было б. Яна тут зараз жа ў завулку перад крапаснымі варотамі, — неяк неахвотна паясняў адзін са старожаў і заўважыў: — Але вы там нічога сёння не дастанеце.

— Чаму?

— Ды бачыце, — усміхнуўся ён да свайго сябры, — усе нашы нараўцы перад пасаднікавым дваром з самага світання сядзяць.

— Чаго яны там?

— Княжацкі цівун Пярэшку прыехаў судзіць.

— За што?

— Ды за мужчын...

І так з цатугаю, слова за словам, Алексу і Хведзьку стала вядома, што нараўскія бабы выпрасілі ў самога князя Васілька Раманавіча асобнага цівуна, каб рассудзіў іх на месцы з Пярэшкай-прыгажуняй. Цяпер можа ў Нарве які-небудзь лад настане, бо гадоў два ўсім толькі таго і занятку было, што бясконцыя лаянкі ды бойкі. І не то, каб адны бабы процім другіх языкі часалі ды пляваліся, але і мужчыны да іх далучаліся. І чаўплося тут такое, што адзін канец Нарвы на другі з каламі ды прашчамі хадзілі. Людзей колькі накалечылі! Фоньку-воя, што надта ў абароне Пярэшкі стаяў, дык бабы зусім да смерці прыбілі. Злёг ён потым, пахаркаў колькі тыдняў крывёю і памёр.

Болей Алекса з Хведзькам ужо не слухалі. Навязалі коней непадалёк крапасных babротаў, папрасілі старожаў наглянуць на іх ды на прытрочаныя да сёдлаў мяхі, а самі кінуліся на дзядзінец крэпасці.

Толькі яны праскочылі праз мост і вароты, як адразу наткнуліся на густа седзячых проста на ўмёрзлай зямлі людзей. Спрабавалі абодва прабіцца наперад, каб лепш бачыць і чуць, што дзеецца перад домам нараўскага пасадніка, але седзячыя зашыкалі на іх, схапілі за полы ды сілком усадавілі на ўсланую цвёрдымі камякамі зямлю.

— Ну і што яна, Пярэшка, значыць, прываблівала ці чаравала? — пытаў мажную жанчыну ў сярэдніх гадах пажылы ўжо, сутулы мужчына, відаць, той самы княжацкі цівун з Уладзіміра.

— А як жа ж: і прываблівала, і чаравала, каб на яе паморак, нечысць, погань, цьфу! — пырскала ва ўсе бакі слінаю жанчына. — Выйдзе гэта на вуліцу, павядзе бельмамі сваімі, пакруціць задніцай сваёй бястыжай. Вядома: ёнда распусная. А тут гэтыя нашыя ўсе мужланы так і павылупліваюць на яе свае зіркачы, пакідаюць работу і за ёю лезуць, як бы іх хто сілаю цягнуў. Ну і падумайце, няхай сабе ўжо маладыя воі ды людзі нежанатыя і несямейныя за ёю валачыліся б, але то нават і тыя мужчыны, што маюць дочкі дарослыя, хоць заўтра замуж выдавай, і тыя за ёю цягнуцца. Нават мой стары...

Далейшыя словы гаваркой маладзіцы патанулі ў смяшку, што быццам віхарок па ўзлеску, раптам пракаціўся па натоўпу.

— Ну, ты лягчэй тут са сваім языком, не балбачы няведама чаго, — узбурыўся паважны мужчына, што сядзеў па правай руцэ князевага цівуна. — Бо ты хоць і жонка мне, але вось зараз жа адпраўлю цябе ў казню. Адсядзішся там пару тыдняў, то і розумы набярэшся!..

— Я не балбачу, праўданьку праўдзівейшую кажу, — здаўшы крыху са свае фанабэрыстасці, цішэй і разважней загаварыла мажная пасаднічыха. — А што Пярэшка чаруе, то ўсе тут ведаюць. І мяне няма што казняю страшыць, — дадала яна і змоўкла.

— Ніякая яна не чараўніца! — азваўся з седзячых нейкі моцны мужчынскі голас.

— Чараўніца, чараўніца! Яшчэ якая чараўніца!.. — пасыпаліся. быццам яму ў адказ, жаночыя выкрыкі.

— Чаго вы напаселіся да яе, — звярнуўся да выкрыкваючых жанчын выразна ўстрывожаны пасаднік і ломячымся голасам папрасіў: — Суймецеся... Нікога Пярэшка не чаравала.

Недзе з вузенькага завулка вырвалася высокая постаць і, прабіўшыся проста па галовах натоўпу да самага цівуна, затрэсла перад ім худымі касцістымі рукамі.

— Як жа ж не чаравала?! Скажыце, людкове, як жа ж не чаравала, — і тут яна, звярнуўшыся да натоўпу, загаласіла, як па пакойніку: — А майго Міска ці ж не зачаравала! Трое дзетак у хаце, бы гарошын, без кавалка хлеба, а ён замест каля борцяў у пушчы хадзіць, па цэлых днях як не каля яе хаты круціцца, то ўвесь час у карчме сядзіць. Апошняе з хаты выносіць: маю святочную спадніцу і тую карчмару завалок!..

І яна заплакала горка, наўзрыд.

— Што ты, Міско, на тое? — звярнуўся цівун да натоўпу.

З гушчы седзячых паднялася мужчынская постаць. Высокая,

худашчавая, з шырокімі плячыма. Яна переступіла з нагі на нагу, кінула з-пад брыва вокам па натоўпу.

— А я на тое і скажу: не па сэрцу мне мая жонка. Вы толькі гляньце, як яна выглядае — ад яе не толькі людзі, але і дабытак шарахаецца, — прагучэў густы і нізкі Міскаў голас і працягваў: — А ўсім жа тут без ніякіх чараў вядома, што на Пярэшку і глянуць люба і пастаяць пры ёй міла.

— Але ж ты, Міско, вянчаўся са сваёй жонкаю і дзеткі ж у вас з ёю, — дакорам у голасе азваўся цівун.

— Ды хто ж над намі тыя вянцы трымаў? — Перапытаў цівуна Міско. — Самі ж ведаеце, наша царква пасля смерці дзядка Сямёна якісьці час пуставала. Тады трэба было ехаць вянчацца аж у Бельск. Хто ж у тую пару з вяселлем выпраўляцца адважыўся? Гэта ж замест да вянца, можна было пад татарскую ці літоўскую шаблю голаў падставіць. Таму мы з Грымкаю па старому звычаю шлюб узялі. Не ў царкве, але ў сваёй хаце перад бацькамі шлюбавалі. Ну, а дзеці пасыпаліся самі па сабе, вядома...

— Го-го-го! Яшчэ б! Да чаго-чаго, але да гэтага, то ў Міска асаблівы спрыт! — рагатаў і дасціпкаваў натоўп.

— Міско, ты з жонкаю жывеш у граху, — асуджальна ўсклікнуў цівун. — Ваш шлюб язычаскі і ў нашым хрысціянскім княстве нікім не прызнаецца.

— Як гэта — не прызнаецца!? — ні то ўсклікнула, ні то запытала Грымка і, трасучы лахманамі, ірванулася бліжэй да цівуна.

— А так проста: не прызнаецца і ўсё тут, — паўтарыў цівун. — Як бы вашага шлюбу і не было зусім.

Натоўп, пачуўшы навінку, гулка загаманіў. Але тут, заглушаючы гэты пошум, прарэзліва закрычала пасаднічыха:

— А што?! А што?! Ці ж не чары гэта Пярэшкіны? Ці не яна гэта сямейкі нашыя параскідаць уздумала? Яшчэ траха і ўсе нашыя шлюбы ў ніштто звядзе, не адно хатнія, але і царкоўныя скасуе! Няма чаго нам тут мешкацца, бабанькі. Самі мы гэтую ембіцу рассудзім!..

І яна ірванулася ў бок казні, што віднелася паміж пасаднікавым домам і царквою. Падскочыла да вузенькіх, цесаных з дубовага бярвення, дзверак і налягла на іх сваім дзяблёным целам. З усіх бакоў натоўпу ёй на дапамогу кінуліся жаночыя постаці з расчырванелымі ад узбуджэння тварамі. Не паспелі пасаднікавы старожы належна сцяміць, што ім рабіць у такім выпадку, як пад націскам жаночых целаў дзверцы затрашчалі і паддаліся. Па плячах упаўшых разам з дзвярыма на зямлю ў сярэдзіну казні шмыгнула некалькі жанчын. Праз стогны кішэўшай горбы ляжачых, з нутры будынку данёсся прарэзлівы віск. А праз момант у дзвярным праёме паявілася, адбіваючыся ды адплёў-

ваючыся ад жаночых расчаперыстых рук, звітная і стройная дзявочая постаць. Яна з благальным адчаем кінула зрокам па раз'юшанай жаночай гурбе і стала прабівацца ў бок грамадкі старожаў. Тыя, відаць, па загаду пасадніка, дрэўцамі суліц і пікаў бесцырымонна распіхалі на бакі жанчын, намагаючыся як мага хутчэй пралезці да дзвярэй казні і ўзяць пад сваю ахову Пярэшку. Але жанчыны ўміг разгадалі гэты намер і наваліліся цяжкай масай на старожаў. Пад зачэпістымі пальцамі тых, што былі пры самай Пярэшцы, з яе пачалі знікаць хустка, нарутка, спадніца, кашуля. І хоць, прарваўшыся да дзяўчыны, старожы білі з усяе сілы па парэпаных, жылістых, чорных ад сажы жаночых руках, жанчыны вішчэлі ад болю, вылі, але не выпускалі са скручаных мёртвай хваткай пальцаў мяккія космы светлых Пярэшкіных валасоў. Але ўрэшце яны адбілі яе і пачалі падаваць адзін другому. Над азвярэлым натоўпам голае, без якога-колечы шматка адзежыны цела паплыло і затрымалася недзе перад самым пасаднікам і цівуном. Тут сярод згруважджаных людзей быў невялічкі свабодны круг. Смуглявае і далікатнае, з ружова-блакітным адлівам ні то ад страху, ні то ад холаду дзявочае цела курчылася пад пражэрлівымі вачыма мужчын і ядавітымі пляўкамі жанчын.

— Бясстыжая!.. Ембіца... Сука!.. — вішчэлі ахрыпшыя горлы.

Над усім гэтым рэйвахам прагучэў голас пасадніка:

— Ціха! Нараўляне, слухайце на мяне. Мы ж не дзіч нейкая паганая, але ўсе мы людзі крапасныя, княжацкія. Наша павіннасць — гэта падпарадкоўвацца цівуну гаспадара нашага і князя Васілька Раманавіча. Яму тут судзіць ды радзіць аднаму дана права!

Натоўп суцішыўся. Праз яго праціснуўся Міско. Размашыста скінуў са сваіх плеч світку і накінуў яе на голыя плечы Пярэшкі. Тая сударагавата абгарнулася адзежынай, і ні то бліск нейкай надзеі, ні то сполых жадання жыць мільгануў у яе расшыраных ад адчаю блакітных вачах.

У позірку пасадніка няцяжка было заўважыць адабрэнне.

— Бач, як Міско стараецца! — прашыпела ў адным баку натоўпу і быццам на гэта ў адказ пачулася ў другім: — Не дарма ж, хіба!..

— Ціха! — рыкнуў пасаднік.

— Па пісанай праўдзе князёў нашых рускіх, па звычаю іх бацькоў, дзядоў і прадзедаў тут, перад усімі намі, людзьмі чэснымі, той, хто чуецца пакрыўджаным, няхай выйдзе на гэтае месца роўнае і цягаецца з тым, каго крыўдзіцелем сваім лічыць, — княжацкі цівун перадыхнуў тут і папераджальна дадаў: — Пры цяганіне гэтай самай зброі ніякай, вострых рэчаў, кіёў, каменняў і іншага такога ж ужываць не дазваляецца.

Натоўп загаманіў, заварушыўся, але ніхто ў круг не прабіваўся.

— Ну, што, няма ахвочых з Пярэшкай за сваю крыўду пацягацца? — перапытаў цівун.

— Як жа ж няма?! — і цераз натоўп да круга прабілася сама пасаднічыха.

— Ты?! — здзівіўся пасаднік. — А што ж ты з Пярэшкай не падзяліла?

— Я ведаю што! — усклікнула пасаднічыха і вывалілася на сярэдзіну кола. — Я ёй як аддзялю, то яна ўжо ніколі не злучыцца...

Мужчыны зарагаталі на ўсё горла. Захінуўшы раты канцамі хустак захіхікалі жанчыны.

— Не дазваляю! — закрычаў пачырванелы ад злосці пасаднік і загадаў старожам паказваючы на жонку: — Забярыце яе адсюль!

Старожы ўміг адвалаклі крычачую ды трапечучую ўсім сваім распасеным целам пасаднічыху.

— Я! — крыкнула Грымка. — Я за сваю нядоленьку горкую з ёю цягацца буду...

Яна праціснулася ў круг, скінула з сябе світку і з імпэтам накінулася на Пярэшку. Тая спачатку з жахам пачала адступаць. Але якаясьці са стоячых побач за плячыма жанчын злосна піханула яе ў бок Грымкі. Пярэшкіна буйная капіца валос адразу апынулася ў касцістых пальцах Грымкіных. Спачатку Пярэшка толькі баранілася і праз нейкі момант Грымцы пад цюганне нараўцаў удалося нават адолець яе, кінуць на калені, піхнуць тварам у цвёрдыя намёрзлыя камякі конскага гною, што ўсцілалі круг. І тады, відаць, Пярэшка зразумела, што набліжаецца яе смяротны час і няма ад каго ёй чакаць літасці і паратунку. Яна напружыла ўсе сілы, сарвалася з каленняў, распрасталася ва ўвесь свой рост, і дынгатая Грымка ссунулася з яе плечаў і з размаху грымнулася наўзніч аб зямлю. Жанчыны ў натоўпе балюча войкнулі, мужчыны зарагаталі. Грымка ж не падымалася з зямлі, камечыла пад сабою здзёртую з Пярэшкі Міскаву світу і глуха, надрыўна плакала.

— А што! А што! Ці ж не казала я, што яна чараўніца? — загаласіла пасадчыха. — Усіх сваімі чарамі змагла: і мужчын і нас, бабанькі. Нямаш нам ад яе ратунку ніякага...

— Чараўніца! Ведзьма! — верашчалі жанчыны.

Цівун і пасаднік аб нечым ціха перагаворваліся. Пасаднік пярэчыў, гарачыўся.

У тым часе Пярэшка вырвала з-пад Грымкі світу і ахінулася ёю. Грымка ж звалаклася з зямлі і падалася, уціраючы слёзы, у натоўп. А натоўп усё звужаўся вакол Пярэшкі. З яго пачалі выскокваць то адна, то другая пабялеўшая ад злосці жанчына і піхаць помслівымі кулакамі ў Пярэшку.

Але вось у круг уступіў цівун, і натоўп суняўся.

— Рассудзіць па праўдзе вас, крапасныя нараўляне, з гэтай вось дзеўкаю Пярэшкаю хіба ж могуць толькі допыты, што пакажуць, ці мае яна сувязі з нячыстай сілаю, ці не мае.

— Мае, мае!... — Закрычалі з натоўпу жаночыя галасы.

Пярэшка як быццам паменшала, сабралася ў камяк і не адрывала вачэй ад зямлі.

— Выявіць жа моц сатанінскую можна ў целе грэшным або прыкладваючы распаленае да чырвані жалеза, або пускаючы на глыбокую ваду, — працягваў цівун. — Ваша воля, нараўляне, выбірайце.

— У прорубку яе, у прорубку! — завішчэлі жанчыны.

Яны запоўнілі круг вакол Пярэшкі, ухапіліся за яе рукамі і пачалі прапіхацца да брамы ў крапаснай сцяне. Натоўп расступаўся, даючы праход.

— Бяжы, Хведзь, да коней, адвязвай і выводзь на гарадоцкі гасцінец, — прашаптаў у вуха свайму сябру Алекса. — Ну, спяшайся; чаго на мяне ўтаропіўся? Спрабуем ратаваць яе, — працягваў ён.

— Што ты, — са страхам адхінуўся ад яго Хведзька. — Мне яшчэ жыццё цалкам не абрыдла.

— Ды нічога нам не будзе, нават як і зловяць, — упэўніваў Алекса. — У нас жа ахоўныя княжацкія граматы. Ніхто нават і пальцам не дакранецца!..

Гэта пераканала, відаць, Хведзьку, бо ён звітна кінуўся праз натоўп у кірунку варотаў. Алекса ж пачаў праціскацца цераз натоўп бліжэй да Пярэшкі.

Натоўп гудзеў, калыхаўся, але ўжо не быў такі густы, як раней, бо частка мужчын і асабліва хлопцы пачалі ўзбірацца на крапасную сцяну, каб лепш бачыць пусканне Пярэшкі на ваду, іншыя падаліся па хатах за сякерамі і пешнямі, каб прасекчы на замёрзлай Нарве адпаведную прорубку. Хутка ў натоўпе аказаліся амаль што адны жанчыны ды старэйшыя мужчыны. Алекса ўжо ішоў побач Пярэшкі.

Праз пратуліну варотаў ён заўважыў, як па лёдзе ракі трушком ехаў Хведзька з абодвума коньмі. Счакаўшы яшчэ некалькі хвілін, калі натоўп сама ўваходзіў на ўзвадны мост, за якім зараз жа пачынаўся стромкі схіл рачнога берага, Алекса закрычаў дзікім голасам:

— Гарыць!... Горад гарыць!

Вёўшыя Пярэшку жанчыны атрупянелі, павярнулі галовы на горад, некаторыя нават кінуліся бегчы назад. У гэты момант Алекса адапхнуў жаночы зазяваўшы канвой, схапіў паўпол Пярэшку і некалькімі скокамі быў ужо над абрывам. Яшчэ хвіліна і яны скаціліся па стромкаму адхону на самы лёд ракі.

Пярэшка раптам ачуняла, кінула позіркам па статнай постаці незнаёмага юнака, і зразумела, што гэта яе паратунак. Праз

хвіліну яна, сутаргава трымаючыся за яго моцную руку, бегла з усіх сіл у босых нагах па слізкаму лёдзе.

Калі яны ўскоквалі на каня, свіснулі першыя стрэлы і ўпіліся вастрыямі ў зямлю далёка збоку ад іх. Відаць, тыя, хто іх выпускаў з лука, зусім не хацелі, каб яны спасцігглі ўцекачоў. Алекса глянуў у бок цвердзі. Некалькі постацей сыходзіла па адхону і рассыпалася па лёдзе, кіруючыся ў іх бок. Не спяшаліся, а мо нават проста баяліся гнацца за самай праўдзівейшай ведзьмаю, што з-пад суда княжацкага цівуна ўцякла. Алекса і Хведзька ткнулі шпорамі конскія бакі, і коні рванулі па гулкім гасцінцы.

Ужо калі яны заглыбляліся ў пералесак, Хведзька, азірнуўшыся, заўважыў, што ў нараўскіх варотах паявілася некалькі коннікаў. Яны ехалі няспешна, зусім не намерваючыся пускацца ў пагоню.

Уцекачы некаторы час гналіся ў бок Гарадка, як толькі змаглі скочыць коні. Пярэшка сядзела за плячыма Алексы і не зводзіла зроку спачатку з Нарвы, а потым з гасцінца, што з кожным скокам каня ўсё адплываў назад і губіўся ў лясным гушчары.

Затрымаліся толькі тады, калі з конскіх пахвінаў кавалкамі пачала падаць пена. Але вогнішча не клалі, хоць дзьмуў сцюдзёны ўсходні вецер і дзе-недзе кружыліся ў паветры крохкія сняжынкі. Хведзька лёг на гасцінец і прыкладаў да зямлі то адно, то другое вуха і доўга наслухоўваў. Алекса і Пярэшка таксама ўсімі сваімі істотамі абярнуліся ў слых. На суседнім дрэве цінькалі сініцы, недзе далей пастукваў па камлю дрэва дзяцел, але ніякага прызнаку пагоні ні яны, ні Хведзька не змаглі выявіць. Тады Алекса выцягнуў з трокаў запасную кашулю, Хведзька ж дабыў са свайго мяха новыя нагавіцы. Пярэшка, захінуўшыся за ельнік, уцягнула ўсё гэта на сваё лекацеўшае ад холаду і хвалявання цела і неўзабаве ўжо сядзела на кані, на гэты раз за плячыма Хведзькі.

Цяпер яны ехалі ўжо спакайней.

— Ну, Пярэшка, чараўніца ты ці не, але цешся, што не пайшла ты ракаў пасвіць на дне Нарвы і то яшчэ зімою, — не стрываў Алекса і глянуў на дзявочы твар з той нясмелай жаднасцю, з якой можа глядзець толькі юнак, які вельмі хоча завязаць хоць якую-небудзь гутарку з мілай яму дзяўчынай.

Пярэшка маўчала. Некаторы час яна глядзела цераз Хведзькава плячо недзе наперад. Поўныя, далікатна выкраеныя губы яе горка скрывіліся і задрыжэлі, на доўгіх трапяткіх вейках бліснулі слёзы, і яна спачатку ціха, устрымоўваючыся, потым усё грамчэй і з большым жалем у голасе, расплакалася.

Алексу стала асабліва непрыемна. Ён лаяў у думках сябе за сваю балбатлівасць і няўклюднасць.

Мінаў паварот за паваротам на пустым гарадоцкім гасцінцы, а Пярэшкін плач усё не сунімаўся.

Не менш ад Алексы збянтэжаны Хведзька пачаў яе суцяшаць, распытваць пра жыццё-быццё ў Нарве. Праз слёзы яна скупа, з дрыжыкамі ў голасе, падзякавала сваім збаўцам за паратаванне ад пэўнай смерці, пачала няскладна і часта неўпапад адказваць на запытанні.

З перамешаных слёзамі ды рыданнямі слоў князеўскія маладыя гароднікі даведаліся, што апошнім часам Пярэшка жыла ў Нарве сіратою. Яе бацька быў крамаром, гандляваў соллю і жалезам. Якраз перад татарскай навалаю падаўся ў людным купецкім абозе, што сабраўся з Суража, Бранска, Бельска, Свіслачы і іншых суседніх цвердзяў у далёкую Галіччыну з футрамі, воскам, мёдам і іншым таварам, каб вярнуцца з соллю. Відаць, татары іх перабілі або ў няволю прадалі. Ніякіх родзічаў у іх у Нарве не было, бо бацька паходзіў аж з Перамышля, а маці была родам з Мельніка. Жылі яны ў Нарве самыя, з маткаю. Жывіліся тым, што яшчэ пасля бацькі асталося, і людзі прыносілі матцы за лекаванне замовамі або зеллем. Але ў мінулую зіму маці, абкурыўшы дымам хворага на пошасць, сама злегла і праз некалькі дзён памерла. Настаді зусім чорныя дні. Спачатку хлопцы, а потым і жанатыя пачалі прыставаць да яе. Баранілася яна, уцякала, хавалася. І папаўзла па цвердзі нядобрая гаворка пра яе. Ад мужчын неяк здолела абараніцца, але ад жаночай зайздрасці не патрапіла. Пра сватоў не магло быць і гаворкі: каму патрэбна бедная сірата ды яшчэ з такой няславаю.

— Такая ўжо мая няшчасная доленька: прорубкі мне аніяк не абмінуць, — як быццам у адказ на словы Алексы горка заўважыла Пярэшка. — Адно мне не трэба было чакаць сённяшняга дня, але раней прывязаць камень да шыі і самой у вір скочыць...

Алексу і Хведзьку зноў стала не па сабе.

З-за вершалін лесу выглядаў распалены да чырвані месяц у поўні. Коні ступалі размерана і спакойна. Панавала няёмкае маўчанне.

Раптам Хведзька ўстрымаў свайго каня і запытаў:

— Ці то мне здаецца, ці ў праўду дымком пахне?

Праз момант Алекса пацвердзіў:

— Не інакш! Пэўна! Да Гарадка, значыць, зусім блізка.

Калі месяц на паўнебе перапльваў паміж мяккімі берагамі далёкіх хмараў, яны ўжо ўваходзілі за вядучымі старожамі ў нізкія і вузкія дзверы пасаднікава жытла. Ці з-за нядбайнасці, ці па беднасці тутэйшых гаспадароў, але ўсё навокал выглядала надта ж убога.

Пасаднік — каржакаваты, сярэдніх год, здаровы мужчына — пільна прыглядзіўся на іх трох, а потым, падсунуўшы граматы

пад самую свячу, пачаў натужліва разбіраць літары. Хоць пісьмо было надта выразнае, але ён доўга і павольна, па літарах, складаў уголас словы, уважліва абгледзеў прывешаныя пячаці. Затым перапытаўшы, каторы з іх Алексій, а каторы Федор, ён глянуў на Пярэшку:

— А цябе як зваць?

— Пярэшка, гэта значыць Прадслава... — заспяшалася тая.

— Такой у граматах я не вычытаў, — здзівіўся пасаднік.

— Гэта мая сястра, — няўпэўнена загаварыў Алекса. — Яна нам варыць ды сцірае. Заўсёды з намі ездзіць...

— То і добра, бо тут у нас, у Гарадку, усяго толькі дзве бабы: мая жонка ды вядзьмарка Куліна без рукі, — заўважыў пасаднік і дадаў: — Перакусіўшы, вы, малайцы, тут спаць будзеце, а дзяўчына ў бакоўцы з маёй жонкай сёння ляжа. Паклаў бы я вас лепш і выгадней, але ж, бачыце, якраз купцы ў нас тут з абозам на начлег сталі, у Гародна аднекуль здалёк вяртаюцца. Так што ў кожным кутку людзей бітком набіта. Заўтра гарадзенскія госці выедуць, тады і папрастарнее.

Пасля цяжкага дня і сытнай вячэры сон у Алексы і Хведзькі быў навалісты, глыбокі.

Калі Алекса сарваўся з засланага радзюжкай куля саломы і выглянуў праз нізкія дзверы надвор, вялікае зімовае сонца падыходзіла, мабыць, пад самы поўдзень. Ён поўнымі грудзьмі ўдыхнуў густое здаровае паветра, распрастаўся, громка крэкнуў і ўсім пругкім целам наваліўся на захутанага з галавою ў світку Хведзьку. Але той, аказваецца, таксама не спаў, звітна вызлігнуўся з-пад Алексы і ў момант апынуўся вярхом на сваім сябры і прашаптаў:

— Здурэў ты, ці што? Пярэшку разбудзіш!...

На гэта як бы і чакаў Алекса. Ён павярнуўся тварам да прыяцеля і захіхікаў:

— Ха! Значыць, цябе таксама зачаравала! Шчасце, што жонкі ды дзяцей не маеш, а то трэба было б нам, замест цвердзь узводзіць, зараз жа ў твой Сураж на суд валачыся!...

— Цешся, што таму самаму Міску з Нарвы толькі пчол, бы мядзведзю з дуплаў выдзіраць, а не за дзяўчынамі хадзіць, — не паддаваўся Хведзька. — Валяўся б ты цяпер з застыглымі капытамі пад сцяною Нарвы або сядзеў у той самай казні. І дзвярэй туды з-за тваёй красы нараўскія бабы не сталі б вывальваць.

— Ну-ну, падзяўкай яшчэ! — не аставаўся ў даўгу Алекса. — Зараз так размалюю твой міхаед, што не адно людзі, але і жывіна ад цябе шарахацца будзе, як ад тае самай Грымкі...

Гэтую валтузню спыніў скрып дзвярэй. У іх паявілася шырокая постаць гарадоцкага пасадніка.

— Дзень сёння надта ж пагожы выдаўся, — шматзначна за-

гаварыў ён. — Пасля сняданку мо нашу крэпасць абгледзім, а то і ў лес выберамся — дрэвы пачнем знакаваць. Пакуль чорная стапа ў лесе, то і пры вырубцы зручней.

Снядалі ўтрох. Прыносіла і падавала ім на стол ежу і пітво звітная худашчавая маладзіца сярэдніх год, відаць, сама пасаднічыха. З цікаўнасцю выпытвала яна маладых, пра іх дагэтуляшняе жыццё-быццё, пра бацькоў, падарожжа. Алекса і Хведзька адказвалі неахвотна, толькі з ветлівасці, каб не пакрыўдзіць гаспадыню. Самі ж раз-пораз азіраліся на дзверы, выразна чакаючы на Пярэшку.

— А ваша спадарожніца, — у адказ на гэтыя позіркі паведаміў пасаднік, — яшчэ зацямна з купцамі ў Гародна падалася.

— Як гэта?! — сарваліся яны з лавы і кінуліся ў дзверы. — Дзе нашы коні? — закрычалі выбягаючы на дзядзінец.

Выйшаўшы з хаты, пасаднік перапыніў іх:

— Суцішцеся... Ходзьце ў хату, — і, узяўшы абодвух пад рукі, павёў у бок дзвярэй. — Не трэба ў пагоню за ёю. Зусім не трэба.

— Чаму ж гэта?! — не суніма́ліся гароднікі. — Яна згіне там!...

— Можа і не згіне, — сказаў пасаднік, калі яны былі ўжо ў хаце. — Бачыце, ноччу яна нам усё расказала. Таму так будзе лепш: у Гародне, або яшчэ і далей, ёй можа яшчэ ўдасца пажыць і шчасце знайсці. У нашым жа княстве раней ці пазней яе знойдуць, пазнаюць, і калі не ў прорубку акунуць, то ў вогнішчы спаляць. І ні вы, ні я, ні хто іншы яе ад гэтага не ўратуе. Западозраным у чараванні няма літасці...

Алекса і Хведзька апусцілі галовы. Спакваля вярнуліся да стала. Пахучая, з карычневымі прыгаркамі, вепраціна зусім не лезла ім у горла.

Неўзабаве яны на чале грамадкі пасаднікавых людзей стаялі на пагорку. Гародок з яго старэнькімі і нізенькімі крапаснымі сценамі выглядаў, як маленькае гняздзечка нейкай балотнай птушкі, звітае на купіне над застыўшай у карычневых чаротах і шэрай лазе рэчкай Супраслю. Алексаў і Хведзькаў зрок прыцягвала зусім не гэтая мізэрная пагранічная мясціна і параскіданыя вакол яе па лесе невялічкія лысіны палёў-лядаў і сенажацяў. Так, яны ўзвысяць і ўзмоцняць гэты ўскрай уладання свайго князя Васілька Раманавіча. Іх вочы прагна абшуквалі цяпер ледзь заўважальны шнурочак гарадзенскага гасцінца, што, віючыся і губячыся сярод зараснікоў і пералескаў, знікаў недзе ў чорным лясным масіве.

— Яна там... — прашаптаў Алекса, і яны абодва доўга-доўга не маглі адарваць зроку ад зубчатай, непрыступнай, цёмнай пушчанскай сцяны.

❊

Нядаўна я наведаў мае родныя мясціны. Увесь дзень гутарыў

з колішнімі суседзямі і знаёмымі, гасцяваў у іх хатах, блукаў па ваколіцы, а на самы вечар пакінуў сабе найважнейшае: былое наша дальняе поле.

І так, я стаю на ім.

Побач гудуць малачарня і машынная база-майстэрня спулдзельні сельскагаспадарчых гурткоў. Унізе, дзе некалі прасціраліся топелі Жаралаў, у промнях заходзячага сонца віднеецца зялёная прастора лугоў. На ёй там і сям бегаюць з касілкамі і грабілкамі трактары, паспешліва крочаць коні, мякка плывуць бухматыя вазы сена. Па колішнім гасцінцы, што ідзе з Нарвы ў Гарадок і на якім уцякалі звыш сямісот год таму Алекса, Хведзька і Пярэшка ад смяротнага прысуду князеўскага цівуна і раз'юшанага жаночага натоўпу, шмыгнуў маленькі фіят, пакідаючы за сабою клубы мяккага пылу. У воддалі бялеюць высокія дамы і стройная вежа царквы ў Гарадку.

Я не чакаю змроку: не спадзе тая дзівосная зорка, не скоцішца з пагорка ў Жаралы яскравы вогненны сполых...

**Мікалай Гайдук**



## ВОЧЫ

З тысячы агнёў
вырываю
тваё полымя вачэй
яно тхне
жыццём
каханнем
шчаслівымі днямі
начэй раздоллем
Не затопча яго
натоўп

. . . . . . . .

не затопяць яго
слёзы
ён іскра жыцця
Не хачу
адхіляць зроку
ад тваіх вачэй

## І ЗНОЎ...

І зноў еду да цябе
Вязу адкрытае сэрца
І зноў бягу да цябе
Нясу адкрытае сэрца
І зноў уваходжу да цябе
Даю адкрытае сэрца
І зноў адыходжу ад цябе
Замкнулася маё сэрца

. . . . . . . . . . .

Мама!

**Ірына Цыбік**
Пераклад М. Гайдука

Міхась Шахэвіч

## ЗМЯРКАННЕ

1

Вяртаюся...
Іду туды,
Дзе гасне сонцам,
Пад пылам дзён,
Дзіцячых мараў
След у пустазеллі,
Краіну сарамлівай маладосці.
Вяртаюся
Адступнікам і госцем
З душой, крывавячай надзеяй,
Як блудны сын
У пошуках даверу.
То паміраю,
Каб уваскрэснуць,
То ўваскрасаю,
Каб памерці —
Раз праганяюць
З уваскрасання,
Другі раз —
Не патрэбны смерці.

2

Дзень канаў
Ціха, ціха,
Непрытомны,
Чырвоны.
Вечар-п'яніца, з крыкам
Прапіваючы гонар,
Плечы рабіў
Ва ўладарнікаў новых,
За бясцэнак прадаючы
Слова за словам.
У сумным бляску агаркаў
Маткай згорблена хата
І шпакоўнік на ліпе —
Дабраты знак распяты
Крычалі
Перашэпты вялі
Сваёй мовай нямою,
Глытаючы крыўду
Для святога спакою,
Але вечар-разбойнік
Па чарзе,
Без разліку,
Прадаваў
І шпакоўнік,
І хату,
І ліпу.

3

Дзень захроп.
Заскрыпелі аканіцы,
Ляснула брамка,
Казытнула крапіва
Па штахецінах плот...
Адвячорак яднаўся
Тут заўсёды з заранкай,
Комін вітаў
І развітваў ноч
І з хлявамі размову
Доўга вёў бацькаў бот.
Калісьці тут гоман,
Весялосць бестурботна
І ток халадком
Казытаў босы ногі
І мы пасядаўшы
На голым парозе,
Чакалі
Як вернуцца
Тата і мама
Ноччу з каровамі
З поля сагнаны,
Каб сесці вячэраць
З супольнае міскі;
Не зналі яшчэ,
Што падзеляць нас лыжкі.
Маліліс навальніцы,
Што недзе у полі
Застала дзядулю
За зеллем жывёле
Якая за здзекі
Чакала палёгкі.
А сёння,
Аслепшыя старасцю вокны
Пуста глядзяць
На глухі панадворак

Час як ненатольнае
Бурнае мора
Лістаю старонкі
Знаёмае кніжкі,
Маладосць паскупіла
Дзяцінству падтрымкі,
Засталося дзяцінства
Ля цёплае печы,
Маладосць недзе часу
Прапіў жыцця вечар.

4

За вокнамі вецер
Рогатам вые.
— Нехта павесіўся, —
Гаварыла бабуля, —
Чэрці вяселле
За душу гуляюць.
Пакайся, унучак,
Пакайся...
І каюсь.
Перад сумётамі,
Каюсь прад маем,
Калі надзеяй
Сады зацвітаюць,
Каюсь прад коласам,
Восенню...
Каюсь!
Жыць у шчасці
Не значыць
Патраціць надзею,
Волю, бабуль
Не каўбасамі мераць.

5

Праспявалі мае пеўні,
Кветка папараці
Зацвіла другому.
Законна адыходжу ў цень —
Краіну
Адзінокага палону.
Усё будзе плыць,
Дзе бела і бясхмарна
Плываць,
Што на маім небе цёмным
Маланкі
Яркасцю каварнай
Прарочаць сумнае
змяркание...
Такі ўжо лёс у прамінання —
Заўсёды
У асалодзе шчасця
Ёсць кропля
Горычы ростані...

6

Яшчэ раз падлікі
У маім жыцці,
Лістаю каталог
Свайго я быту,
Гартаю дні
У сваёй бібліятэцы —
Усюды толькі подпісы
нябыту,
Сумленне
Час нахальна лечыць...
Толькі рэха-паліглот
Пакрысе спрабуе пярэчыць.

7

Як цяжка зразумець,
Што ўжо восень.
Што агароды
Цяжарныя летам
Рукі дапаможнае просяць
І колас
У смяротнай агоніі галосіць
Скажыце яму,
Што цэп толькі малоціць,
Што ўваскрасання
Чакае краіна;
Хай птушкі паверацць,
Што вырай — айчына.
Толькі баб'е лета
Плыве і прарочыць
Каму развітанне,
Каму, на жаль,
Восень.

**Міхась Шаховіч**

* ✻ *

Не пеpажыў, то i не напішаш,
Я гэта ўжо спазнаў даўно.
Сваёй дарогі не знайшоў
Той, хто ніколі не блудзіўся.

Спагадлівасць душы і вернасць слова,
І тэмаў процьма, ды адна —
Сэрцам адстукана, свая,
Метафарычная аснова.

Паэзія не любіць крыку.
У ёй сакрэт, як светам свет:
Душою чулаю паэт
Ловіць няўлоўнасць светлых блікаў.

І заварожаны смяецца:
Папараць-кветка ўжо мая.
У знямозе гасне смага дня,
Халодным бляскам свеціць месяц.

І кінем, братка, забаўляцца.
Колькі ж год таптаў зямлю
Спрадвечную, родную, сваю, —
Яна вучыла, быццам маці.

Быць справядлівым, і сумленным.
Быць чэсным, шанаваць людзей.
Блакітны вецер-чарадзей —
Паэзія — душы гарэнне.

## СІНІЯ КАСАЧЫ

Сінія касачы,
Сінія касачы,
Заўсёды хлюпкую руду
Нагамі я мясіў —
Каханай вас дарыў...
Іншага сабе знайшла,
Хоць вас ад мяне ўзяла,
Сінія касачы,
Сінія касачы,
Не сніцеся ўначы...

Асушылі ўжо руду,
Тую балотную бездань,
Сінія касачы,
Сінія касачы,
Калісь быў сіні час...
Кахання ўжо няма,
А ў душы адна туга,
І вас шкада, шкада,
Сінія касачы,
Сінія касачы.

* ** *

Мой лёс —
Мой белы ангел,
А ночы —
Чорна смерць.
Штораз часцей, з гадамі,
Як цень за мной ідзе.

А я жыццём гару
Стамлёны
З года ў год
Цяжар перакідаю —
Думак кругазварот.

Яшчэ хвілінку,
Міг,
Мне падары, жыццё,
Каб крок ступіць наперад,
Ты — белы ангел мой.

**Уладзімір Гайдук**

---

**Вінцук Склубоўскі**

## ПРЫГОДА Ў ПАРЫЖЫ

Я выпадкова спаткаў яго ў Варшаве, у Саскім парку. Я прысеў на лаўцы, каб крыху адпачыць пасля доўгай валацугі па сталіцы. Ён мінуў мяне, не звяртаючы, здаецца, увагі, але, не адышоўшы далёка, вярнуўся і стаў прыглядацца:

— Калі не памыляюся, тады бачу В., — сказаў ён.

Узіраюся я — нехта знаёмы, але адкуль — не прыпамінаю.

—Я — Ляшчынскі, — адрэкамендаваўся ён. — Мы разам вучыліся ў гімназіі, сядзелі на суседніх лаўках...

У тым самым класе іх было двух братоў-блізнюкоў — Антон і Васіль. Яны былі настолькі падобны адзін на другога, што аніяк нельга было адрозніць, які з іх Антон, а які — Васіль. Выклікае, напрыклад, матэматык да дошкі Васіля, а за яго ідзе Антон, бо быў мацнейшы па гэтаму прадмету. Адказвае добра, але не паспее сесці, а тут настаўнік выклікае Антона. Выкарыстоўваючы момант няўвагі педагога, які нешта пісаў у класным журнале, браты хуценька мяняюцца мясцамі, і да дошкі зноў ідзе Антон. Гэтым разам ён адказвае ўжо за самога сябе. Вучні гэта заўважалі, але для іх вывесці настаўніка ў поле было найвялікшай радасцю. Хіхікалі ў кулакі, але ніхто не здрадзіў.

Гэтакія гісторыі са школьнага жыцця мы прыпаміналі, седзячы на лаўцы ў Саскім парку.

— Чаго ж мы тут сядзім! — усклікнуў ён раптам. — Ідзём да мяне, я ж тут недалёка жыву.

— Слухай, — не ўстрымаўся я ідучы побач з ім, — скажы мне: ты Антон ці Васіль?

— Васіль я, — адказаў ён, не спяшаючыся.

— А дзе Антон?

— Гэта надта ж доўгая гісторыя — раскажу на кватэры.

Мы праехалі некалькі паўстанкаў трамваем і ўжо былі ў яго кавалерскім памяшканні.

— У 1939 годзе, — пачаў свой расказ Васіль, — я і Антон былі мабілізаваны ў войска. Мне пашанцавала: пасля верасьнёўскага паражэння я цэлы і здаровы вярнуўся дамоў. Жылі мы тады ў Новавілейцы, што каля Вільні. Ад Антона на працягу ўсёй вайны не было ніякай весткі. Кончылася вайна і пачалося нармальнае, хоць і нялёгкае жыццё. Яшчэ ў Новавілейцы прыйшоў ліст ад Антона. Ён коратка паведамляў, што жыве ў Злучаных Штатах Амерыкі, працуе ў фабрыцы, добра зарабляе.

Напісаў я яму ўжо з Варшавы. На тое, каб вярнуцца ў Польшчу, ён нават і не адказаў. Прыслаў яшчэ з два лісты і наша ліставанне спынілася. Пра тое, як ён жыў у часе акупацыі, я даведаўся пазней, у асаблівых абставінах.

А было гэта так.

Восенню 1943 года, вечарам, пастукаў у мае дзверы незнаёмы. На парозе я ўбачыў худога, абдзёртага мужчыну, ён дрыжэў ад холаду. Па-нямецку ён папрасіў мяне есці. „Вязень ці дэзерцір з нямецкай арміі?“ — губіўся я ў здагадках. Так ці інакш, гэта не мог быць вораг. У той час ворагі вялі сябе нахабна. Аказалася, што гэта быў француз з Рурскага басейна — нямецкі грамадзянін і таму мабілізаваны ў гітлераўскую армію. Яму зусім не хацелася паміраць за Трэці Рэйх, наадварот — ён цешыўся з яго паражэнняў. Аднойчы нешта ляпнуў пры даносчыку, трапіў у арышт і чакаў палявога суда. На шчасце, у тую мясцовасць, дзе ён сядзеў, наведаліся партызаны, узнікла суматоха і яму ўдалося ўцячы. Ён доўга блукаў бязлюднымі дарогамі, баючыся спаткаць партызанаў, якія маглі палічыць яго нямецкім шпіёнам, а яшчэ больш баяўся немцаў — за ўцёкі з арышту і дэзерцыю ад іх ніякай спагады ён не мог спадзявацца. Даведзены да адчаю, галодны, француз адважыўся зайсці ў вёску. Там за гадзіннік далі яму бохан хлеба і паношаную вясковую вопратку. Хлеба хапіла не на доўга, і ў крайнім знясіленні ён адважыўся пастукаць у мае дзверы. Я жыў тады на скраю Новавілейкі, вакол дома быў сад. Француз называўся Шарль Вазэр. Уладкаваў я яго ў сябе, і тут ён дачакаўся прыходу Савецкай Арміі.

— Я ніколі не забуду таго, што вы для мяне зрабілі, — сказаў ён, ад'язджаючы дамоў. Запісаў мой адрас і пакінуў свой, у басейне Рура.

Міналі гады, а Шарль ніякай весткі не падаваў. Я яму не пісаў, бо не хацеў, каб ён падумаў, што чакаю на яго ўзнагароду. Такое мне нават не прыходзіла ў галаву. Французы ж былі нашымі саюзнікамі, і ў часе акупацыі пакутавалі таксама, як і мы, пад гітлераўскім ботам. Маім святым абавязкам было яму дапамагчы. Ён жа не меў ніякіх шанцаў праехаць праз усю Нямеччыну ў Рур без дакументаў.

Хутка гэтая гісторыя зацёрлася ў маёй памяці. Аднак у 1956 годзе знаёмы з Новавілейкі пераслаў мне ліст з Францыі, што прыйшоў на мой колішні новавілейскі адрас. Гэта пісаў Шарль. Паведамляў, што перасяліўся ў Бардо. Там жывецца яму вельмі добра, і ён запрашае мяне ў госці. Перапрашаў таксама за доўгае маўчанне і тлумачыў гэта тым, што ў часе пераезду ў Бардо згубіў картку з маім адрасам і толькі цяпер выпадкова знайшоў яе ў адной з кніжак.

Хто з нас не хацеў бы пабываць у Францыі? Мы ёй заўсёды сімпатызавалі, хоць часта без узаемнасці. Мары мае здзейсніліся ў наступным годзе. Бардо знаходзіцца, як вядома, у паўднёва-заходняй Францыі. Едзецца туды праз Парыж. Вядома, я рашыў найменш увесь дзень прысвяціць гэтай славутай сталіцы.

Эх, каб я ведаў, што мяне там спаткае, аб'ехаў бы яго бокам на некалькі сот кіламетраў!

Калі я захапляўся старыннымі пабудовамі і іншымі славутасцямі Парыжа, да мяне падышла элегантна апранутая, хоць даволі брыдкая жанчына.

— Нарэшце я цябе спаткала, ты, валацуга! — пачала яна з высокай ноты. — Я цябе босага і галоднага прыняла ў свой дом, зрабіла з цябе чалавека, а ты зняславіў, асмяшыў мяне, уцёк, як злодзей! Але цяпер ты не выкруцішся. Тут у мяне аўтамабіль. Паедзем зараз на тваю кватэру, забярэм рэчы і паедзем у Вэзуль...

Я глядзеў на яе вытарашчанымі вачыма і меркаваў, хто з нас з глузду з'ехаў.

— Мадам, вы памыліліся, узялі мяне за кагосьці іншага... Я вас першы раз бачу! — заікаючыся і калечачы французскую мову тлумачыў я. У гімназіі я вучыўся французскай мове, многаму навучыў мяне Шарль і я наогул нядрэнна валодаў гэтай мовай.

— Не рабі з мяне дурня! Я б цябе за паўкіламетра пазнала... Не-е, галубок, другі раз ты ад мяне не ўцячэш! Выбірай: вернешся са мною ў Вэзуль і прабачу табе тваю подласць, або пойдзеш за краты! Хіба ж ведаеш, што паліцыя цябе шукае?..

— Я ж усяго дзве гадзіны, як з цягніка сышоў... Прыехаў з Польшчы... Нікога ніколі не абакраў!..

— Ага, значыць, ты ўцёк аж у Польшчу!..

— Нікуды я не ўцякаў. Я ўвесь час жыву ў Польшчы. У Францыі я першы раз, а пра ваш Вэзуль нават не ведаў, што ён ёсць на свеце!..

— Бачу, што з табою не дойдзеш да ладу. Нічога, у арышце ўсё табе прыпомніцца! Галё! — крыкнула яна на паліцыянта, што непадалёку праходзіў. — Не спрабуй уцякаць, бо будзе дрэнна, — сказала яна мне, а сама падбегла да рослага мужчыны ў мундзіры.

Я стаяў мо ў дзесяці кроках ад яе і разважаў, ці не даць драла. Хутка можна было б згубіцца ў натоўпе. Але дзе ж тут дзецца ў чужым, незнаёмым горадзе? А гэтая вар'ятка гатова падняць гвалт! Людзі падумаюць, што я злачынца. Паліцыі гэта таксама будзе дадатковы доказ. Што ж, трэба было здавацца на ласку лёсу. Непаразуменне мусіць высветліцца.

Што гэтая баба балбатала паліцыянту, я не чуў. Зараз жа ён падышоў да мяне і загадаў ісці з ім на камісарыят. Дарма я тлумачыў, што гэтую даму бачу ўпершыню і не чапаў яе. Яна ж немаведама чаго прыстала да мяне. Аднак няўмольны паліцыянт завёў мяне ў камітарыят і замкнуў у арыштце.

Адносіліся да мяне ўважліва, кармілі, пыталі, ці чаго-небудзь не трэба. Сказаў я, што патрабую толькі аднаго: няхай завядуць да каменданта, высняць недаразуменне і выпусцяць, бо я хачу ехаць у Бардо, у госці.

Мне сказалі, што каменданта няма, і я буду дапрошаны заўтра.

І вось я на допыце.

— Прозвішча, імя? — спытаў камендант.

— Ляшчынскі Васіль.

— Антон, — паправіў ён.

— Васіль, — настойваў я. — Можаце праверыць у пашпарце, дзе выразна напісана, што імя маё Васіль.

— Добра, гэта яшчэ акажацца. Месца жыхарства?

— Варшава.

— А да 1946 года?

— Новавілейка.

— А калі жыў у Вэзулі?

— Ніколі я не быў у гэтай мясцовасці.

— Жанаты?

— Кавалер.

Камендант замоўк. Доўга і ўважліва глядзеў на мяне і стукаў па стале аўтаручкай.

— Скажыце вы мне, што вам прыйдзе з гэтай хлусні. Вас пазнала жонка, а заўтра прыедзе цесць Дуброк і таксама пазнае. Прызнайцеся лепш, жонка і цесць возьмуць назад абвінавачанне. Тады выпусцім вас з арышта і вы паедзеце ў Вэзуль.

— Я ніколі не быў жанаты, ніколі не бачыў таго Вэзуля, ніякага Дуброка знаць не знаю! — запярэчыў я, але мае словы адбіваліся ад каменданцкіх вушэй, як гарох ад сцяны.

„Чаму ён так упіраўся, што я называюся Антон?" — І тут мне пачало святлець у галаве. Пэўна, мой родны браток нешта напутаў, а яны мяне прынялі за яго! Але гэта павінна высніцца".

Назаўтра мяне паставілі перад абліччам „майго" цесця. Ён адразу пазнаў у маёй асобе Антона Ляшчынскага. Тут я толькі і даведаўся, што Антон уцёк з лагера ваеннапалонных, што зна-

ходзіўся каля французскай граніцы. Баючыся, што яму не ўдасца праехаць праз усю Нямеччыну без дакументаў і не ведаючы нямецкай мовы, ён рашыў падацца ў Францыю. Яму пашанцавала. У Вэзулі ўладзіў яго ў сваім прадпрыемстве Дуброк, уласнік фабрыкі. Там выраблялі сельскагаспадарчыя машыны, але ў часе вайны — нейкія часткі да грузавікоў. Антон быў хлопец ладны, спрытны. Ён хутка здабыў давер гаспадара і сэрца яго адзінай дачкі. Праўда, па-мойму, сама дачка не выглядала на такую, што магла б ачараваць Антона. Але ён ажаніўся з дачкой фабрыканта. Як ягонаму зяцю, яму былі даручаны найбольш адказныя абавязкі. Антона рыхтавалі на будучага ўладальніка „інтарэсу".

„І чаму ён уцёк? — не давала мне спакою гэтае пытанне. — Але ці я сам вытрываў бы з гэткай ведзьмай? Яна мо па-свойму і кахала яго, але няспынна калола ў вочы сваім багаццем і вытыкала яму галечу. Пэўна, калом у горле стала яму такое шчасце".

Я запэўніваў, што ўсё гэта страшэннае непаразуменне і падаў адрас свайго брата Антона.

Доўжыліся дні ў арышце. Толькі праз два тыдні мяне паклікалі да каменданта.

— Адрас ваш фікцыйны, — паведаміў ён. — Дома з такім нумарам там няма і ніхто не ведае, каб Антон Ляшчынскі там пражываў.

Ад апошняга ліста, які прыйшоў ад Антона мінула ўжо восем год. Брат у тым часе мог пераехаць у іншы горад, а дом, у якім ён жыў, маглі знесці.

— Будзеце вы ў канцы гаварыць праўду, ці не! — нерваваўся камендант.

— Я называюся Васіль, а не Антон, першы раз прыехаў у Францыю! — паўтараў я сваё, але камендант толькі з пагардай крывіўся.

— Слухайце, я хачу толькі вашага дабра. Дачка Дуброка, як сказаў мне яе бацька, доўга сумавала і плакала пасля вашых уцёкаў. Але яна вас кахае і гатова вам усё выбачыць. Няўжо вам было дрэнна ў Дуброка? А якая перспектыва перад вамі?

— Калі б я нават сказаў, што я — Антон, то і так з бегам часу разабраліся б у маёй ілжы. Тады вы самі мяне абвінавацілі б, што я падшываюся пад іншую асобу. І гэта была б праўда.

— Пра гэта вы непатрэбна турбуецеся. Лепш падумайце пра абвінавачанне ў пакражы 500 тысяч франкаў. Пасля вашага пабегу Дуброк склаў у паліцыю заяву, што вы з яго паўнамоцтва ўзялі з банку гэтую суму на выплаты для рабочых і з усімі грашыма ўцяклі. Ён нават паказаў пасведчанне з банку, што гэтую суму вы атрымалі.

Антон, якім я яго ведаў, заўсёды быў шалапутам. Але на ба-

гацце ён вялікай увагі не звяртаў. Мяркую, што ён ажаніўся не для багацця. Проста паддаўся націску. Знаходзіўся ў цяжкой сітуацыі. Куды ён мог бы падзецца, калі б яго выгналі Дуброкі? А зрабіць такое яны маглі б, калі б ён не падпарадкаваўся волі фабрыканцкай дачкі. Цярпеў яе капрызы, пакуль не закончылася вайна. Пасля ж уцёк у Амерыку. Але ўкрасці грошы — гэта не было да яго падобнае. Напэўна па злосці абвінавацілі яго ў пакражы, каб змабілізаваць паліцыю да пошукаў.

— Дуброк — вядомы прамысловец і паважаны грамадзянін, — гаварыў мне камендант. — Яму паверань. А тады не пабачыць вам доўгія гады свабоды. Прызнайцеся лепш і вяртайцеся да жонкі, тады справа будзе спынена па просьбе Дуброка.

Я быў у роспачы. Сумленне не дазваляла падшыцца пад свайго ўласнага брата. А калі не зрабіць так — напэўна засудзяць, пра гэта паклапоціцца Дуброк. Хто ведае, калі я выйду з турмы. У арышце вакол мяне ходзяць на пальчыках, вядома — для іх я — зяць вядомага прамыслоўца. У турме ж я буду звычайным злодзеем.

У арышце зноў пайшлі сумныя дні. Я быў у адчаі. Ночы не спаў. Усё думаў, як даказаць, што я — гэта я, а не Антон. А мо і праўда, прызнацца? Не, гэта нячэсна і потым можа дрэнна закончыцца.

І тут я згадаў Шарля! Ну, як я мог не падумаць раней пра яго?! Гэта было як з чалавекам, які шукае ўсюды акуляраў, а яны вісяць у яго на носе. Нервы — вось яно што. Шарль жыў у мяне ў Новавілейцы ў тым часе, калі Антон ужо быў жанаты з дачкой Дуброка і пражываў у Вэзулі. Я прыпомніў таксама, што ў мяне ёсць апазнавальны знак — радзімая плямка на шыі. Калі я ў кашулі з гальштукам, яе не відаць, але пры расшпіленым каўнерыку яна кідаецца ў вочы. Гэта ж па ёй знаёмыя адрознівалі мяне ад Антона.

Я патрабаваў дапытаць як сведку Шарля і спытаць у жонкі Антона, ці ў яго на шыі была радзімка.

Следства выйшла на маю карысць. Шарль, даведаўшыся пра мае клопаты, першым жа цягнікам прыехаў у Парыж. Тут у паліцыі ён расказаў не толькі пра тое, як хаваўся ў мяне ў часе акупацыі, але і паказаў фатаграфію, на якой быў я з братам Антонам. Гэты здымак ён атрымаў ад мяне на памятку, калі ад'язджаў з Новавілейкі на сваю радзіму.

І так я пасля чатырох тыдняў выйшаў на волю. Да Шарля ехаць мне не давялося: мой водпуск канчаўся і трэба было вяртацца на работу.

Праз пяць год пасля гэтага я атрымаў ліст ад Антона. У канверце было фота Антона з нейкай амерыканкай, якую ён падаваў за сваю жонку. Жыў ён у іншым, чым раней, горадзе. Як яму ўдалося ажаніцца без разводу з папярэдняй жонкай? Мо ў

міжчасе ён узяў развод? Я не дапытваўся. Парыжская прыгода цалкам задаволіла маю цікаўнасць.

Васіль замоўк. Перада мной ляжала фота Антона з амерыканкай. Ён мне выдаўся не такі ўжо і падобны на Васіля. У ім было нешта чужое. Можа яго змяніла вопратка, а мо багацце, на якое яму шанцавала?

**В. Склубоўскі**



*На вуліцы вёскі Войшкі. Фота М. Гайдука.*

# ІХНЕАЛОГІЯ ВАКОЛІЦЫ БЕЛЬСКА-ПАДЛЯШСКАГА

## 1. ФІЗІЧНАЯ ГЕАГРАФІЯ ТЭРЫТОРЫІ.

1. Уступ. Даследаваная тэрыторыя знаходзіцца на паўднёвы захад ад левабярэжнага ніжняга цячэння р. Арлянкі. Урочышчы: Храбалы, Плютычы, Райск, Гацькі. Паўночная частка вызначаецца шырынёй 52°45° 31 — N. Адлегласць ад г. Бельска 12 км.

Прынятыя скарачэнні: Іа — Індэкс аўтара; Геал. пр. гл. — геалагічны профіль глебы; Мал. — малюнак; Кр. — карта; Гар. — гарызонт. Часткі свету: N — поўнач, E — усход, S — поўдзень, W — захад; г-іхніты — сляды дзейнасці геалагічных сіл; б-іхніты — сляды жыцця дзейнасці арганізмаў.

2. Клімат умеркаваны. Паветра ў асноўным палярна-кантынентальнае, наплывае з паўночнага ўсходу Еўропы, вецер з паўночнага захаду. Пануючы вецер з паўднёва-заходняга кірунку. Найменшы — з усходу. У зімовы час вецер з паўднёвага захаду і паўночнага захаду прыносіць вільготнасць. Ахаладжэнне прыводзіць да ўтварэння галаледзіцы. Вецер з усходу летам прыносіць засуху; а зімою — моцныя маразы. Воблачнасць сярэдняя 6.9. Максімум у лістападзе і кастрычніку 8.4 — 8.5. Мінімум — у чэрвені і верасні 5.3 — 5.9.

Найцяплейшы месяц ліпень + 17,8, а найхаладнейшы студзень — 4,4. Вясеннія замаразкі назіраюцца ў маі; рэдка — у пачатку чэрвеня. Асеннія замаразкі бываюць у верасні. Снежнае покрыва трымаецца 78 дзён, ад лістапада да красавіка.

### ТЭМПЕРАТУРА СЯРЭДНЯЯ ЗА 1948—1967 г.г.

(Іа — 4)

| | I | II | III | IV | V | VI | VII | VIII | IX | X | XI | XII | год |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| сярэдняя | -4,4 | -4,2 | -0,6 | 7,2 | 12,9 | 16,5 | 17,8 | 16,8 | 12,8 | 7,7 | 2,4 | -1,4 | 6,9 |
| максім. | 7,7 | 10,3 | 16,5 | 29,4 | 30,9 | 31,7 | 35 | 34,5 | 30,7 | 26,3 | 18,3 | 14 | 35,0 |
| мінім. | -38,0 | -31,4 | -24,1 | -9,9 | -5,5 | 0,7 | 5,4 | 0,8 | -3,1 | -9,0 | -19,0 | -23,5 | -38,0 |

Асадкі сярэднія 550 — 600 мм у год.

### АТМАСФЕРНЫЯ АСАДКІ ЗА 1948—1967 г.г. БЕЛЬСК ПАДЛЯШСКІ

(Іа — 4)

| | I | II | III | IV | V | VI | VII | VIII | IX | X | XI | XII | год |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| сярэдняя | 33 | 38 | 30 | 39 | 52 | 75 | 70 | 80 | 46 | 41 | 45 | 42 | 591 |
| максім. | 43 | 58 | 93 | 66 | 121 | 122 | 188 | 163 | 124 | 125 | 78 | 97 | — |
| мінім. | 12 | 11 | 5 | 9 | 12 | 32 | 14 | 18 | 5 | 3 | 21 | 10 | — |

3. Фітагеаграфія. Тэрыторыя ўрочышчаў: Храбалы, Плютычы пакрытая лесам. Тып — бор, субор, тугай. У асноўным — сасна, з дамеш-

каю бярозы; у падлеску — ядловец. У месцах нізінных — альха, крушына, вярба.

4. Заагеаграфія. Распаўсюджаны заяц-русак, сарна, ліса. Землярыйныя жывёлы: барсук, палёўка водная, лясная мыш, землярыйка, крот, ласка. З птушак: сарока, шэрая варона, грак, дзяцел, берагавая ластаўка, верабей.

5. Геамарфалогія. Тэрыторыя сфармавалася пад уплывам ледавіка. Стварыліся зандры, озы, камы — сёння моцна спенепленізаваныя. Пярвічная іх паверхня згладжана ў выглядзе спадзістых узнятасцяў. Толькі камы захоўваюць стромкія схілы. Вышыня абсалютная ад узроўню мора — 120-145 м.

6. Глебы ў асноўным пясчаныя і супяшчаныя. Глебаўтварэнне адбывалася галоўным чынам пад уплывам сасновага лесу ў геал.пр.гл. 6.7. (мал. 2); бярозавага — геал.пр.гл. 14 (мал. 2) і альховага — геал.пр.гл. 13, (мал. 1 — кр.).

Акумуляцыйны гар. (А) перагнойны, мае магутнасць 5-25 см і кіслотнасць pH = 4-6. Працэс падзолаўтварэння пайшоў вельмі глыбока. Кар-




*Схема суадносін іхнагеалогіі з іншымі геалагічнымі навукамі.*

банаты вышчалачаны. Алювіяльны гарызонт складаецца з вокіслаў і гідратаў вокіслаў жалеза, алюмінія, марганца. Там, дзе было шмат абломкавых карбанатных парод, працэс ападзольвання затрымаўся. Стварыліся бурыя лясныя глебы. У даліне р. Арлянка сфармаваліся глебы балотныя — тарфова-мінеральныя (— геал.пр.гл. 13, мал 1 — кр.).

7. Геалагічная будова. Гэтая тэрыторыя з'яўляецца вобласцю чацвярціннага абледзянення — фазы Рысс. Магутнасць адкладаў 80-140

км.. У Райску адкрыта пароды: трацічныя, мел, юра, трыяс, сілур, ардавік і кембр. Ад глыбіні 658-890 м ёсць дакембрый — р ы ф е й. Ніжэй ляжыць крышталічны фундамент з граніту. Мінула 550 мільёнаў гадоў, як пад Райскам плюскацелі бурныя хвалі кембрыйскага мора. У гэтых узбярэжных марскіх фацыях адбываецца асаджэнне рудных злучэнняў. Ва ўсіх адкладах знаходзяцца акамянеласці арганізмаў мінулых геалагічных эпох. На іх падставе вылучана ўсе эпохі, перыяды. Жыццёва важнымі геалагічнымі фацыямі ў цяперашнім часе з'яўляюцца чацвярцінныя адклады. У субязі з гэтым з шматлікіх даследаванняў (Іа — 5, 6, 7,) тут ахарактарызавана самыя тыповыя з іх.

Геал.пр.гл. 2 (мал. 2) выкапаны ў адлегласці 2,5 км на захад ад цэнтра г. Бельска. Складаецца з рыхлага валуннага пяску, які на глыбіні 120 см пераходзіць у флювіягляцыяльны шчэбель і гравій.

Геал.пр.гл. 6 (мал. 2, кр. 1) — валунны супесак. Змяшчае фізічнай гліны 11%.

Геал.пр.гл 7 (мал. 2, кр. мал. 1), эолавы пясок. На глыбіні 85 см. пакрывае гумусавы гарызонт таўшчынёй у 25 см. Ніжэй — гэтакі ж эолавы пясок. Адклады прынесены з вусця р. Арлянка. Вялізныя пясчаныя ўзгоркі. Адтуль заходні вецер занёс пяском сельскія ўгоддзі с. Плютычы. Цяпер тут, ад 1953 г. расце сасновы лес.

Геал.пр.гл. 14 (мал. 2, кр. мал. 1). Да глыбіні 65 см складаецца з валуннага пяску. Ніжэй — слаісты флювіяглацыяльны пясок.

Геал.пр.гл. 25 (мал. 2, мал. 1 — кр.) складаецца з цяжкай валуннай гліны. Гэта і ёсць к а м а, якая ў XI—XII ст. была гарадзішчам. Камы ўтварыліся ў міжледавіковых упадзінах плейстацэна ў часе інтэргляцыялу. Тут жа ў ваколіцах Гацькоў і Праневіч рэшта камаў складаюцца з дробназярністага пылавога пяску, ясна-жоўтага колеру. Каля с. Катлоў кама з алеўрыцістых адкладаў змяшчае дыслакацыйны скід (Іа — 2). Факт гэты паказвае на акумуляцыю асадкавага матэрыялу сцякаючай вадой ад раставання лёду. Скідавая дэфармацыя стварылася ад раставання падпіраючага лёду (Іа — 2).

Марфалогія абломкавых частак з эолавага, валуннага і флювіяглацыяльнага пяску характарызуе нейкую кругляваець (мал. 4.5. геал.пр.гл. 2,6,7, 14). Вельмі вялікую вуглаватасць маюць абломкавыя часткі з распаду гранадыярыту і глін (мал. 4. геал. пр. 33, 43).

Валунная гліна з камы — гарадзішча ў Гацьках мае частковую акругласць аблом. ч. (мал. 4, геал.пр. 25). 1, урэшце, усе агрэгаты гліны вельмі вуглаватыя (мал. 4.5. — геал.пр.гл. 25, 43).

## II. ІХНАГЕАЛОГІЯ ГЛЕБЫ І ГРУНТУ

8. А з н а ч э н н е. Іхнагеалогія — вучэнне аб геалагічных умовах захавання, генезісу ды марфалогіі іхнітаў: поры, пустоты, шчыліны, абломкі парод, канкрэцыі, новаўтварэнні, адбіткі, адлівы; сляды жыцця, жыццядзейнасці і існавання арганізмаў.

**С х е м а т ы ч н а я** суадноснасць іхнагеалогіі з навукамі: тафаномія,

палеоэкалогія, экалогія, сегіментагогія, гістарычная геалогія, палеанталогія і глебазнаўства.

9. Акамянеласці арганізмаў у геалагічных адкладах з'яўляюцца галоўным крытэрыем іх гістарычнага вопісу. Усякая эпоха мае свае віды акамянелых арганізмаў.

У кар'ерных выкопах урочышча Храбалы зрэдку знаходзяцца акамянелыя ракавіны белемнітаў (мал. 3 — 1 да 14). Па-рознаму іх называюць. На самай справе гэта былі жывыя стварэнні — малюскі з унутранай ракавінай юрскага ды мелавага перыядаў. У часы ледавіковага перыяду белемніты прынесены са Скандынавіі. Калісьці там было вялізнае глыбокае мора. Узрост белемнітаў — 170 мільёнаў гадоў.

За 250 год пошукаў палеантолагам усяго свету ледзь толькі ў трох выпадках пашанцавала знайсці адбіткі мяккіх частак белемніта на мулаватых ды мергельных далікатных адкладах.

Выкапаны ў 1956 г. геал.пр.гл. 7 (мал. 2; мал 1 — кр) у адлегласці 1250 м на WNW накіраванні ад с. Храбалы. Лес — сухі сасновы бор, на эолавых пясчаных узгорках. У выкапнёвым гумусным гарызонце глебы, глыбіня 85-110 см, знойдзены кусок акамянелай драўніны, абгладжанай разумным стварэннем (мал. 3-15). Мае выгляд ножкі дзіцяці. Даўжыня акамянелай драўніны 15 см, шырыня 5 см, з слядамі злому. Слой глебы ўтварыўся ў інтэргляцыяле. Век геалагічных слаёў 150 тысяч гадоў, вызначаны метадам радыёактыўнага распаду. Ледавіковая эпоха — плейстацэн.

10. Г/б — іхніты — пустоты.

Грунт змяшчае поры, пустоты, норы, шчыліны ад мікраскопных размераў да вялізных ям. Не зважаючы на тое, што шматлікія пустоты ўтварыліся ў выніку геалагічных працэсаў ды фізічных з'яў, усе яны служаць месцам прабывання і прыстанішчам арганізмаў. Нават капілярныя поры неарганічнага паходжання з'яўляюцца вельмі важным звяном у жыцці ўсіх мікраарганізмаў. Служаць ім для жыцця. Паветра і вільготнасць праходзяць выключна па міжабломкавых ды міжагрэгатных прасторах.

Усё гэта даводзіць, што трэба вывучаць пустоты і геалагічныя ўмовы захавання іх незалежна ад генезісу.

— Класіфікацыя пустот і поласцяў па велічыні дыяметра ў міліметрах:

а) Пустоты — поласці акруглыя і авальныя:

| | |
|---|---|
| мікрапоры | 0 — 3 |
| мікраноздры | 3 — 5 |
| ноздры | 5 — 10 |
| ячэйкі | 10 |

каналы, прарытыя землярыямі, ямы, пячоры, калодзежы...

б) Пустоты — поласці падоўжаныя:

| | |
|---|---|
| мікратрэшчыны | 0 — 3 |
| мезотрэшчыны | 3 — 5 |
















43. B (30-70). ∅>1=4 1-0,4=5 0,4-0,01=46; <0,01=45

трэшчыны 5 — 10
шчыліны 10
паміжкамянныя і грунтовыя пустоты.

Мікраарганізмы пражываюць ва ўсіх размераў поласцях. Аднак жа прыстасаванне іх ды оптымум развіцця — у мікрапорах і мікратрэшчынах. Рэшта пустот большых размераў служаць месцам жыхарства для незлічонага полчышча насякомых нематод, чарвякоў і пазваночных. На апісанай тэрыторыі пераважаюць пяскі. Поласці і поры тут — паміж аб-




Мал. 3

ломкавымі частачкамі. Працэнтны аб'ём поласцяў залежыць ад марфалогіі абломкаў (мал. 5, геал.пр. 2, 6, 7; мал. 4, геал.пр.гл. 14). Чым большая вуглаватасць ды асіметрыя абломкавых часцінак, тым аб'ем параватасці болышы.

Норы землярыяў у сухім сасновым бары адсутнічаюць. Пясчаны грунт цягнецца вялізным лясным масівам урочышча. Сляды жыццядзейнасці арганізмаў канцэнтруюцца на пераходных палосах геалагічных фацыяў, у вобласці дэлювіяльнага шлейфа даліны, ручая ды сухадолавых дэпрэсіяў. Тут многа бугаркоў і нор кратоў. Зрэдку сустракаецца ласка, у чужых норах. На ўзлессі раенскага масіву пераходная паласа каля даліны, — меліярацыйнага рову, — што ідзе да Храбалоў. Тут сустракаюцца норы яшчаркі. Іх жыхарства дастасавана да камяністых пяскоў. Часта яшчарка вылазіць на камень або галінку хмызняку, сядзіць і грэецца на сонцы.

На раўніне норы лісіцы сустракаюцца ў бліндажах ды зямлянках. У расчлянёным рэльефе норы прыгладжаны да невялікіх узвышаннасцяў. Каля Праневіч адна з кам перарытая вялізнымі норамі лісы. Кама на пераходнай паласе дэпрэсіўнай геалагічнай фацыі.

Кама (мал. 6) с. Праневічы мае шматлікія норы берагавой ластаўкі: а ў Гацьках — пасля абвала вясной 1978 г. — запусцела. Ластаўкі перабраліся кудысьці ў іншае месца.

Упершыню даследавана марфалогію ўлётнай адтуліны нор з 1974 г. камы ў Гацьках (мал. 5. норы 33-51) і ў 1978 г. камы ў Праневічах (мал. 5, норы 52-64). Як бачым з малюнкаў, форма іх ёсць вельмі разна-










стайная. Тлумачыцца гэта тым, што камы складаюцца з дробназярністага пылаватага пяску. Уваходная адтуліна асыпалася і па гэтай прычыне здэфармавалася. Зроблена таксама матэматычныя вылічэнні гэтых форм і ўсіх абломкавых частак і агрэгатаў (1а — 5, 6). Аднак жа абмежаванасць аб'ёму працы не дазваляе змясціць гэтыя, вельмі цікавыя даныя, як і апісаць большую колькасць і х н і т а ў.

Н о р к і — адзін з галоўных відаў іхнітаў. Генезіс норак — жыццядзейнасць беспазваночных і насякомых у глебе і грунце. Норка служыць ім месцам пражывання, абароньвае сховішчам ды шляхам перамяшчэння.

Глыбіня норкі дажджавога чарвяка 1,5—2,5 м, а дыяметр 1—6 мм Найбольшую глыбіню норкі робіць дажджавік — Allolobophora mariupoliensis — да 8 м. Сценкі ходаў у зямлі вымазаны чорным рэчывам або налётам

вуглекіслай вапны $CaCO_3$. На цаліне, пад лесам і лугам, норкі мазефауны карыстаюцца шмат якія гады. Замена норак непажадана. Будаваць норкі трудна. Цяжкасць прыраўніваецца да стварэння сабе жылля чалавекам.

Назіраецца, што дробныя карэнні драўляных парод і травяністай расліннасці запаўняюць норкі. Гэткімі жа пустотамі карэнні пранікаюць у глыбіню грунту. Найбольшая колькасць норак мезафауны назіраецца ў глебе глiністай і перагнойнай, нейтральнай рэакцыі. Пясчаная сухая глеба мае хады, норкі насякомых ды міжабломкавыя пустоты, якія ў лёгкім грунце з'яўляюцца прыстанішчамі і абаронай для многіх з іх. Сухая пясчаная глеба і грунт ёсць без норак дажджавых чарвякоў.

У Белавежскім парку, на глыбіні 2,5 м. знойдзена фрагменты шкілета аленя (1а-1). Корань ліпы пранік у канал пазваночніка, дзе быў спінны мозг (мал. 3-16). Гэтае дзіва прыроды тлумачыцца тым, што корань прайшоў у месцы найменшага супраціўлення грунту. Каб там была звычайная адтуліна ў зямлі, без шкілету, корань прайшоў бы яе як пааднаму з іхнітаў.

11. Г/б — Іхніты масіўныя: шчэбень, гравій, галька, валуны, каменне, канкрэцыі і наваўтварэнні.

Абломкавыя часцінкі ў залежнасці ад велічыні ды формы ствараюць розныя віды іхнітаў.

Валуны і каменне ледавіковай марэны ўтрымліваюць у сабе сляды жыцця ў выглядзе акамянеласцяў. Вапнякі — з наўтылоідамі




Мал. 4

(Endoceras duplex) з ардавіка. Іх узрост — 500 мільёнаў гадоў. Прынесены са Скандынавіі.

На многіх валунах, параскіданых на тэрыторыі Беласточчыны, ёсць штрыхі на гранях вялікіх глыбаў. Галька і валуны кангламератаў маюць узаемна перасякаючыяся штрыхі і драпіны. Усё гэта ёсць сляды геалагічнай дзейнасці ледавіковай масы.

Камяністае поле лічыцца перашкодай у механізацыі сельскагаспадарчых работ. Аднак жа гэтае мёртвае каменне здатна ствараць жывыя іхніты. Паміж каменнямі і глебай утвараюцца пустоты, якія з'яўляюцца прыстанішчам для арганізмаў. З гэтых пустот яны робяць набегі — паляванні на шматлікія шкодныя насякомыя ды іх зямлі пад камнем ды падымае яго ўгору. Вясною пасля растаяння лёду камень не вяртаецца на сваё папярэдняе месца. Тады нам здаецца, што каменне расце. Застаўшая прастора выкарыстоўваецца карыснымі насякомымі і раслінамі. Апрача гэтага, па пустотах да карэнняў раслін пранікае паветра, неабходнае для росту і развіцця іх, што стварае лепшыя экалагічныя ўмовы. Вось чаму камяністыя глебы больш ураджайныя, чым іншыя.

Канкрэцыі — утвараюцца ў выніку выпадання хімічных злучэнняў, пры павелічэнні канцэнтрацыі раствору ды міграцыі рэчыва. Асаджэнне адбываецца навокал якога-небудзь цэнтра цвёрдага цела. На ўтварэнне канкрэцыі мае таксама ўплыў дыфузія, звязаная з дыягенезісам асадкавай пароды.

Канкрэцыі жалезістыя — назіраюцца ў далінах рэк: Арлянка, Белая, Любка і ў бяссцёкавых катлавінах. Утвараюцца яны пры выпадванні злучэнняў жалеза, прынесеных паводкамі і дэлювіям.

Новаўтварэнні — іржавыя і бурыя бабавіны ліманіта і нязвязнага гідрата вокісу жалеза, запаўняюць пустоты г/б — іхніта ў дэлювіяльных і алювіяльных адкладах. Карэнні раслін выкарыстоўваюць ваду — і канцэнтрацыя хімічных злучэнняў навокал іх павялічваецца. Вокісы і гідравокісы жалеза асядаюць, акальцоўваюць корань — пазней, часткова замяшчаюць яго. Утвараюцца трубачкі і псеўдамарфозы па карэннях раслін — б-іхніт у выніку жыццядзейнасці карэнняў раслін.

Калі ліманітавая канкрэцыя мае ў цэнтры ракавіну малюска, геалагічныя ўмовы захавання слядоў жыцця, б — іхніта, ёсць вельмі спрыяльныя.

Канкрэцыі крэмневыя — утвараюцца ў вапняковых адкладах. У геалагічнай старадаўнасці Зямлі, пры інтэнсіўнай вулканічнай дзейнасці, з попелам выдзялялася многа краменязёму. Трапляючы ў водныя басейны, краменязём ($SiO_2 \cdot nH_2O$), утварае крэмнявыя жаўлакі. Гелям краменязёму захватваліся мікраскапічныя арганізмы: сіне-зялёныя водарасці (мал. 7-2), бактэрыі і грыбы. У жаўлаках Антарыё (Канада) добра захаваліся гэтыя далікатныя арганізмы на працягу 1,7 мільярдаў гадоў. Крэмневыя жаўлакі да сёння служаць сродкам здабывання агню. Яны вельмі ўстойлівыя супраць выветрвання. У глебе-грунце ствараюць пустоты вельмі важныя г/б — іхніты. Гэтыя поласці выкарыстоўваюць і дабудоўваюць карысныя насякомыя. Яны служаць ім жыллём, прыстаніш-




Мал. 5.

чам, месцам адпачынку і аховы пры хімічнай барацьбе з пустазеллем і шкоднікамі палёў.

Мікратрэшчыны, створаныя сістэмай камень — грунт, выкарыстоўваюцца раслінамі, спрыяюць глыбокаму пранікацню карэнняў раслін.

Канкрэцыі вапняковыя (мал. 7, — 4 да 13) дакладна адлюстроўваюць пустоты, якія запоўнены вапняковым рэчывам. Форма канкрэцыі вельмі разнастайная, іншы раз — самая мудрагелістая. Сустракаюцца ў глебах і пародах багатых у вапняковыя злучэнні алеўрытаў. Гэта таксама ёсць г/б — іхніты, якія ўтварыліся на месцы згнілых карэнняў, гнёзд насякомых ды рэліктавых структур.

Канкрэцыі філітавыя сфарміраваліся ў марскіх адкладах, у выніку метамарфічнагаператварэння глін: пеліт — аргеліт — сланец — філіт. Апошні выгляд прыгожага з стужачнай слаістасцю камня. Колер буры або жоўты. На палях філіт сустракаецца рэдка. У канкрэцыях філітавых знойдзены найстарэйшыя сляды жыцця на Зямлі. Гэта ёсць звуглефікаваная сіне-зялёная водарасць (мал. 7 — 3). Батанічная серыя верхняга археазоя Скандынавіі. Узрост — 2 мільярды гадоў.

## III. ЭЛЕМЕНТЫ АХОВЫ ЭКАЛАГІЧНАГА АСЯРОДДЗЯ

Да экалагічнага асяроддзя арганізмаў адносяцца: глебагрунт, вада і паветра. Усе яны з'яўляюцца пастаянна дзеючымі зямнымі фактарамі і неразрыўна звязаныя з касмічнымі.

12. Глеба — сфарміравалася на працягу шмат тысячагоддзяў. Працэс распаду арганічных рэшткаў з далейшым сінтэзам стварылі гумусны гарызонт. Глеба забяспечвае расліны неарганічнымі злучэннямі.

Працэс жыўлення раслін адбываецца з удзелам мікраарганізмаў: бактэрый, грыбоў і пасрэдна мезафауны — нематод, дажджавых чарвякоў ды насякомых. Мае ўплыў тут таксама макрафауна. Шырокая хімізацыя сельскай гаспадаркі істотна ўплывае на жыццё біясферы глебы; а з гэтага — на ўраджай раслін у цэласці. Хімізацыя галоўным чынам накіравана на вынішчэнне шкодных насякомых, пустазелля і мінеральнага ўгнаення палёў. Апырскванне ядахімікатамі ды гербіцыдамі пасеваў моцна атручвае глебу.

Частку атруты гліністыя часцінкі абсарбіруюць. Але ў асноўным кожная глеба паступова атручваецца, а біялагічнае жыццё замірае. З памяншэннем дзейнасці глебавых мікраарганізмаў хімічныя злучэнні не прысвойваюцца раслінамі. Недахоп аднаго з рэчываў выклікае рэзкае зніжэнне ўраджайнасці палёў.

Пры хімізацыі гінуць бактэрыі, грыбы, нематоды, дажджавыя чарвякі, мурашкі, ды карысныя насякомыя. Больш маюць шанцу да жыцця буйныя землярыі. Аднак жа іх мала ды ў сухіх пясчаных глебах іх зусім няма.

Геалагічная дзейнасць землярыяў зводзіцца да вынасу грунту з глыбіні на паверхню. Гумусны гарызонт пры гэтым змываецца дажджом — запаўняюцца норы і ходы. Глебавая маса патаўшчаецца. Вынас на паверхню глебы вапенных карбанатаў змяняе хімічную рэакцыю ворнага гарызонта.

Экалагічная дзейнасць арганізмаў праяўляецца ў павелічэнні аб'ёму, порыстасці, аэрацыі, водапранікальнасці, вільгацяёмістасці глебы ды біялагічнай актыўнасці мікраарганізмаў у ёй.

Па ходах і норах, у зямлю пранікаюць карэнні раслін. Глыбокае ўкараненне дазваляе перажыць засушлівы перыяд. Не выпадкова поры,






шчыліны, норкі, норы і ходы называюць праваднікамі жыцця ў глыбіню зямлі. Усё гэта разам узятае павялічвае ўраджайнасць палёў.

Калі хімізацыя вынішчае землярыяў, то ўраджайнасць рэзка змяншаецца. Нішто і ніхто не ў стане замяніць гэтых працаўнікоў зямлі. Як бы мы добра не выконвалі агратэхніку — узорванне, баранаванне і сяўбу — то ўсё роўна пасля дажджоў поле заплывае, робіцца непранікальным для паветра. Такія ўмовы гібельна адбіваюцца на росце і развіцці раслін. Глеба — найважнейшае экалагічнае асяроддзе; атручваць яго нельга.

Найлепшым, няшкодным сродкам барацьбы з насякомымі ёсць метад біялагічны. Змяншаць пустазелле на палях можна шляхам агратэхнічных мерапрыемстваў — ачысткай насення, механічнай праполкай, лушчэннем іржышча, ворывам.

Геалагічная дзейнасць вады і ветру (Іа — 5,7). У мясцінах з расчлянёным рэльефам дажджавая ды талая вада змывае ўраджайны слой глебы ды пераносіць матэрыял у ніжнюю частку схілу. Непрыкметна глеба, размешчаная вышэй, становіцца больш светлай і дае слабаваты ўраджай. Ворыва наўсцяж схілу таксама садзейнічае эрозіі глебы.

Барацьба з эрозіяй — узорванне глебы ўпоперак схілу, абаротным плугам, з адкладам скібы дагары. Трэба стварыць травяністыя ды хмызняковыя буферныя палосы. Размясціць іх па вышынных гарызанталях. Добрым абаронцам глебы ад эрозіі ёсць лес (Іа — 7).

Вецер — пераносіць рачныя пяскі. Заносіць імі ўраджайныя глебы. З вусця р. Арлянкі пяском занясло ўсходнюю частку палёў с. Плютычы. Цяпер тут на іх расце сасновы лес. Глебы таксама падвяргаюцца вывейванню ды пераносу ветрам, часам на вялікія адлегласці. Добрымі ахавальнікамі ад дэфляцыі ёсць лясныя палосы, пералескі і блізкасць ляснога масіву.

13. Вада і гідраграфічная сетка.

У ваколіцах Бельска-Падляшскага плывуць рэкі: Любка, Белая, Арлянка, Нараў. У першых трох вада атручваецца сцёкамі з ільназавода, малачарні, каналізацыі горада.

Існуючыя сістэмы ачысткі вады прызначаны галоўным чынам да акіслення арганічных злучэнняў. Хімічныя — застаюцца. Яны не паддаюцца гэтаму працэсу.

Каб атрымаць чыстую ваду, яна мусіць прайсці цераз складаныя фільтры ў спецыяльных адстойніках. З прычыны вялікай колькасці атручаной вады гэта немагчыма зрабіць.

Рака Нараў на адрэзку ад вусця р. Арлянкі да Страблі яшчэ адчувае ўплыў атрутных рэчываў. Але ўсё ж біялагічнае жыццё тут развіваецца.

Апроч прамысловасці вада ў рэках атрымоўвае з паверхневых сцёкаў вялікую колькасць ядахімікатаў, гербіцыдаў ды хімічных угнаенняў. Усё гэта разам узятае пагібельна адбіваецца на іхтыяфауне і біялагічным жыцці наогул.

Рэкі, выпрамленыя меліярацыяй з манатыпным дном і берагамі не ў стане стварыць аптымальнае экалагічнае асяроддзе жыхарства арганізмам.

Для нармальнага развіцця жыцця ў рацэ неабходны ёсць г/б — іхнасы. Стварыць іх у стане: заглыбленні, шырыня лукавін, плёсы, перакаты ды асабліва — камяністыя ўчасткі ракі. Пустоты паміж каменнем, каменнем і грунтам арганізмы выкарыстоўваюць як месца жыхарства, адпачынку ды аховы ад драпежнікаў.

Паветра таксама звязана з усімі дзеючымі фактарамі асяроддзя. З атручанай р. Любкі заходні вецер нясе смярдзючы пах на цэлы горад.

Такім чынам не толькі дым з фабрык ды матораў забруджваюць паветра. З вялікім „поспехам“ гэта можа рабіць атручаная рака.

У вывадзе трэба зазначыць, што геміхніты і біяхніты — як сляды дзейнасці геалагічных сіл ды арганізмаў — маюць вялікі ўплыў на развіццё і захаванне жыцця на зямлі.

**ІНЖ. Б. Ф. РУДКОЎСКІН**

## ЛІТАРАТУРА

Іа — індэкс аўтара.

1. Байко Пётр, Дзіва прыроды. „Ніва“ № 52, 1978.
2. Panasiuk Bazyli, Geomorpologiczna charakterystyka okolicy Bielska Podlaskiego. Katedra geografii Uniwer. Lublin 1978.
3. Панфілюк Мікалай. Бахматы — ахова піжмакаў, „Ніва“ № 41, 1978.
4. Pióro S., Klimat Białostocczyzny. Naukowe Towarzystwo Białostockie. 1973 г.
5. Рудковскин Б. Ф. Геологические фации лесных почв ур. Храболы. Кафедра геологии и почвоведения Сельскохозяйственной Академии, Ольштын 1958.
6. Рудковскин Б. Ф., Исследование морфологии кварца из лесных почв в аспекте ихнофациального анализа. Львов. Ун-т, София Лаб. ФА, Вып. 4, № 21, 1967.
7. Рудковскин Б. Ф. Эрозия почвы и растительный покров. Академия Сельскохозяйственных Наук, ЧССР. № 2-3, 1953.
8. Шафрановский Ил. Симметрия в природе. „Недра“, ЛГИ, 1968.

Змест



## На нашым полі



## Нашы браты — нашы суседзі



## За годам год



## З народнай творчасці



## Мінуўшчына

## Літаратурныя гоні



## Наша асяроддзе